# З Ь М Е С Т



Стар.



## У ногу з соцыялістычнай рэконструкцыяй



## У дапамогу настаўніку.



## З вопыту работы.



## У дапамогу культштабам.



## Соцыялістычнае спаборніцтва.



## Палепшым навучаньне.



## За пролетарскую літаратуру.



## К н і г а п і с.



## Х р о н і к а.





ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ, ПЭДОЛЁГА-ПЭДАГОГІЧНАЯ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ




№ 2 ЛЮТЫ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР
МЕНСК 1930

Л. БЭНДЭ

# НА АРЭНУ КЛЯСАВАГА ЗМАГАНЬНЯ

„...Перасадзіць селяніна з сахі на трактар можна тады, калі і ў культурных адносінах будзе абслугоўваць яго не асьветнік-саматужнік, а ідэолёгічны комбайн, узброены марксыцка-ленінскай тэорыяй, які ауладаў апошнімі дасягненьнямі навукі і тэхнікі.

Гэтай задачы павінна быць падпарадкавана ўся сыстэма работы саюзу, саюзнага кіраўніцтва, сыстэма работы навуковых устаноў, інстытутаў ды інш., перабудована з раўнаньнем на ўдарнікаў-асьветнікаў". (З рэзолюцыі III пленуму ЦК працасьветы).

Даны гісторычны этап социялістычнага будаўніцтва характарызуецца новымі якаснымі зьявамі ва ўсіх галінах грамадзкага быцьця. Шпаркія тэмпы росту социялістычнай індустрыі, рост вытворчасьці сродкаў вытворчасьці, новыя формы сувязі (вытворчая сувязь) паміж сялянскай гаспадаркай і социялістычным горадам, узмацненьне кіруючай ролі рабочай клясы асноўнымі масамі сялянства—усё гэта паскорыла рух асноўнай масы сялянства (бядняцка-серадняцкіх мас) за социялістычную перабудову вёскі, шляхамператварэньня дробнай вытворчасьці ў буйную колектыўную гаспадарку.

Новы гісторычны этап социялістычнага будаўніцтва характарызуецца і новымі задачамі рабочай клясы, задачамі, якія вынікаюць з новых конкрэтных клясавых суадносін. Магутны рост колгасаў і саўгасаў дае магчымасьць замяніць кулацкую вытворчасьць вытворчасьцю социялістычнага сэктару, а гэта ў сваю чаргу абумоўлівае і політыку. Калі раней мы наступалі на кулака, абмяжоўвалі яго, дык зараз мы пераходзім да політыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, абкружыўшы яго з усіх бакоў і зачапіўшы за самыя карэньні.

Новы гісторычны этап социялістычнага будаўніцтва «па новаму паставіў усе задачы работы ў вёсцы, усе задачы на культурным фронце».

Партыя ў сваіх рашэньнях дала конкрэтныя ясныя дырэктывы, якія мы павінны рашуча правесьці ў жыцьцё, напоўніць іх жывой практыкай, колькаснымі і якаснымі паказальнікамі. «1929-30 год павінны быць годам *рашучага* падраўнаньня ўсяго фронту социяльна-культурнай работы з новымі колькаснымі ды якаснымі задачамі гаспадарчага будаўніцтва». (З рэзолюцыі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б)).

Ці разгарнуўся культурны фронт адпаведна задачам гаспадарчага будаўніцтва, ці пераведзена культурная работа на ўдарныя тэмпы? На вялікі жаль, практыка паказвае, што ня толькі гэта ня зроблена, але нават шмат дзе і шмат хто аб гэтым сур'ёзна і не падумаў. Асабліва гэта трэба сказаць пра асноўныя зьвеньні культурна-асьветных устаноў ды іх профсаюзныя організацыі. Таму гісторычнае значэньне мае рэзолюцыя III пленуму ЦК працаўнікоў асьветы па дакладу тав. Аболіна, якая правільна ставіць шэраг цэнтральных задач культурнага будаўніцтва, мобілізуе масу асьветнікаў на фронт социялістычнага будаўніцтва.

Рэзолюцыя зусім правільна концэнтруе ўвагу асьветніцкай масы на тым, што. «задача рашучага выкарчоўваньня карэньняў капіталізму ў гаспадарцы краіны патрабуе разгорнутага наступу рэволюцыйнай пролетарскай ёдэолёгіі па ўсяму фронту культурнага будаўніцтва, гэтакага-ж выкарчоўваньня буржуазна-лібэральных тэорый і забабонаў і бязьлітаснай барацьбы з усялякага роду опортунізмам і прымірэнцтвам да яго ў тэорыі і ў практыцы гаспадарчай работы і культурнага будаўніцтва, барацьбы за неадступнае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі ЎсеКП(б).

Трэба прызнаць, што гэты вучастак работы—выкарчоўваньне буржуазна- лібэральных тэорый ды опортуністычнай, а часта адкрыта варожай практыкі на культурным фронце — гэты вучастак зьяўляецца адным з найбольш «вузкіх месц» работы як органаў народнай асьветы, так і саюзных органаў.

Пачынаючы ад настаўніка Боські (Жораўская школа Сьмілавіцкага раёну), махровага кулацкага ідэолёга і практыка і канчаючы буржуазным профэсарам савецкае катэдры, яшчэ да гэтага часу можна сустрэць людзей, супроць якіх мы не распачалі гураганны агонь, які вымагаецца посьпехамі соцыялістычнай рэконструкцыі.

А падручнікі нашых школ, якімі мы кормім дзетвару, цягнуць нас назад, тормозяць пераможны рух соцыялізму. Ды ня толькі падручнікі і програмы ад пачатковай да вышэйшай школы часам прасякнуты больш лібэралізмам, чым пролетарскай ідэолёгіяй.

Саюз асьветнікаў яшчэ да гэтага часу не разгарнуў работу па рэволюцыйнаму, не прыстасаваўся як належыць да соцыялістычнай рэконструкцыі, ня гледзячы на некаторыя посьпехі настаўніцкай масы ў справе колектывізацыі вёскі. Соцыялістычнае спаборніцтва не захапіла яшчэ ўсяе масы асьветнікаў, ня стала яшчэ мэтодам штодзённай работы як па выхаваньню падрастаючых будаўнікоў, так і ў рабоце асьветнікаў па соцыялістычнай перабудове гаспадаркі краіны. Ёсьць частка асьветнікаў, якая не звярочвала ўвагі на работу зьвеньняў саюзу сельгаслесрабочых, не вяла работы з батракамі, ігнаравала беднату. Адсюль: «Задачы саюзу працасьветы, як «агітпропу» партыі на вёсцы і застрэльшчыка колектывізацыі, ініцыятара культурных і агрыкультурных мерапрыемстваў, патрабуюць выхаваньня з асьветнікаў актыўных барацьбітоў за соцыялістычную перабудову вёскі, пропагандыстых ідэй колектывізацыі і коопэраваньня, саратнікаў індустрыяльнага пролетарыяту і саюзу сельгаслесрабочых у соцыялістычным наступе і памочнікаў іх у культурным абслугоўваньні батрацтва і сэзоньнікаў, організатараў культпаходу на сяле, ліквідатараў агульнай і аграномічнай няпісьменнасьці, распаўсюджваццеляў друку, выхаваццеляў новых кадраў вясковых асьветнікаў з асяродзьдзя рабочае клясы і г. д., якія пранізваюць усю сваю работу клясавымі задачамі пролетарыяту, чоткай установкай на ліквідацыю кулацтва, як клясы і на ператварэньне вёскі на соцыялістычных пачатках». (Рэзолюцыя III пленуму). Гэтыя задачы павінны стаць цэнтрам работы органаў народнай асьветы і саюзных ячэек, пачынаючы ад верху і да самага нізу, прасякнуць імі ўсю штодзённую работу, бо кожнаму, каму дорага і родна справа соцыялістычнага будаўніцтва, павінна быць абсолютна ясна, што бяз гэтага немагчымы пераможны рух соцыялізму.

Мы ўжо гаварылі, што саюз асьветнікаў не разгарнуў работу па рэволюцыйнаму, не прыстасаваўся як належыць да выкананьня задач па соцыялістычнай рэконструкцыі. Гэтае зьявішча ня толькі характэрна для саюзу іншых рэспублік, яно характэрна і ва ўмовах Беларусі. Вось як рэзолюцыя III пленуму ЦК працасьветы ацэньвае становішча саюзнай работы: «рух масы асьветнікаў на фронце колектывізацыі выпярэджвае кіраўніцтва гэтай работай з боку організацый саюзу, у якіх дапамога асьветнікам ня ўзьнята на дастатковую прынцыпова-політычную вышыню. У практыцы работы саюзу яшчэ жывы элемэнты опортунізму». Пра некаторыя паасобныя зьвеньні саюзу можна беспамылкова сказаць, што яны цалкам пагрузьлі ў балоце опортунізму.

У чым жа конкрэтна выяўляецца опортунізм паасобных саюзных організацый?

Перш за ўсё—у «недаацэнцы значэньня вясковай работы, як задачы саюзу цалкам». У неразуменьні таго, што работа ў вёсцы, работа па соцыялістычнай яе рэконструкцыі ёсьць работа па замацаваньні пролетарскай дыктатуры, па набліжэньні да пабудовы соцыялізму, па замацаваньні базы сусьветнай комуністычнай рэволюцыі. Шэраг сэкцый навуковых працаўнікоў і гарадзкіх мясцкомаў ня прымалі і ня прымаюць яшчэ і да гэтага часу ўдзелу ў вясковай рабоце, а калі і прымалі, дык звычайна абмяжоўваліся толькі агро-тэхнічнымі, культурнымі мерапрыемствамі, пры гэтым упускалі, змазвалі клясавую лінію ў сваёй рабоце. Выпадковасьць работы па соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі. Саюзныя асьветніцкія організацыі ўсю сваю масавую работу ня ўвязвалі, слаба контактавалі з работай індустрыяльных саюзаў. Шмат якія організацыі саюзу ня бачылі ў партыйным кіраўніцтве парукі пасьпяховасьці свае работы, недаацэньвалі партыйнага кіраўніцтва. Нашы саюзныя організацыі, як і паасобныя асьветнікі, у сваёй рабоце па соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі ня ўмелі організаваць бядняцка-батрацкі актыў на барацьбу за хутчэйшае абагуленьне інвэнтару, насеньня, продукцыйнай і рабочай жывёлы, а таксама на барацьбу за лепшую організацыю вытворчасьці, за працоўную дысцыпліну, за перавод колгасаў з ніжэйшых форм у вышэйшыя. Ці-ж ня ёсьць ігнараваньне работы з беднатою, работы па організацыі батрацтва горшай, агіднейшай праявай опортунізму? А ў практыцы работы саюзных органаў на вёсцы, паасобных асьветнікаў цяжка адшукаць якую-небудзь работу з беднатою, з батрацтвам.

Панікёрства перад шпаркім тэмпам колектывізацыі — таксама характэрная рыса опортунізму. Няўменьне вызначыць у кожным конкрэтным разе задачу, на якой патрэбна сконцэнтраваць сваю ўвагу, а адсюль—абстрактнасьць, неконкрэтнасьць у рабоце.

Ігнараваньне соцыялістычнага спаборніцтва, як мэтоду работы, слабае яго ўкараненьне паміж вясковымі раёнамі, паміж гарадзкімі і вясковымі раёнамі ў культурным будаўніцтве.

Другім найбольш агульным відам опортунізму зьяўляецца «недаацэнка політычнай дыфэрэнцыяцыі саюзу», няўменьне перанесьці яе на конкрэтныя факты абвостранай клясавай барацьбы. Саюзныя органы, настаўніцкія масы недастаткова рашуча праводзілі лёзунг «самаачышчэньня», слаба змагаліся з клясавымі ворагамі і яго агэнтамі сярод асьветніцкай масы. Недастаткова выкрываліся «двурушнікі», падкулачнікі, «нэўтральныя», слаба вялася барацьба з «непраціўленьнем», «староньнімі наглядань- нямі»—словам з тымі, хто замазвае клясавую барацьбу і гэтым самым грае на руку клясаваму ворагу.

Зараз, у пэрыод рашучай барацьбы з капіталістычнымі элемэнтамі, у пэрыод ліквідацыі кулацтва, як клясы, у раёнах суцэльнай колектывізацыі найбольш яскрава праяўляецца клясавы твар кожнага асьветніка. Асноўная маса асьветнікаў актыўна дапамагае комуністычнай партыі ў вырашэньні гісторычных задач, але-ж не вядзецца, а калі вядзецца, дык вельмі слаба, барацьба з актыўнай і «пасыўнай» варожай часткай. Чым растлумачыць, калі ня гэтым, што дукорскія настаўнікі, якія ў большасьці актыўна працуюць па колектывізацыі, да гэтага часу не асудзілі дзейнасьць падкулачніка, Жораўскага настаўніка Боські, або пасыўнасьць настаўніка вёскі Турэц і Корзунаў? Тое-ж датычыцца і капыльскіх настаўнікаў, аб якіх паведамляюць матар'ялы тав. Чарнецкага.

Трэцім відам опортунізму рэзолюцыя пленуму лічыць: *«слабое разгортваньне самакрытыкі і барацьбы з бюрократызмам*, якое мярцьвіць жывую ініцыятыву асьветніцкіх колектываў і колектываў школьнікаў, *з халтуршчыкамі*, якія ставяць колькасьць работы вышэй яе якасьці, што ня бачаць асноўнага зьвяна работы, што адхіляюць глыбокую прапрацоўку пытаньня; з «аліпуйшчыкамі», што ня прызнаюць цяжкасьцяй, таму і не вядуць барацьбы з імі і г. д.».

Слабая барацьба з рэакцыйнымі элемэнтамі, недастатковая падтрымка перадавікоў, асабліва моладзі ў барацьбе з

гэтымі элемэнтамі, няўменьне раўняць работу на перадавых, няўменьне арганізоўваць грамадзкасьць на барацьбу супроць скажэньняў пролетарскай лініі ў вёсцы, упусканьне саўгаснага і колгаснага будаўніцтва, як асноўных зьвеньняў работы на вёсцы, павольнасьць і непаваротлівасьць у рэконструкцыі саюзных органаў,—усё гэта пленум кваліфікуе, як «адсутнасьць клясавай чоткасьці ў рабоце і элементы опортунізму ў арганізацыйнай рабоце».

Няўважлівасьць да проблем саўгаснага і колгаснага будаўніцтва, як да важнейшых проблем соцыялістычнай перабудовы вёскі—адсюль няўменьне ажыцьцяўляць ролю культустаноў вёскі, як зброю клясавай барацьбы, патураньне дробнабуржуазным тэндэнцыям «ураўнілаўкі» у калгасах, слабасьць культурна-бытавой работы ў саўгасах і колгасах, непрыстасаванасьць сыстэмы народнай асьветы да патрэб колектывізацыі і г. д.—усё гэта ёсьць ня што іншае, як праявы опортунізму на культурным фронце.

«Па ўсіх гэтых элемэнтах опортунізму і прымірэнцтва да іх павінен быць адкрыты руйнуючы агонь. Перабудова работы саюзу павінна прайсьці пад знакам максымальных тэмпаў і безадкладнага прыстасаваньня арганізацыйных форм саюзу да задач соцыялістычнай перабудовы вёскі, рэзкага павароту і рашучага вызваленьня органаў саюзу ад усіх элемэнтаў, якія тармозяць соцыялістычны наступ і насаджваюць опортунізм у тэорыі і практыцы саюзнай работы ў вёсцы».

Б'ючы па гэтых элемэнтах опортунізму, ня трэба мінаць і другога роду зьяў, так званых «левых», авантурыстычных. Мы маем шэраг фактаў, калі дробнабуржуазныя інтэлігэнты рэалізуюць сваю дробнабуржуазную натуру пад шыльдай няпрымірлівасьці да опортунізму правага боку. Мы маем факты, калі паасобныя асьветнікі выступаюць проста з авантурыстычнымі прамовамі, маскуючы іх у бальшавіцкую фразэолёгію. Варта спаслацца хоць-бы на дзейнасьць Чарнова, загадчыка Дукорскага рабфаку, які ў бурных тэмпах колектывізацыі забыў галоўнае, менавіта тое, што посьпех колектывізацыі ёсьць праява больш замацаванага саюзу рабочай клясы з асноўнай масай сялянства — серадняцкай масай праз беднату вёскі.

Рашучая барацьба з опортунізмам, прымірэнцтвам да яго, барацьба з авантурыстычнымі заскокамі, з абывацельшчынай павінна суправодзіцца шырокай мобілізацыяй асьветніцкіх мас на штодзённы актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, на ўдзел у соцыялістычнай перабудове вёскі, на работу рэволюцыйнаму, як гэтага вымагаюць тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва.

Рэзолюцыя пленуму вызначае асноўныя разьдзелы работы, на якія павінна быць мобілізавана шырокая асьветніцкая маса.

1. «Падрыхтоўка кадраў соцыялістычных будаўнікоў рэволюцыйнымі мэтодамі». Гэта значыць організацыя ініцыятывы мас праз самакрытыку і соцыялістычнае спаборніцтва, рашучая барацьба з бюрократызмам, непаваротлівасьцю і абломаўскімі тэмпамі ў органах народнай асьветы і г. д. Гэта значыць, прыстасаваньне школ да задач колгаснага руху і саўгаснага будаўніцтва, усяе соцыялістычнай рэконструкцыі. Гэта значыць, «шырокае выкарыстоўваньне вопыту, дасягненьняў у раёнах суцэльнай колектывізацыі.

2. «Ператварэньне культустаноў у зброю соцыялістычнай перабудовы вёскі», ператварэньне школ, хат-чытальнь ды інш. культустаноў у сапраўдныя «культштабы органаў дыктатуры пролетарыяту—саветаў», паварот культустаноў гораду на соцыялістычную перабудову вёскі.

3. Барацьба супроць недаацэнкі культработы ў саўгасах, перанясеньне вопыту культработы прамысловых прадпрыемстваў у саўгасы і г. д.

4. Організацыя асьветніцкай масы, «як застрэльшчыкаў колгаснага руху». Гэта работа павінна ісьці па лініі ўваходжаньня ўсіх асьветнікаў, якія зьвязаны з зямлёю, у колгасы, па лініі організаванага ўдзелу школы, на чале з настаўнікам, у працоўных процэсах колгасу. Гэта дасьць магчымасьць практычна ўкараняць прынцыпы політэхнізму ў школы, якія павінны будуць агрономізавацца.

Гэта работа павінна ісьці па лініі перабудовы работы хат-чытален, нардамоў, бібліотэк ды іншых культустаноў у напрамку організацыі іх удзелу ў рабоце і ва ўсім жыцьці колгасаў.

Асаблівую ўвагу аддае рэзолюцыя раёнам суцэльнай колектывізацыі. Раёны суцэльнай колектывізацыі павінны стаць раёнамі суцэльнай пісьменнасьці. Бліжэйшымі задачамі рэзолюцыя вызначае:

Поўнае зьліквідаваньне няпісьменнасьці ў раёнах суцэльнай калектывізацыі да канца 1930-31 навучальнага году; перабудова ўсяе сыстэмы народнай асьветы ў адпаведнасьці з задачамі суцэльнай колектывізацыі, давядзеньне бібліотэчнага паходу да колгасу; сыстэматычная пасылка культбрыгад у колгасы; мобілізацыя 2.000 лепшых асьветнікаў гораду ў раёны суцэльнай колектывізацыі на сталую работу (2-3 гады) ды інш.

У адказ на бурныя тэмпы саўгаснага будаўніцтва і колгаснага руху павінны быць баявыя тэмпы культурнай рэволюцыі. Уся сетка культустаноў павінна перарварыцца «у адзіную станцыю комуністычнага выхаваньня». Разам з гэтым трэба перагледзець і нашы культурныя пяцігодкі, надаць ім дынаміку, адпаведную тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва.

Саюзы асьветнікаў гораду павінны перабудаваць сваю работу, зрабіўшы паварот гарадзкіх асьветнікаў тварам да вясковай работы, для організацыі рознымі спосабамі сыстэматычнай дапамогі колгасам; забясьпечыць рэалізацыю задач пролетарыяту ў вёсцы праз усю сыстэму культустаноў гораду; устанавіць штодзённую жывую сувязь паміж горадам і колгасам.

Пытаньні саўгаснага і колгаснага будаўніцтва павінны быць цэнтрам увагі вясковых організацый саюзу асьветнікаў. Вясковыя організацыі саюзу павінны перабудавацца і перанесьціся ў новыя цэнтры культуры—саўгасы, машынава-трактарныя станцыі, буйныя колгасы. Увага з боку вясковых організацый саюзу асноўным проблемам колгаснага руху. «Кіраўніцтва з боку органаў дыктатуры пролетарыяту колгасным рухам і ўзмацненьне організатарскай ролі пролетарыяту ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі; пляна ваньне сельскай гаспадаркі і ў адпаведнасьці з гэтым школы і хаты чытальні; барацьба культустаноў і саюзу за вышэйшыя формы колгасаў—буйныя аграмаджаныя гаспадаркі на МТС, будаўніцтва саўгасаў-гігантаў і МТС, соцыялістычная перабудова быту і перабудова ўласьніцкай псыхолёгіі селяніна, актыўнае ўкараненьне элемэнтаў політэхнізму і агрономізацыі ў сельскай школе (проблемы тэхнікі, асабліва электрыфікацыі); організацыя працы ў колгасе з раўнаньнем на соцыялістычную фабрыку і завод (устанаўленьне форм комуністычнай організацыі працы, падзел працы, адказнасьць, барацьба супроць «ураўнілаўскіх» тэндэнцый); узмацненьне работы сярод жаночай часткі сялянства, як найбольш адсталай і часта зрываючай работу па колектывізацыі». (Рэзолюцыя III пленуму).

Адначасова павінна быць узмоцнена работа па ідэолёгічнаму ўзброеньню асьветніка. Трэба перабудаваць усю сыстэму падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі асьветнікаў у адпаведнасьці з запатрабаваньнямі тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Веснавая кампанія сяўбы і колектывізацыя зьяўляецца генэральнай праверкай, экзаменам для ўсіх асьветніцкіх мас. Гэта-ж павінна стаць і генэральнай праверкай таго, наколькі саюз асьветнікаў перабудаваў сваю работу адпаведна запатрабаваньням жыцьця.

Пленум ЦК працасьветы ўхваліў: *«на правядзеньне генэральнай праверкі—веснавой сяўбы—абвясьціць мобілізаванай усю саюзную організацыю»*.

Работа ўсіх культурных устаноў павінна быць пераведзена на рэволюцыйныя, бальшавіцкія тэмпы, на мэтоды соцыялістычнага будаўніцтва — соцыялістычнае спаборніцтва, ударныя брыгады.

Нябачаны тэмп колектывізацыі, рашучая барацьба з нэпманам у горадзе, з кулаком у вёсцы, аж да ліквідацыі кулацтва, як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі, яшчэ больш узмацняюць супраціўленьне гэтых клясавых во-

рагаў ды іх агэнтаў. У гэты момант больш чым калі-б гэта ні было—асьветніцкія масы павінны быць узброены разуменьнем сваясаблівасьцяй данага гісторычнага этапу, конкрэтных задач і мэтодаў іх вырашэньня.

Перад тварам гэтых задач павінны быць консолідаваны ўсе пролетарскія сілы, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, для рашучага соцыялістычнага наступу.

«Соцыялістычны наступ асьветнікаў павінен быць арганізаваны перш за ўсё пашырэньнем і ўзмацненьнем усяе вытворчай работы саюзных мас, на аснове выкарыстаньня ўсіх рэсурсаў і магчымасьцяй школ, хат-чытален ды іншых культустаноў, дамагаючыся ўзмацненьня іх ролі, як найважнай дзяржаўнай зброі комуністычнага выхаваньня і пропаганды, коопэруючыся з комсамольскімі і піонэрскімі організацыямі, абрастаючы культактывам з рабочых батракоў і колгасьніку». (Рэзолюцыя III пленуму).

Саюзнымі органамі дырэктыва дана.

Асьветнікі, у бой за соцыялізм!

**...„Культурна-політычны ўздым вёскі—адна з асноўных прадпасылак выкананьня пляну грандыёзнай перабудовы вёскі на соцыялістычнай базе. Каб ліквідаваць культурную адсталасьць вёскі, якая тармозіць соцыялістычнае будаўніцтва, патрэбны тэмпы культурнай рэволюцыі, якія забясьпечылі-б рэалізацыю задачы ў гістарычна-мінімальныя тэрміны „дагнаць і перагнаць“ перадавыя ў тэхнічных адносінах капіталістычныя краіны“.**

**„Грандыёзны рух мас за соцыялістычную перабудову краіны пановаму прымушае гучэць лёзунг Леніна пра неабходнасьць узьняць настаўніка на нябывалую вышыню. Ён патрабуе ня толькі далейшага рашучага палепшаньня матар'яльна-праўнага палажэньня асьветніка, але і ўзброеньня яго марксыцкімі, агротэхнічнымі і політэхнічнымі ведамі, падвышэньня яго грамадзка-політычнай ролі, укараненьня яго ў асноўныя кадры соцыялістычных будаўнікоў“.**

(З рэзолюцыі III пленуму ЦК працасьветы)

„Сельсаветы павінны зьявіцца арганізатарамі батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас у справе разьвіцьця соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, павінны стаць на чале работы па ліквідацыі кулацтва, як клясы, і поўнасьцю адказваць за гэтую справу“.

З пастановы бюро ЦК КП(б)Б

А. ХАЦКЕВІЧ

# НОВЫЯ ЗАДАЧЫ І ДАТЭРМІНОВЫЯ ПЕРАВЫБАРЫ СЕЛЬСАВЕТАЎ

На сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, ва ўмовах усё ўзрастаючага абвастрэньня клясавай барацьбы, у зьвязку з рашучымі бойкамі з рэшткамі капіталізму, якія адбываюцца ў нашай краіне, магутны, буйны рух па суцэльнай колектывізацыі бядняцка - серадняцкіх сельскіх гаспадарак, ліквідацыі кулацтва як клясы ,бурнага тэмпу соцыялістычнай рэконструкцыі, росту прамысловасьці, надзвычайнага ўздыму політычнай актыўнасьці, будаўнічага энтузыязму і творчай ініцыятывы пролетарскіх мас, якія выстройваюцца магутнымі колёнамі ўдарных брыгад цэхаў, фабрык і заводаў, шырока ажыцьцяўляючы соцыялістычнае спаборніцтва, у гэтых умовах соцыялістычнага будаўніцтва зьмест і формы работы, мэтоды кіраўніцтва нізавых саветаў, асабліва сельскіх, а таксама асабовы склад апошніх у большасьці не адпавядаюць новым задачам соцыялістычнага будаўніцтва і яго тэмпам. Масавая суцэльная колектывізацыя сельскай гаспадаркі, якая павінна ахапляць і перабудоўваць на соцыялістычны лад усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі БССР, у зьвязку і на падставе гэтага правядзеньне рашучай політыкі ліквідацыі кулацтва як клясы ставіць катэгорычна пытаньне аб перабудове па новаму ўсяе работы саветаў.

Ва ўмовах рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і ліквідацыі кулацтва як клясы, клясавая барацьба набывае асаблівую жорсткасьць, а гэта вымагае, каб органы пролетарскае дыктатуры—саветы былі асабліва ўмацаваны і ўзмоцнены. Цяпер-жа сельсаветы ў значнай сваёй частцы не стаяць яшчэ сапраўды на чале соцыялістычнай рэконструкцыі, барацьбы за ажыцьцяўленьне пяцігодкі, ня кіруюць колектывізацыяй і колектыўнымі аб'яднаньнямі, не праяўляюць ініцыятывы ў справе ліквідацыі кулацтва як клясы. У сельсаветах наглядаецца шэраг скрыўленьняў клясавае лініі, а ў некаторых мясцовасьцях сельсаветы знаходзяцца проста пад уплывам кулацкіх элемэнтаў і іх падпявалаў, якія вядуць зрыў нашай работы як па-за саветамі, гэтак часткаю і ў саміх саветах. Ёсьць шмат выпадкаў засьмечанасьці сельсаветаў; яшчэ не разгорнута масавая работа ўсіх саветаў, што асабліва вымагаецца сучасным момантам. Работа комісій сельсаветаў у большасьці стаіць на застыўшай кропцы і не пераведзена на масавы вытворчы прынцып. Саветы яшчэ ў свёй значнай частцы не зрабіліся масавым рэзэрвам для вылучэньня ў дзяржаўны апарат рабочых, батракоў, беднякоў і сераднякоў актывістых.

Такое становішча зьяўляецца зусім недапушчальным. Аднак, гэта ні ў якім разе не дае падстаў для якіх бы там ні было разважаньняў пра зьмяншэньне ролі саветаў ва ўмовах суцэльнай колектывізацыі ды перадачы іх функцый праўленьням існуючых колгасаў і тых, што організуюцца. Гэтыя контррэволюцыйныя па сутнасьці разважаньні павінны быць адмецены і зьліквідаваны самым рашучым чынам, бо гэтыя размовы адбіваюць імкненьне клясавых ворагаў паслабіць органы пролетарскай дыктатуры ў самы востры і рашучы момант клясавай барацьбы за канчатковае зьнішчэньне карэньняў капіталізму ў краіне, калі

саветы павінны быць моцнымі і баяздольнымі органамі ў самай максымальнай меры.

Суцэльная колектывізацыя, на падставе якой павінна адбыцца ліквідацыя кулацтва, як клясы, ня толькі не адмаўляе, а наадварот, самым настойлівым чынам вымагае максымальнага ўзмацненьня і ўмацоўваньня саветаў, патрабуе зрабіць іх дасканалай прыладай дыктатуры пролетарыяту, павярнуць саветы тварам да колгасаў, тварам да социялістычнай вытворчасьці. Саветы павінны быць ператвораны ў органы, якія сапраўды стаяць на чале рабочых і батрацка-бядняцкіх мас у саюзе з серадняком, якія ажыцьцяўляюць пад кіраўніцтвам партыі канчатковае выкараненьне капіталізму ў краіне. Яны павінны быць ператвораны ў органы кіруючыя і адказваючыя за справу правядзеньня суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацкае клясы.

Вось чаму, выходзячы з усяго адзначанага, трэба лічыць, што нам неабходна ўсю дзейнасьць саветаў бездакладна перабудаваць і паставіць на новыя рэйкі работы.

Што павінны сельсаветы рабіць зараз перш за ўсё ў галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі? Сельсаветы павінны ўсямерна садзейнічаць разьвіцьцю саўгасаў, узбуйненьню іх і павялічэньню іх уплыву, як найбольш пасьлядоўнага соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, як найбольш узорных прыкладаў організацыі вытворчасьці і гаспадараньня для колгасаў, паказальнікаў перавагі соцыялістычнай організацыі сельскай гаспадаркі для індывідуальных бядняцка - серадняцкіх гаспадарак. Яны павінны ажыцьцяўляць агульнае кіраўніцтва працай саўгасаў абсьледуючы іх, заслухоўваючы іх справаздачы і ўсямерна дапамагаючы іх разьвіцьцю.

У сучасны момант усе сельсаветы павінны павярнуцца тварам да колгасаў, максымальна садзейнічаць аграмаджаньню сродкаў вытворчасьці, іх спажываньню, павялічэньню непадзельных фондаў, організацыі і рацыяналізацыі працы ў колгасах, узьняцьцю парцоўнае дысцыпліны і пераводу колектыўных аб'яднаньняў у вышэйшыя формы іх організацыі. Сельсаветы павінны, як сьлед, прапрацоўваць пляны колектывізацыі сельскай гаспадаркі і вытворчыя пляны колгасаў, увязваючы гэтыя пляны з агульна-дзяржаўнымі плянамі і паказаньнямі, праводзіць іх у жыцьцё і мобілізаваць навокал іх ажыцьцяўленьня батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы сялянства, дамагацца ўзмацненьня і ўзбуйненьня існуючых і ствараемых колгасаў. Усе сельсаветы, як адзін, павінны ажыцьцяўляць сапраўднае кіраўніцтва колгасамі, вядучы настойлівую барацьбу за выкананьне імі сваіх новых абавязкаў да пролетарскай дзяржавы (хлебазагатоўкі, контрактацыя, падаткі і г. д.), забясьпечыць максымальную мобілізацыю унутрыколгасных сродкаў на колгаснае будаўніцтва, разглядаць хадайніцтвы колгасаў аб водпуску крэдытаў, зацьвярджаць гэтыя хадайніцтвы, дамагацца іх задавальненьня і наглядаць за правільным скарыстаньнем сродкаў: дамагацца ажыцьцяўленьня колгасамі мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці і агульнага павялічэньня таварнай продукцыі колгасаў. Неабходна, зразумела, узмацніць сувязь саветаў з колгасамі і іх абслугоўваньне з боку саветаў, робячы гэты уплыў на неколектывізаваныя пакуль што бядняцка-серадняцкія масы сялянства; трэба завесьці, як сыстэму, справаздачнасьць колгасаў перад сваімі саветамі, не дапушчаючы, аднак, пры гэтым дробязьлівай апекі саветаў да адміністрацыйнага іх умешваньня ва ўнутранае жыцьцё колгасаў. Савет павінен ставіць даклады праўленьня колгасаў на агульных сходах, таксама праводзячы ў цэнтры колгасаў пасяджэньні пленумаў і прэзыдыумаў саветаў. Саветы павінны клапатліва пристасаваць сетку навучальных, культасьветных і соцыяльна-культурных устаноў (школ, клюбаў, народных дамоў, хат-чытальнь, мэдычных, вэтэрынарных і агрономічных пунктаў) такім чынам, каб гэтым самым найбольш поўна, найлепш і ў першую чаргу абслугоўваліся колгасьнікі.

У бягучым годзе ў сучасны момант важнейшай задачай сельсаветаў зьяўляецца пасьпяховае правядзеньне пасеўнай кампаніі, шляхам засеву яравога клі-

ну ва ўсіх ўтвораных колгасах аграмаджаным парадкам, агульнага павялічэньня пасеўнай плошчы, прыняцця захадаў да палепшанай апрацоўкі глебы, стварэньня пасеўных фондаў, разьвіцьця травасеяньня, жывёлагадоўлі, ачысткі насеньня і г. д.

Рашучы наступ на капіталістычныя элементы і ліквідацыя кулацтва, як клясы, зразумела, выклікаюць жорсткае з боку іх супраціўленьне. Таму сельсаветы павінны стаць ініцыятарамі правядзеньня ўсіх палітычных, арганізацыйных і адміністрацыйных захадаў да зьнішчэньня ў корані ўсялякіх праяў контррэвалюцыйнай дзейнасьці кулацтва і іншых варожых нам элемэнтаў. Сельсаветы павінны стаяць на чале практычнага ажыцьцяўленьня ліквідацыі кулацтва, як клясы, на глебе правадзімай імі суцэльнай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У гэты час сельсаветы павінны пільна сачыць за тым, каб кулак і нэпман не пралезьлі ў колгасы, і актыўна праводзіць ачышчэньне існуючых колгасаў ад пралезшых туды раней кулацка-нэпманскіх элемэнтаў. Трэба зараз-жа ўзяць на вучот усе кулацкія гаспадаркі і іх сродкі вытворчасьці, каб захаваць гэтыя сродкі ад злоўмыснага зьнішчэньня, для перадачы іх існуючым колгасам і тым, якія арганізуюцца. Сельсаветы павінны ўзмацніць сваю адміністрацыйную і масавую дзейнасьць і весьці рашучую барацьбу супроць кулацкіх контррэволюцыйных выступленьняў і дзейнасьці кулацтва, якая накіравана на перашкоду правядзеньню суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва.

Ажыцьцяўленьне колектывізацыі ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР і ліквідацыі кулацтва, як клясы немагчыма, зразумела, бяз шырокай мобілізацыі батрацка-бядняцкіх мас для выкананьня гэтай задачы, без ўзмацненьня батрацка-серадняцкага блёку, без усямернага разгортваньня работы па арганізацыі беднаты і батрацтва, без узмацненьня палітычнае ролі батрацтва і беднаты, як адзінай асноўнай апоры партыі і савецкай улады на вёсцы. Вось чаму сельсаветы павінны дамагацца павялічэньня батрацка-бядняцкага ядра ў сваім складзе і ў складзе ўсіх выбраных органаў на вёсцы, наогул узмацняючы усе нізавыя органы на вёсцы рабочымі, прысланымі з гораду для сталай работы ў колгасах.

Сельсаветы павінны дапамагаць паўсюднай арганізацыі і ўзмацненьню груп беднаты і батрацтва ва ўсіх выбраных савецкіх, грамадзкіх арганізацыях і ў колгасах; трэба, каб саветы ў сваёй рабоце абапіраліся на гэтыя групы і на сходы батрацтва і беднаты, абавязкова прапрацоўваючы з батрацтвам і беднатою ўсе галоўнейшыя пытаньні жыцьця і працы вёскі перад тым, як выносіць іх на канчатковае вырашэньне агульных сходаў і адпаведных савецкіх і грамадзкіх арганізацый. Саветы павінны ўсямерна абараняць інтарэсы батрацтва і беднаты, сочачы за тым, каб уступаючы ў колгас батрак аслабаняўся ад паявых узносаў, а бядняк атрымліваў устаноўленую для яго палёгку. Трэба дамагацца крэдытаваньня ў першую чаргу і ў шырэйшых разьмерах для тых колгасаў, дзе ёсьць больш беднякоў, забясьпечыць першачарговае прадастаўленьне работы з абавязковай аплатай батракоў, забясьпечыць іх хлебам да новага ўраджаю і дапамагчы атрыманьню крэдыту на іншыя рэчы іх спажываньня; у першую чаргу павінны быць прадастаўлены батраком тыя жыльлёвыя будынкі, якія павінны быць адабраны ў кулацтва пры ліквідацыі яго, як клясы.

З боку сельсаветаў патрабуецца зараз рашучае і безадкладнае ўмацаваньне работы па бытавому разьняволеньню, па павялічэньню культурнага ўзроўню і сьвядомасьці жанчын-батрачак, бядначак і серадначак, маючы на ўвазе, што бытавы консэрватызм і культурна-палітычная адсталасьць працоўнай жанчыны на вёсцы зараз ва ўмовах разгортваньня суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, робіцца асаблівым тормазам, што часта скарыстоўваецца варожымі элемэнтамі ў мэтах перашкоды разгортваньню соцыялістычнай рэконструкцыі. Вось чаму гэтае вузкае месца энэргічнай работаю сельсаветаў і нашымі культурнымі сіламі на вёсцы: настаўніцтвам, комсамолам, агрономамі і г. д. павінна быць у найхутчэйшы час зьліквідавана.

Вырашэньне гэтае задачы трэба пачаць перш за ўсё з організацыі бытавых комісій пры ўсіх саветах і выканаўчых комітэтах. Кіраўнікі выканаўчых комітэтаў павінны прасачыць па сваёй перыфэрыі, ці ўсюды організаваны комісіі па палепшаньні працы і быту жанчын, і ці дастаткова разгорнута работа гэтых комісій. Трэба шырока популярызаваць сярод насельніцтва задачы гэтых комісій і прыняць належныя організацыйныя заходы, залучаць шырокі жаночы актыў у практычную работу гэтых комісій. Саветы павінны ажывіць інстытут прымацаваных дэлегатак-практыкантак, уцягваючы іх усямерна ў работу саветаў, у іх сэкцыі і комісіі, забясьпечыўшы сыстэматычнае кіраўніцтва імі, дапамагчы ім у штодзённай практычнай рабоце. Неабходна даваць конкрэтныя заданьні жанчынам-дэпутаткам і прымацаваным дэлегаткам, каб яны маглі выяўляць сябе і выхоўвацца на практычнай рабоце; заслухоўваць іх справаздачы, прыцягваючы іх да справаздач на агульных сходах выбаршчыкаў і жаночых дэлегацкіх сходах. Неабходна рашуча пашырыць уцягненьне жанчын-работніц, батрачак і беднячак у склад саветаў і іх кіруючыя органы, а таксама вылучэньне актывістак работніц, батрачак і бяднячак на адказную работу ў раённыя, акруговыя і цэнтральныя савецкія ўстановы, павялічыць іх удзельную вагу на курсах па падрыхтоўцы вылучэнцаў.

Пастаўленыя задачы перад саветамі выклікаюць неабходнасьць прыстасаваньня ўсяе адміністрацыйна-комунальнай, культурна-соцыяльнай і організацыйна-масавай работы саветаў да новых умоў суцэльнай колектывізацыі з пункту погляду больш поўнага і першачарговага абслугоўваньня насельніцтва колгасаў, з пункту погляду ператварэньня колгасаў у базы пад'ёму да соцыялістычнай перабудовы сельска-гаспадарчай вытворчасьці, у цэнтры агрыкультурных, соцыяльна-бытавых і культурных мерапрыемстваў саветаў. У якасьці аднэй з галоўных мер вырашэньня гэтых задач неабходна сконцэнтраваць усю работу па соцыяльна-культурнаму і бытавому абслугоўваньню колгаснага насельніцтва пры сельсаветах (школы, больніцы, хаты-чытальні, дабрабыт). Для павялічэньня кіруючай ролі сельсаветаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, усё шырэй разгортваць і сыстэматычна ўзмацняць работу комісій саветаў, рэорганізаваўшы іх па вытворчаму прынцыпу. Трэба рэалізаваць папярэднюю дырэктыву аб стварэньні ў паасобных вёсках і колгасах, па меры патрэбы і наяўнасьці актыву, паасобных комісій на чале з упаўнаважанымі членамі саветаў. У комісіі трэба вылучыць батракоў, беднякоў і актыўных колгасьнікаў з тым, каб яны склалі асноўнае ядро актыву сельсаветаў. Неабходна ўзмацніць кіраўніцтва комісіямі, сыстэматычна заслухоўваць іх справаздачы і ўстанавіць, як правіла, што ўсе важнейшыя пытаньні работы саветаў прапрацоўваюцца папярэдне ў комісіях.

Адначасова з перабудовай работы саветаў на новы шлях неабходна рашуча ажывіць і ўзмацніць работу *рэвізійных* комісій, якія павінны стаць сапраўднымі дасканалымі органамі шырокага грамадзкага контролю. Рэвізійныя комісіі павінны праверыць складаньне і выкананьне саветамі сваіх бюджэтаў, выкананьне імі наказаў выбаршчыкаў і дырэктыў вышэйшых органаў, сыстэматычна, роўна з саветамі, рабіць справаздачы перад выбаршчыкамі і адказваць ня толькі за сваю работу, але і за работу саветаў.

У зьвязку з перабудовай работы сельскіх і местачковых саветаў, неабходна яшчэ больш ажывіць дзейнасьць і гарсаветаў. Гарсаветам, як пераважным пролетарскім організацыям, трэба павялічыць свой кіруючы ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве наогул, усямерна дамагацца далейшага пашырэньня масавай работы, уцягненьня большых колаў рабочых, актыву служачых у работу сваіх сэкцый, шырока разгортваючы работу навокал мерапрыемстваў, якія вынікаюць з задачы ажыцьцяўленьня плянавага разьвіцьця соцыялістычнай народнай гаспадаркі і культуры, будаўніцтва прамысловасьці, павялічэньня продукцыі працы, рацыяналізацыі вытворчасьці, выкананьня вытворчых програм, пераводу прадпрыемстваў на 7-мі гадзінны рабочы дзень і бесьперапынны тыдзень; навакол справы зьніжэньня сабекошту продук-

цыі, справы соцыялістычнай організацыі, быту працоўных мас гораду. Прэзыдыумы гарсаветаў павінны ўнесьці большую практычнасьць у работу сэкцый, значна шырэй практыкуючы правядзеньне абсьледваньня прадпрыемстваў і ўстаноў перад пастаноўкаю дакладаў апошніх на сэкцыях альбо прэзыдыумах гарсаветаў. Трэба павялічыць кіраўніцтва працай сэкцый, рэгулярна заслухоўваючы даклады апошніх, склікаць нарады старшынь сэкцый і бюро, папярэдне абгаварваючы і ўзгадняючы пытаньні гарадзкога будаўніцтва. Трэба організаваць у тых прадпрыемствах альбо ўстановах, дзе ёсьць ня менш 3-х дэпутатаў гарсавету,—дэпутацкія групы, праз якія трымаць сувязь з прадпрыемствам або ўстановай і праводзіць абслугоўваньне мас выбаршчыкаў. Для лепшага кіраўніцтва працай дэпутацкіх груп практыкаваць пэрыодычны агляд іх работы па прадпрыемствах, склікаць нарады гэтых груп, заслухоўваць даклады, наладжваць справаздачы іх перад выбаршчыкамі. Зараз-жа, ў бліжэйшы час, заняцца аграмаджаньнем прыгарадных зямель і ўнутрыгарадзкіх гародных фондаў, ствараючы з іх сыравінную базу для забясьпечаньня гарадоў продуктамі спажываньня.

Побач з узорнай пастаноўкай работы ў гарадох, гарсаветы павінны ўзмацніць сваю сувязь з сельсаветамі, дапамагаючы ім у організацыі работы, пераносячы свой вопыт: рашуча павялічыць удзел гарсаветаў у разгортваньні суцэльнай колектывізацыі на вёсцы, дапамагаючы шляхам шэфства рабочых над паасобнымі саветамі, колгасамі і цэлымі раёнамі, накіроўваючы на вёску сваіх дэпутатаў і рабочыя брыгады.

Для забясьпечаньня выкананьня ўсіх задач соцыялістычнага будаўніцтва, якія пастаўлены перад краінай Саветаў, неабходна організаваць і шырока праводзіць паміж саветамі, як гарадзкімі, так і сельскімі соцыялістычнае спаборніцтва, прадугледжваючы ў дагаворах моманты выпярэдніцтва ў галіне колектывізацыі сельскай гаспадаркі, організацыі масавай работы, палепшаньня справы забясьпечаньня рабочых мас кватэрамі, продуктамі спажываньня, дабрабыту і соцыяльна-культурнага абслугоўваньня рабочых мас гораду і батрацка-бядняцкіх мас вёскі. Для нас павінна быць зусім зразумела, што ўсе тыя задачы і вынікаючыя з іх конкрэтныя мерапрыемствы, якія мы зараз вызначаем, патрабуюць узмацненьня матар'яльнае базы і гаспадарчай самастойнасьці гарадзкіх і сельскіх саветаў. Маючы на ўвазе, што бюджэты гарсаветаў за апошнія гады значна палепшыліся, у бліжэйшы час зьяўляецца неабходнасьць вырашыць пытаньне аб стварэньні поўнай сеткі сельскіх бюджэтаў. Трэба ва ўсіх сельсаветах раёнаў суцэльнай колектывізацыі абавязкова ў гэтым-жа годзе ўвесьці самастойныя бюджэты, пры чым матар'яльная база гэтых бюджэтаў павінна быць узбуйнена і пашырана за кошт стварэньня фондаў з адлічэньняў у калгасы, што выдаткоўваюцца на будаўніцтва жыльлёвае, культасьветнае, больнічнае, дарожнае і г. д.

Зразумела, што з гэтымі складанымі задачамі, якія зараз пастаўлены перад сельсаветамі, яны могуць справіцца толькі пры ўмове масавай работы, пры згуртаваньні батрацка-бядняцкіх мас, толькі пры ўмове пагалоўнага ўцягненьня батракоў і беднякоў у штодзённую работу саветаў, а таксама пры ўмове значнага павялічэньня іх колькасьці ў складзе саветаў.

Работу па вылучэньню рабочых, батракоў і беднякоў трэба зрабіць сыстэматычнай і масавай. Для гэтага сельсаветы павінны больш шчыльна ўвязваць сваю работу з профсаюзамі і групамі беднаты, лепш вылучаць савецкі актыў і на вопыце практычнае работы выхоўваць кадры для вылучэньня, узмацніўшы таксама кіраўніцтва і дапамагаючы вылучаным у апарат савецкіх і грамадзкіх організацый.

Для таго, каб дамагчыся рашучага і хуткага пералому ў рабоце саветаў, будзе праводзіцца зараз (з 15 лютага па 15 сакавіка) пазарчаговая справаздачна-праверачная і перавыбарчая кампанія сельскіх і местачковых саветаў. У часе справаздачна-праверачнай кампаніі будуць зроблены перавыбары ўсіх сельсаветаў у раёнах і сельсаветах суцэльнай колектывізацыі, каб новы склад

сельсаветаў адпавядаў новым умовам работы пры суцэльнай колектывізацыі, дзе вызначаныя задачы павінны ажыцьцяўляцца і рэалізавацца найбольш поўна і ў першую чаргу. Ва ўсіх іншых раёнах тыя сельсаветы, якія не праявілі сябе ў справе організацыі беднаты, батрацтва і колектывізацыі, скажалі клясавую лінію, засьмечаны варожым і чужым элемэнтам, не забясьпечваюць актыўнага, цьвёрдага кіраўніцтва ў справе колектывізацыі і ліквідацыі кулака, як клясы, таксама падлягаюць перавыбарам па пастанове акруговых і раённых выканаўчых комітэтаў.

Адначасова ў дачыненьні да ўсіх астатніх саветаў, якія не падлягаюць перавыбарам, неабходна таксама ў працэсе справаздачна-праверачнай кампаніі дабіцца рашучага ачышчэньня іх ад усіх клясава-чужых, разлажыўшыхся і прымазаўшыхся элемэнтаў, ад усіх тых, хто ня хоча і ня здолен ажыцьцяўляць клясавую пролетарскую лінію да канца, хто ў правядзеньні гэтае лініі хістаецца і праяўляе прымірэнчыя адносіны да клясавага ворага або яму патураючых.

Для гэтага ў надыходзячую справаздачна-праверачную кампанію і датэрміновыя перавыбары шырока павінна быць скарыстана выбарчае права саміх выбаршчыкаў па адкліканьні з саветаў неадпавядаючых дэпутатаў; на іх месца, як і наогул у саветы павінны быць вылучаны т.т. клясава-вытрыманыя, аўторытэтныя з рабочых, батрацтва, беднаты і серадняцкага актыву, асабліва колгасьнікаў. Праз перавыбары, праверку і чыстку саветаў трэба дамагчыся як рашучага павароту ўвагі сельсаветаў да новых задач, да колгаснага руху і ліквідацыі кулацтва, як клясы, так і зьмены соцыяльнага складу іх у бок перавагі батрацка-бядняцкіх элемэнтаў і забясьпечаньня колгаснага руху пролетарскім уплывам і кіраўніцтвам.

Клясава - варожыя элемэнты — кулак, нэпман і духоўніцтва, сэктанты і ім падобныя, у зьвязку з правядзеньнем рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты, правядзеньнем суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, яшчэ больш чым у мінулую справаздачна-перавыбарчую кампанію паспрабуюць організаваць супраціўленьне, дыскрэдытаваць генэральную лінію партыі і савецкай улады, перацягваць на свой бок хісткія элемэнты серадняцтва і адзінак з адсталых беднякоў з тым, каб калі не самім пралезьці, дык прынамсі пасадзіць у саветах такіх асоб, якія спачуваюць або прымірэнча адносяцца да варожых нам элемэнтаў, людзей, якія ня могуць праводзіць клясавую лінію.

Вось чаму нам трэба загадзя мобілізаваць свае сілы з тым, каб усе спробы кулака і нэпмана былі зьнішчаны ў корані. Для гэтага трэба перш за ўсе шырока разгарнуць сыстэму мерапрыемстваў па організацыі згуртаваньня батракоў, бядняцка-серадняцкіх мас на пляцформе генэральнай лініі партыі і савецкай улады і гэтым самым даць организаваны палітычны адпор, ужываючы таксама і меры ўзьдзейнічаньня ў адміністрацыйным і судовым парадку ў дачыненьні да паасобных выступленьняў клясавага ворага.

Гэтая справаздачна-праверачна-перавыбарчая кампанія павінна быць генэральным аглядам дзейнасьці саветаў і глыбокім узварушэньнем і ажыўленьнем усяе работы саветаў. Таму да актыўнага ўдзелу ў кампаніі павінна быць пагалоўна прыцягнуты ўсе рабочыя, батракі і бядняцка-серадняцкія масы выбаршчыкаў, для чаго ў мэтах іх актывізацыі загадзя прапрацаваць організацыйныя задачы кампаніі, а таксама сваячасова вырашыць такія важнейшыя пытаньні, як абгаварэньне работы саветаў і высьвятленьне іх новых задач, намячэньне кандыдатур у склад новага савету, распрацоўкі наказаў на нарадах, конфэрэнцыях і сходах профактыву, на рабочых сходах, на сходах і конфэрэнцыях батрацтва, груп беднаты і батрацка-бядняцкіх сходах, якія павінны быць папярэдне праведзены ў зьвязку з кампаніяй на кожным выбарчым вучастку, прыцягнуўшы ў дапамогу да іх правядзеньня, пад кіраўніцтвам партыі, комсамол, батрацка-бядняцкі актыў і савецкі актыў вясковай інтэлігенцыі.

Неабходна разгарнуць шырокую падрыхтоўчую работу сярод жанчын работніц, батрачак, бяднячак і актывістых серадняпак, а таксама сярод жонак

рабочых і жанчын служачых. Трэба правесьці сходы жанчын, нарады актывістак, папярэднія справаздачныя сходы на ўсіх выбарчых вучастках. Неабходна правесьці шэраг практычных мерапрыемстваў, якія забясьпечвалі-б найбольш поўны ўдзел працоўных жанчын у справаздачна-перавыбарчых сходах; напрыклад, арганізацыя брыгад нянек, часовых ясьляў, прыцягненьне да хатняга абслугоўваньня і нагляду за дзяцьмі піонэрорганізацыі і г. д. У першую чаргу ў справе поўнай яўкі працоўнай жанчыны на справаздачна-перавыбарчыя сходы павінны дапамагчы рэальнымі захадамі комісіі саветаў па палепшаньню быту і працы працоўных жанчын.

Сярод працоўных нацменшасьцяй побач з агульнай работай, якая будзе праводзіцца ў зьвязку з падрыхтоўкай справаздачна-перавыбарчай кампаніі, неабходна правесьці яшчэ шэраг асобных палітычна-агітацыйных мерапрыемстваў, маючы на ўвазе, што сярод нацменшасьцяй клясава-варожыя элемэнты карыстаюцца зброяй барацьбы супроць колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, пропагандай адзінага нацыянальнага фонду, імкнучыся замазаць клясавыя супярэчаньні гэтай барацьбы.

Вось чаму ў часе падрыхтоўкі да справаздачна - перавыбарчай кампаніі ўсякаму манэўру варожых нам сіл трэба супроцьпаставіць моцную організацыю адзінага фронту рабочых, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас усіх нацыянальнасьцяй. У пунктах з компактнымі масамі нацменшасьцяй трэба абавязкова вылучаць нацвучасткі, якія таксама павінны абслугоўвацца дакладчыкамі, матар'ялам і літаратурай на роднай мове гэтых нацменшасьцяй.

Для таго, каб кампанія сапраўды мобілізавала ўсе працоўныя масы пад лёзунгам соцыялістычнай рэконструкцыі краіны, суцэльнай колектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, неабходна правесьці самую шырокую і ўсебаковую агітацыйна-пропагандыцкую работу праз культасьветныя ўстановы, тэатры, кіно, нардамы, клюбы, хаты-чытальні, чырвоныя куткі, радыё, праз выпуск лёзунгаў, плякатаў ды інш. Цэнтральны мясцовы друк павінен адцаць правядзеньню кампаніі, высьвятляючы яе задачы і вынікі, найбольшую ўвагу; найшырэй павінны быць уцягнуты ўсе грамадзкія організацыі і ведамствы—профсаюзы, комсамол, Чырвоная армія, коопэрацыя, КСУ, цэнтральныя савецкія і культасьветныя ўстановы, кіно, радыё, працоўная вясковая інтэлігенцыя і дэмобілізаваныя чырвонаармейцы. Трэба, каб кожная організацыя і ўстанова выконвала пэўную конкрэтную частку работы, што тычыцца кампаніі, актывізуючы свае масы выбаршчыкаў, што ўваходзяць у склад данай організацыі альбо абслугоўваюцца данай установай ці ведамствам. Чырвоная армія праз свае кадры павінна ў першую чаргу глыбока і ўсебакова прапрацаваць і растлумачыць масе чырвонаармейцаў, а таксама пераменьнікаў і допрызыўнікоў значэньне і задачы кампаніі, і у максымальнай меры дапамагаючы правядзеньню кампаніі сярод насельніцтва наогул, скарыстоўваючы свае культурна-палітычныя сілы. Чырвоная армія павінна ў час перавыбараў паставіць і высьветліць перад выбаршчыкамі ва ўсю шырыню задачы ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны, азнаёміць працоўных з жыцьцём, бытам і падрыхтоўкай чырвонаармейцаў. Як і ў мінулую перавыбарчую кампанію трэба скарыстаць практыку Чырвонай арміі па правядзеньні мітынгаў-пераклічак, пасылкі чырвонаармейскіх брыгад для ўдзелу і дапамогі ў правядзеньні перавыбараў на вёсцы.

На складаньне справаздач саветаў і іх дэпутатаў трэба зьвярнуць выключную ўвагу. Справаздачнасьць саветаў павінна ахапляць пытаньні ўдзелу саветаў у ажыцьцяўленьні пяцігодкі, колектывізацыі, абслугоўваньня рабочых, батрацкіх і бядняцкіх мас, сувязі саветаў з выбаршчыкамі і выкананьня іх наказаў. У справаздачах конкрэтна павінны быць вызначаны далейшыя практычныя мерапрыемствы, якія неабходна ажыцьцявіць саветам з пункту погляду тых новых задач, што стаяць зараз перад саветамі. Справаздачы павінны быць загадзя падрыхтавны і як сьлед прапрацаваны колектыўна пленумамі саветаў. Да справаздачнасьці перад выбаршчыкамі павінны быць прыцягнуты, акрамя прэзыдыумаў

саветаў, іх рэвізійныя комісіі, таксама і ўсе радавыя дэпутаты, сэкцыі і комісіі саветаў. Неабходна загадзя вызначыць рабочыя цэнтры і цэнтры буйных колгасных аб'яднаньняў, на якіх паставіць справаздачы раённых, акруговых выканаўчых комітэтаў, а таксама і ўраду.

Рэвізійныя комісіі павінны дасканала прарэвізаваць усю работу саветаў і іх комісій, удзел іх і кіраўніцтва ў справе колектывізацыі, выкананьня наказаў выбаршчыкаў, скарыстаньня сродкаў ад самаабкладаньня, выкананьня каштарысаў і бюджэтаў. Разам з адпаведным саветам рэўкомісія павінна рабіць падрабязныя даклады на кожным вучастку, праводзячы вынікі работы савету праз рэвізію і аб тым, які прымалі ўдзел у рабоце саветаў самі рэвізійныя комісіі. Праверку работы саветаў і іх комісій у гэту кампанію трэба правесьці шырокім масавым парадкам з дапамогаю рабочых брыгад, лёгкай кавалерыі і прадстаўнікоў савецкай грамадзкасьці на вёсцы. Побач з гэтым выкакомы павінны ў зьвязку з кампаніяй разгарнуць шырокую абсьледвацельскую работу па вывучэньні дзейнасьці саветаў.

Надзвычайна адказнай і важнай справай зьяўляецца распрацоўка новых наказаў саветам. Тут перш за ўсе неабходна дасканала распрацаваць агульную політычную частку гэтых наказаў такім чынам, каб былі яскрава, сьцісла і разам з гэтым вычэрпваючы поўна вызначаны тыя новыя задачы, што стаяць перад саветамі на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, характэрнейшымі рысамі якого зьяўляюцца: бурныя тэмпы разьвіцьця соцыялістычнай індустрыі, суцэльнай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і конкрэтныя ажыцьцяўленьні мерапрыемстваў па ліквідацыі кулацтва, як клясы. Адначасова кожная акруга і раён павінны адлюстроўваць у наказах і падкрэсьліваць тыя пытаньні і задачы, якія маюць найбольшае значэньне ў даных мясцовых умовах. Конкрэтная частка наказаў саветам павінна складацца з поўным улікам запатрабаваньняў выбаршчыкаў і рэальнасьцю іх выкананьня ў поўнай суадпаведнасьці з агульна-політычнымі і гаспадарча-культурнымі задачамі, якія зараз стаяць перад намі. Наказы дэпутатам трэба прапрацаваць загадзя на сходах профактыву, батрацтва, беднаты, дэлегацкіх сходах жанчын. У конкрэтнай частцы наказаў павінны быць поўнасьцю вызначаны мерапрыемствы саветаў па колектывізацыі і раскулачваньні, выцясьненьні нэпману, рацыяналізацыі вытворчасьці, соцыялістычнай організацыі быту, абслугоўваньні рабочых і колгасьнікаў, палепшаньні масавай работы і сувязі саветаў з выбаршчыкамі, па конкрэтным гаспадарчым, комунальным і культурным будаўніцтве.

Таксама надзвычайна важнай справай у надыходзячую справаздачна-перавыбарчую кампанію зьяўляецца падбор кандыдатур у пераабіраемыя саветы замест тых, якія будуць адкліканы. Перш за ўсё падбор павінен быць строга клясавым, з ліку рабочых, батракоў, беднаты і найбольш актыўных сераднякоў актывістых колгаснага будаўніцтва, шырока ўцягваючы ў саветы, іх кіруючыя органы выехаўшых для сталай работы на вёску гарадзкіх рабочых. Самы процэс падрыхтоўкі кандыдатур павінен праводзіцца ў шырокім масавым парадку праз сходы батрацтва і беднаты, рабочыя брыгады і дэлегацкія сходы жанчын, сходы і нарады актывістаў, комсамолу, профэсійных і грамадзкіх організацый. Неабходна максымальна згуртаваць усе батрацка-бядняцкія масы выбаршчыкаў і выбаршчыц для рашучага адстойваньня вылучаемых імі ў організацыйным парадку кандыдатур у склад новых саветаў. Неабходна забясьпечыць значнае павялічэньне ў саветах колькасьці рабочых, батрачак, бяднячак і актывістак серадняччак у параўнаньні з мінулай перавыбарчай кампаніяй, а таксама рашуча павялічыць колькасьць вылучаемых у склад саветаў і іх кіруючыя органы рабочых і батракоў. Адначасова справаздачна - перавыбарчая кампанія павінна быць максымальна выкарыстана для выяўленьня найлепшых кадраў рабочых і батрацка-бядняцкага нізавога актыву ўсіх нацыянальнасьцяй, вылучэньня іх у вышэйшыя органы ўлады замест вычышчаных бюрократычных, клясава-варожых і соцыяльна чужых

элемэнтаў. Запрашэньне ўсіх выбаршчыкаў на справаздачна-праверачна-перавыбарчыя сходы, як правіла, павінна рабіцца спэцыяльным позвамі, якія павінны быць сваячасова і ў дастатковай колькасьці зарыхтаваны і ўручаны выбаршчыкам не пазьней як за 2-3 дні да сходаў. У часе справаздачна-перавыбарчай кампаніі павінна быць шырока разгорнута социялістычнае спаборніцтва на лепшае правядзеньне справаздачнасьці і перавыбараў у раёне, савеце, на вучастку паміж саветамі, раёнамі, акругамі паміж паасобнымі організацыямі, прадпрыемствамі і ўстановамі.

Такім чынам пад лёзунгамі перабудовы работы саветаў у вызначаным вышэй напрамку, які забясьпечвае пасьпяховае выкананьне саветамі пастаўленых партыяй новых задач соцыялістычнага будаўніцтва, неабходна правесьці надыходзячую справаздачна-праверачную і перавыбарчую кампанію саветаў у асабліва ўдарным парадку, прыцягваючы ўвагу і ўдзел пад геніальным кіраўніцтвам комуністычнай партыі, усіх пролетарскіх, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас нашай краіны.

На даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва саветы павінны быць узмоцнены і падабраны ў сваім соцыяльным складзе так, каб усё гэта магло поўнасьцю забясьпечыць правядзеньне суцэльнай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ліквідацыю кулацтва як клясы.

**„Для забесьпячэньня пасьпяховага выкананьня задач справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, неабходна ўсюды правесьці самую шырокую падрыхтоўчую работу сярод батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і калгасьнікаў шляхам абгаварэньня пытаньняў, зьвязаных з перавыбарамі сельсаветаў і асобных членаў саветаў, проэктаў, наказаў, кандыдатур у саветы і г. д. на сходах батрацтва і беднаты, на паседжаньнях батрацка-бядняцкіх групп, на дэлегацкіх сходах, на сходах колгасьнікаў і г. д.**

**ЦК зварачвае асаблівую ўвагу партыйных організацый на неабходнасьць правядзеньня падрыхтоўчай работы сярод батрацка-бядняцкіх жаночых мас“.**

З пастановы бюро ЦК (КПб)Б.



# У НОГУ З СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭКОНСТРУКЦЫЯЙ!

## НА НОВЫЯ РЭЙКІ

Рабочая кляса ў цесным саюзе з працоўным сялянствам, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, праводзіць вялізарную работу па індустрыялізацыі нашай краіны, колектывізацыі ды інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі.

Выкананьню гэтых задач павінна дапамагчы ўся сыстэма народнай асьветы; да гэтага павінна быць прыстасавана ўся работа школы і політасьветных устаноў.

Посьпехі будаўніцтва соцыялізму органічна зьвязаны з фактычным ажыцьцяўленьнем культурнай рэволюцыі, з культурным уздымам краіны.

Адгэтуль, узмацняючы тэмп культурнай рэволюцыі, прыводзячы яго ў адпаведнасьць з запатрабаваньнямі гаспадарчага і палітычнага будаўніцтва, патрэбна зрабіць упор на стварэньне прадпасылак да шырокага размаху культурнай рэволюцыі: увядзеньне ўсеагульнага навучаньня і ліквідацыю няпісьменнасьці дарослага насельніцтва. Бяз гэтага немагчымы адпаведны тэмп ні гаспадарчага будаўніцтва, ні культурнай рэволюцыі, ні таксама індустрыялізацыі краіны, соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і яе інтэнсыфікацыі. Урад і Народны Комісарыят Асьветы БССР робяць усё магчымае да таго, каб у найкарацейшы тэрмін зьнішчыць сумную спадчыну старога--цемру беларускай вёскі. Зараз у гэтай галіне ўжо дасягнуты значныя посьпехі.

Па колькаснаму павялічэньню пачатковай школьнай асьветы БССР займае цяпер першае месца сярод астатніх саюзных рэспублік: паказальнік асьветы (колькасьць вучняў на 100 душ насельніцтва) у БССР, па вестках школьнага перапісу 1927-28 г.,—8,5, у РСФСР—6,7, у УССР—7,2, у ЗСФСР—7,8, а па ўсяму СССР—6,7. Тэмпы ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва БССР таксама стаяць вышэй, чым у РСФСР: у РСФСР з 1920 па 1926 год пісьменнасьць насельніцтва павялічылася на 18%, у БССР—на 26%. Урад БССР (першы ў Саюзе) распрацаваў конкрэтны плян ажыцьцяўленьня ўсеагульнага школьнага навучаньня ў 1932-33 годзе і ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослых.

У зьвязку з пастаўленымі ў апошні час конкрэтнымі задачамі па суцэльнай колектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР у два гады і падняцьцю яе ўраджайнасьці, калі шпаркім тэмпам ідзе будаўніцтва колектыўных гаспадарак, перад Народным Комісарыятам Асьветы стаіць задача—разгарнуць сетку дашкольных устаноў, перабудаваць тэрыторыяльна сетку ўсеагульнага пачатковага навучаньня і скараціць тэрмін яго ўвядзеньня па БССР, а таксама ў больш кароткі тэрмін ліквідаваць няпісьменнасьць сярод працоўных.

Каб даць поўную магчымасьць колгасьніцы ўдзельнічаць у агульным будаўніцтве жыцьця колгасу, НКА распрацаваў плян разгортваньня сеткі дашкольных устаноў, каб на працягу двух год ахапіць поўнасьцю дзяцей 4-7 год як звычайнымі ўстановамі (дзіцячы ачаг), так і прымітывамі (скарочаны дзіцячы сад, зімовыя і летнія пляцоўкі). Такім чынам павінна быць адчынена да 3 тысяч дашкольных устаноў, якімі будзе ахоплена 480 тысяч дзяцей 4-7 год.

У сучасны момант сеткай дашкольных устаноў ахоплена 3,4% дзяцей дашкольнага ўзросту (па гораду—да 12%, а ў вёсцы—да 2% у адносінах да агульнага ліку дзяцей дашкольнага ўзросту). У колькасных адносінах у 1928-29 годзе налічвалася: дзіцячых ачагоў—22, дзіцячых садоў—76, з іх у сельскай мясцо-

васьці—7, дзіцячых пляцовак—183, з іх у сельскіх мясцовасьцях—127. У бягучым навучальным годзе адчыняецца ў колгасах на каштарысныя сродкі 300 ясьляй-садоў і больш 300 летніх ясляй-пляцовак. Акрамя таго, адчыненьне дашкольных устаноў ідзе па галіне Паляводсаюзу, Белкоопсаюзу і Колгассаюзу.

Усеагульнае пачатковае навучаньне і поўная ліквідацыя няпісьменнасьці ва ўсіх колгасах будзе праведзена ў 1930-31 годзе. Адпаведна гэтаму перабудаваны плян усеагульнага пачатковага навучаньня і ліквідацыі няпісьменнасьці.

Сеткаю ўсеагульнага пачатковага навучаньня будзе ахоплена ў 1929-30 г. 441 тысяча дзяцей ад 8 да 11 год. На ажыцьцяўленьне гэтага мерапрыемства вызначаецца 17,6 мільёнаў рублёў. Радыус абслугоўваньня пачатковай школай—2,8 кілёмэтраў.

Палітыка-асьветнай установай у колгасе павінен быць народны дом ці клюб, дзе трэба згрупаваць усю клюбна-культурную работу і пастаноўкі.

Плянам запроэктавана адчыненьне да трох тысяч народных дамоў, якімі павінна быць абслужана ўсё дарослае насельніцтва. Выдатак на гэта мерапрыемства вылічаны ў 18 мільёнаў рублёў.

Ахоп падросткаў і моладзі колгасаў ад 12 да 18 год павінен ісьці па лініі школы колгаснай моладзі (II концэнтр) і профэсіязаванага III концэнтру.

Наркомасьветы разьлічвае мець для абслугоўваньня падросткаў і моладзі колгасаў к канцу пяцігодкі 360 школ колгаснай моладзі (II концэнтр) і 125 III-іх концэнтраў з сельска-гаспадарчым ухілам.

Школамі будзе ахоплена 82.600 чалавек колгаснай моладзі, ці 25 проц. усяго насельніцтва ад 12 да 15 год, а трэцім концэнтрам 25 тысяч чалавек, ці 10 проц. моладзі—ад 15 да 18 год.

Перад школай і культурна-асьветнымі установамі, акрамя агульнага ўздыму пісьменнасьці і культуры, сталі неадкладныя конкрэтныя задачы садзейнічаньня соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі краіны. Урад БССР у пастанове ад 20-га сьнежня 1928 года прадугледзеў цэлы шэраг конкрэтных мерапрыемстваў па падняцьцю вытворчасьці сельскай гаспадаркі і ў тым ліку наступныя мерапрыемствы культурна-асьветнага характару: а) пераапрацаваць навучальныя пляны і праграмы вышэйшых, сярэдніх і ніжэйшых сельска-гаспадарчых навучальных устаноў для большага прыстасаваньня іх да запатрабаваньняў разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР і вырашэньня задач колектывізацыі, уздыму продукцыйнасьці і ўраджайнасьці; б) прыстасаваць праграму агульна-адукацыйнай школы ў вёсцы да задач агрономічнай асьветы моладзі; організаваць масавую падрыхтоўку сельскага настаўніцтва праз спэцыяльныя курсы і ўвесьці асновы агрономіі, організацыі сельскай гаспадаркі і колектывізацыі ў праграмы пэдагогічных тэхнікумаў, каб забясьпечыць сельска-гаспадарчы ўхіл у рабоце агульна-адукацыйнай сельскай школы.

У адпаведнасьці з паказанымі дырэктывамі СНК Народны Комісарыят Асьветы БССР к пачатку 1929-30 навучальнага году перагледзеў праграмы навучальных устаноў у мэтах унясеньня у іх большага ліку неабходных ведаў і навыкаў па колектывізацыі сельскай гаспадаркі і агрономізацыі працоўнага насельніцтва.

Мэтавая ўстаноўка Сельска-гаспадарчай Акадэміі перабудавана па прынцыпу вузкай спэцыялізацыі, і адчынена аддзяленьне па падрыхтоўцы організатараў колгасаў.

У праграмах працоўнай школы, якія мы маем да гэтага часу, элемэнты колектывізацыі і сельска-гаспадарчых ведаў мелі недастатковае месца.

Каб цалкам прыстасаваць школу соцыяльнага выхаваньня да выкананьня задач па колектывізацыі сельскай гаспадаркі і агрономізацыі насельніцтва, згодна пастановы колегіі Народнага Комісарыяту Асьветы ў сьнежні 1929 г. навучальны год у школе перабудованы па сэзоннасьці работы ў колгасе, з двухмесячным перапынкам—у сьнежні і з 15-га чэрвеня па 15 ліпеня. Гэты перарыў скарыстоўваецца настаўнікам для адпачынку. У бягучым навучальным годзе зімовы перапынак вызначаны з 15 студзеня па 15 лютага.

Пункт гледжаньня ЦП працасьветы—двухмесячны перапынак: 15 дзён ў зімовы пэрыод і паўтара месяцы ўлетку.

У другім годзе навучаньня ўведзен адзіны комплекс—„Наш колгас“, а ў астатніх гадох навучаньня чырвонай ніткаю праходзіць колектывізацыя ды інтэнсыфыкацыя сельскай гаспадаркі.

Другі концэнтр вясковых сямігодак пераведзены на програму школы сялянскай моладзі, пры чым асновы колектывізацыі і коопэраваньня сельскай гаспадаркі ў програмах займаюць цэнтральнае месца. На працягу двух год усе вясковыя сямігодкі будуць рэорганізаваны ў школы колгаснай моладзі. Зробленая пераапрацоўка падручнікаў і ўнясеньне ў іх матар'ялаў колектывізацыі і агрономізацыі зьяўляюцца недастатковымі (наяўнасьць у паасобных падручніках політычных памылак, недаацэнка тэмпу колектывізацыі, адсутнасьць дастаткова поўнага матар'ялу аб ролі колгасаў і саўгасаў, іх жыцьці, быце і рабоце).

Наркомасьветы паставіў задачу поўнай пераапрацоўкі як програм, так і падручнікаў у бліжэйшы тэрмін адпаведна задачам індустрыялізацыі і рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Практычная работа школы і культурна-асьветнай сеткі ў справе соцыялістычнай перабудовы вёскі, калі ня лічыць таго ўплыву, які робіць на гэту перабудову агульная пісьменнасьць, што даецца школай, можна сказаць, толькі пачынаецца, і вынікі яе яшчэ нязначныя. Аднак, у апошні час усё часьцей і часьцей зьяўляюцца паведамленьні ў газэтах, пэдагогічных часопісах, якія адзначаюць факты актыўнага ўдзелу школ у практычнай рабоце ў галіне сельскай гаспадаркі. Вучні пачатковых школ пропагандуюць ідэю колектывізацыі сельскай гаспадаркі словам і справай: агітуюць за колгасы, зьбіраюць попел для ўгнаеньня сваіх і школьных град, купляюць разам насеньне для гароду, робяць досьледы на гародзе, закладваюць садовыя пітомнікі, організоўваюць рацыянальныя севазвароты (Сьмілавіцкі раён, Менскай акругі), нават робяць простыя сельска-гаспадарчыя прылады для школьнай гаспадаркі (Калінкавіцкі раён, Мазырскай акругі).

Асабліва значную работу ў галіне колектывізацыі сельскай гаспадаркі і організацыі насельніцтва праводзяць школы сялянскай моладзі і сямігодкі, якія знаходзяцца ў вясковых мясцовасьцях. Веснавы зьезд гэтага году ШСМ канстатаваў, што ўсе гэтыя школы прымалі ўдзел у організацыі колгасаў і ў іх рабоце, наладжвалі агрономічныя досьледы, паказальныя для сялян, сартавалі насеньне, праводзілі агропропаганду. У часопісе „Асьвета“, № 1, 1929 г., ёсьць апісаньне тае работы, якую вяла Старобінская сямігодка Бабруйскай акругі, у адносінах колектывізацыі і распаўсюджаньня сельска-гаспадарчых ведаў і навыкаў сярод вакольнага сялянства. Школа прыняла ўдзел у організацыі колгасу і на сваёй вучэбнай дзялянцы ўвяла правільны севазварот, штучнае мінэральнае ўгнаеньне, вытварала палявыя работы трактарам і атрымала ўраджай, які быў куды лепш за ўраджай суседніх сялянскіх палёў.

Найбольшую грамадзкую работу ў галіне колектывізацыі сельскай гаспадаркі і агрономізацыі насельніцтва вядуць спэцыяльныя сельска-гаспадарчыя школы і тэхнікумы. Гэтыя навучальныя ўстановы прымаюць непасрэдны ўдзел у канструктаваньні работы бліжэйшых колгасаў, ставяць пытаньні падвышэньня ўраджайнасьці на раённых сялянскіх зьездах, зьвязваюцца з вясковымі пачатковымі школамі, памагаюць ім больш рацыянальна паставіць работу на прышкольных дзялянках, організоўваюць нядзельныя сельска-гаспадарчыя тэхнікумы для дарослых сялян (Смалянская сельска-гаспадарчая школа), але ўся гэта работа агульна-адукацыйных і спэцыяльных навучальных устаноў не набыла яшчэ масавага характару; зроблены толькі пачатак, для працягненьня якога патрэбны вялізарная ініцыятыва, энэргія і значная затрата сродкаў.

Роля-ж школьных зямельных дзялянак характарызуецца наступнымі данымі школьнага перапісу: з 5163 пачатковых школ зямельныя дзялянкі былі ў 1927-28 годзе толькі ў 3734 школах, г. зн. у 72 проц. агульнай колькасьці школ, а дзялянкі сельска-гаспадарчага значэньня (сад, гарод, пахаць, сенажаць) мелі толькі 3000 школ, што складае 58 проц. агульнай колькасьці пачатковых школ. Але з гэтых трох тысяч школ толькі 65 школ скарысталі свае зямельныя

дзялянкі поўнасьцю самі, а 30 школ толькі часткова. Такім чынам, толькі 3—4 проц. школ, якія маюць дзялянкі сельска-гаспадарчага значэньня, вядуць на гэтых дзялянках навучальную работу. Зямля 1047 школ скарыстоўвалася выключна настаўнікамі, а астатніх здавалася ў арэнду ці эксплёатавалася іншым шляхам, бяз удзелу школ і настаўніцтва. Працоўныя сельска-гаспадчарыя процэсы, якія маглі быць організаваны ў школах дзякуючы наяўнасьці пры іх зямельных дзялянак сельска-гаспадарчага значэньня, у 1927-28 годзе амаль адсутнічалі. Прычынамі гэтага зьявішча, як паказана было вышэй, зьяўляюцца значная адлегласьць зямельных дзялянак ад школ, адсутнасьць агарожы, адсутнасьць сельска-гаспадарчага інвэнтару, але вядомую ролю, бязумоўна, адыгрывае тут і інэртнасьць настаўнікаў, якія на лета часта пакідаюць школу і не праяўляюць зацікаўленасьці да рацыянальна-гаспадарчага і навучальна-паказальнага скарыстаньня школьных зямельных дзялянак.

У сувязі з суцэльнай колектывізацыяй сельскай гаспадаркі БССР школьная сетка тэрыторыяльна перабудоўваецца, школьныя зямельныя дзялянкі ўваходзяць у колгасы, і школы будуюць сваю агрономічную работу па вытворчаму пляну колгасаў.

Уплыў культурна-асьветных установ на соцыялістычную перабудову вёскі не абмяжоўваецца толькі ўкараненьнем разуменьня патрэбнасьці пераходу на колектыўнае землякарыстаньне, патрэбнасьці сельска-гаспадарчых ведаў і навыкаў,—школы і культурна-асьветныя ўстановы прымалі ўдзел амаль ва ўсіх пачынаньнях і кампаніях савецкай улады, якія накіраваны на гэту перабудову. Да такіх кампаній трэба аднесьці ўдзел школ у мінулым навучальным годзе ў перавыбарах сельскіх саветаў і ў пасеўнай кампаніі. Па пытаньню аб правядзеньні перавыбарчай кампаніі ў вёсцы Наркомасьветы БССР даў паказаньні ў абежніку ад 21-га сьнежня 1928 года за № 10. Гэтым абежнікам патрабавалася: а) правесьці з вучнямі гутаркі аб практычным удзеле школ у перавыбарах саветаў; б) правесьці праз вучняў растлумачальную кампанію сярод батрацтва, беднаты і серадьнякоў з мэтай падняцьця сьвядомасьці і выклікаць з іх боку дапамогу ў справе правільнага правядзеньня перавыбараў саветаў; в) выпусьціць спэцыяльны нумар насьценнай газэты і організаваць куток савецкага і культурнага будаўніцтва, якія-б паказвалі дасягненьні саветаў за мінулы год; г) правесьці бацькаўскі сход, на якім зрабіць даклад на тэму: „Задачы партыі і савецкай улады ў зьвязку з перавыбарамі саветаў“; д) наладзіць літаратурна-мастацкі вечар з праграмай, якая характарызавала-б адносіны варожых элемэнтаў да савецкай улады і ролю рабочай клясы, батрацтва і сельскай беднаты ў перавыбарчай кампаніі.

У пераважнай большасьці выпадкаў гэтыя дырэктывы Наркомасьветы сельскімі школамі былі выкананы. Вось як апісвае настаўнік Барадынскай школы, Менскай акругі, Крэмез удзел яго школы ў перавыбарах сельсавету (часопіс „Асьвета“, № 3 за 1929 год). Перш за ўсё настаўнікі былі дэталёва азнаёмлены з дзейнасьцю сельсавету, яго работаю, організацыяй і г. д.. З гэтай мэтай з вучнямі 3-яй і 4-ай групы была наладжана экскурсія ў сельсавет, пры чым вучні былі падзелены на групы,—па колькасьці аддзелаў у сельсавеце. Гэтыя групы падрабязна азнаёміліся з работаю кожнага аддзелу, зрабілі вусныя і пісьмовыя даклады аб рабоце сельсавету ў школе. Пасьля гэтага азнаямленьня з работаю сельсавету і надыходзячымі перавыбарамі вучні самі паставілі пытаньне аб удзеле школы ў перевыбарах. У выніку абгаварэньня гэтага пытаньня вучні падзяліліся на зьвеньні, якія паставілі сабе задачаю правесьці наступнае: абсталяваць у хаце-чытальні „куток работы нашага сельсавету“, напісаць адпаведныя лёзунгі да перавыбарчай кампаніі, прыбраць хаты-чытальні, клюбы і школы да дню перавыбараў, пісаць абвесткі і даставіць іх выбаршчыкам. Гэтая работа вучнямі была выканана: дзеці рыхтавалі дыяграмы, якія характарызуюць работу і дасягненьні сельсавету, нарысавалі схэму сходу перавыбараў, схэму організацыі сельсавету, яго сувязі з насельніцтвам ды інш.. „Куток“ быў упрыгожаны намалёваным дзяцьмі плякатам-

лёзунгам: „Моцны саюз батрака, бедняка і серадняка дасьць адпор кулаку“. Настаўнік Крэмез паведамляе ў сваім артыкуле, што ў выніку праведзенай школай работы, разам з ячэйкаю ЛКСМБ, насельніцтва зразумела, што справа выбараў у сельсавет гэта яго справа і прыняла удзел у выбарах у два разы у большай колькась ці чым ў папярэднія гады. Бедната дала дружны адпор кулаком і іх падпявалам, дзякуючы гэтаму, усе выстаўленыя кандыдатуры кулакоў былі правалены, і ў савет прайшлі бедната, комсамольцы, партыйцы і сумленныя беспартыйныя працаўнікі.

Удзел школ і культурна-асьветных установ у вясеньня-пасеўнай кампаніі гэтага году азначаўся інструкцыйным лістом, які пасланы Народным Комісарыятам Асьветы і ЦП Саюзу Працасьветы ўсім мясцовым органам народнай асьветы, саюзным організацыям і ўсім работнікам асьветы. У гэтым лісьце (ад 26-га студзеня 1929 году) прадугледжаны наступныя мерапрыемствы: 1. На працягу лютага месяца правесьці сходы настаўнікаў і работнікаў політасьветы, на якіх прапрацаваць саюзны закон і пастанову СНК БССР па падняцьцю ўраджайнасьці, мясцовы плян правядзеньня пасеўнай кампаніі і вызначыць практычныя мерапрыемствы па ўдзелу школ і політасьветных установ ў правадзімай кампаніі на падставе мясцовага пляну. 2. Школьным і культурным работнікам прыняць удзел у конфэрэнцыі раённага савецкага актыву па пытаньнях пасеўнай кампаніі. 3. Школы, і політасьветныя ўстановы, кожная ў раёне свае дзейнасьці, павінны: а) асьвятліць пытаньні пасеўнай кампаніі на школьных саветах, сходах вучняў і іх бацькоў, сярод чытачоў бібліотэк, у хатах-чытальнях, на вясковых сходах ды інш.; б) наладжваць аграпаходы (экскурсіі ў сады, гароды, на сенажаць і поле) для правядзеньня тае ці іншай аграработы (барацьба з пустазельлем, шкоднікамі і інш.); в) наладжваць экскурсіі з вучнямі ў аграпункты, саўгасы і колгасы для практычнага азнаямленьня вучняў з рознымі рацыянальнымі сельска-гаспадарчымі процэсамі, каб на конкрэтных прыкладах упэўніць вучняў у перавагах аграмаджанай формы землякарыстаньня перад індывідуальнай; г) у школах, нардамох і хатах-чытальнях праводзіць з насельніцтвам чытку агрономічных артыкулаў і кніжак з гутаркамі на адпаведныя тэмы, наладжваць вечары аграпытаньняў і адказаў, прыцягваючы і ўзварушаючы ўвагу працоўнага сялянства да організацыі колгасаў, пашырэньня пасеўнай плошчы і падняцьця ўраджайнасьці; д) прыняць усе захады да практычнага выкарыстоўваньня школьнага зямельнага вучастку як вопытнага, так, па магчымасьці, і паказальнага. 4) Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, сельска-гаспадарчым тэхнікумам і школам сялянскай моладзі прапанована вызначыць раён свае агрономічнай дзейнасьці, накіроўваць работу студэнтаў і вучняў, галоўным чынам, на організацыю колгасаў і паляпшэньне бядняцкіх гаспадарак, прыстасаваць усю сваю работу да гэтых задач. 5) Індустрыяльныя тэхнікумы, профшколы і навучальныя майстэрні ў пэрыод веснавой пасеўнай кампаніі павінны організаваць, у парадку свае вытворчай практыкі і грамадзкай работы, брыгады па рамонту сельска-гаспадарчых машын (па сабекошту) у раёнах, якія вызначаны імі разам з савецкімі органамі і грамадзкімі організацыямі. 6) Пэдагогічныя тэхнікумы, перад пасылкай студэнтаў 4-га курсу на месячную практыку ў вёску, павінны правесьці для іх кароткатэрміновыя курсы па пытаньнях уздыму ўраджайнасьці з мэтай агрыкультурнай дапамогі працоўнаму насельніцтву ў часе свае практыкі. 7. Усе культурна-асьветныя ўстановы вёскі павінны азнаёміць насельніцтва з пастановамі партыі і ўраду аб колектывізацыі і падняцьці ўраджайнасьці, пазнаёміць з конкрэтнымі плянамі акругі і раёну.

Народны Комісарыят Асьветы БССР, лічачы па выніках абгляду і шматколькасных паведамленьнях селькораў у газэтах, можа сказаць, што яго дырэктывы аб веснавой пасеўнай кампаніі знайшлі практычнае прыстасаваньне ў рабоце культурна-асьветных установ.

Па даных школьнага перапісу, кваліфікацыя настаўніцтва сельскіх школ наступная: настаўнікаў з пэдагогічнай

асьветай—25,3 проц., з вышэйшай асьветай—3,5 проц., з сярэдняй—58,5 проц. і ніжэй-сярэдняй—38 проц. (настаўнікі з пэдагогічнай асьветай уваходзяць у лік асоб з вышэйшай і сярэдняй асьветай). Тры гады назад (1925-26 год) процант настаўнікаў з пэдагогічнай асьветай быў 33,4 проц., у 1927-28 годзе ён зьменшыўся да 28,5 проц. Тлумачыцца гэта тым, што тэмп адчыненьня новых пачатковых школ у апошнія гады значна большы, чым тэпм падрыхтоўкі настаўнікаў для гэтых школ. Колькасьць партыйцаў і комсамольцаў сярод настаўніцтва яшчэ зусім недастатковая—складае толькі 9,2 проц. Моладзь ва ўзросьце да 30 год складае 53,5 проц. усяго настаўніцтва і мае невялікі вопыт у пэдагогічнай рабоце (ад 1 да 6 год—41,8 проц.). Абнаўленьне настаўніцкіх кадраў ідзе досыць шпарка: 63 проц. усяго настаўніцтва маюць ня больш 10-гадовы пэдагогічны стаж, значыць, пачалі сваю работу пасьля рэволюцыі.

Настаўніцтва, асабліва вясковае, у асноўнай сваёй масе актыўна ўдзельнічае ў грамадзкай рабоце, актыўна працуе, пад кіраўніцтвам компартыі, у социялістычнай перабудове краіны; гэта асабліва трэба сказаць аб тых настаўніках, якія прайшлі тэорэтычную падрыхтоўку ў савецкіх навучальных установах.

Для падрыхтоўкі новых настаўніцкіх кадраў у сучасны момант па БССР мы маем 17 пэдогогічных тэхнікумаў, шмат якія з іх у падвойным складзе (да рэволюцыі было толькі 6 настаўніцкіх сэмінарый) і 8 двухгадовых пэдагогічных курсаў, якія будуць выпушчаць штогод каля 1500 настаўнікаў. Але для здавальненьня патрэб усеагульнага навучаньня ў першыя гады гэтага будзе мала, прыдзецца яшчэ арганізаваць аднагадовыя пэдагогічныя курсы і зрабіць датэрміновы выпуск 3-га курсу пэдтэхнікумаў. Перападрыхтоўка настаўнікаў ажыцьцяўляецца праз штогадовыя летнія акруговыя курсы, праз якія ўжо прайшло амаль усё настаўніцтва. З 1929-30 навучальнага году шырока разгортвае сваю работу „пэдтэхнікум дома".

Сельска-гаспадарчая падрыхтоўка настаўнікаў у існуючых пэдтэхнікумах яшчэ ня можа быць прызнана здавальняючай. Для паляпшэньня падрыхтоўкі маладых настаўніцкіх кадраў уведзена для студэнтаў пэдтэхнікумаў двухмесячная гаспадарчая практыка ў колгасе на другім, трэцім і чацьвёртым курсах з адначасовым узмацненьнем сельска-гаспадарчых дысцыплін у програмах тэхнікуму. Для таго, каб ахапіць сельска-гаспадарчай падрыхтоўкай усю шырокую масу настаўніцтва, мяркуецца для настаўнікаў 1-га концэнтру, па прыкладу 1929 году, штогод праводзіць шасьцітыднёвыя сельска-гаспадарчыя курсы, праз якія за пяць год пройдзе каля 5000 настаўнікаў (68 проц. наяўнасьці іх колькасьці). Для настаўнікаў другога концэнтру будуць організаваны месячныя сельска-гаспадарчыя курсы пры Горацкай Сельскагаспадарчай Акадэміі. У гэтым годзе прапушчана ўжо праз гэтыя курсы 80 чалавек, а на працягу пяцігодкі будзе прапушчана 400 чалавек.

Соцыялістычнае спаборніцтва школ і політасьветных устаноў разгарнулася па ўсёй рэспубліцы. Асноўнымі момантамі спаборніцтва зьяўляюцца: 1) дашкольны паход; 2) культпаход за пісьменнасьць; 3) бібліотэчны паход; 4) трохмесячнік пролетарскай культуры; 5) організацыя колгасу; 6) за меншы адсеў з школы дзяцей рабочых, батракоў і беднаты і лепшае іх абслугоўваньне (большы ахоп, дапамога вопраткай, абуткам, стыпэндыяй, дапамога тым, якія адстаюць); 7) падрыхтоўка батракоў і беднаты ў тэхнікумы, рабфакі і ВНУ; 8) за зьмяншэньне другагодніцтва і г. д. Недахопам ў гэтай рабоце зьяўляецца адсутнасьць падліку і праверкі.

Праўда, з спазьненьнем, але даны неабходныя інструкцыйныя паказаньні культурна-асьветным установам аб формах і мэтодах правядзеньня соцыялістычнага спаборніцтва. Кіруючая роля ў соцыялістычным спаборніцтве належыць органам саюзу работнікаў асьветы.

Організаваная дапамога дзецям беднаты, якія вучацца ў працоўных школах, пачалася ў 1927-28 навучальным годзе. У гэтым годзе ўпяршыню на гэту патрэбу было адпушчана з каштарысных сродкаў 50 тыс. рублёў; у 1928-29 годзе

на гэту-ж патрэбу асыгнавана з каштарысных сум 130.082 рублі і 46,187 рублёў на стыпэндыі вучням другога концэнтру сямігодкі; у 1929-30 г. вызначана каштарысам 462 тысячы рублёў і 100 тысяч рублёў на стыпэндыі вучням другога концэнтру сямігодак.

Перад пачаткам 1928-29 навучальнага году з боку Наркомасьветы БССР былі дадзены органам наступныя паказаньні пра арганізацыю дапамогі дзецям беднаты: а) зрабіць падлік дзяцей батракоў і беднаты ад 8 да 11 год, якія навучаюцца ў школах, а таксама тых дзяцей батракоў і беднаты, якія скончылі ў апошнія два гады чатырохгадовыя школы, з тым, каб як найбольш уцягнуць іх у першы і другі концэнтры працоўнай школы; б) правесьці шырокую работу па арганізацыі школьных фондаў беднаты, уцягваючы ў гэту работу кооперацыю, комітэты сялянскай узаемадапамогі, прыцягваючы да гэтага самадзейнасьць насельніцтва; в) пры кожнай сельскай школе арганізаваць комітэт па дапамозе школе, у абавязкі каторага павінны ўваходзіць, паміж іншым, адшуканьне сродкаў для дапамогі дзецям беднаты, а таксама правільнага іх разьмеркаваньня; г) прыняць усе захады да забесьпячэньня дзяцей батракоў і беднаты, якія жывуць далёка ад школы, інтэрнатамі і начлежкамі, скарыстоўваючы для гэтага як каштарысныя сродкі, так і сродкі ад самаабкладаньня насельніцтва; д) пры разьмеркаваньні падручнікаў паміж вучнямі ў першую чаргу поўнасьцю забясьпечыць імі дзяцей батракоў і беднаты, катэгорычна адхіляючы роўнамернае разьмеркаваньне падручнікаў паміж вучнямі розных соцыяльных груп, якое да гэтага часу мела месца; е) прапанаваць загадчыкам і настаўнікам школ дапамагаць непасьпяваючым дзецям беднаты; найбольш слабых вучняў, асабліва дзяцей беднаты, прымацоўваць (праз вучнёўскія комітэты і піонэрскія арганізацыі) да больш пасьпяваючых вучняў.

Даныя аб ажыцьцяўленьні паказаных вышэй мерапрыемстваў паказваюць, што комітэты садзейнічаньня былі арганізаваны ў 1928-29 г.г. пры палове існуючых школ, але большасьць з іх работу яшчэ не разгарнула. Пры дапамозе комітэтаў былі арганізаваны мясцовыя фонды дапамогі дзецям беднаты ў суме 34.000 рублёў. Па 94 раёнах, з якіх ёсьць весткі, агульная сума на дапамогу дзецям беднаты як з каштарысных сродкаў, так і з сродкаў грамадзкіх арганізацый складала 200.832 рублі. На гэтыя сродкі зроблена дапамога 3.309 дзецям батракоў, 30.112 дзецям беднякоў і 1427 дзецям бяднейшых сялян-сераднякоў. Дзеці батракоў былі забясьпечаны на 75-100 проц., а дзеці беднаты—на 30-50 проц. Падручнікамі дзеці батракоў і вясковай беднаты былі забясьпечаны ў першым концэнтры працоўнай школы на 90 проц., а ў другім концэнтры—на 20-30 проц. Для дапамогі дзецям беднаты ў іх навучальнай пасьпяховасьці пры 90 проц. сямігодак былі арганізаваны спэцыяльныя заняткі з непасьпяваючымі, што дало зьніжэньне другагодніцтва ў гэтых школах з 17 да 14-10 проц. Колькасьць інтэрнатаў пры сямігадовых сельскіх школах павялічана на 6, у параўнаньні з папярэднім годам, пры чым 4 інтэрнаты адчынены на грамадзкія сродкі (Магілеўская акруга); інтэрнатамі амаль поўнасьцю забясьпечана бедната, якая вучыцца ў другім концэнтры 7-гадовых школ, пры каторых інтэрнаты арганізаваны.

Трэба адзначыць, што ў мінулым годзе фонды беднаты па мясцоваму каштарысу былі разьмяркованы некаторымі АВК і РВК з спазьненьнем (студзень-сакавік), дзякуючы чаму сродкі папалі ў школу ў сакавіку-красавіку і нават у маі месяцы (Магілеўская акруга); у выніку 13.065 рублёў ня былі выдаткаваны.

Трэба падкрэсьліць, што аказаньне дапамогі дзецям серадню́коў у той час, калі дзеці беднаты поўнасьцю ня былі забясьпечаны, зьяўляецца парушэньнем клясавай лініі з боку мясцовых органаў народнай асьветы (Бабруйская акруга).

Эканомічная работа саюзу па ўзмацненьню ролі школы і культурна-асьветных устаноў патрабуе значнага паляпшэньня ў зьвязку з вялізарнымі задачамі соцыялістычнага наступу.

Ад кожнага асьветніка, ад кожнага саюзнага органу патрабуецца правядзеньне

выразнай пролетарскай лініі, клясавай пільнасьці, узмацненьня барацьбы з дробнабуржуазнымі ўплывамі, усялякага роду хістаньнямі, са спробамі клясавага ворага скарыстаць культурнаасьветныя ўстановы для затрыманьня соцыялістычнага наступу, зрыву вызначаных мерапрыемстваў культурнага будаўніцтва.

Саюзныя органы павінны ўцягнуць усю масу асьветнікаў у работу па ажыцьцяўленьню пяцігадовага пляну культурнага будаўніцтва. Узмацненьне тэмпу колектывізацыі патрабуе ў сваю чаргу ўзмацненьня работы па рэорганізацыі вясковай школы. Саюзныя органы, маса асьветнікаў павінны прыняць самы актыўны удзел у абгаварэньні пытаньняў рэорганізацыі школы, прапрацоўцы праграм яе падручнікаў і г. д.

Удзел саюзных органаў, мас асьветнікаў у ажыцьцяўленьні пляну ўсеагульнага навучаньня павінен быць яшчэ ў большай ступені чым зараз, знайсьці свой адбітак у рабоце па вучоту няпісьменных, у барьцьбе за сваячасовы пачатак і канец навучальнага году, вывучэньні прычын ненаведваньня школ, барацьбе за зьнішчэньне гэтых прычын, паляпшэньні работы па аказаньню дапамогі адстаючым вучням, забясьпячэньні іх адзежай, абуткам, ядою (у першую чаргу дзяцей рабочых, батракоў, беднаты, колгасьнікаў), самым грунтоўным растлумачэньні сярод рабочых, працоўных мас пытаньняў пра ўсеагульнае навучаньне.

Работа па падбору кіраўнікоў школ, інспэктуры, барацьба за рацыянальнае і правільнае скарыстаньне адпушчаемых для школ сродкаў, удзел у правядзеньні самаабкладаньня, асабліва на культурныя патрэбы, сваячасовае і правільнае скарыстоўваньне гэтых сродкаў—усё гэта павінна бынь пастаўлена ў цэнтры ўвагі саюзных організацый, масы асьветнікаў.

Разам з гэтым павінна быць узмоцнена работа саюзных органаў па паляпшэньню пастаноўкі работы пэдагогічных устаноў, якія рыхтуюць пэдагогічныя кадры, па аказаньню ім належнай дапамогі, па вывучэньню ў працягу бліжэйшага часу пэдагогічных кадраў, якія ёсьць і якія патрэбны на бліжэйшыя гады, а ў зьвязку з гэтым і перагляд (ў бок пашырэньня) сеткі навучальных устаноў, што рыхтуюць пэдагогічныя кадры.

---

**ЯН ЧАРНЕЦКІ**

# ПЕРАБУДАВАЦЬ РАБОТУ, ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ ТЭМПЫ

*(Па матар'ялах брыгады)*

Шпаркі рост колгаснага руху, які пачаўся пасьля XV зьезду Усе КП(б), працягваецца ўсё больш узрастаючым тэмпам. Ахапляючы шырокія бядняцка-серадняцкія масы вескі, колектывізацыя прымае масавы характар. Такую характарыстыку колгаснага руху даў яшчэ верасьнёўскі пленум ЦК КП(б)Б. У сучасны момант колектывізацыя набыла яшчэ большы размах, ніякія пляны ня могуць угнацца за тэмпамі практычнай работы па колектывізацыі.

Важнейшым вынікам пералсытага намі з часу XV зьезду пэрыоду ў разьвіцьці колектывізацыі зьяўляецца тое, што ў колгасы пайшоў ня толькі бядняк, але і серадняк Колгасны рух зьяўляецца ў сучасны момант у поўным сэнсе слова масавым бядняцка-серадняцкім рухам. Суцэльная колектывізацыя раёнаў, акруг, падкрэсьлівае ўвесь размах і глыбіню, з якімі працякае будаўніцтва соцыялізму ў вёсцы.

Ня будзем гаварыць ужо аб тым, што нават клясавыя ворагі, буржуазныя экономісты вымушаны прызнаць гэтыя вялікія посьпехі рабочых і сялян Савецкага Саюзу ў справе ўкараненьня ідэй соцыялізму ў самыя глыбіні нашае вёскі.

У зьвязку з гэтым рашаючае значэньне набывае перабудова органаў народнае асьветы ў напрамку запатрабаваньняў социялістычнае рэконструкцыі сельскай гаспадаркі з мэтаю ўзмацненьня культурнага абслугоўваньня колгаснага будаўніцтва, асабліва раёнаў суцэльнай колектывізацыі. Верасьнёўскі пленум ЦК КП(б)Б, гаворачы аб культурна-асьветнай рабоце ў колгасах і саўгасах, даў наступную дырэктыву:

„Адзначаючы слаба пастаўленую культурна-масавую работу ў саўгасах і колгасах, адсутнасьць належнай дапамогі і прыстасаваньня свае работы з боку комсамолу і НКАсьветы, пленум прапануе рашуча палепшыць культурна-масавую работу ў саўгасах і колгасах, якая павінна быць накіравана на разьвіцьцё социялістычна-сьвядомых адносін да вытворчасьці, узмацненьне працоўнай дысцыпліны, падвышэньне культурнага ўзроўню рабочых саўгасаў і колгасьнікаў, для чаго:

а) НКАсьветы і АК КП(б)Б **прыстасаваць** школьнае будаўніцтва (пабудову і адчыненьне новых школ) у раёнах, якія ахоплены масавай колектывізацыяй, і буйных колгасаў, будуючы і адчыняючы новыя школы па магчымасьці ў саміх колгасах.

**Перагледзець усе програмы школ з тым, каб як у пачатковых, гэтак і ў сямігадовых школах былі больш адбіты пытаньні колектывізацыі і вытворчага коопэраваньня.**

б) распрацаваць мерапрыемствы аб першачарговым і больш поўным ахопе дзяцей колгасьнікаў школай. Значна пашырыць ліквідацыю няпісьменнасьці. Організаваць лепшае абслугоўваньне з боку хат-чыталень, раённых політасьветустаноў у саўгасах і колгасах, забясьпечыць радыё-установкамі, кіно-абслугоўваньнем і распрацаваць мерапрыемствы аб большым разгортваньні сеткі дзіцячых дашкольных устаноў і г. д. (з рэзолюцыі пленуму. Падкрэсьлена намі. Я. Ч.).

Лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) яшчэ больш завастрае ўвагу на гэтым пытаньні, падкрэсьліваючы, што „колгаснае будаўніцтва нямысьліма бяз узмоцненага падвышэньня культурнасьці колгаснага насельніцтва“, для чаго трэба „... разгарнуць шырокую работу па культурнаму абслугоўваньню колгаснага насельніцтва, у першую чаргу, у буйных колгасах і ў раёнах суцэльнай колектывізацыі“, шляхам „узмацненьня дзейнасьці таварыства па ліквідацыі няпісьменнасьці, бібліотэчнай справы, колгасных курсаў і рознага віду завочнага навучаньня, найбольшага ахопу школьнаю сеткаю дзяцей, узмацненьнем культурнай і політычнай работы сярод жанчын, шырокім разгарненьнем школ сялянскай моладзі, масавым распаўсюджваньнем агрономічных ведаў і г. д.“.

Ясна, што на фронце социялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, на фронце рашучай барацьбы з капіталістычнымі элемэнтамі ў вёсцы і ліквідацыі кулацтва, як клясы павінны заняць адно з першых месц і культурна-асьветныя установы вёскі (нардом, хата-чытальня, чырвоны куток, масавая школа, сямігодка, лікпункт і інш), дапамагаць партыі і савецкай уладзе ў выкананьні гэтай аграмаднейшай задачы, узбройваючы культурна - батрацка-бядняцка-серадняцкія масы,ператвараючы іх псыхіку і ідэолегію. Выкананьне гэтых задач патрабуе карэннай перабудовы ўсяе работы як школ, так і нардамоў, хат-чыталень, прыстасаваньня іх работы да справы социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, рэорганізацыі ўсяе работы па новаму, а таксама перабудовы програм і рабочых плянаў так, каб у гэтых програмах была правільна адбіта генэральная лінія комуністычнай партыі, пяцігадовы плян социялістычнага будаўніцтва.

Часу ўжо прайшло нямала, і пара праверыць, як дырэктывы верасьнёўскага і лістападаўскага пленумаў нашай партыі праведзены ў жыцьцё, наколькі політасьветныя ўстановы перабудаваліся і прыстасавалі сваю работу да новых задач партыі на вёсцы.

Для вывучэньня таго, як установы народнае асьветы прыстасавалі сваю работу да шпаркіх тэмпаў колгаснага руху, па даручэньню Менскай акруговай інспэкцыі нарасьветы ў студзені месяцы г. г. выяжджала брыгада ў Копыльскі раён, раён суцэльнай колектывізацыі. Брыгада вывучыла пастаноўку работы: 3-х сямігодак

(адна яўрэйская) 13 масавых школ, 1 дзіцячага саду, 1 нардому, 1 хаты-чытальні, 1 саўгаснага клюбу, 2 чырвоных куткоў, 3 вячэрніх школ, 7 лікпунктаў.

З вынікамі гэтага вывучэньня, якое дало вялікі матар'ял, мы і хочам пазнаёміць праз „Комуністычнае Выхаваньне" ўсіх настаўнікаў школ, ліквідатараў няпісьменнасьці, хатнікаў, культурных працаўнікоў вёскі, а таксама партыйна-савецкую грамадзкасьць.

У гэтым артыкуле мы застановімся на матар'ялах, якія маюць дачыненьне толькі да школ (масавых і сямігодак) па двох пытаньнях: 1) як адбіваецца ў рабоце школ колектывізацыя і 5-гадовы плян соцыялістычнага будаўніцтва, 2) інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне ў школах.

### Школа, колектывізацыя, пяцігодка

Пачатак навучальнага году супаў з рашучым пераломам у колгасным руху ў бок шпаркага тэмпу, масавага характару. Верасьнёўскім пленумам ЦК КП(б)Б была дана дырэктыва НК Асьветы, каб пераглядзець усе програмы школ з тым, каб у іх былі больш адбіты пытаньні колектывізацыі і вытворчага коопэраваньня. Усё-ж, ня гледзячы на гэта, школы распачалі работу па старому, па програмах яўна няпрыгодных, па цэламу шэрагу пытаньняў путаных, адстаўшых ад жыцьця.

Па сутнасьці саміх програм мы ўжо пісалі раней. Зараз адзначым тое, што нядбайнасьць работнікаў Наркомасьветы да програм прывяла да таго, што школы з самага пачатку навучальнага году не ўзялі адпаведных якасных тэмпаў у сваёй рабоце, орыентуючыся не на тэмпы жыцьця, а на адстаўшыя програмы. Адгэтуль вынікае і той вывад, што школы, нават у раёне суцэльнай колектывізацыі закончылі першае паўгодзьдзе без адпаведнага пералому ў сваёй рабоце, не прыстасаваліся да соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Організацыя і мэтоды работы школы адстаюць ад тае вялікае работы, якая праводзіцца партыяй і савецкай уладай на вёсцы. Програмы школ не належна абгавораны асноўнай масай настаўніцтва. Большасьць праверных школ да моманту праверкі цалкам карысталася існуючымі програмамі, ня ўносілі туды адпаведных зьмен, якія дыктуе жыцьцё (суцэльная колектывізацыя раёну).

Толькі нямногія настаўнікі (Вусаўскай школы, Цімкаўскай яўрэйскай) спрабавалі ўнесьці нязначную перастаноўку комлексных матар'ялаў у програмах, не асьвяжаючы іх новым зьместам. Характэрна, што некаторыя настаўнікі (Руднянская, Быстрыцкая школы) разумеюць неабходнасьць карэннай перабудовы і сваё работы і програм, але нічога ў гэтым напрамку ня робяць. Ёсьць і такі тып настаўнікаў—„машынак" (Камсіцкая, Ляшнянская, Дамантаўская, Кулакоўская школы), якія нават і не задумаліся над тым, наколькі іх работа адпавядае запатрабаваньням жыцьця.

Азнаямленьне з рабочымі гадавымі плянамі школ паказала, што ў гэтых плянах пытаньне колектывізацыі сельскай гаспадаркі, пяцігадовы плян соцыялістычнага будаўніцтва не занялі адпаведнага месца як па лініі грамадзкай работы школы, так і навучальнай, а ў некаторых і зусім апушчаны.

У Руднянскай школе пытаньне колектывізацыі пастаўлена апошнім пунктам у рабочым пляне і разумеецца вось як: „7) Весьці сыстэматычную агітацыю (падкр. намі Я. Ч.) па колектывізацыі (карыстацца сходамі) і распрацаваць устаў колектыўных арцеляў". (Якія яшчэ існуюць арцелі акрамя колектыўных? Я. Ч.).

А Ляшнянская школа ўнесла вось які пункцік:

„Організаваць чытку лекцый для бацькоў вучняў у ліку 8 па пытаньнях будаўніцтва колгасаў, розных колектыўных аб'яднаньняў (якіх гэта аб'яднаньняў? Я. Ч.), нац. політыкі (чыёй? Я. Ч.) і антырэлігійных тэм", а на сёньняшні дзень не прачытана ніводнай.

Акрамя блытаніны і нявыразнасьці ў формулёўках гэтых пунктаў, характэрнай зьяўляецца сама ўстаноўка.

У той час, калі мільёны сялянскіх гаспадарак пайшлі ў колгасы, і колектывізацыя расьце з кожным днём, у гэты самы час людзі яшчэ толькі зьбіраюцца

„агітаваць“, „чытаць лекцыі“ пра колектывізацыю, пераконваць селяніна ў тым, што колектыў мае перавагу перад індывідуальнай гаспадаркай „Гэта значыць—марозіць лёд ці грэць нагрэтую воду, паколькі сяляне, якія аб'ядналоцца ў колектывы, самым ходам разьвіцьця нашай краіны пераконаны ўжо ў перавазе колектываў. Затрымліваца на позыцыі такой агітацыі—значыць не разумець усяго значэньня таго пераломy, што адбываецца ў разьвіцьці вёскі і выцякаючых адсюль зьмен у характары і мэтодах работы нашых органаў у вёсцы“, як правільна зазначыў т. Якаўлеў—Наркомзем СССР.

Месца агітацыі павінна падмяніць конкрэтная работа па організацыі колгаснага руху, саміх колгасаў, замацаваньні іх

Школа, як такая, як організацыя, яшчэ ня выступіла на фронт социялістычнай перабудовы вёскі, хоць настаўнікі ў сваёй масе праводзяць вялікую работу па колектывізацыі.

Трэба адзначыць, што і з абвяшчэньнем Капыльскага раёну раёнам суцэльнай колектывізацыі, школы не пераапрацавалі сваіх плянаў. У школах: Дамантаўскай, Вусаўскай, Чарнагубаўскай, Кулакоўскай зусім адсутнічаюць гадавыя пляны.

Слабым, надзвычайна слабым месцам у школьным выкладаньні зьяўляецца пяцігодка. На вялікі жаль, у цэлым шэрагу школ: Руднянскай, Прускай, Дамантаўскай, Чарнагубаўскай, Рачкавіцкай настаўнікі нават і ня думалі, каб у школе распрацаваць пяцігодку, каб увесь грамадазнаўчы матар'ял у програмах распрацоўваць з пункту гледжаньня пяцігадовага пляну социялістычнага будаўніцтва. Як вынік гэтага, вучні школ нават не разумеюць, што гэта за пяцігодка. Часьцей сустракаюцца выпадкі популярызацыі пяцігодкі праз плякаты, лёзунгі і дыяграмы; што кольвек з гэтага можна часам сустрэць у палове вясковых школ. Вядома, што гэтага мала, яно ні ў якім разе нас не здавальняе. У школе павінна быць добра прапрацавана сама пяцігодка, дзеці павінны быць у курсе вялікіх работ социялістычнага будаўніцтва, вызначаных пяцігадовым плянам. Выхаваньне будаўнікоў новага социялістычнага грамадзтва інакш нямысьліма, як на матар'ялах нашага будаўніцтва з удзелам у ім.

Зусім недастаткова завострываецца ўвага дзяцей на пытаньнях колектывізацыі. Практыка абганяе „тэорытычныя“ тлумачэньні і ўстаноўкі настаўніка, якія ён дае дзецям. Ня гледзячы на тое, што Капыльскі раён зьяўляецца раёнам суцэльнай колектывізацыі, настаўнікі ў школьным выкладаньні больш орыентуюць на індывідуальную гаспадарку, чым на социялістычны сэктар. Яскрава гэта назіраецца па лініі заданьняў на дом, у выніку чаго вучні Рачкавіцкай школы прыйшлі да такога вываду:

„Каб малаціў гаспадар ня цэпам, а малатарняй, дык ён больш меў-бы вольнага часу, была-б у яго магчымасьць чытаць газэту“. Тут мы маем яўна кулацкую ўстаноўку: кожны селянін купляй сваю малатарню, арфу ды інш. машыны,—тады гэта будзе „...падобна на Нямеччыну“, як казаў кулацкі ідэолёг Міх. Зарэцкі ў сваім „Падарожжы на новую зямлю“. Колектывізацыя тут падмяняецца прышчэпаўшчынай, пропагандуецца індывідуальная культурная гаспадарка. Толькі ў трох школах мы сустрэлі, што заданьні даваліся па вывучэньні саўгасаў і колгасаў; школы гэтыя: Кулакоўская, Ляшнянская, Вусаўская.

Экскурсіі ў большасьці школ наладжваюцца ў саўгасы і колгасы, але з прычыны нядбайных адносін некаторых настаўнікаў да організацыі, падрыхтоўкі і прапрацоўкі матар'ялаў гэтых экскурсій яны не дасягаюць мэты. Напрыклад, вучні Крывасёлкаўскай школы пасьля экскурсіі ў колгас „Інтэрнацыянал“ засталіся з такімі думкамі: колгасьнікі самі не працуюць, а зьяўляюцца толькі прыганятымі над нанятымі людзьмі.—Вучні VI групы Капыльскай беларускай сямігодкі пасьля экскурсіі ў саўгас „Какорычы“ у кругавым сшытку запісалі наступнае:

„Вынікамі экскурсіі вучні былі здаволены, толькі былі абураны на саўгас, што не далі яблык“. І ў першым і ў другім выпадку погляды вучняў на колгас, саўгас зьяўляюцца нездаровымі, у другім выпадку—чыста рвацкімі. Тут экскурсіі

скарэй адыгралі адмоўную ролю, а не дадатную, выхаваўчую. І толькі таму, што з прычыны нядбайнасьці настаўніка гэтыя экскурсіі абярнуліся ў экскурсіі для экскурсіі, а не для набыцьця і паглыбленьня колектывістычных і іншых звычак. Матар'ял экскурсіі настаўнікамі не апрацаваны, грамадавед яго ня выкарыстаў, каб замацаваць у дзяцей ідэі колектывізацыі.

Даводзілася слухаць гутаркі настаўнікаў з вучнямі пра колектывізацыю, і пасьля некаторых з іх робіцца сумна. Некаторымі настаўнікамі проста апашляецца ідэя колектывізацыі. Гавораць пра межы, пра лепшы ўраджай, пра машынавую працу і г. д., а аб тым, што колектывізацыя—шлях соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, шлях да соцыялізму, ні слова не ўпамінаюць. Бязумоўна, ня усе, ёсьць выключэньні, але вельмі нязначныя. Да слова заўважым, што вясковы настаўнік у сваёй масе тэорытычна надзвычайна адстаў ад жыцьця. Яго марксыцкія веды надзвычайна абмежаваны. Гэта зьяўляецца прычынаю таго, што настаўнік часта з сваіх гутарак выхалашчвае політычны зьмест, масу важнейшых політычных момантаў, якія адыгрываюць вялізарную ролю ў комуністычным выхаваньні дзяцей. У выніку гэтага, вучні часта не разьбіраюцца ў самых блізкіх політычных пытаньнях бягучага жыцьця (суцэльная колектывізацыя, коопэрацыя, пролетарыят і г. д.). У Прускай школе вучні 4-й групы разважаюць так:

„Колектыў патрэбен бедняком, бо ім дрэнна жывецца, а серадняк забясьпечаны—яму колектыў не патрэбен". Гэтыя-ж самыя вучні ня мелі ўяўленьня аб прамысловасьці і коопэрацыі. А на запытаньне, хто такі пролетарыят, адказалі:

„Пролетарыят—гэта бадзячыя людзі, якія ня маюць свайго прытулку, ночь начуюць у аднаго, а ноч—у другога, займаюцца махлерствам і з гэтага жывуць", назваўшы, што ў іх вёсцы ёсьць два такіх пролетары. Ну, а ў другіх школах пролетарамі дзеці лічаць свайго настаўніка і настаўніцу (Быстрыцкая). Вось пролетарскае выхаваньне. Адносна коопэрацыі ў Ляшнянскай школе вучні адказалі: „Гэта аб'яднаньне ў адну комуністычную партыю".

Дзесяткі можна прывесьці такіх прыкладаў, якія сьведчаць толькі аб тым, што ёсьць шмат недахопаў у рабоце вясковага настаўніка, какасьць школьнага выкладаньня яшчэ ня ўзьнята на прынцыповую клясавую вышыню. Усё гэта перашкаджае школе, як культурнаму асяродку ў вёсцы, ісьці ў авангардзе на фронце гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, у тым ліку практычнай рабоце па колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Школа, як установа, як організацыя са ўсёй сваёй сыстэмай яшчэ ня выступіла актыўным барацьбітом супроць капіталістычных элемэнтаў у вёсцы, за соцыялістычныя формы сельскай гаспадаркі, за колектывізацыю. У раёне праходзіць вялікая творчая работа па суцэльнай колектывізацыі, усё мобілізавана для гэтай гісторычнай работы, а школа зьяўляецца... хвосьцікам. Нават лёзунгі, плякаты толькі некаторымі (Быстрыцкай, Ляшнянскай, Цімкаўскай яўрэйскай) школамі выкарыстаны для популярызацыі колектывізацыі. Школьны друк таксама не мобілізаваны для гэтай работы. Задачы колектывізацыі і практыка ўдзелу ў гэтай справе школы амаль не адбіваюцца. Наогул, баявы фронт за колектывізацыю яшчэ ня створаны ў масавых школах раёну.

Некалькі асобна трэба разглядзець удзел у колектывізацыі сямігодак.

У галіне прыстасаваньня програм да ўмоў суцэльнай колектывізацыі да прыезду брыгады нічога ня было зроблена. Пэдагогічныя саветы гэтым пытаньнем не займаліся, хаця раённая партконфэрэнцыя ў сваёй пастанове паказвала на неабходнасьць перабудовы работы з мэтай падрыхтоўкі ў сямігодцы работнікаў для колгаснага будаўніцтва. Колгас імя Варашылава таксама зьвярнуўся да Капыльскай беларускай сямігодкі з прапановаю падрыхтаваць рахункаводаў для колгасаў. Жыцьцё, практыка соцыялістычнага будаўніцтва, як бачыцё, даюць напрамак для таго, хто да яго прыслухоўваецца і ў ім удзельнічае. Капыльская сямігодка хоць са спазьненьнем, але зрабіла першыя крокі ў гэтай галіне,

увёўшы ў курс матэматыкі элемэнты рахункаводзтва. Цімкаўская сямігодка ў гэтым напрамку палец аб палец ня ўдарыла, работа ідзе пастарому. Слабым бокам яшчэ ў сямігодках зьяўляецца прапрацоўка пастаноў партыі, у прыватнасьці, пленумаў. Старэйшыя вучні сямігодак прымаюць самы актыўны ўдзел у рабоце па колектывізацыі, утвораны вучнёўскія брыгады, паасобныя вучні пасылаюцца ячэйкамі і сельсаветамі ў вёскі нават для самастойнага правядзеньня сходаў сялян. Але падрабязна пра гэта напішам у разьдзеле „Грамадзкая работа школы“, а ў гэтай галіне, асабліва сямігодкам, ёсьць чым пахваліцца.

Настаўнік, як член саюзу, бяз школы, у большасьці сваёй праводзіць вялізарную работу па колектывізацыі, асабліва ва ўмовах суцэльнай колектывізацыі раёну, праводзіць сходы, робіць опіс і вучот маёмасьці, абагульненьне маёмасьці, уся гэта работа не праходзіць бяз удзелу настаўніка. У Капыльскім раёне ўсе настаўнікі да 1-га красавіка лічацца мобілізаванымі для работы па колектывізацыі, так сказаць „на ваенным палажэньні“. Але-ж ня ўсе настаўнікі з адданасьцю і ахвотаю ідуць на работу па колектывізацыі. Ёсьць і такія, што ўсякімі мерамі ўхіляюцца ад гэтай работы, а ёсьць такія, што і зрываюць колектывізацыю, выступаючы ў якасьці кулацкіх ідэолёгаў.

Група настаўнікаў Цімкаўскага профколектыву, замест упартай работы, пад кіраўніцтвам партыі, па колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, сваімі учынкамі і дзеяньнямі падрывала гэтую работу.

Вось перад вамі настаўнік Комсіцкай школы Аляшкевіч. Ён у в. Рачкевічах (у 3 клм. ад школы) мае сваю „культурную“ гаспадарку. На пленуме сельсавету стаяла пытаньне, каб гэту „культурную“ гаспадарку абкласьці індывідуальна, але яна не абкладзена (і мусіць памылкова).

У часе хлебазагатовак выступіў на сходзе сялян у абарону заможніка з тэорыяй правядзеньня „ураўнілаўкі“: „у нас няма зараз ні бедных, ні багатых“.

—„Выступленьне ў абарону заможніка, па яго словах, насіла характар агітацыі па распаўсюджваньню 3-й пазыкі індустрыялізацыі і выпіскі газэт, гэты заможнік—чулы актывіст“. Вось на каго робіць стаўку Аляшкевіч.

Распускае паніку пра вайну—„У нас мала падэшвы і інш. тавараў за тым, што яны хаваюцца для вайны, якую трэба чакаць ня сёньня, дык заўтра“.

На сходзе сялян па колектывізацыі Аляшкевіч загадзя даваў шкодныя тлумачэньні.

Уступіўшы ў колгас і добра ведаючы пра недапушчальнасьць разбазарваньня жывёлы, сам прадаў карову, чым як настаўнік даў прыклад рабіць гэта самае і іншым колгасьнікам.

Такім чынам перад намі цэлы комплект кулацкіх дзеяньняў, накіраваных на зрыў асноўных мерапрыемстваў савецкай ўлады, перад намі агідная фігура кулака.

Другім ідзе настаўнік Рачкевіцкай школы—Васільлеў. У Цімкавічах ён мае сваю гаспадарку, якая складаецца з 8 дз. зямлі, 1 быка, 2 кароў, 2 коняй і г. д. Падатку плоціць 80 руб. Гаспадарку трэба лічыць заможнай. Уступленьне яго ў колгас зьяўляецца неабходным манэўрам ва ўмовах суцэльнай колектывізацыі. Уступіўшы ў колгас, ён усялякімі мерамі пачынае ўхіляцца ад абагуленьня насеннага матар'ялу. Фактычна гэта лінія накіравана на падрыў важнейшага мерапрыёмства ў справе колгаснага будаўніцтва.

Для больш поўнай характарыстыкі грамадзкага твару Васільлева падамо і такія факты: адмаўленьне ад удзелу ў фондзе трактарнай колёны; адмаўленьне ад выплаты ўзносаў па падпісцы на 3-ю пазыку індустрыялізацыі; адмаўленьне ад выплаты даўгоў па самаабкладаньню. Чым-жа гэта ня кулацкі ідэолёг. Самы сапраўдны махровы кулак, якому не да густу ні трактарныя колёны, ні справа індустрыялізацыі краіны, ні справа соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

А вось вам група настаўнікаў Цімкаўскай 7-мігодкі: Шкуцько, Андрукові̇ч С. і Наржымскі.

Шкуцько, напрыклад, замест таго, каб заняць рашучую позыцыю і пайсьці наперадзе мас, хаваецца ад сходу па

колектывізацыі, пасылае на сход жонку, якая адна запісваецца ў колгас без маёмасьці. Але савецкая грамадзкасьць ужо навучылася, як трэба расцэньваць падобныя манэўры, і калі было пастаўлена перад Шкуцько пытаньне: а л ь б о, а л ь б о, дык гэты кулачок так заявіў: „чаму гэта трэба адыгрывацца на маёй скуры". Чуеце, настаўнік лічыць, што, ўступаючы ў колгас, ён зьяўляецца „ахвярай". Трэба яшчэ паглядзець добра, ці патрэбны ў колгасе такія, як Шкуцько.

Гэты самы Шкуцько, будучы старшынёю КСУ, выступіў на пленуме сельсавету ў абарону кулака, свайго цесьця. Як старшыня селькрэсткому зусім нічога не зрабіў па растлумачэньню і ўцягненьню ў колгасы беднаты сяброў КСУ. Ня гледзячы на сваячасова дадзеныя дырэктывы з боку РВК аб зборы 100 проц. запазычанасьці насеньня па КСУ, і на сёньняшні дзень не спагнана ніводнага пуда. Як іначай гэта можна назваць, як ня ш к о д н і ц т в а м?

Андруковіч С. па сваёй ідэолёгіі той самы Шкуцько. Праўда, ён не сказаў, што ўступленьне ў колгас – ахвяра, затое ён скардзіўся аб другім, „што дзяржава прымушае ісьці ў колгас". Андруковічу вельмі ня хочацца ісьці ў колгас. Уступіўшы ў колгас, ён увесь час ухіляецца ад абагульваньня маёмасьці. Пра яго парсючкоў па мястэчку цэлыя анэкдоты ходзяць.

І Андруковіч і Шкуцько, будучы вылучанымі ў брыгады па колектывізацыі, зьяўляюцца фактычна баластам. На сходах трымаюць сябе пасыўна, не даючы адпору кулацкай агітацыі супроць колектывізацыі, фактычна спрыяючы гэтай агітацыі.

Палавінчатую позыцыю ў пытаньні ўступленьня ў колгас заняў і трэці настаўнік Наржымскі, запісаўшы ўсяго адну палову дому. На сходзе профколектыву Наржымскі прызнаў усю політычную шкоднасьць дапушчанай ім памылкі і практычна яе выправіў.

Перад намі шэраг фактаў, якія гавораць аб тым, што цэлая група настаўнікаў у рашучай клясавай барацьбе з кулаком не заняла клясавай пролетарскай позыцыі, а апынулася на баку кулака.

Кулацкая ідэолёгія і кулацкія справы групы цімкаўскіх настаўнікаў асуджаны ня толькі ў пастанове профколектыву, іх асудзіла ўся маса настаўніцтва Капыльскага раёну на раённай конфэрэнцыі.

У асноўнай-жа масе настаўніцтва, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі,актыўна змагаецца на фронце соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Але наяўнасьць гэтых фактаў яшчэ раз падкрэсьлівае неабходнасьць самай рашучай барацьбы з праявамі варожай пролетарыяту ідэолёгіі ў шэрагах настаўніцтва і самаачышчэньня ад шкодных элемэнтаў.

„Задача рашучага выкарчоўваньня карэньняў капіталізму ў гаспадарцы краіны патрабуе разгорнутага наступу рэволюцыйнай пролетарскай ідэолёгіі па ўсяму фронту культурнага будаўніцтва, такога-ж выкарчоўваньня буржуазна-лібэральных тэорый і забабонаў і бязьлітаснай барацьбы з усякага роду опортунізмам і прымірэнцтвам да яго ў тэорыі і практыцы гаспадарчай работы і культурнага будаўніцтва, барацьбы за неадступнае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі УсеКП(б)" (з рэзолюцыі III пленуму ЦКпросу).

### Інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне

Інтэрнацыянальнае выхаваньне, як важнейшае зьвяно ў сыстэме комуністычнага выхаваньня набывае асаблівую актуальнасьць у даны пэрыод.

Вастрыня гэтага пытаньня заключаецца ў тым, што менавіта зараз мы маем шпаркае і рашучае соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты, на нэпмана ў горадзе, кулака ў вёсцы, шчыльна падышоўшы да задачы ліквідацыі кулацтва, як клясы.

Але гэтае соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты з боку апошніх сустракае шалёнае супраціўленьне. Клясавая барацьба абвастраецца на ўсіх вучастках, у тым ліку і на ідэолёгічным, выклікаючы ажыўленьне ўсіх варожых пролетарыяту груп. Менавіта зараз мы сустракаем ажыўленьне дзейнасьці антысэмітаў, шовіністых і нацыяналістых розных колераў і адценьняў, за плячыма якіх хаваецца наш клясавы

вораг. „Ва ўмовах Беларусі гэта выражаецца ў першую чаргу ў актывізацыі беларускага нацыянал-дэмократызму, а таксама ў росьце агрэсыўнасьці вялікарасійскага, яўрэйскага, польскага ды іншых шовінізмаў“.

Уступаючы ў бой з ўсімі адценьнямі шовінізмаў і нацыяналізмаў, мы ўступаем у бой з нашым клясавым ворагам, і посьпехі барацьбы з ім будуць залежаць ад таго, наколькі рашуча мы змагаемся за дыктатуру пролетарыяту, за соцыялізм.

Але барацьба з беларускім нацыянал-дэмократызмам, з беларускім шовінізмам зьяўляецца нашай першачарговай задачай. „Мы накіравалі галоўны агонь супроць беларускага нацыянал-дэмократызму таму, што беларускі нацыянал-дэмократызм мае ў нас найбольш шырокую базу, таму, што ён, зьяўляючыся агентурай беларускага кулака ў БССР, адначасова зьяўляецца агентам фашысцкіх элемэнтаў ў Заходняй Беларусі і Польшчы. Актывізацыю-ж беларускага нацыянал-дэмократызму ў нас, у БССР,—піша тав. Сянькевіч,—нельга разглядаць ізолявана ад процэсаў, якія адбываюцца на тым баку граніцы. У Заходняй Беларусі беларуская буржуазія, у тым ліку кулак і яе ідэолёгі—буржуазная інтэлігенцыя, вядуць жорсткую барацьбу супроць працоўных і эксплёатуемых мас Заходняй Беларусі, у цесным саюзе і пад кіраўніцтвам польскага фашызму. Беларуская буржуазія і кулакі, ў асобе сваіх нацыянал-фашысцкіх партый, з групай А. Лукцевіча на чале, прымаюць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы ваеннага паходу супроць СССР, за зьняволеньне БССР, пад лёзунгам стварэньня „незалежнай беларускай народнай Рэспублікі“, якая будзе знаходзіцца, зразумела, пад протэкторатам фашысцкай Польшчы. Ажыўленьне беларускага нацыянал-дэмократызму ў БССР зьяўляецца простым вынікам ня толькі абвастрэньня клясавай барацьбы і росту актыўнага супраціўленьня кулака ў нас, але і простым адбіткам удзелу нацыянал-фашызму ў Заходняй Беларусі ў падрыхтоўцы фашысцкай Польшчай вайны супроць СССР.

Наступленьне фашызму і нацыянал-фашызму на працоўныя масы Заходняй Беларусі, актывізацыя нацыянал-фашызму ў Савецкай Беларусі об'ектыўна спалучаюцца і процістаўляюцца адзінаму пролетарскаму фронту Савецкай і Заходняй Беларусі“.

Рабочая кляса ў саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, абвясьціла рашучую бязьлітасную барацьбу ўсім гэтым плыням і ў сучасны момант у БССР накіравала галоўны агонь супроць беларускага нацыянал-дэмократызму.

Гэта па сутнасьці клясавая барацьба, барацьба за чыстату пролетарскай ідэолёгіі, барацьба за комунізм ня можа і не павінна праходзіць міма школ. Будаўніцтва соцыялізму патрабуе новага чалавека з шырокім кругаглядам. Гэты новы чалавек павінен быць перакананым інтэрнацыяналістым, які жыве сусьветным і змагаецца за сусьветнае, „інтэрнацыяналістым, для якога мэта жыцьця—перамога сусьветнага пролетарыяту, барацьбітом супроць капіталізму, ворагам усялякага шовінізму, грэблівых адносін да малых нацыянальнасьцяй, антысэмітызму, актыўным барацьбітом супроць нацыянальнай розьні, актыўным памочнікам рабочай клясы ў яе барацьбе, дзе-б гэтая барацьба ні адбывалася“.

Вось як злучна стаіць задача інтэрнацыянальнага выхаваньня дзяцей ў школе. Яна непадзельна зьвязана з проблемай клясавага выхаваньня, яна складае яго непадзельную частку.

Ня гледзячы на ўсё гэта, бадай што самым слабым вучасткам выхаваўчай практыкі нашых школ зьяўляецца вучасток інтэрнацыянальнага выхаваньня. Мы яшчэ не дамагліся таго, каб кожны дзень прабываньня дзяцей у школе замацоўваў ў іх нашае, новае, інтэрнацыянальнае выхаваньне, выкарчоўваў з карэньнем шовіністычныя і нацыяналістычныя, антысэміцкія настроі.

Праверка гэтага вучастку работы ў школах таго-ж Капыльскага раёну паказала, што праяўленьні антысэмітызму, беларускага, яўрэйскага, польскага ды інш. шовінізмаў зьяўляюцца ня рэдкімі выпадкамі сярод школьнікаў. Барацьба з гэтымі праявамі варожай пролетарыяту ідэолёгіі ня ўзьнята ў школе. Справа інтэрнацыянальнага выхаваньня не заняла

свайго месца ў школе, а, наадварот, работа настаўніка ў некаторых школах спрыяе замацаваньню ў дзяцей нездаровых настрояў і нацыянальнай розьні.

Праўда, проблема інтэрнацыянальнага выхаваньня наогул застаецца яшчэ ня распрацованай у нашай пэдагогіцы, хоць зараз яна прыцягнула да сябе ўвагу пэдагогічных сіл, завастрыла іх увагу навокал сябе.

Нікому другому, як савецкай пэдагогіцы, якая зьяўляецца самай перадавой, самай інтэрнацыяналістычнай, бачачы недахопы ў справе інтэрнацыянальнага выхаваньня, належыць з ўсёй рашучасьцю, з усім энтузыязмам узяцца за распрацоўку гэтага пытаньня. Савецкая пэдагогіка яшчэ ня выкарыстала тае надзвычайна багатай спадчыны, якую запакінуў нам па гэтаму пытаньню Ўл. І. Ленін.

Тав. Ленін спэцыяльна займаўся школьным пытаньнем, дзе не аднойчы падкрэсьліваў усю войстрасьць пытаньня інтэрнацыянальнага выхаваньня дзяцей. „Не аб тым, каб разгарадзіць нацыі так альбо іначай у школьнай справе, павінны мы клапаціцца... Не „нацыянальную культуру“ павінны ўзьнімаць мы на шчыт, а выкрываць клерыкальны і буржуазны характар гэтага лёзунгу ў імя інтэрнацыянальнай сусьветнай культуры, сусьветнага рабочага руху“ (т. XIX)[1].

У другім месцы тав. Ленін некалькі разоў падкрэсьлівае гэтую думку: „Талкуючы больш усяго пра „нацыянальную культуру“, падкрэсьліваючы тое, што аддзяляе адну нацыю ад другой, буржуазны нацыяналізм аддзяляе рабочых розных нацый і адурачвае іх „нацыянальнымі лёзунгамі“. Сьвядомыя рабочыя, якія вядуць барацьбу супроць усякага нацыянальнага прыгнечаньня і ўсялякіх нацыянальных прывілей, не абмяжоўваюцца гэтым. Яны змагаюцца з ўсякім, нават найбольш дасканалым нацыяналізмам... Не разьмяжоўваць нацыі—наша справа, а спалучаць рабочых усіх нацый.

[1]) Пасьля пролетарскай рэволюцыі лёзунг „нацыянальная культура“ набыў другі характар, напоўнен пролетарскім зьместам. Гэтая вытрымка падаецца для таго, каб падкрэсьліць усю шкоднасьць процінастаўленьня працоўных розных нацый і ўсю важнасьць інтэрнацыянальнага выхаваньня.

У гэтым напрамку павінна весьціся выхаваньне нашых школьнікаў. Настаўнік ні на хвіліну не павінен упушчаць з сваёй штодзённай работы гэтай ленінскай пэрспэктывы, не апашляючы яе, не пераварочваючы на свой лад. Не вядучы штодзённай работы па выхаваньню школьніка інтэрнацыяналістага, мы фактычна кідаем яго ў абнімкі нацыяналізму і антысэмітызму, якія шчыра прывіваюцца ім у сям'і, на вуліцах, у чаргах, а часта і організавана нашымі клясавымі ворагамі: папамі, сэктантамі, кулакамі і г. д. Клясаваму ворагу гэта патрэбна з мэтаю парушыць моц дыктатуры пролетарыяту і адзінства працоўных усяго сьвету. „На супроцьстаўленьні інтарэсаў розных нацый, на атручваньні сьвядомасьці цёмных і забітых мас пабудаваны ўсе намеры (расчеты) чорнасоценцаў. Вазьмеце любую чорнасоценную газэту і вы ўбачыце, што прасьледваньне „інародцаў“, распальваньне ўзаемнага недавер'я паміж расійскім селянінам, расійскім мешчанінам, расійскім рамесьнікам і селянінам, мешчанінам, рамесьнікам яўрэйскім, фінскім, польскім, грузінскім, украінскім—**вось хлеб, каторым харчуецца ўся чорнасоценная банда**“ (Ленін. Том XIX. Падкр. намі. Я. Ч.).

Зьдзекі над яўрэйскай работніцай гуты „Кастрычнік“ Баршай, разгул антысэмітызму на Добрускай папяровай фабрыцы, выпадкі ваяўнічага антысэмітызму ў школах:—у мінулым годзе ў Цімкаўскай сямігодцы, у чыгуначнай школе ў Воршы,—пераконваюць нас у тым, што гэта справа організавалася рукамі ярых ворагаў рабочае клясы, менавіта чорнасоценцаў (блёк монахаў і жандараў на Добрушы) апалчыўшыхся супроць працоўных яўрэяў.

„Асабліва нянавісная,—кажа т. Ленін,—агітацыя вядзецца чорнасоценцамі супроць яўрэяў. Казлом адпушчэньня за ўсе свае грахі спрабуюць зрабіць Пурышкевічы яўрэйскі народ“.

„І школа, і друк, і парлямэнцкая трыбуна—ўсё, усё выкарыстоўваецца для таго, каб пасеяць цёмную, дзікую, злобную нянавісьць да яўрэяў“.

„За гэту чорную, агідную справу бяруцца ня толькі адкіды чорнасоценства, за яе бяруцца і рэакцыйная

профэсура, вучоныя, журналістыя, дэпутаты. Мільёны і мільярды рублёў трацяцца на тое, каб атруціць сьвядомасьць народу“ (Ленін Т. XIX).

Усе гэтыя сілы і зараз пры дыктатуры пролетарыяту ў СССР, харчуючыся рэштками капіталістычных элементаў, праз унівэрсытэцкія катэдры, школы і другімі шляхамі імкнуцца нацкавцаь масы на працоўных яўрэяў, распаліць варожыя ўзаемаадносіны паміж яўрэйскім рабочым і рабочым селянінам беларусам, палякам, расейцам і г. д., каб паслабіць адзіны пролетарскі фронт.

Усё гэта прыводжу дзеля таго, каб падкрэсьліць, што прычынай слабай пастаноўкі справы інтэрнацыянальнага выхаваньня ў школах, нераспрацаванасьці яго зьяўляецца тое, што нашыя мэтодыстыя, пэдагогі, тэорэтыкі, а таксама і практыкі недастаткова чытаюць Леніна, мала вучацца ў яго, а вучыцца ёсьць чаму.

Буржуазная пэдагогіка ў пытаньні нацыяналістычнага выхаваньня далёка сягнула. Яна дайшла да таго, што выкладаньне любога прадмету зьвязвае з задачай нацыяналістычнага выхаваньня, усялякімі мерамі працягвае сваю клясавую ідэолёгію. Мілітарызацыя і шовінізацыя дзяцей у буржуазных школах ідзе поўным ходам.

Мы павінны высока ўзьняць, добра распрацаваць і добра паставіць справу інтэрнацыянальнага выхаваньня ў нашых школах, каб разбурыць усе прыступы буржуазнага ўплыву на нашу моладзь і наогул працоўныя масы. Наша выхаваньне штодзённа і шточасна павінна выходзіць з клясавых задач пролетарыяту і пролетарыяту ня толькі свае рэспублікі, СССР, а ўсяго сьвету.

Вось на гэтым фоне мы разьбярэм пастаноўку інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня ў памянёных вышэй школах Капыльскага раёну.

Спроба знасьйці якую-небудзь сыстэму інтэрнацыянальнага выхаваньня ў школе аказалася бяз вынікаў. Ніякай яшчэ на сёньняшні дзень сыстэмы ў гэтай рабоце няма, хаця кожны настаўнік і разумее, што справа інтэрнацыянальнага выхаваньня зьяўляецца надзвычайна важнай і сур‘ёзнай. Але ад аднаго разуменьня, калі яно адарвана ад штодзённай практыкі выхаваньня, справа не папраўляецца. Так яно ў большасьці і ёсьць, што разумеюць, а рабіць—мала робяць. У выніку недастатковай работы на гэтым фронце зьявішчы антысэмітызму, як актыўнага, так і скрытага, нярэдка сустракаюцца сярод школьнікаў.

Мы прывядзем тут толькі некалькі прыкладаў, якія сьведчаць аб гэтым.

„З Цімкаўскай сямігодкай той, хто чытае газэты, пазнаёміўся яшчэ ў мінулым годзе. Там мы мелі праявы ваяўнічага антысэмітызму ў мінулым годзе. Вучань сямігодкі выступіў з чорнасоценскім лёзунгам: „Бі жыдоў, спасай Расію“. Па гэтаму факту выяжджала з Менску спэцыяльная комісія, якая, устанавіўшы факт, констатавала, што работнікі сямігодкі не дааценілі ўсяе рэакцыйнасьці і палітычнага значэньня гэтага факту, недастаткова рэагавалі на яго, што ў школе дрэнна пастаўлена работа па інтэрнацыянальнаму выхаваньню. Ня глядзячы на гэты, здавалася, дастатковы ўрок, пераломе ў бок сыстэматычнага інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня, у бок утварэньня баявога фронту для барацьбы з хваравітымі зьявішчамі ў гэтай справе,—ня ўтворана.

У гэтым годзе мы маем там паўторны выпадак антысэмітызму, які выразіўся ў тым, што, працуючы на торпараспрацоўках ў фонд 3-й пазыкі індустрыялізацыі, два вучні беларусы ўвесь час зьдзекваліся над вучнем яўрэем, кідалі ў яго торпам, абзывалі яго „смаркатым Лейбам“ і г. д. Рэагаваньне на гэты факт складался з таго, што абралі камісію, якой даручылі вывучыць справу і далажыць на чарговым паседжаньні школьнага савету. Але прайшло ўжо 4 месяцы, больш 10 пасяджэньняў школьнага савету, а дакладаў па гэтаму пытаньню ніхто не рабіў, ніякіх ні палітычных, ні пэдагогічных, ні організацыйных вывадаў па гэтаму пытаньню ня зроблена. І гэта нас ня зьдзівіла. У гэтай школе наогул кіраўнікі любяць „ня выносіць сьмяцьцё з хаты“. Самакрытыка, высьвятленьне на шырокае абгаварэньне недахопаў школы для кіраўнікоў сямігодкі —нож у сэрца. Яны нават спрабавалі

замесьці сьляды, абаламуціць чытача з фактам антысэматызму, які меў месца ў мінулым годзе. Пасьля апісаньня гэтага факту ў газэце „Савецкая Беларусь“, настаўніцкі колектыў, абураны гэтым артыкулам, у парадку абвяржэньня напісаў у рэдакцыю наступны дакумант (які, са слоў загадчыка, правільны і на сёньня, але ня ведаю, чаму ня быў накіраваны).

„У рэдакцыю газэты „Савецкая Беларусь“. Ад настаўніцкага колектыву Цімкаўскай сямігодкі.

На старонках газэты „Савецкая Беларусь“ за № 281 зьмешчаны артыкул Саломіна аб антысэмітызьме і шовінізьме ў Цімкаўскай сямігодцы.

З прычыны таго, што факты, зьмешчаныя ў артыкуле Саломіна, у большасьці не адпавядаюць сапраўднасьці, настаўніцкі колектыў Цімкаўкай сямігодкі зьвяртаецца да рэдакцыі з просьбай зьмясьціць на старонках апошняй наступнае:

Выпадак антысэмітызму з боку вучня VI клясы разглядаўся на школьным савеце не як вынікі катэгорычнага дамаганьня комсамольцаў, а як вынік спачатку абгаворанага пытаньня на клясе пад кіраўніцтвам настаўніка, дзе даручана было аднаму вучню інформацыя аб здарыўшымся факце.

Неправідлова і тое, што нібы з боку загадчыка мелася тэндэнцыя прапусьціць бяз увагі адбыўшыся факт. Зараз жа было даручана настаўніку грамадазнаўства правесьці спэцыяльную гутарку. Пастаўлена было пытаньне на клясе і вынікі на школьны савет.

Словы „жыд“ і „мужык“, магчыма, спачатку году і ўжываліся, але з боку загадчыка заўсёды рэагавалася. Выпадак яўрэйскага шовінізму па пытаньню перасяленьня яўрэяў у Крым адбыўся ў VI клясе ня ў 1927 годзе, а 1926 годзе. Гэта было зьліквідавана пэдагогічнымі мерамі.

Згуртаваньне вучняў па нацыянальнасьцях назіраецца толькі ў VII клясе сярод вучаніц, дзе 10 яўрэек і 3 беларускі. Астатнія вучні згуртаваны не па нацыянальнасьцях. Склад настаўнікаў старэйшага концэнтру складаецца з 7 асоб: з іх—2 партыйцы; 1 б. заўрад чыноўнік, 1 прапаршчык часовага ўраду, 1 унтэр-офіцэр і 2 зусім ня служылі ў царскай арміі.

Малодшы концэнтр: 3 жанчыны, 1 прапаршчык, 1 заўрад-чыноўнік старой арміі.

Што датычыцца анэкдотаў у настаўніцкай, то як наогул, гэтак і антысэміцкага характару ў гэтым годзе не назіралася.

Выпадкаў зьяўленьня настаўнікаў на заняткі ў п'яным відзе ніколі ня было. Адносна тлумачэньня вучням з боку аднаго настаўніка аб правым ухіле ў ЦК Усе КП(б), то на падставе пісьмовай даведкі ад вучняў VI клясы—тлумачэньне праводзілася толькі аб прымірэнцкіх адносінах да правага ўхілу. Таксама і ня тлумачылася вучням аб адсутнасьці яўрэйскай культуры.

Пастанова местачковага савету па дакладу яўрэйскай школы ў 1927 годзе сямігодцы ня была вядома. Скаргаў на высьмейваньне яўрэйскіх вучняў на лекцыях белмовы ніякіх не паступала як у школьны савет, так і асобным сябром школьнага савету.

Пытаньне аб інтэрнацыянальным выхаваньні ў школе—адно з галоўных пытаньняў. Ня толькі мы, але і ўсе знаюць, што гэта пытаньне толькі ў гэтым годзе становіцца, як галоўны момант. Мы ня зьбіраемся закрываць вочы, запэўняць у тым, што школа ня мае недахопаў. Яны ёсьць у кожнай школе і г. д.

Сябры школьнага колектыву сямігодкі: заг. школы А. Шахлевіч, А. Наржынскі, Давідчык, М. Лазюк, Найман, Н. Перагуд, Е. Нікольская, А. Андруковіч, А. Шахлевіч, Шкуцько, С. Андруковіч“.

Сярод гэтых подпісаў мы сустракаем знаёмых нам па першай частцы артыкулу: Шкуцько, Андруковіча, Наржынскага, як тормазаў у справе колектывізацыі. Зараз гэты сьпіс можна дапоўніць заг. школы Шахлевічам, яго жонкай, настаўніцай (папоўнай) Нікольскай і др. з аднаго поля ягадамі. Зазначым, што гэты дакумант падпісаны і двума комуністымі: Лазюком і Давідчыкам, апошні і зараз працуе ў сямігодцы і вельмі дрэнна змагаецца з недахопамі. Гэты дакумант і другія факты зьяўляюцца яскравым

паказальнікам прымірэнцкіх адносін настаўнікаў у барацьбе з антысэмітызмам і яўрэйскім шовінізмам, пасыўна аказваючых нават супраціўленьне гэтай барацьбе, якая вядзецца вучнёўскім самакіраўніцтвам.

Меў месца выпадак антысэмітызму і ў Капыльскай беларускай школе сямігодцы. У мінулым годзе вучань III гр., ідучы на экскурсію сумесна з вучнямі яўрэйскай сямігодкі і нясучы ў руках вяроўку для вымярэньня плошчы, заявіў: „На гэтай вяроўцы будзем жыдоў вешаць“. У гэтым годзе вучань V клясы абазваў вучаніцу-яўрэйку „жыдоўкай-пархуцкай“. Акрамя гэтага, у клюбе на сьцяне вісела яўна антысэміцкая і шовіністычная дыяграма, якая паказвала людзьмі нацыянальны склад вучняў школы. На гэтай дыяграме намалёваны рукамі вучня: беларус—лапцюжнікам, яўрэй—біржавіком, комівояжэрам з парасонам, паляк—кулаком і татарын—фігурай не падобнай на чалавека. Гэтая дыяграма прайшла міма ўвагі адміністрацыі і настаўнікаў школы, міма грамадзкага контролю і нават міма комуністых.

У Крывасёлкаўскай школе, у III гр. мы сустрэліся з такімі фактамі, калі вучні хорам заявілі, што ў колгасе „Інтэрнацыянал“ (яўрэйскій колгас) „сядзяць жыды, самі нічога ня робяць, для працы наймаюць рускіх людзей. Самі зьяўляюцца прыганятымі. Зямлю ім далі няправільна, трэба было даць рускім“. Перад намі вучні выступілі з цэлай праграмай ярага кулака-антысэміта. І немала нам прышлося патраціць часу, каб пераканаць большасьць вучняў ва усёй варожасьці такіх поглядаў, якія маглі ў паасобных з іх перайсьці ў агрэсыўны антысэмітызм. Гэтыя настроі нам выпадкова прышлося выявіць, праводзячы невялікую гутарку пра колектывізацыю. Каб ня гэты выпадак, вучні і надалей засталіся-б пры такіх думках. Праўда, сьмешна было-б, каб мы сказалі, што аднэй гутаркай мы пераканалі вучняў у няправільнасьці іх поглядаў. Тут патрэбна доўгая, упартая і сыстэматычная работа над гэтым, а настаўнік зусім не займаўся гэтай справай. Настаўнік гэтай школы, Клыга, лічыць, што гэта сказана самымі адсталымі вучнямі, а наогул, ён кажа, „антысэмітызму ў нас ня можа быць, бо ўсе вучні беларусы“.

Пасьля гэтых слоў, зусім зразумела, адкуль у гэтай школе расьцьвёў самы звычайны махровы антысэмітызм. Але, на вялікі жаль, з такімі думкамі выступіў ня толькі адзін Клыга. Настаўніца Пруской школы Насевіч таксама сказала, што ў іх з інтэрнацыянальным выхаваньнем справа не стаіць так востра, бо ў школе ўсяго адна вучаніца яўрэйка.

Так яшчэ і на сёньняшні дзень апашляецца некаторымі настаўнікамі проблема інтэрнацыянальнага выхаваньня, зводзяць яе да барацьбы з антысэмітызмам, а барацьбу з антысэмітызмам адкладаюць да таго часу, калі ён ня выпра на паверхню, ня прыме ваяўнічы характар, „пакуль гром ня гране...“, альбо другое: зусім адмаўляюць неабходнасьць інтэрнацыянальнага выхаваньня ў аднанацыянальных школах.

Прывядзем яшчэ вельмі характэрнае, па сутнасьці шкоднае, выступленьне настаўніка Руднянскай школы Валькоўскага.

Нашы брыгадзіры прысутнічалі ў школе, калі Валькоўскі праводзіў гутарку з II і III г. На яго запытаньні: „куды вашы бацькі прадаюць авечкі“, вучні хорам адказалі: „жыдом“. Далей ў гутарцы некаторымі вучнямі яшчэ ўжывалася слова „жыд“. Два вучні заявілі, што яўрэі—нашы ворагі. На грунце ўсяго гэтага, мы констатавалі і зараз аб гэтым гаворым, што ў школе існуюць шкодныя, нездаровыя антысэміцкія настроі.

На раённай настаўніцкай конфэрэнцыі, дзе мы зачытвалі свае вывады, „настаўнік“ Валькоўскі выступіў з такою прамоваю (адзін з нашых брыгадзіраў якраз занатаваў яе):

„У Руднянскай школе да прыходу брыгады антысэмітызму зусім ня было(!?). Калі **комсамолка** з брыгады гутарыла з дзяцьмі, дык толькі адзін вучань ужыў слова „жыд“... Гэта толькі адзін выпадак(?) Ды і то адкуль ён... Гэта вучань з вёскі Канатоп, дзе ёсьць антысэмітызм. Вось вучань і занёс адтуль антысэмітызм... Комсамолка праводзіла з дзяцьмі гутарку... (рэпліка: чаго вы прычапіліся да слова комса-

молка, хіба яно вам так не падабаецца, альбо ў яе прозьвішча няма)... комсамолка... не, таварыш... таварышка... прабачайце. Гэтая комсамолка... таварыш... дала няправільныя зьвесткі. У мяне ня 4 вучні ходзяць у царкву, а толькі два вучні. І гэтыя два вучні сказалі, што іх прымушаюць бацькі хадзіць. Я заўсёды выкладаў і буду выкладаць антырэлігійнае і інтэрнацыянальнае выхаваньнё (рогат усяе конфэрэнцыі).

Конфэрэнцыя сурова асудзіла гэта выступленьне, як шкоднае. Нас зьдзіўляе, што аж да гэтага часу такая недарэчнасьць мела месца ў школе.

Я лічу, што такія погляды настаўніка: „у нас антысэмітызму няма, у нас не стаіць гэта пытаньне так востра" і інш. падобныя думкі і адказ ад унутранай работы па выкарчоўваньню нацыянальных тэндэнцый сярод дзяцей сыгналізуюць нам аб небясьпецы на фронце інтэрнацыянальнага выхаваньня. Толькі ў выніку такіх настрояў настаўнікаў існуюць такія думкі сярод некаторых беларускіх вучняў, што ўсе яўрэі—нашы ворагі, усе палякі—нашы ворагі (Ляшнянская, Дамантаўская, Рачкавіцкая, Руднянская школы). Нават у школьным другу (насьценгазэты) можна сустрэць выпадкі, калі ўжываецца слова „жыд-жыдоўка" замест яўрэй (Кулакоўская школа).

У Комсіцкай школе, у артыкуле насьценгазэты знаходзім факт, калі адзін вучань абзываў яўрэйку „жыдоўкай", трасучы на яе кулаком. Гэты ўчынак аўтарам заметкі ацэньваецца, як хуліганскі.

Нельга не даацэньваць значэньня гэтых фактаў, з імі жартаваць нельга. Справа надзвычайна сур'ёзная. Нацыянальная розьнь паміж дзяцьмі ў паасобных выпадках існуе, а гэта толькі і трэба клясаваму ворагу,які імкнецца падначаліць сабе савецкую дзетвару. Усякае паслабленьне рэагаваньня на праявы гэтай розьні проста або ўскосна спрыяе клясаваму ворагу. Справа, бязумоўна, ускладняецца тым, што ня ўсе настаўнікі хвалююцца прарывамі на гэтым вучастку выхаваньня. Адны надзвычайна спакойны да таго, што ў іх школе адбываецца, ня проч нават уменшыць факты, замазаць іх, „ня выносіць сьмяцьцё з хаты"—прозьвішчы гэтых настаўнікаў я ўжо называў. Другія ўвесь час імкнуцца наладзіць справу, паставіць яе, сузнаюць і выпраўляюць свае памылкі, не паслабляючы работы. У тых, дзе працуе гэта група настаўнікаў, ёсьць і дасягненьні ў справе інтэрнацыянальнага выхаваньня.

Формы і мэтоды інтэрнацыянальнай работы вельмі абмяжаваныя. Нават ня ўсімі школамі выкарыстоўваюцца тыя мэтоды, якія на практыцы другіх школ сябе апраўдалі.

Сувязь паміж нацыянальнымі, мясцовымі і дальнімі школамі—рэдкае зьявішча. Яе падтрымліваюць толькі наступныя школы: яўрэйская Капыльская сямігодка з Капыльскай беларускай сямігодкай, Песачанскай беларускай сямігодкай, Ланцуцкай і Скабінскай польскімі школамі.

Першы концэнтр беларускай Цімкаўскай сямігодкі трымае сувязь з яўрэйскай Цімкаўскай чатырохгодкай.

Інтэрнацыянальная сувязь школ з замежамі зусім адсутнічае, за выключэньнем яўрэйскай сямігодкі, якая па лініі ячэйкі МОПР'у зьвязалася з замяжой, а некаторыя групы зьвязаны са школай Карэльскай рэспублікі і аўтономнай вобласьці Комі і Зыран.

Гурткі МОПР'у і ОЗЭТ,у большасьці масавых школ адсутнічаюць. У зборы сродкаў на карысьць палітзьняволеных Нямеччыны і кітайскіх дзяцей школы, у якіх мы пабылі, ня прынялі ўдзелу.

Ня гледзячы на тое, што сям'я яшчэ зьяўляецца важнай крыніцай, адкуль дзеці прыносяць у школу нацыянальныя настроі, школы яшчэ не разгарнулі інтэрнацыянальнай работы з бацькамі. Толькі адзінкі прабуюць узяцца за гэтую работу.

У частцы сыстэмы інтэрнацыянальнай работы сустрэлі толькі адну Быстрыцкую школу, дзе элемэнты інтэрнацыянальнага выхаваньня распрацаваны і сыстэматычна ўвязаны у выкладаньні настаўніка.

Нас таксама цікавіла, як школы рэагавалі на праявы беларускага нацыянал-дэмократызму ў БССР, беларускага соцыял-фашызму ў Заходняй Беларусі, пры чым, трэба сказаць, гэта пытаньне прайшло

міма вушэй як школьнай грамадзкасьці (і сямігодак і масавых школ), так і міма выкладаньня такіх прадметаў, як грамадазнаўства і беларуская літаратура. Загадчык Цімкаўскай сямігодкі т. Шахлевіч прызнаўся, што ён сам першы раз чуе пра гэты беларускі нацыянал-демократызм. У зьвязку з гэтым, я пацікавіўся, як-жа ў сямігодках зараз выкладаецца беларуская літаратура, ці не выдаюцца там часамі нацыянал-дэмократычныя творы за чыстую пролетарскую монэту. Аказваецца, што так. У тэй-жа Цімкаўскай сямігодцы, у рабочым пляне настаўніка па беларускай літаратуры для 7-е групы знаходзім вось што:

З агульнага ліку 15 заданьняў 12 прыпадае на літаратуру дарэволюцыйную і толькі 3-на „эпоху вялікага Кастрычніка“. Галоўная ўвага аддаецца клясыкам нашаніўскае пары: (Колас—3 заданьні' Купала—2, Гартны—2, Бядуля—2 і Гарун—1 заданьне)—усяго 10 заданьняў. З пісьменьнікаў XIX стагодзьдзя аднаму толькі Багушэвічу прысьвячаны 2 заданьні, а ўсёй літаратуры „эпохі вялікага Кастрычніка“ прысьвячаны толькі 3 заданьні.

Ужо самы гэты расклад заданьняў сьцьвярджае аб поўнай адсутнасьці клясавай лініі ў вывучэньні літаратуры: програма выразна ідэалізуе ролю дробных буржуа-нашаніўцаў у справе стварэньня беларускае літаратуры, програма змазвае той факт, што стварэньне беларускае літаратуры фактычна стала магчымым толькі пасьля перамогі пролетарскае рэволюцыі, програма разглядае літаратуру, як нейкую агульнанацыянальную, надклясавую і пазаклясавую катэгорыю і, аддаючы галоўную ўвагу нашаніўцам, перавялічвае іх ролю ў справе ўтварэньня беларускае літаратуры. Але мала гэтага. З усяе новае пасьлякастрычнікавае літаратуры, програма спыняецца толькі на Чароце і на Крапіве, вызначаючы толькі адно заданьне „маладой літаратуры“, пры чым пад гэтай апошняй разумеецца вінэгрэт з Александровіча, Дудара, Зарэцкага, Нёманскага, і нарэшце, такой „выдатнасьці“, як Адам Бабарэка, які вядомы ўсім, як крытык-ідэалісты, адзін з ідэолёгаў напалову правапапутніцкай, на палову нэобуржуазнае організацыі „Узвышша“, але як пісьменьнік-прозаік вядомы толькі надзвычайна вузкаму колу літспэцыялістых. Чым тлумачыцца гэтая блытаніна ня толькі імён, але і плыняў? Што агульнага ёсьць, напр., між Александровічам і Бабарэкам? Ці мэтазгодна азнаямленьне вучняў з творчасьцю, напрыклад, такіх, як Дудар, Зарэцкі, ці таго-ж Бабарэкі? Чаму няма, напрыклад, такога пісьменьніка, як Паўлюк Трус, якому, бязумоўна, варта было-б прысьвяціць асобнае заданьне? Ды наогул няўжо-ж сучасная літаратура абмяжоўваецца пералічанымі імёнамі? А дзе Р. Мурашка, М. Лынькоў, Я. Ліманоўскі, П. Галавач, дзе наогул беларуская пролетарская літаратура? І ці не зьяўляецца сам па сабе тэрмін „маладая літаратура“ сьвядомым замазваньнем клясавае дыфэрэнцыяцыі беларускае літаратуры, такім характэрным для беларускіх нацыянал-дэмократаў,—і ў той-жа час ня менш характэрным для іх (сукосным, праўда) адмаўленьнем існаваньня пролетарскае беларускае літаратуры?

Праўда, гэтую мядзьведжую паслугу для няпісьменных выкладчыкаў літаратуры ў сямігодках зрабіў нехта Самковіч, які ў 1928 годзе выпусьціў кніжку „Вопыт праработкі програмы па беларускай літаратуры ў цэнтральнай дасьледчай сямігодцы“, якою людзі і сёньня карыстаюцца. НКА даўно ўжо трэба былоб-б выключыць з школ гэтую, у поўнай меры нацыянал-дэмократычную, програму.

„Побач з праявамі беларускага нацыянал-дэмократызму,—піша т. А. Некрашэвіч,—(„Асьвета“, № 11-12), які на даным этапе зьяўляецца асабліва небясьпечным, неабходна адзначыць і праявы „левых“ загібаў у нацыянальным пытаньні. Карэньні гэтых загібаў ідуць ад контррэволюцыйнага трацкізму і ў нацыянальным пытаньні знаходзяць сваё выяўленьне ў недаацэнцы нацыянальных момантаў у нашым будаўніцтве, у прыватнасьці, недаацэнцы важнасьці правядзеньня беларусізацыі, у сваяасаблівым звыш-інтэрнацыяналізьме, альбо нацыянальным нігілізьме, рэвізіі політыкі партыі ў нацыянальным і культурным будаўніцтве і г. д. Усё гэта дае магчымасьць пад „левымі“ фразамі захоўвацца і павесьці наступ самаму акрэсьленаму

вялікадзяржаўнаму шовінізму. Гэныя „левыя“ загібы ў нацыянальным пытаньні ўскладняюць барацьбу партыі з нацыянал-дэмократызмам, а таму об‘ектыўна дапамагаюць яму. Гэны прыклад паказвае, што „левая“ фраза ў нашых умовах зьяўляецца праявай небясьпекі. Яны, гэныя загібы, робяць больш цяжкай працу партыі ў справе распластаваньня інтэлігенцыі, даюць падставы ёй імкнуцца аб‘яднацца на нейкай „агульнанацыянальнай“ глебе (па прынцыпе „беларусаў б‘юць“), ускладняюць працу партыі ў правядзеньні беларусізацыі“.

З праяўленьнем гэтых „левых загібаў“ на практыцы, нам прышлося сустрэцца ў Капыльскай беларускай сямігодцы.

У рабочых плянах па грамадазнаўству выкладчык гэтай сямігодкі ні словам не заікнуўся аб Беларусі. Ёсьць гісторыя клясавай барацьбы наогул, а клясавай барацьбы на Беларусі няма, ёсьць гісторыя УсеКП(б), а гісторыі КП(б)Б таксама няма. Калі мы аб гэтым зазначылі на раённай конфэрэнцыі настаўнікаў, ацэньваючы гэта, як „левы“ загіб у нацыянальным пытаньні, то гэты выкладчык грамадазнаўства заявіў, „што аб гэтым могуць гаварыць толькі „бабкі“, справа ня ў тым, каб напісаць гэта ў програме, а каб ведалі вучні“. Можа вучні і ведаюць, але мы лічым недапушчальным, каб у рабочых плянах настаўніка, які працуе ў сямігодцы Беларусі, ні слова ня было пра БССР.

Пагэтаму мы лічым, што вядучы бязьлітасную барацьбу з праявамі беларускага нацыянал-дэмократызму, мы павінны весьці рашучую барацьбу і з „левымі“ загібамі, накшталт памянёнага, якія па сутнасьці зьяўляюцца пасобнікамі і праявамі вялікадзяржаўнага шовінізму.

Усе гэтыя факты, якія мы тут прывялі, але якіх за адсутнасьцю часу і месца ня маем магчымасьці больш дэталёва і ўсебакова прааналізаваць, сьведчаць аб тым, што на фронце інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня, побач з шэрагам дасягненьняў, існуюць і такія прарывы, якія прымушаюць нас, усю савецкую грамадзкасьць сур‘ёзна задумацца над гэтым пытаньнем. Але аднымі сур‘ёзнымі думкамі справа не палепшыцца. Трэба з такой жа сур‘ёзнасьцю ўзяцца за выпраўленьне недахопаў. Трэба ўзьняць справу інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня на баявую прынцыповую вышыню. Утварыць баявы фронт з настаўніка, комсамолу, піонэратраду, школьнага самакіраўніцтва, ўсяе грамадзкасьці і гэтым фронтам наступаць на ўсё старое, на ўсё варожае, за новае, інтэрнацыянальнае, сусьветнае выкарыстаўшы ў гэтай барацьбе ўсе сілы, сродкі і мэтоды. Толькі такім шляхам мы можам забясьпечыць інтэрнацыянальнае выхаваньне нашчага маладога пакаленьня, узмацніць яго клясавую баяздольнасьць.

Мы будуем соцыялізм. Гэтае будаўніцтва ідзе нячуванымі тэмпамі. Мы стаім ужо на грані вялічэзных падзей. Школа павінна быць гатовай, каб пры поўнай клясавай баяздольнасьці вывесьці армію новых людзей на фронт будаўніцтва соцыялізму.

АЛ. АНІХОЎСКІ

# ПАДРЫХТОЎКА ПЭДАГОГІЧНЫХ КАДРАЎ

Проблема кадраў набывае ў сучасны момант рашаючае значэньне. Ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва мы маем рост зацікаўленасьці да таго, каб кадры адпавядалі асаблівасьцям і запатрабаваньням данай работы.

Пастановы ліпнёўскага і лістападаўскага пленумаў Цэнтральнага Комітэту партыі датычацца кадраў у галіне прамысловасьці, але трэба з усёй сур‘ёзнасьцю падкрэсьліць, што ўстаноўка і тыя задачы, якія высунуты пастановамі пленумаў, маюць дачыненьне таксама і да задач падрыхтоўкі кадраў для іншых галін соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і для народнай асьветы. Нават

больш таго, пытаньне пра кадры для асьветных устаноў набывае яшчэ больш важнае значэньне, бо проблема кадраў упіраецца ў якасьць пастаноўкі ўсяе асьветнай і навучальнай работы. Паляпшэньне і ўдасканаленьне работы ВТНУ ды іншых навучальных устаноў знаходзіцца таксама ў залежнасьці ад якасьці работы тых навучальных устаноў, якія рыхтуюць людзкі матар'ял для ВТНУ ды іншых профэсійных навучальных устаноў. Загэтым фактычнае ажыцьцяўленьне дырэктыў ліпнёўскага пленуму ЦК і асабліва апошняга, лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) патрабуе рашучага зруху ў справе паляпшэньня і ўдасканаленьня ўсяе работы пачатковай і падвышанай школы, паколькі з тых, якія скончылі гэтыя школы, вярбуецца матар'ял для падрыхтоўкі спэцыялістых.

Асьветныя ўстановы павінны такім чынам паставіць сваю навучальна-выхаваўчую работу, каб яна цалкам адпавядала асаблівасьцям рэконструкцыйнага пэрыоду соцыялістычнага будаўніцтва з усімі выцякаючымі адгэтуль задачамі, і ў першую чаргуператварыць школу ў зброю ідэёвага ўзьдзейнічаньня на пролетарскія і непролетарскія элемэнты, цалкам ажыцьцявіць кляcава-пролетарскае выхаваньне, інтэрнацыянальнае выхаваньне, політэхнічную адукацыю і г. д. Усе гэтыя задачы ўпіраюцца ў проблему пэдкадраў, бо ад якасьці пэдагога ў значнай ступені залежыць продукцыйнасьць і якасьць навучальна-выхаваўчай работы. Вось чаму ў сучасны момант трэба з асаблівай сур'ёзнасьцю і рашучасьцю падыходзіць да разьвязваньня проблемы пэдкадраў.

Што ўяўляе сабой сучасны склад настаўнікаў пачатковых школ?

Па даных школьнага перапісу ўсяго настаўнікаў першага концэнтру працоўнай школы ў БССР у 1928 годзе налічвалася 9.163, з іх: у вясковых школах—7771 і ў 1-м концэнтры 7-мі і 9-ці годак—1382. Увесь склад настаўнікаў можна характарызаваць у процантных адносінах наступнымі данымі [1]).

*Па полу:* мужчын 46,4, жанчын 53,6%.

*Па ўзросту:* да 20 гадоў—1,8 проц., ад 21 да 25 г.—19,8, ад 25 да 30 гадоў—26,4, ад 31 да 40 г.—34,3, ад 40 да 50 г.—13,1, вышэй 50 г.—4,6 проц.

*Пэдагогічны стаж:* працуюць менш году 7,5 проц., ад 1 да 4 г.—24,4 проц., ад 5 да 10 г.—26,4 проц., ад 10 да 15 г.—18,3 проц., ад 15 да 20—11,2 проц. і вышэй 20 г.—12 проц.

*Па адукацыі:* спэцыяльная пэдагогічная—33,4 проц., вышэйшая і сярэдняя агульная адукацыя—31,9 проц., незакончаная сярэдняя ды інш.—34,7 проц.

*Па соцыяльнаму паходжаньню:* дзяцей рабочых—5,7 проц., сялян—57 проц., служачых—22,9 проц., духоўнага паходжаньня—6,2, іншых—2,8 проц.

*Па партыйнасьці:* членаў і кандыдатаў КП(б)—3,5 проц., членаў і кандыдатаў ЛКСМ—5,5 проц. і беспартыйных—91 проц.

*Па нацыянальнасьці:* беларусаў—80,5 проц., яўрэяў—8,8 проц., палякаў—1,9 проц., расійцаў—6 проц., літоўцаў, латышоў, украінцаў ды інш. нацыянальнасьцяй—2,8 проц.

Гэтыя лічбы сьведчаць:

а) аб недастатковым і зусім нязначным процанце настаўніцтва з спэцыяльнай пэдагогічнай адукацыяй, які дасягае толькі 33,4 проц., але гэты процант будзе яшчэ ніжэйшы, калі адкінуць лік настаўнікаў, якія скончылі аднагадовыя і кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы і выкарыстоўваюцца на рабоце з прычыны недахопу настаўнікаў;

б) аб ня зусім здавальняючым яшчэ соцыяльным складзе;

в) зусім слабым ядры партыйцаў і комсамольцаў, якое складае 9 проц.;

г) моладзь ва ўзросьце да 30 гадоў складае 50 проц. усяго настаўніцтва, атрымалі сваю падрыхтоўку ў савецкіх навучальных установах, але маюць малы вопыт у пэдагогічнай рабоце (ад 1 да 5 гадоў)—41,9 проц.

Сыстэма і лік навучальных устаноў, якія рыхтуюць пэдагогічныя кадры ў даны момант, не адпавядаюць ні па структуры, ні па тэрміну навучаньня для падрыхтоўкі настаўнікаў тым запатра-

[1]) Лічбы ўзяты з перапісу таму, што лічбы апошняга году яшчэ не распрацаваны, і адхіленьні ад вышэйпрыведзеных процантаў будуць нязначныя.

баваньням, якія высоўваюцца самім жыцьцём і ў сувязі з шпаркім культурным ростам.

Улічваючы патрэбнасьці і сваячасовую падрыхтоўку пэдагогаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй і паскарэньне выпуску продукцыі з пэдагогічных навучальных устаноў як для задавальненьня патрэбнасьці у пэдагогах да канца гэтае, так і наступнае пяцігодкі, Народны комісарыят асьветы з 1930-31 г. праводзіць рэорганізацыю пэдагогічных навучальных устаноў.

**Прынцыпы рэорганізацыі**

I. а) Пэдфак Бел. Дз. Унівэрсытэту застаўлен як вышэйшая школа з мэтавай установкай рыхтаваць настаўнікаў толькі для III концэнтру (8, 9, 10 груп) 10-цігадовае школы, рабфакаў, тэхнікумаў і профшкол;

б) тэрмін навучаньня на ўсіх аддзяленьнях пэдфаку скараціць з 4-х гадоў да 3, за выключэньнем фізыка-тэхнічнага, дзе тэрмін навучаньня пакінуты ў 3½ гады;

в) пэдфак будуецца на базе 10-цігодкі, пэдагогічных тэхнікумаў;

г) пры пэдфаку адчыняецца спэцыяльнае політасьветаддзяленьне з адпаведнымі ўхіламі (бібліотэчным, клюбным ды інш.) для падрыхтоўкі працаўнікоў з вышэйшай адукацыяй у гэтай галіне;

д) у сувязі з скарачэньнем аднаго году ўся работа пераводзіцца на бесьперапынны год, і значна павялічваецца вытворчая практыка;

е) пэдфак павінен будзе рыхтаваць настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй для адпаведных школ з двума ухіламі— сельска-гаспадарчым і індустрыяльным.

Вось тыя прынцыповыя організацыйныя мерапрыемствы, якія праводзяцца ўжо Народным комісарыятам асьветы для паскарэньня тэмпу падрыхтоўкі пэдагогаў для школ III-га концэнтру.

2. Разам з увядзеньнем усеагульнага навучаньня за 4-хгодку, у 1931-32 г. запроектавана ўвядзеньне ўсеагульнага навучаньня на базе 7-мігодкі, і ў 1937-38 г. у сувязі з гэтым паскораны тэмпы адчыненьня груп 2-га концэнтру школ 7-мігодак. З першых-жа гадоў другое пяцігодкі патрэба ў настаўніках для 2-га концэнтру вырастае настолькі, што кожны год патрэбна будзе больш двух тысяч асоб (10907 настаўнікоў на 5 год). Нават, калі браць апошнія тры гады гэтай пяцігодкі, дык трэба для новых комплектаў 2-га концэнтру 2.309 настаўнікаў.

Усё гэта разам узятае рашуча паставіла пытаньне перад НКА аб паскарэньні тэмпу падрыхтоўкі настаўнікаў для 2-га концэнтру 7-мігодак як для бягучае, так і для будучае пяцігодкі.

Выходзячы з вымаганьняў у паскарэньні тэмпу падрыхтоўкі пэдагогаў з адпаведнай кваліфікацыяй для школ 2-га концэнтру сямігодак, у мэтах ажыцьцяўленьня намечанага пляну па ўсеагульнаму навучаньню дзяцей ва ўзросьце 12-14 гадоў, у другой 5-цігодцы плянавай комісіяй НКА запроектавана і колегіяй зацьверджана адчыненьне пэдагогічных інстытутаў:

а) у мэтах сваячасовай падрыхтоўкі пэдагогаў для школ 2-га концэнтру організаваць з 1930-31 навучальнага году спэцыяльныя пэдагогічныя інстытуты з адпаведнымі аддзяленьнямі;

б) тэрмін навучаньня ў інстытуце устанавіць двухгадовы;

в) пэдагогічны інстытут будаваць на базе 10-цігодак і пэдтэхнікумаў;

г) з 1930-31 году рэорганізаваць Менскі, Віцебскі і Магілеўскі пэдтэхнікумы ў пэдагогічныя інстытуты і пры складаньні пляну падрыхтоўкі настаўнікаў для 2-га концэнтру прадбачыць далейшае разгортваньне сеткі гэтых навучальных устаноў;

д) даць магчымасьць скончыўшым гэтыя двухгадовыя пэдінстытуты, пасьля адбыцьця устаноўленага практычнага стажу ў школе, паступаць бяз усякіх іспытаў на апошні курс адпаведнага аддзяленьня пэдфаку Б. Дз. У. для поўнага заканчэньня спэцыяльна-пэдагогічнай кваліфікацыі.

Такім чынам з 1930-31 году ўводзіцца новы тып навучальнай установы ў мэтах падрыхтоўкі пэдагогаў для 2-га концэнтру сямігодак. Магілеўскі, Менскі і Віцебскі пэдагогічныя тэхнікумы з наступнага навучальнага году спыняюць прыём на 1-ыя курсы пэдтэхнікуму і набіраюць на 1-ы курс інстытуту з тым, каб даць 1200

пэдагогаў к 1932-33 навучальнаму году; сетка пэдтэхнікумаў павінна будзе папоўніцца адчыненьнем новых пэдтэхнікумаў і шляхам рэорганізацыі некаторых існуючых 2-хгадовых пэдкурсаў у пэдтэхнікумы.

3. Паскарэньне тэмпу ажыцьцяўленьня пляну ўсеагульнага навучаньня дзяцей ва ўзросьце 8-11 гадоў на базе 4-х годкі, які, згодна дырэктыў ураду і XII зьезду КП(б)Б, павінен быць выканан у 1931-32 навучальным годзе, патрабуе *паскарэньня тэмпу* падрыхтоўкі настаўнікаў з сярэдняй кваліфікацыяй для масавай пачатковай школы.

У мэтах паскарэньня тэмпу падрыхтоўкі настаўнікаў праз пэдтэхнікумы і паступовага ліквідаваньня двухгадовых і аднагадовых пэдкурсаў, якія існуюць для падрыхтоўкі таго ліку настаўнікаў, якога не хапае ад выпускаў пэдтэхнікумаў пры 4-гадовым тэрміне навучаньня ў апошніх, а таксама ў мэтах зьнішчэньня рознастайнасьці падрыхтоўкі, якая была да гэтага часу, хоць і выклікалася крайняй неабходнасьцю і лічылася часовым мерапрыемствам, пэдагогічныя тэхнікумы ўжо з 2-е паловы бягучага навучальнага году рэорганізаваны.

Рэорганізацыя пэдтэхнікумаў праведзена ў такіх напрамках:

а) тэрмін навучаньня скарочан на 1 год, замест 4-х застаўлена 3 гады;

б) працяглась навучальнага году устаноўлена ў 10 месяцаў, пры двух сэмэстрах па 15 дэкад кожны, па 64 гадзіны ў дэкаду, замест 8 месяцаў;

в) дакладнае разьмежаваньне часу паміж тэорыяй і вытворчай практыкай;

г) уведзены два віды вытворчай практыкі, і вызначана пэўная працяглась часу кожнай: школьная вытворчая пэдпрактыка і сельска-гаспадарчы пэдпрактыкум у саўгасах і колгасах;

д) павялічана штодзённая нагрузка з 6 да 8 гадзін на кожнага студэнта;

е) у гэтым-жа годзе будзе зроблен датэрміновы выпуск 3-га курсу, навучальны плян для якога ўжо прыстасаваны з тым разьлікам, каб прадметы былога 4 курсу, а на чацьвертым курсе пераважна спэцыяльныя пэдагогічныя і самастойны практыкум, былі пройдзены у летні час, і выпуск зрабіць 25-га верасьня 1930 году, замест нормальнага тэрміну 15-VI 1931 г. Навучальны плян рэорганізаванага пэдтэхнікуму будзе мець такі выгляд: тэрмін вучобы—тры гады, па 10 месяцаў кожны год, дваццаць чатыры працоўных дні ў месяц і па 8 гадзін штодня, а, перавёўшы ўсё ў гадзіны, будзем мець 5760 навучальных гадзін.

У разьмеркаваньні іх па гадох, асобных курсах і па асобных цыклях і прадметах навучальны плян 3-гадовага пэдтэхнікуму будзе мець такі выгляд:

| Назва цыкляу | Лік гадзін | | | | | | Разам | % данай часткі навуч. пляну | % да ўсяго навуч. пляну |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I курс | | II курс | | III курс | | | | |
| | у тыдзень | у год | у тыдзень | у год | у тыдзень | у год | | | |
| 1. Грамадазнаўства | 12 | 576 | 10 | 300 | 8 | 240 | 1116 | 32,3 | — |
| 2. Агульнаадукацыйныя | 12 | 576 | 8 | 240 | — | — | 816 | 23,6 | — |
| 3. Спэцыяльныя | 6 | 288 | 10 | 300 | 20 | 600 | 1188 | 34,4 | — |
| Разам | 30 | 1440 | 28 | 840 | 28 | 840 | 3120 | 90,3 | — |
| 4. Фізвых і ваенізацыя | 2 | 96 | 4 | 120 | 4 | 120 | 336 | 9,7 | — |
| Разам | 32 | 1536 | 32 | 960 | 32 | 960 | 3456 | 100 | 60 |
| 5. Практыкум: | | | | | | | | | |
| а) аграрн. вытв. практ. | — | 192 | — | 384 | — | — | 576 | 25 | — |
| б) школы | — | 192 | — | 576 | — | 960 | 1728 | 75 | — |
| Разам | — | 384 | — | 960 | — | 960 | 2304 | 100 | 40 |
| Разам | — | 1920 | — | 1920 | — | 1920 | 5760 | 100 | 100 |

Вытворчы практыкум складае 40 проц. усяго навучальнага пляну, аграрны практыкум складае 25 проц. усяго вытворчага практыкуму (10 проц. усяго на-

вучальнага пляну), а школьны практыкум—75 проц. вытворчага практыкуму (30 проц. усяго навучальнага пляну).

2. Аграрны практыкум адбываецца ў першы год на працягу 1-га месяцу і ў 2-і год—2 м. (поўны працоўны дзень, бяз іншых заняткаў) школьны практыкум 1-ы год—1 м-ц (поўны), 2-гі год—3 м-цы і 3-ці г.—5 м-цаў.

Адгэтуль відаць, што грамадазнаўчы цыкль, да якога адносяцца ўсе грамадазнаўчыя дысцыпліны: гісторыя клясавай барацьбы з гісторыяй Усе КП(б)Б, савецкае будаўніцтва, політэкономія, асновы ленінізму, гістматэрыялізм, экономгеографія і літаратура праходзяцца на працягу ўсіх 3-х гадоў навучаньня; агульна-адукацыйны—мовы, матэматыка, фізыка, хэмія, прыродазнаўчыя прадметы на першых 2-х курсах; спэцыяльныя—усе мэтодыкі, пэдолёгія з уступам, пэдагогіка, пэдагогічныя ідэі, асновы савецк. прац. школы, сьпевы, музыка, маляваньне ды інш. праходзяцца, пачынаючы з 1-га курсу і паступова штогодна павялічваюцца.

Вытворчая практыка займае належнае месца ў навучальным пляне.

Вось тыя асноўныя і галоўнейшыя прынцыпы, якія пакладзены ў аснову пры рэорганізацыі пэдагогічных навучальных установ па падрыхтоўцы пэдагогаў з вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыяй, якія паскараюць тэмп падрыхтоўкі пэдкадраў часткова для задавальненьня запатрабаваньняў канца гэтае пяцігодкі, а галоўным чынам для наступнай пяцігодкі.

А як-жа справа абстаіць з падрыхтоўкай пэдкадраў на наступны і бліжэйшыя 3 гады—да канца бягучае пяцігодкі?

Самымі напружанымі гадамі ў сэнсе падрыхтоўкі настаўнікаў для ажыцьцяўленьня пляну ўсеагульнага навучаньня быў 1929-30 і будуць 1930-31 і 1931-32—апошні год зьдзейсьненьня пляну. Напружанасьць гэта выяўляецца ў тым, што паскораны тэмп адчыненьня новых і вялікага ліку комплектаў патрабаваў у кароткі тэрмін даваць настаўніка. Так, для 1929-30 году пры адчыненьні толькі 1437 новых комплектаў, ды на амортызацыю 879 асоб, усяго патрабавалася 2.316 настаўнікаў. Пэдтэхнікумы далі 530; 2-х гадовыя пэдкурсы і 9-цігадовыя школы з пэдухілам—618 асоб, а рэшту 1168 прышлося падрыхтаваць праз кароткатэрміновыя пэдкурсы пры НКА і ў акруговых гарадох. Якасьць падрыхтоўкі, выходзячы з тэрміну падрыхтоўкі 3-4 і найбольш 6 месяцаў на базе 7-годкі, гаворыць сама за сябе.

Для 1930-31 году трэба даць 2520 настаўнікаў, з якіх 1517—для новых комплектаў. У папярэдні год быў вядомы патрэбны лік настаўнікаў, а таму запроектаваны былі аднагадовыя пэдкурсы на 500, двухгадовыя пэдкурсы—на 1000 асоб, пэдтэхнікумы давалі 920 і школы з пэдухілам—100, а ўсяго 2520 ч.

Зроблены ўжо датэрміновыя выпускі перш з 2-гадовых пэдкурсаў на 160 асоб і з тэхнікумаў—115 асоб.

Такім чынам, калі з падвойным выпускам з 4-га і датэрміновага 3-га курсу мы цалкам задавальнялі патрэбы ў настаўніках на будучы год, і рэорганізацыя тэхнікумаў дае нам паскораны выпуск у г.г. на 811 асоб, то за ўсе гады пяцігодкі рэорганізацыя ў трохгадовы тэрмін навуч. павялічвае продукцыю пэдтэхнікумаў на 1216 асоб.

**Патрэба і падрыхтоўка настаўнікаў для ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня ў 1931-32 годзе будзе мець такі выгляд:**

| Гады | Патрэбна падрыхтаваць: Для новых компл. | Патрэбна падрыхтаваць: Для замены 8% амортызацыі | Патрэбна падрыхтаваць: Усяго патрэбна наст. | Будзе падрыхтавана: Пэдтэхнікумы | Будзе падрыхтавана: 2-х гадов. пэдкурсы | Будзе падрыхтавана: Аднагадовыя пэдкурсы і 9-ці гадов. з пэдухіл. | Будзе падрыхтавана: Кароткатэрмін. пэдкурсы | Будзе падрыхтавана: Усяго падрыхт. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1929-30 | 1437 | 879 | 2316 | 530 | 458 | 160 | 1168 | 2316 |
| 1930-31 | 1517 | 1000 | 2520 | 1580 | 375 | 565 | — | 2520 |
| 1931-32 | 1517 | 1122 | 2680 | 900 | 1000 | 780 | — | 2680 |
| 1932-33 | 903 | 1194 | 2120 | 1200 | 920 | — | — | 2120 |
| Разам | 5374 | 4195 | 9636 | 3210 | 2753 | 1505 | 1168 | 9551 |

Гэтыя лічбовыя даныя сьведчаць пра паскарэньне тэмпу падрыхтоўкі настаўнікаў праз пэдтэхнікумы. Пры 4-х гадовым курсе навучаньня меркавалася падрыхтаваць праз пэдтэхнікумы за 5 гадоў 4242 настаўнікі, а пры 3-гадовым будзе падрыхтавана 5.458—павялічэньне на 1216, а разам з гэтым робіцца апошні прыём у 1930-31 годзе на 2-гадовыя і аднагадовыя пэдкурсы.

Рэорганізацыя пэдагогічных навучальных устаноў дае эфэкт у паскарэньні тэмпу падрыхтоўкі пэдкадраў.

Перад НКА стаіць чарговая задача аб паляпшэньні якасьці ўсяе навучальна-выхаваўчай работы і забесьпячэньні пролетарызацыі пэдагогічных навучальных устаноў і асабліва пэдтэхнікумаў і курсаў.

Трэба прыняць у г.г. 3685 асоб; 1440 у тэхнікумы і 2.245 на пэдкурсы. Заставіўшы курыі мінулых гадоў, з чым нельга згадзіцца, трэба прыняць рабочых і іх дзяцей 800 асоб.

Ужо організаваны курсы па падрыхтоўцы ў пэдагогічныя ды іншыя тэхнікумы на 500 асоб, але гэтага мала.

Трэба ўсім партыйным, профэсійным і асабліва комсамольскім організацыям прыйсьці на дапамогу НКА, правесьці ўкомплектаваньне па соцыяльнаму адбору, павялічыць ядро рабочых і батракоў у пэдустановах.

## Да ўсіх асьветнікаў.

**Праз два гады БССР будзе рэспублікай суцэльнай колектывізацыі. Настаўнік, політасьветнік, у сваёй масе, зьяўляецца актыўным удзельнікам перабудовы „патрыярхальшчыны“ ў соцыялізм. Вопыт работы кожнага асьветніка павінен быць вядомы ўсёй савецкай грамадзкасьці. Таму рэдакцыя заклікае ўсіх настаўнікаў і палітасьветнікаў падзяліцца на старонках часопісі „Комуністычнае Выхаваньне“ вопытам работы, а таксама і тым, як перабудоўваецца работа школы, хаты-чытальні, нардому ў сувязі з суцэльнай колектывізацыяй; што робяць гарадзкія настаўнікі, політасьветнікі па дапамозе гэтай рабоце вясковых асьветнікаў.**

*Рэдакцыя.*

А. ХАРЭВІЧ

# ШЛЯХІ ПАДНЯЦЬЦЯ ШКОЛЬНАЙ ПАСЬПЯХОВАСЬЦІ [1])

### Задачы сучаснасьці і школа

У сучасны момант мы назіраем значны % непасьпяховасьці, вялікую колькасьць другагоднікаў, розныя вывіхі ў галіне выхаваньня, што на сучасным этапе работы і барацьбы зьяўляецца ня толькі перашкодай, але і небясьпекай. Адгэтуль узмацненьне клясавага выхаваньня, падняцьце школьнае пасьпяховасьці— наша чарговая і неадкладная задача.

### Ці ёсьць карысьць ад другагодніцтва

Даведзена, што другагодніцтва можа прынесьці карысьць толькі ў некаторых выпадках. Напрыклад, дзіця засталося па хваробе, на працягу году перашкаджалі дрэнныя хатнія ўмовы, або другагоднік малалетка. У большасьці ўсіх астатніх выпадкаў другагодніцтва ня прыносіць ніякай карысьці. Шмат хто з іх і вучыцца і вядзе сябе дрэнна, і разам з тым робіць дрэнны уплыў на другіх вучняў клясы. Асабліва бескарысна другагодніцтва для пераросткаў.

### Перш за ўсё трэба паставіць слабейшага вучня ў самыя спрыяючыя ўмовы работы

Пасьпяховасьць вучняў трэба выяўляць як мага раней і з самага пачатку году паставіць слабейшых у найбольш спрыяючыя ўмовы работы. Для гэтага зьменшыць аб'ём програмы, даваць ім мінімум заданьняў, організаваць асобныя клюбныя заняткі, выдаць ім, у першую чаргу, кнігу, падручнік, дапаможнік, патрэбныя пісьмовыя прылады.

Калі адстаючых значная колькасьць, дык лепш за ўсё скласьці з іх асобную групу і вылучыць, дзе магчыма, лепшага настаўніка для непасрэднага кіраўніцтва і навучаньня.

Калі адстаючых нязначная колькасьць, і адсталасьць выражаецца ў тэй ці іншай граматычнай, матэматычнай ці правапісальнай няпісьменнасьці, дык магчыма мобілізаваць школьную організацыю, якая ў асобе мацнейшых таварышоў, пад кіраўніцтвам настаўніка, прышла-б на дапамогу, організаваўшы з слабейшых падгрупы для ліквідацыі іх адсталасьці шляхам спэцыяльных дадатковых пазаклясных заняткаў.

Калі ў клясе ёсьць разумова адсталыя, іх лепш за ўсё вылучыць, дзе магчыма, у спэцыяльную школу, паколькі выхаваньне і навучаньне разумова адсталых патрабуе прыёмаў, прыстасаваных да іх асаблівасьцяй, паколькі іх прысутнасьць са сваімі нормальнымі аднагоднікамі будзе адцягваць сілы і ўвагу настаўніка і перашкаджаць нормальнаму прасоўваньню клясы наперад. Пакіданьне-ж іх на другі год зусім бескарысна.

У кожным выпадку трэба індывідуалізаваць навучаньне і выхаваньне, прыстасоўваючы яго да разьвіцьця, нахілаў дзяцей і ўмоў школьнай работы.

### Непасьпяваючых трэба ад чаго-небудзь разгрузіць

Часта непасьпяваючыя вучні губляюць шмат часу на маляваньне ўсялякіх плякатаў, дыяграм, малюнкаў і г. д. Некаторыя працуюць у школьных і грамадзкіх організацыях. Ад чаго-небудзь лішняга, нязвычайнага іх трэба разгрузіць.

[1]) Тэзісы дакладу, які чытаны на настаўніцкай конфэрэнцыі Рагачэўск. раёну 5/XII—29 г.

**Для пасьпяховасьці мае значэньне агульнае разьвіцьцё вучня**

Трэба памятаць, што ў справе найлепшай пасьпяховасьці вучня мае вялікае значэньне яго агульнае разьвіцьцё. Актыўны ўдзел у жыцьці, розныя віды клюбных заняткаў, у прыватнасьці, радыё, тэатр, кіно, вусная і насьценная газэта і г. д.—усё гэта цікавіць, разьвівае і выхоўвае вучняў. Трэба толькі, каб у гэтыя формы работы, у першую чаргу, былі ўцягнуты слабейшыя, трэба як мага старацца, каб яны палюбілі культурнае жыцьцё.

**Актыўны ўдзел у жыцьці значна дапаможа школьнай пасьпяховасьці**

Удзел у жыцьці шляхам грамадзка-карыснай работы, у прыватнасьці, піонэрработа, дапамога партыйным і грамадзкім організацыям, работа сярод насельніцтва—ўсё гэта і разьвівае, і выхоўвае вучня. Але паколькі тое ці іншае абкружаючае асяродзьдзе не організавана, як сьлед, паколькі яно прасякнута тымі ці іншымі коснымі сіламі, тым больш патрэбна ўпартая работа, тым больш патрэбны ўдзел у жыцьці. Інакш вынікі школьнай работы будуць да некаторай ступені паралізавацца абкружаючым асяродзьдзем, і школа ня здолее належна справіцца ні з школьнай пасьпяховасьцю, ні з сваімі задачамі наогул.

Апрача таго, практыка даводзіць, што грамадзка-карысная работа дапамагае ліквідаваць адсталасьць у школьнай рабоце вучня ўжо і таму, што патрабуе ад яго адказнасьці і тым прымушае больш уважліва сачыць за сваімі памылкамі і недахопамі.

Вельмі карысным можа зьявіцца організацыя летняй школы, куды перш за ўсё трэба ўцягнуць слабейшых. Тут яны могуць выявіць свой шырокі ўдзел у жыцьці, набыць новыя і замацаваць набытыя веды і навыкі.

**Школьная работа павінна мець строга плянавы характар**

Звычайна галоўная клапатлівасьць настаўніка — гэта як мага пасьпець прайсьці програму. Часьцей за ўсё ў пачатку году мы ідзем больш-менш марудным тэмпам. Дзякуючы гэтаму к канцу году ў нашай рабоце аказваецца шмат недаробленых месц, і мы пачынаем сьпяшацца, прымушаем сьпяшацца і нашых вучняў. У канчатковым выніку мы дамагаемся таго, што наш вучань плыве па верху, глытае кніжку, зазубрывае featured рознастайныя формулёўкі, хапае вялікую колькасьць матар'ялу, але якасна ўцямлівае слаба. Якасьць, такім чынам, пераходзіць у дрэнную колькасьць. А важна ня гэта. Няхай нашы вучні з надворнага боку ведаюць меней, але затое няхай ведаюць лепш. Няхай на меншым матар'яле яны навучацца лепш працаваць. Наша краіна СССР не зацікаўлена ў такой моладзі, якая шмат ведае, але мала ўмее.

Адгэтуль строгая плянавасьць работы у мэтах яе лепшай рацыяналізацыі, нормальны навучальны год, актывізацыя мэтодаў работы—магутныя сродкі падняцьця школьнай пасьпяховасьці.

**Трэба лепш рацыяналізаваць школьную работу**

Трэба ўмець рацыяналізаваць работу, ня толькі самому настаўніку, але навучыць гэтаму і сваіх вучняў, навучыць строга рэглямэнтаваць іх працоўны дзень, дапамагчы ў складаньні бюджэту часу на бліжэйшы хаця-б тыдзень, вызваліўшы яго ад усяго лішняга і малакарыснага.

Нельга лічыць рацыянальнымі бесьперапынныя зяняткі ў 45, а тым болей 50 хвілін для малодшых груп. Перапынкі ў 5—10 хвілін для першай групы трэба рабіць праз кожныя 20-25 хвілін, для другой групы магчыма—і праз паўгадзіны, а для трэцяй і больш старэйшых заняткі можна павялічыць яшчэ больш, але ні ў якім разе не даводзіць іх звыш 45 хвілін. Дзеці з іх запасам энэргіі, жывасьцю, рухавасьцю ня здольны затрымаць увагу на працягу большага часу і ад выпадкаў парушэньня дысцыпліны пры такіх умовах нельга будзе ўхіліцца.

Разам з тым нормальным і рацыянальным трэба лічыць навучальны год з 1 верасьня па 10 чэрвеня.

У сваю чаргу год падзяляецца на чатыры вучэбныя пэрыоды з чатырма

перапынкамі: з 8 па 15 лістапада (васеньні), з 25 студзеня па 1 лютага (зімні), з 1 па 11 красавіка (вясновы), з 10 чэрвеня па 1 верасьня (летні). Дзякуючы гэтаму вучэбных працоўных дзён у годзе выйдзе 217. Адпаведна гэтаму складаецца орыентыровачны плян на год. Што датычыцца рабочых плянаў, дык яны складаюцца па пэрыодах. Першы, васеньні пэрыод — 60 вучэбных дзён, другі, зімні—57, трэці, вясновы—50, чацьвёрты, летні—50 дзён. Там, дзе бываюць адхіленьні ад гэтага тэрміну нормальнага навучальнага году, як, напрыклад, у вясковых школах, патрэбна рашучая барацьба з гэтым, іначай пасьпехаў належных нельга будзе дасягнуць.

Вельмі рацыянальным ў мэтах барацьбы з другагодніцтвам трэба лічыць пераход на сэмэстравую сыстэму. Напрыклад, у студзені 1930 году школы робяць прыём у першую групу тых дзяцей, якім да 15 студзеня скончыцца 8 год. Гэта будзе першая група першага сэмэстру. Тыя-ж, якія паступілі ў верасьні 1929 году, пераводзяцца на другі сэмэстр першае групы. Тыя-ж з паступіўшых у верасьні, якія ня могуць быць пераведзены на другі сэмэстр, застаюцца яшчэ на паўгода на першым сэмэстры. Год, такім чынам, падзяляецца на два сэмэстры, а кожны сэмэстр—на два вучэбных пэрыоды. Адсталы вучань пры такіх умовах сядзіць ў групе ня год, а паўгода. У агульным маштабе гэтая рэформа ў справе рацыяналізацыі дзяржаўных сродкаў, барацьбы з другагодніцтвам набывае вялікае значэньне.

### Формы і мэтоды работы патрэбна актывізаваць

У справе актывізацыі форм і мэтодаў работы важна, каб у заданьні для адсталых было больш уключана дынамічных і актыўна-працоўных момантаў, як, напрыклад, экскурсіі,назіраньні, досьледы, розныя графікі, дыяграмы, мадэляваньні, творчыя практыкаваньні, самастойныя пісьмовыя працы і іншае. Контрольныя пытаньні трэба даваць ня формальныя і адцягнутыя, а больш конкрэтныя і жыцьцёвыя, прыстасаваныя да разьвіцьця і здольнасьцяй тэй ці іншай групы адсталых. Трэба папрацаваць з імі над прышчапленьнем навыкаў работы над кнігаю і газэтай, складаньня конспэктаў і тэзісаў, навыкаў вуснае мовы, паколькі, як паказваюць абсьледваньні, пераважная большасьць адстаючых слаба начытана, ня ўмее працаваць над кнігай, саромлівая, з слаба разьвітай тэхнікай мовы. Калі ў школе не лябораторна-групавая, а колектыўна-клясная форма працы, дык з адсталымі трэба спачатку зрабіць папярэднюю прапрацоўку тэй тэмы або падтэмы, якая колектыўна будзе распрацоўвацца ў клясе і ўжо тады ўцягваць іх у агульны фронт усяе клясы, не забываючы пры гэтым мінімуму заданьняў і запатрабаваньняў да іх аж да таго часу, пакуль яны канчаткова ня выправяцца.

### Павінен быць сталы падлік работы

Ня меншае значэньне ў справе падняцьця пасьпяховасьці набывае і падлік работы.

У кожнай клясе трэба завесьці журнал, у якім кожны вучань адзначае, што ім зроблена па займаемай пасадзе з паказаньнем колькасьці патрачаных на яе гадзін.

У канцы кожнага працоўнага дню трэба вылучыць хаця-б 15 хвілін для таго, каб падвесьці вынікі работы за дзень (таго, што зроблена, аб чым даведаліся) і вызначыць плян работы на наступны дзень.

На штотыднёвых сходах падлічваецца школьная, клюбная, грамадзка-карысная работа школы за тыдзень. Высьвятляюцца паўстаўшыя пытаньні, вызначаецца плян работы на наступны тыдзень.

Абавязкова праводзіцца плянаваньне і падагульненьне кожнага комплексу, кожнае тэмы.

Па сканчэньні паўгодзьдзя і ў канцы навучальнага году—падагульваючыя агульна-школьныя сходы з выстаўкай усіх відаў работы, каб было магчыма прасачыць увесь вучэбны процэс вучня і на падставе гэтага падлічыць яго слабыя бакі, заняўшыся на далейшы час сталым іх зьнішчэньнем.

Разам з тым трэба ўзмацніць об'ектыўныя формы падліку (тэсты) і цурацца суб'ектыўных, як усялякага роду залікаў, экзаменаў і г. д.

Вялікую карысьць можа прынесьці колектыўны абмен вопытам і вынікамі работы паміж бліжэйшымі, хаця-б суседнімі школамі.

**Патрэбна ўпартая барацьба з неакуратным наведваньнем школы**

У мэтах продукцыйнасьці работы трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на акуратнае наведваньне школы вучнямі. Гэтую справу прыходзіцца контраляваць і штурхаць як настаўніку, так і школьнай організацыі. Таксама патрэбна сталая дагаворанасьць з бацькамі. Раз вучань па тых ці іншых прычынах ня можа зьявіцца ў школу, бацькі аб гэтым паведамляюць. Раз вучні тры дні не зьяўляюцца ў школу без паведамленьня прычын, школа робіць аб гэтым запытаньне ў бацькоў.

**Трэба наладзіць моцную сувязь школы з сям'ей**

Часта бацькі не дапамагаюць сваім дзецям таму, што ня ведаюць, але часта маглі-б дапамагчы, але ня ведаюць, як і ў чым. У тым і ў другім выпадку настаўніку трэба прыйсьці на дапамогу.

Як вядома, непасьпяховасьць вучняў, большасьць іх дрэнных учынкаў часта залежыць ад таго, што бацькі ня могуць скарыстаць энэргію дзяцей у патрэбным напрамку. На выхаваньне часта маюць месца дамастроеўскія погляды. Бацькі часамі караюць дзяцей, не разьбіраючыся ў тым, за што караюць. Напрыклад, б'юць за тое, што дзеці дрэнна сьпяць або ядзяць. Для лепшага высьвятленьня адносін бацькоў да дзяцей карысна правесьці анкету, хаця-б у форме тых пытаньняў, якія зьмешчаны ў „Методическом путеводителе“ № 9 за 1929 г., а менавіта:

1. Як цябе караюць?
2. За што караюць?
3. Чым выкліканы твае дрэнныя ўчынкі?
4. Якія захады на цябе больш за ўсё дзейнічаюць?
5. Узрост, соцыяльны стан.

Падагуліўшы вынікі анкеты, будзе лепш відаць, на што зьвярнуць увагу, у якім напрамку праводзіць работу сярод бацькоў. У кожным разе трэба часьцей праводзіць бацькаўскія сходы і нятолькі агульна-школьныя, але і па групах. Прапрацаваць карысна такія пытаньні:

1. Дапамога бацькоў у грамадзка-карыснай рабоце школы.
2. Даклад загадчыка аб рабоце школы і яе пасьпяховасьці.
3. Чым могуць дапамагчы бацькі ў хатняй рабоце вучняў?
4. У чым і чаму не пасьпяваюць дзеці?
5. Формы і мэтоды школьнае работы.
6. Ці трэба караць або даваць узнагароду дзецям?
7. Якія парадкі ў нашай школе?

Трэба заўсёды памятаць, што без належнай дапамогі сям'і школе цяжка будзе справіцца з сваімі задачамі. Наадварот, часьцей за ўсё захады выхаваўчага і навучальнага характару, якія ўжываюцца школай, будуць цалкам паралізавацца хатнімі сродкамі.

**Школьная пасьпяховасьць шмат залежыць і ад хатніх умоў вучня**

Нельга забываць і аб хатніх умовах вучня. Часта яны бываюць зусім дрэнныя. У такім разе трэба, каб у школе быў адведзены самы лепшы пакой, дзе-б адстаючыя маглі зьбірацца для тых ці іншых дадатковых школьных заняткаў. Зразумела, бацькі аб гэтым павінны ведаць і адпушчаць сваіх дзяцей. Настаўніку і школьнай організацыі зьвярнуць асаблівую ўвагу на дапамогу ў гэтай рабоце. Для мацнейшага вучня, які займаецца з слабейшымі, гэта будзе ўдзячнай грамадзкай работай.

Разам з тым трэба павесьці кампанію за дзіцячыя куткі ў сям'і. Часта сям'я магла-б даць дзіцяці спрыяючыя хатнія ўмовы, але яна мала з ім лічыцца. У шмат якіх сем'ях дзіця ня мае дзе прытуліцца не таму, што для гэтага няма месца, а таму, што ніхто з бацькоў аб гэтым не паклапаціўся і мала хто разумее, што дзіцяці гэта патрэбна дзеля таго, каб пасьпяваць у сваёй школьнай рабоце.

**Пытаньне пра школьную пасьпяховасьць—ў значнай ступені пытаньне экономічнага характару. Патрэбна дапамога комсодаў**

Зьяўляецца бясспрэчным той факт, што пераважная большасьць дзяцей, якія маюць дрэннае харчаваньне, звычайна і дрэнна вучацца. Такім чынам, пытаньне аб школьнай пасьпяховасьці—ў значнай ступені пытаньне экономічнага характару, але належна змагацца па гэтай лініі ў межах школьных магчымасьцяй можа толькі комсод. Гарачыя сьнеданьні пры школе значна дапамогуць справе. Трэба толькі, каб узмоцненая порцыя гэтага сьнеданьня даставалася, у першую чаргу, дзецям беднаты.

Апрача таго, шмат дзяцей бываюць у хаце без усялякага нагляду. Часта сям'я ня можа даць нагляд, а часта проста ня ўмее выхоўваць. Комсод могбы ўзяць на сябе організацыю пэдагогічнай дапамогі сям'і і тым значна дапамагчы зьнішчэньню другагодніцтва і ўзмацненьню школьнай пасьпяховасьці.

**Соцспаборніцтва — магутны фактар у справе падняцьця школьнай пасьпяховасьці**

Соцспаборніцтва зьяўляецца тым творчым фактарам, дзякуючы якому продукцыйнасьць працы значна ўзрасла і дзякуючы чаму зроблены не адзін крок наперад па шляху соцыялістычнага будаўніцтва. Трэба, каб у соцспаборніцтва ўступалі ня толькі школы цалкам, але і паасобныя групы.

Плян спаборніцтва не павінен быць вельмі расьцягнуты. Ён павінен складацца з конкрэтных, магчымых для выкананьня тых ці іншых пунктаў. Яго трэба рабіць тым карацей і тым прасьцей, чым больш малодшая група.

Скажам, для першых груп можна ўвесьці такія пункты:

1) Сваячасова і акуратна выконваць школьныя заданьні і школьныя парадкі.

2) Не спазьняцца на заняткі.

3) Не прапусьціць ні аднэй лекцыі без няўважлівай прычыны.

4) Рашуча змагацца з рэлігійнасьцю.

5) Трымаць цесную сувязь з школьнікамі іншых нацыянальнасьцяй і дапамагаць ім у рабоце.

6) Колектыўна падпісацца на пазыку.

7) Дапамагаць у правядзеньні колектывізацыі, у зборы попелу, паперы непатрэбнай ды іншае.

8) Падпісацца колектыўна на газэту „Піонэр Беларусі".

Кожны пункт пляну дзеці павінны ведаць і добра разумець. Трэба, каб плян ня толькі вісеў на сьцяне школы, але і быў перапісаны ў сшытках кожнага вучня. Для праверкі выкананьня пляну соцспаборніцтва трэба скласьці асобную комісію з вучняў пад кіраўніцтвам настаўніка.

Такое належна організаванае і стала правадзімае спаборніцтва зьявіцца вялікім і магутным фактарам падняцьця школьнай пасьпяховасьці.

**У справе школьнай пасьпяховасьці мае значэньне і сьвята «Дзень школы»**

Сьвята „Дзень школы"—чыста школьнае сьвята. Абудзіць шырокую зацікаўленасьць з боку грамадзкіх організацый і ўсяго мясцовага працоўнага насельніцтва да пытаньняў школьнага жыцьця і работы вельмі патрэбна, паколькі посьпех працы будзе ў значнай меры залежаць ад таго, наколькі ў гэтым удалося прыцягнуць грамадзкую ўвагу і дапамогу. У гэтай справе можа быць карысным належна падрыхтаванае, належна організаванае штогодняе правядзеньне сьвята „Дзень школы". Пры гэтым пажадана, каб яно праводзілася не ў канцы, а ў пачатку навучальнага году.

**Для школьнай пасьпяховасьці пытаньне аб сродках узьдзейнічаньня — не апошняе пытаньне**

У справе навучаньня і выхаваньня ня меншае месца прыходзіцца адвесьці сродкам узьдзейнічаньня і школьнай дысцыпліне. І практыкай, і спэцыяльнымі абсьледваньнямі даведзена, што на дзяцей робяць лепшы ўплыў меры моральнага ўзьдзейнічаньня, як ласка, заўвага, угавор, парада, намаўленьне і г. д. Што тычыцца сродкаў адміністрацыйнага парадку, як вымова, звальненьне, перавод з аднэй групы ў другую і іншае, дык яны займаюць другараднае месца і імі прыходзіцца карыстацца толькі ў выключных выпадках.

Самае лепшае, самае пэўнае і разам з тым самае цяжкае — гэта зацікавіць вучня, абудзіць яго ініцыятыву, разьвіць у ім актыўнасьць, самастойнасьць і самадзейнасьць шляхам ужываньня тых разьвіваючых вучня форм і мэтодаў работы, аб якіх ужо было сказана вышэй.

**Здаровая школьная дысцыпліна, упартая выхаваўчая работа, уласны прыклад настаўніка—важныя моманты ў справе школьнай пасьпяховасьці**

Адна з досыць пашыраных памылак назіраецца ў тым, што настаўнік прымушае вучня працаваць, не стараючыся выхаваць у ім якасьці добрага працаўніка. Паміж тым нявыхаванае дзіця, як вядома, амаль заўсёды і дрэнна вучыцца. Дзеці бузацёрыя—звычайна дрэнныя вучні. Мы ведаем, напрыклад, што няўважлівасьць перашкаджае навучаньню. Каб яе падняць, часта пушчаем у ход такія выразы: „Дзеці, ціха!“, „Супакойцеся, дзеці!“, „Чытайце ўважліва, бо я ў вас запытаюся“ і г. д. Разам з тым нам з практыкі добра вядома, што такая профіляктыка няўважлівасьці і парушэньняў школьнае дысцыпліны ў пераважнай большасьці не дасягае мэты. Чаму? Ды таму, што мы прычын або ня ведаем, або не жадаем ведаць. Як даводзіць Блонскі, дзіця ня можа быць уважлівым, калі яго ўвага адцягваецца пабочнымі ўражаньнямі, калі ён стаміўся. А стамляюць яго працяжныя заняткі, нудныя, халтурныя лекцыі настаўніка, шумныя, занадта рухавыя перапынкі, пасьля якіх ён адпачывае ў пачатку лекцыі. Таксама дзіця ня можа быць уважлівым, калі ў клясе дрэннае паветра, калі ён хворы. Аднак і тыя дзеці, якія маглі-б быць уважлівымі, ня ўсе ўмеюць быць такімі. Часамі дзіця і ўмее, і можа быць (згодна сваіх здольнасьцяй) уважлівым, але яно ня прывыкла да гэтага. У тым і ў другім выпадку вымагаецца ад настаўніка ўпартая, абгрунтаваная на запатрабаваньнях пэдолёгіі і псыхолёгіі, профіляктыка гэтай няўважлівасьці, а ня голая, банальная фразэолёгія, накшталт памянёнай вышэй.

Падобна гэтаму трэба праводзіць работу і па выхаваньні ў вучня акуратнасьці, ахайнасьці, добрасумленнасьці і настойлівасьці ў рабоце, пытлівасьці розуму, без чаго ён ня здолее добра працаваць, ня здолее выявіць ні сваёй самастойнасьці, ні самадзейнасьці, ні творчай ініцыятывы.

Але ўсе пералічаныя якасьці будуць у значнай меры залежаць і ад таго, наколькі сам настаўнік уладае імі, наколькі ён сам падае ў гэтым прыклад, умее жыва праводзіць лекцыі і карыстаецца адпаведным аўторытэтам.

Адгэтуль альфай і омэгай у посьпехах выхаваньня і навучаньня трэба лічыць той факт, як сам настаўнік выхаваны і падрыхтаваны да пэдагогічнай работы, як умее ён увязваць выхаваньне з навучаньнем і тое і другое з абкружаючым працоўным жыцьцём, з будучай працай вучня, з яго здольнасьцямі і нахіламі.

**Заключны вывад**

Усе пералічаныя сродкі падняцьця школьнай пасьпяховасьці далёка не прадбачаць усіх тых цяжкасьцяй, якія могуць сустрэцца ў тэй ці іншай школе пры правядзеньні іх у жыцьцё. Яны бязумоўна ёсьць, але перамагчы іх можна і трэба.

Значна дапаможа ў гэтым колектыўны абмен вопытам хаця-б паміж суседнімі бліжэйшымі школамі. Найбольш сталы мэтод для гэтага—вывучэньне прычын непасьпяховасьці. А адгэтуль—адпаведная профіляктыка, шырокае ўзаемадзеяньне тых шляхоў падняцьця школьнай пасьпяховасьці, аб якіх сказана вышэй.

У кожным выпадку пры сучасных умовах работы пакіданьне на другі год можа быць дапушчана толькі пры ўмове сталага падліку наведваньня, здароўя вучня, яго адносін да работы і ўсіх тых перашкод, якія стаялі на шляху нормальнага ходу заняткаў.

У нашу эпоху напружнага тэмпу будаўніцтва соцыялізму ўпартая работа за паляпшэньне продукцыі школьнай работы—неадкладная справа, іначай школа ня справіцца з сваімі задачамі, яна ня выканае таго, што на яе ўскладае сучаснасьць.

Л. Ш

# ШКОЛА І РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ ПАШТОВЫХ ОПЭРАЦЫЙ

Колегія НК РСІ, заслухаўшы даклад інстытуту тэхнікі кіраўніцтва аб рацыяналізацыі паштовых опэрацый, ухваліла ўвесьці ў працоўных школах навучаньне ўсіх вучняў правілам рацыянальнага афармленьня паштовых адпраўленьняў.

Шпаркі рост гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў нашай краіне выклікае сабою і адпаведны рост і шпаркасьць паштовага звароту.

Ужо ў сучасны момант нашай пошце даводзіцца перапрацоўваць штодзённа каля сямі мільёнаў рознага роду паштовых адпраўленьняў, пры гэтым колькасьць іх узрастае з кожным днём на 12-15 проц.

Дзякуючы такім грандыёзным памерам корэспондэнцыі, усякі, на першы погляд нават нязначны, недахоп, ці няправільнасьць, якія дапушчаюцца асобамі пры адпраўцы лістоў, выклікае вялікія цяжкасьці ў рабоце пошты, утрудняе прасоўваньне і дастаўку і вельмі часта служыць прычынай засылак і не атрыманьня паштовых адпраўленьняў адрэсатамі.

Народным Комісарыятам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі ўстаноўлена, што пераважная большасьць корэспондэнцыі паступае ад адправіцеляў на пошту менавіта ў далёка нездавальняючым выглядзе, што бясспрэчна зьяўляецца вынікам недастатковага знаёмства працоўнага насельніцтва з работаю пошты наогул і рацыяналізатарскімі запатрабаваньнямі па апрацоўцы корэспондэнцыі ў прыватнасьці.

Ясна, что побач з партыйнымі, савецкімі, профэсійнымі і грамадзкімі організацыямі павінна адыгрываць вялікую ролю і школа ў справе азнаямленьня з работаю пошты і афармленьнем лістоў перад адпраўкай на пошту.

Школа павінна паставіць сваёй задачай ня толькі азнаёміць з гэтай справай вучняў, а праз іх - і бацькоў вучняў, а праз тых і другіх—шырокія колы працоўнага насельніцтва.

Растлумачальная работа можа і павінна праводзіцца ня толькі ў першапачатковых і сямігадовых школах, а і ў тэхнікумах і ў профшколах, зьвязваючы па магчымасьці гэтую работу з выкладаньнем па комплексу і асобнымі прадметамі ў старэйшых клясах сямігодак, а таксама профшкол і тэхнікумаў. Апроч таго, у гэтай справе могуць быць выкарыстаны насьценгазэты пералічаных навучальных устаноў.

Гутаркі па пытаньнях работы пошты наогул і афармленьня корэспондэнцый пры адпраўленьні на пошту павінны разгортвацца сярод вучняў і бацькоў навокал такіх момантаў:

1) правільнае наклейваньне паштовай маркі;

2) правільнае, чоткае пісаньне адрэсу і яго разьмяшчэньне на конвэрце;

3) неабходнае і абавязковае пісаньне на пярэдняй старонцы конвэрту, ніжэй адрэсу, па якому накіроўваецца ліст, пад рыскай свайго ўласнага адрэсу.

Па пункту першаму трэба растлумачыць вучням і іх бацьком (праз вучняў і агульныя сходы), што правільнае наклейваньне маркі (паказаць практычна, дзе менавіта трэба клеіць марку) палягчае справу штэмпэляваньня корэспондэнцыі спэцыяльнай машынай, якая можа прапусьціць (заштэмпэляваць) у адну гадзіну 40.000 лістоў, у той час, як ручным спосабам можна прапусьціць самае большае 3.000 у гадзіну. Адначасна з гэтым трэба адзначыць, што наклееная марка на сваім месцы (пярэдняя старонка, правы верхні рог) дае магчымасьць хутка праверыць правільнасьць самой маркі, адрэсу і рабіць сартыроўку лістоў па розных напрамках (чыгунках, гарадох, вёсках, паштовых вагонах і г. д.).

Па другому пытаньню трэба растлумачыць значэньне правільна і ясна напісанага адрэсу, як усё гэта палягчае работу пошты, спрыяе правільнаму

звароту паштовай корэспондэнцыі. Трэба дакладна пазнаёміць вучняў і бацькоў з парадкам разьмеркаваньня адрэсу на лісьце, адзначыўшы, што на першым месцы трэба заўсёды пісаць, куды адрэсаваны ліст (для дробных гарадоў—апрача гораду, паказаць і акругу, для сельскіх раёнаў—паказаць перш за ўсё паштовае аддзяленьне, акругу, раён і сяленьне); на другім месцы трэба паказаць вуліцу, № дома і № кватэры (дзе ёсьць такая нумэрацыя); на трэцім месцы трэба пісаць, каму адрэсаваны ліст (г. зн.—імя, па бацьку і прозьвішча, ці назву ўстановы).

Нарэшце, па трэцяму пытаньню трэба паказаць, што ліст, на якім ёсьць адрэс адправіцеля, можа зьвярнуцца назад адправіцелю ў тым выпадку, калі па тых ці іншых прычынах ён не пападзе адрэсату—гэта адзін бок справы. Другі бок справы, што ліст, на якім ёсьць адрэс адправіцеля, лістаносец заўсёды будзе мець поўную магчымасьць праверыць, ці сапраўды той атрымаў ліст, каму ён адрэсаваны, шляхам запытваньняў: „Ад каго Вы чакаеце ліст“. Правяраючы адрэс адправіцеля ліста, папярэджваюцца такія злоўжываньні, як перахват чужых лістоў з мэтай скарыстаньня іх у сваіх якіх-небудзь асабістых інтарэсах і г. д.

Узоры правільна напісаных адрэсоў.

## У ВЕСКУ

**П. А. Русакі, Полацкай акругі, Фрунзаўскі раён, вёска Багданаўка.**

Марка

**ІВАНУ МІКАЛАЕВІЧУ ЯСНАМУ.**

**Ад М. А. АЎДЗЕЕВА, Менск, Савецкая, 26.**

## У ГОРАД

**МЕНСК**
**Савецкая 113, кв. 15**

Марка

**ІВАНУ КАРЛАВІЧУ САМКОВІЧУ.**

**Ад П. С. Прохарава, П/А Русакі, Бабруйскай акругі, в. Навасёлкі.**

Для лепшага замацаваньня вучнямі вызначаных правіл трэба:

1. Даць ім некалькі практыкаваньняў:

а) правільна, ясна напісаць свой уласны адрэс;

б) напісаць і правільна разьмясьціць адрэс на лісьце ў вялікі горад, маленькі горад і вёску.

2. Калі недалёка ад школы ёсьць пошта, дык правесьці туды экскурсію. У выпадку патрэбы запрасіць загадчыка поштай, які-б зрабіў вучням інформацыю па усіх вышэй закранутых пытаньнях. Рабіць такія даклады уваходзіць у просты абавязак кожнага з іх, згодна загаду Народнага Комісарыяту Пошты і Тэлеграфу.

У мэтах хутчэйшага ўкараненьня ў масы працоўнага насельніцтва правіл рацыянальнага афармленьня лістоў, трэба дзецям унушыць, каб яны, пішучы лісты сваім знаёмым, бацьком абавязкова прытрымліваліся ўсіх гэтых правіл. Апрача таго, сачылі-б за тым, каб іх знаёмыя па прадпрыемству, колгасу, саўгасу, вёсцы і г. д. наклейвалі правільна маркі, пісалі правільна адрэсы на конвэртах і паказвалі ў лістох свае адрэсы ў адпаведнасьці з усімі вышэй азначанымі правіламі.

Вось у асноўным да чаго можа быць зьведзена работа настаўнікаў, вучнёўскага школьнага самакіраваньня і школьнай піонэрорганізацыі па азнаямленьню вучняў, іх бацькоў і наогул працоўнага насельніцтва з працай пошты і правіламі падрыхтоўкі лістоў для адпраўкі на пошту.

У. З. РАМАНІНАЎ

# ЛІТАРАТУРНЫ ГУРТОК

Калі ў галіне навучальнай работы мы маем больш-менш сталыя кіруючыя паказаньні аб зьмесьце і форме організацыі яе, дык у адносінах да пазашкольных заняткаў справа абстаіць дрэнна. Да апошяга часу няма больш-менш стабілізаваных програм, чаго, мусіць, і ня можа быць, дзякуючы спэцыфічным асаблівасьцям работы па-за школай. І кіруючыя органы, і школы, ня маючы досыць здавальняючай тэорытычнай распрацоўкі пытаньня пазашкольнай работы, прымушаны ісьці амаль што выключна вопытным шляхам і рабіць самастойныя вывады.

Інстытут мэтодаў пазашкольнай работы, пасьля дасьледваньня цэлага шэрагу маскоўскіх школ, прышоў да наступных вывадаў агульнага характару: пазашкольная работа ў сваім разьвіцьці перажывае тры стадыі:

1. Пазашкольная работа—як дапамагаючая школьнай: усё, што ні робіцца па-за клясай, накіравана ў бок павялічэньня і паглыбленьня вучнёўскіх ведаў, якія набываюцца ў клясе, зьяўляецца, такім чынам, простым працягам звычайных клясных заняткаў.

2. Пазашкольная работа выходзіць за межы клясных заняткаў, організуецца ў форме клюбу, але клюбу, які замкнёны ў сваіх сьценах.

3. Пазашкольная работа ня зьвязана з кляснай. Клюб не замыкаецца ў сябе, яго работа выходзіць за межы школы і прымае такі характар, што мае значэньне як грамадзка-карысная.

Апошняе нельга ня лічыць самым лепшым таму, што жыцьцё патрабуе ад усіх культурна-асьветных установаў не замыкацца ў сабе, а выносіць свае дасягненьні ў масы. Савецкая грамадзкасьць праз друк заўсёды дае нам цэлы шэраг чарговых заданьняў, і абавязак кожнай школы—улічыць разам з мясцовымі партыйнымі і профэсійнымі організацыямі, што трэба зрабіць менавіта ў даны момант у данай мясцовасьці.

Адным з відаў грамадзка-карыснай работы, якую можа ўзяць на сябе школа, зьяўляецца політасьветработа. Ня гледзячы на тое, што ў нас існуюць спэцыяльныя політасьветустановы, працаваць па лініі політасьветы павінен кожны адукаваны працоўны, а тым больш школа.

Вучнёўскія організацыі, школьныя форпосты, пэдагогічныя колектывы, абапіраючыся на ўсю вучнёўскую масу, павінны прыйсьці на дапамогу політасьветным установам, скласьці ўдарныя атрады для барацьбы на фронце культурнага будаўніцтва, за шпаркі тэмп нашага разьвіцьця па шляху да сацыялізму.

Магутным фактарам у справе правядзеньня культурнай рэволюцыі зьяўляецца літаратура. Продукцыя нашай мастацкай літаратуры ўзрастае з немавернай хуткасьцю. Дасягненьні ў гэтай галіне нават цяжка параўнаць з даваеннымі нормамі.

Чытач з нецярплівасьцю чакае выхаду ў свет новай кніжкі, з напружанай уважлівасьцю сочыць за ростам сваіх мастакоў слова. Вучнёўская моладзь з такой-жа прагнасьцю, як і дарослы чытач, калі ня з большай, накідваецца на ўсялякую кніжную навіну. У вучняў, зразумела старэйшых клясаў, надзвычайна вялікая цяга да вывучэньня літаратуры сёньняшняга дню, іх не здавальняюць школьныя програмы, якія даюць вельмі абмежаваны матар'ял па сучаснай літаратуры. Зразумела таму настойлівае патрабаваньне вучняў організаваць літаратурны гурток. Трэба адзначыць, што літаратурныя гурткі па школах значна пашыраны.

Аднак-жа нельга забываць, што побач з актыўнымі чытачамі у нас ёсьць і такая, досыць вялікая, частка насельніцтва, да якой не даходзіць мастацкае слова. Школа павінна дапамагчы ажыцьцявіць лёзунг—„кнігу—у масы“. Прасоўваньне мастацкай літаратуры ў масы—адзін з відаў грамадзка-карыснай работы школы

па лініі політасьветработы. За гэта ў першую чаргу трэба ўзяцца літаратурнаму гуртку.

Вучні з вялікай цікавасьцю і ахвотай працуюць у тым гуртку, заняткі якога выходзяць за межы акадэмічнай работы. Справа пэдагогаў—дапамагчы вучням знайсьці рацыянальную мэтавую ўстаноўку для кожнага гуртка, цесна ўвязаць заняткі з запатрабаваньнем жыцьця і інтарэсаў вучняў.

Выклікае самы рашучы протэст імкненьне некаторых школ аднесьці да клюбна-гурткавой работы вячэрнія заняткі, організаваныя з тэй мэтай, каб падагнаць заняткі па тэй ці іншай дысцыпліне. „Гэтыя заняткі дапамагаюць школе ў яе навучальнай рабоце, але яны не здавальняюць сапраўдных запатрабаваньняў і інтарэсаў вучняў“ (Львоў і Палятаева—„Организация клубной работы с детьми“). На тым-жа пункце гледжаньня стаіць і Рыбнікава: „Тэмы збораў (літгуртка) павінны грунтоўна адрозьнівацца ад клясных тэм. Тое, што цікава і на месцы ў клясе, не падыходзіць для пазашкольнай гутаркі—і наадварот“ (Рыбнікава—„Работа словесника в школе“). На практыцы-ж мы часта сустракаемся зусім з процілеглым падыходам да зьместу работы літгуртка. Некаторыя школы ставяць якраз мэтай гуртка паглыбленьне школьных ведаў і нават падрыхтоўку ў тэхнікумы[1]). Гэта напамінае адну школу, дзе літгуртком называлася група вучняў старэйшых клясаў, якая ўвечары, пад кіраўніцтвам выкладчыка мовы, займалася ліквідацыяй сваёй малапісьменнасьці.

Пры організацыі літгуртка перш за ўсё трэба зразумець мэтавую ўстаноўку яго. Прышчапіць прыгожую, вобразную мову, звычкі чытаньня, любоў да кнігі і ўменьне працаваць з ёю, палепшаньне пісьменнасьці, разьвіцьцё оратарскай мовы, выяўленьне ўласнай творчасьці, чытаньне твораў, якія не ўваходзяць у програму, паглыбленьне школьных ведаў, падрыхтоўка ў тэхнікумы на 100% (?) і г. д.—усё гэта паасобныя мэтавыя ўстаноўкі розных літгурткоў[1]). Ці могуць лічыцца яны выстарчальнымі ва ўмовах савецкае школы? Мне здаецца, што не. Пара ўжо канчаткова адмовіцца ад гурткоў, якія працуюць выключна для сябе, і організоўваць гурткі так, каб кожны з іх адказваў агульным прынцыпам пабудовы пазашкольнай работы з устаноўкай на грамадзка-карысную работу.

Выходзячы з апошняга, я прапанаваў бы мэтавую ўстаноўку літаратурнага гуртка ў наступнай формулёўцы: вывучэньне мастацкай літаратуры і популярызацыя яе сярод насельніцтва і разьвіцьцё ўласнай літаратурнай творчасьці[2]).

Якія-ж творы падлягаюць разбору ў гуртку? Творы і беларускай, і расійскай, і замежнай літаратуры. Асаблівая ўвага зварочваецца на сучасную літаратуру, на тыя творы, у якіх завастраецца пытаньне клясавай барацьбы, у якіх вырашаюцца або ўзьнімаюцца злабадзённыя пытаньні сучаснасьці, і творы, якія ў значнай меры садзейнічаюць пролетарска-клясаваму выхаваньню вучнёўскай моладзі.

Ня цяжка выбраць некалькі твораў, кіруючыся разьвіцьцём членаў гуртка, якія-б адпавядалі задачам інтэрнацыянальнага выхаваньня, асабліва барацьбы з антысэмітызмам (Гольдбэрг — „Лясны Інтэрнацыянал“, Бядуля—„Дзесяць“, Лібедзінскі — „Комиссары“ і шмат інш.). Ёсьць значны лік твораў і па антырэлігійным пытаньні (напрыклад: Галавач—„Яўленая“, Чарот—„Кірмаш“, „Бацюшка“, кніжкі Крапівы—„Біблія“, „Крапіва“ і г. д.), на расійскай мове ёсьць нават спэцыяльныя выпісы: І. Зыранаў — „Религия в художественной литературе“, „Прибой“, 1925 г. Там сабраны творы расійскіх і замежных пісьменьнікаў і разьмяркаваны па наступных тэмах: „Религия и боги“, „Церковь и духовенство“, Таинства, обряды, чудеса“, „Монастыри и монахи“, „Религия и рабочий класс“, „Крестьянство и религия“, „Религия и

[1]) Рукапісныя матар'ялы інстытуту мэтодаў пазашкольнай работы. Вынікі дасьледваньня масkоўскіх школ.

[1]) Рукапісныя матар'ялы інстытуту мэтодаў пазашкольнай работы. Вынікі дасьледваньня маскоўскіх школ.

[2]) Мэтавая ўстаноўка ў такім выглядзе склалася на падставе работы літаратурнага гуртка на працягу некалькіх навучальных гадоў у Менскай апорнай школе 9-годцы М. Б. Б. ч.

наука“. Можна чакаць выхаду новых твораў з антырэлігійным зьместам, бо ў сучасны момант савецкая грамадзкасьць накіроўвае ў гэты бок увагу пісьменьнікаў. „Пісьменьнікі — на антырэлігійны фронт!“—высоўвае лёзунг „Литературная газета“ [1]). Элемэнты ваенізацыі маюцца ў цэлым шэрагу твораў. Напрыклад, Тарас Гушча — „Сяргей Карага“, М. Гарэцкі — „На імпэрыялістычнай вайне“, Цішка Гартны—„Чырвонаармеец Панкел Ліпа“, „Сымонка - інжынэр“, Гаршын—„Денщик и офицер“, Фурманаў—„Чапаев“, Гладкоў — „Цемент“, Барбюс — „В огне“ і шмат іншых. Ёсьць нават творы, якія цалкам прысьвячаны ваеннаму пытаньню, накшталт эпопэі Серафімовіча—„Железный поток“, якую досыць удала нехта назваў „тактыкай у мастацкіх вобразах“. У якасьці выпісаў можна прапанаваць кнігу Когана—„Красная армия в художественной литературе“.

Поўнага сьпісу твораў прыводзіць ня буду [2]). Наогул гурток будзе жыцьцёвым толькі тады, калі гэты сьпіс складаецца на месяцы ў кожнай школе вучнямі разам з кіраўніком на падставе, папершае, цікавасьці вучняў і, падругое, магчымасьцяў дастаць тыя ці іншыя кнігі. Практыка паказвае, што вучні, якія ўжо прыахвочаны да пазакляснага чытаньня, заўсёды самі высоўваюць розныя кнігі, цікавыя для іх. Напрыклад, у мяне ў літгуртку (складаўся ён з вучняў 7-ай, 8-ай і 9-ай кл.) у 1928/29 н. г. вучнямі быў прапанаваны для вывучэньня такі матар'ял: творчасьць Цішкі Гартнага, Кузьмы Чорнага — „Зямля“, Новікава—Прыбой — „Ухабы“, Шолахава—„Тихий Дон“, Войніча—„Овод“ ды іншыя.

Сьпіс складаецца на вызначаны тэрмін: на 3-4 месяцы, а потым, у працэсе работы, папаўняецца, што зьяўляецца вынікам пазакляснага чытаньня, якое вядзецца ў плянавым парадку, пад кіраўніцтвам выкладчыкаў літаратуры па розных клясах, і чытаньня вучнямі новых кніжак па ўласнай ініцыятыве. У аснову папаўненьня сьпісу можна пакласьці ўсе лепшыя навіны беларускай мастацкай літаратуры і творы расійскай і замежнай літаратуры у такім, напрыклад, танным выданьні, як „Роман-газета“. Каб быць у курсе літаратурных спраў, карысна выпісваць літаратурныя часопісі і газэты.

Пераходзім да форм работы ў гуртку. Часьцей усяго ўжываецца мэтод дакладаў. Да прызначанай тэмы прапануецца быць падрыхтаванымі ня толькі аднаму дакладчыку, але і ўсім удзельнікам гуртка. Аднак, занадта злоўжываць дакладамі нядобра: яны нарэшце абрыдзяць і тады большаю часткаю вучняў будуць толькі заслухоўвацца, а актыўнага ўдзелу ў рабоце ня будзе. Трэба дамагацца, каб заняткі ў гуртку былі цікавымі, рознастайнымі і паступова перараблялі пасыўных вучняў у актыўных грамадзкіх работнікаў. Карысна бывае, замест дакладаў, наладжваць літаратурныя гутаркі, якія зьяўляюцца адным з сродкаў ажыўленьня работы.

Загадзя кіраўнік дае некалькі пытаньняў пра твор. Вучні, кожны асобна або групамі, рыхтуюцца да гутаркі: чытаюць вызначаныя творы, крытычныя артыкулы, абдумваюць пытаньні. Для ўцягваньня ў гутарку ўсіх членаў гуртка, у некаторых выпадках за кожнымі 2-3 вучнямі замацоўваецца паасобнае пытаньне, што, бязумоўна, не выключае магчымасьці выказвацца па даным пытаньні ўсім жадаючым. Кіраўнік па кожным пытаньні выказвае сваю думку апошнім. Яго абявязкам зьяўляецца рабіць падагульненьні, накіроўваць гутарку па правільным шляху, але ні ў якім разе не рабіць навучаньняў.

Побач з гутаркамі стаіць пытаньне пра організацыю літаратурных судоў над гэроямі, або творамі, або аўтарамі. Да ўдзелу ў судох можна прыцягнуць таксама ўсіх членаў гуртка: адны выступаюць у якасьці абвінавайцаў і абаронцаў, другія—судзьдзяў, трэція—сьведак. Аднак, такая форма судоў выклікае ў мэтодычнай літаратуры супярэчаньні. Напрыклад, Гусеў („Литературные суды и литературные собеседования“, зборнік „Изучение литературы в школе“) лічыць,

[1]) „Литературная газета“, 1929 г., № 9.

[2]) Узорны сьпіс гл. у зборніку „Клюбна-гуртковая праца сямігадовай школы“, вып. II. Б. Д. В., 1928 г.

што судоў з выконваньнем усіх правіл судаводзтва лепей не наладжваць; прамовы абвінавайцаў і абаронцаў -- вось галоўнае і карыснае ва ўсім судзе. „Усё іншае служыць непатрэбным, ускладняючым дадаткам“. З такім поглядам нельга не згадзіцца. Адмовіўшыся ад судоў, мэтазгодна стаць на шлях арганізацыі літаратурных дыспутаў. Калі абіраецца знаёмая і цікавая для вучняў тэма, дыспуты праходзяць з надзвычайным ажыўленьнем і вабяць да сябе ня толькі вучняў, але і дарослых—бацькоў і настаўнікаў, якія, часам не чакаючы таго, самі ўвязваюцца ў спрэчкі. Удзел дарослых у некаторых відах заняткаў літгуртка (у гутарках, дыспутах) дапамагае паглыбленьню работы яго, павялічэньню зацікаўленасьці вучняў, наладжваньню добрых таварыскіх адносін паміж вучнямі і настаўнікамі.

Добрыя вынікі ад сумеснай работы будуць толькі ў выпадку абявязковага выконваньня дарослымі ўсіх правіл гуртка. Акрамя таго, дарослым трэба адносіцца да дзяцей і падлеткаў як да роўных сабе таварышоў і ні ў якім разе не падаўляць сваім аўторытэтам дзіцячыя погляды на тое ці іншае пытаньне і не перашкаджаць такім чынам разьвіцьцю маладой творчай думкі.

І гутаркі і дыспуты патрабуюць старannай, удумлівай падрыхтоўкі, толькі тады яны прынясуць сапраўдную карысьць, і лепей зусім не рабіць іх, чым рабіць абы як.

Яшчэ адным з відаў работы зьяўляецца правядзеньне экскурсій. Экскурсійны мэтод у літаратуры—справа яшчэ параўнаўча новая. Тэорытычна пытаньне ўжо распрацавана некаторымі мэтодамі. Даволі багаты вопыт літаратурных экскурсій ёсьць ў Маскве, але я, мусіць, не памылюся, калі скажу, што ў практыцы як кляснага, так і пазакляснага выкладаньня літаратуры ў беларускіх школах экскурсійны мэтод мае зусім нязначнае пашырэньне. Літаратурныя экскурсіі, як адзін з актыўных мэтодаў, пашыраецца і ў нас на Беларусі, і тады толькі на падставе вопыту асобных школ мы атрымаем конкрэтныя прапановы ў галіне тэорыі і практыкі экскурсій па літаратуры наогул і па беларускай у прыватнасьці. Ня маючы ніякага ўласнага вопыту, я толькі прывяду клясыфікацыю літаратурных экскурсій, якую дала т. Случэўская, калі рабіла даклад у інстытуце мэтодаў пазашкольнае работы. Яна называе наступныя віды экскурсій: гісторыка-літаратурныя, псыхолёга-творчыя, тэорэтыка-літаратурныя, вобразаперажывальныя, вобраза творчыя і біографічныя. Пачаць організацыю літаратурных экскурсій—наша бліжэйшая задача.

Чарговай задачай літгуртка зьяўляецца колектыўнае наведваньне кіно і тэатраў. Праўда, з наведваньнем тэатраў справа абстаіць досыць цяжка. А што датычыцца кіно, дык яно ў наш час, заваёўваючы ўсё большыя і большыя позыцыі, пранікла ўжо ва ўсе далёкія мястэчкі, глухія вёскі. Я маю на ўвазе прагляд такіх кінофільмаў і спэктакляў, што можна скарыстоўваць для ілюстрацыі літаратурных твораў. Цяпер ужо ёсьць фільмы, якія пабудаваны на падставе зьместу вядомых мастацкіх твораў альбо біографій пісьменьнікаў[1]). Мэтодыка пытаньня пра скарыстаньне кіно ў выкладаньні літаратуры грунтоўна яшчэ не апрацавана, але некаторыя мэтодычныя прапановы маюцца. Мы ўжо ведаем, што перад праглядам і пасьля прагляду фільму праводзяцца адпаведныя гутаркі. Разабраўшы з вучнямі роман Войніча „Овод“, мы пайшлі глядзець яго ў кіно, пры чым загадзя ўмовіліся, на што трэба будзе зьвярнуць ўвагу, а на адным з

[1]) У Белдзяржкіно ёсьць наступныя „літаратурныя“ фільмы:
„Песьня вясны“ (Якуб Колас).
„Капитанская дочка“ (Пушкин).
„Сорочинская ярмарка“ (Гоголь).
„Живой труп“ (Толстой).
„Казаки“ (Толстой).
„Чины и люди“ (Чехов).
„Каштанка“ (Чехов).
„Каин и Артем“ (Горький).
„Мать“ (Горький).
„Мятеж“ (Фурманов).
„Разлом“ (Лавренев).
„Цемент“ (Гладков).
„Овод“ (Войнич).
„Джимми Хиггинс“ (Синклер).
„Кастусь Каліноўскі“.
„Тарас Шэўчэнка“.
„Ася“ (Тургенев).
„Поэт и царь“ (Пушкин).
„Россия Николая II и Лев Толстой“.

чарговых збораў правялі гутарку па наступных разьдзелах:

1. Розьніца паміж зьместам роману і кінофільму, прычыны яе.

2. Галоўныя вобразы (тыпы) роману на экране у выяўленьні рэжысэра і артыстах ў параўнаньні з уяўленьнем пры чытаньні кнігі.

3. Што больш цікава і карысна: чытаць твор або глядзець яго ў кіно.

У выніку спрэчак па апошнім пытаньні згадзіліся на думцы, што больш цікавым зьяўляецца наведваньне кіно пасьля прачытаньня і разбору твору, але-ж большасьцю вучняў адзначалася перавага чытаньня над глядзеньнем, бо першае пакідае больш поўнае ўражаньне і дае большы прастор для творчай фантазіі. Першы сумесны выхад у кіно зацікавіў гурткоўцаў, і ў далейшым яны заўсёды імкнуліся організаваць колектыўнае наведваньне кіно і пасьля правесьці гутарку, каб памяняцца сваімі думкамі і ўражаньнямі. Калі мы ўвядзем такія заняткі ў сыстэму і ня толькі па лініі работы літгуртка, дык уплыў кінофільмаў на дзяцей падпарадкуем пэдагогічнаму кантролю і скарыстаем кіно, як магутную зброю клясавага выхаваньня.

З мэтай ажыўленьня заняткаў у літаратурным гуртку організуюцца літаратурныя гульні, якія, акром таго, часткова садзейнічаюць паглыбленьню ведаў і дапамагаюць разьвіцьцю колектывізму, дысцыплінаванасьці, увагі, кемлівасьці, памяці [1]).

Побач з вывучэньнем літаратуры мэтай гуртка зьяўляецца і разьвіцьцё творчасьці вучняў. У сувязі з гэтым некаторы час аддаецца на практыкаваньне ў розных літаратурных жанрах і ў складаньні крытычных артыкулаў і рэцэнзій. Члены гуртка павінны ўцяміць тэхніку выданьня і рэдагаваньня насьценгазэты, а таксама быць актыўнымі корэспондэнтамі яе, для чаго праводзіцца азнаямленьне са ўсімі відамі газэтнай корэспондэнцыі (заметка, артыкул, фэльетон ды інш.). Каб аўладаць тэхнікай складаньня іх, трэба займацца разборам з боку зьместу і формы як газэтнага матар'ялу, так і сваіх корэспондэнцый, асабліва нарысаў. Удзел у вучнёўскай газэце будзе добрай школай для членаў гуртка і дасьць магчымасьць у далейшым многім з іх зрабіцца сур'ёзнымі рабкорамі цэнтральных і мясцовых газэт. Пэрыодычнае выданьне літаратурна-мастацкага часопісу або эпізадычнае—літзборніку дасьць магчымасьць вучням зьмяшчаць у іх вопыты сваёй мастацкай і крытычнай творчасьці. Пасьля выхаду часопісу або зборніку (яны рукапісныя) наладжваецца чытка і разбор матар'ялу, што зьмешчаны ў іх [1]). Некаторыя мастацкія творы могуць давацца ў розныя газэты, а ў першую чаргу—школьную насьценную.

Усе пералічаныя вышэй віды заняткаў літаратурнага гуртка, як паказвае вопыт, прыносяць карысьць для вучняў і робяць заняткі ў гуртку цікавымі, але гэта не азначае, што і дыспуты, і гульні, і наведваньне кіно, і выданьне літзборніку зробяцца абавязковымі пры організацыі заняткаў, бо на працягу аднаго году работы выканаць усё будзе досыць цяжка.

Трэба яшчэ дадаць пра бібліографічны аддзел у насьценгазэце. У кожным нумары насьценгазэты сваёй, школьнай і вытворчых або профэсійных газэтах дарослых (школа павінна быць зьвязана з вытворчасьцю) зьмяшчаюцца водзывы пра кнігі. Водзывы складаюцца ў процэсе работы гуртка ў выніку колектыўнага разбору твораў і пра кнігі, якія чытаюцца вучнямі дома, складаюцца членамі гуртка, потым абгаварваюцца на агульным сходзе і праглядаюцца кіраўніком і толькі тады ўжо накіроўваюцца ў рэдакцыю. Мэта кожнага водзыву—агітаваць за чытаньне тэй ці іншай кнігі. Такое-ж агітацыйнае значэньне мае і складаньне сьпісаў мастацкіх твораў па спэцыяльных тэмах (напрыклад: „Клясавая барацьба на Беларусі", „Эксплёатацыя рабочых капіталістымі ў розных дзяржавах", Грамадзянская вайна ў мастацкай літаратуры", „Соцыялістычнае спаборніцтва ў мастац-

[1]) Аб літаратурных гульнях гл. у „Асьвеце" за 1929 г., № 4 на стар. 43-51.

[1]) Болей падрабязна—у „Асьвеце" за 1929 г., № 5-6, на стар. 121-125.

кай літаратуры“ і да т. п.[1]) Складаюцца сьпісы спэцыяльнымі комісіямі з членаў гуртка, потым абгаварваюцца, выпраўляюцца і дапаўняюцца. Сьпісы служаць матар'ялам для ўтварэньня плякатаў. Плякаты выконваюцца як мага прыгажэй сваімі мастакамі і вывешваюцца ў клюбнай і школьнай бібліотэках.

Вялікае значэньне ў справе популярызацыі мастацкай літаратуры маюць літаратурныя вечары ў клюбе і школе. Лепшая форма літаратурнага вечару—ілюстрацыйны вечар. Гэтыя вечары зьяўляюцца добрым сродкам распаўсюджваньня ведаў у галіне літаратуры і роднае літаратурнае мовы сярод рабочых і сялян Беларусі. Праўда, ілюстрацыйныя вечары патрабуюць шмат часу і стараннай падрыхтоўкі, але-ж вынікі ад іх апраўдаюць затрачаны час.[2])

Засталося сказаць яшчэ аб адным відзе грамадзка-карыснае работы—аб расказваньні. Гэтае пытаньне добра высьвятляе ў сваім артыкуле „Задачи современного рассказывания“ Глаголева[3]), у пачатку якога яна кажа: „Нельга будаваць новы сьвет, ісьці да комунізму, ня ўмеючы граматна гаварыць. Вось чаму мэтод расказваньня атрымоўвае шырокае распаўсюджваньне ў СССР“. Савецкая пэдагогіка „надае вялікае значэньне культуры слова, культуры мовы. Мова была, ёсьць і будзе вельмі значным фактарам соцыяльнага жыцьця, магутнай прыладай барацьбы за жыцьцё“... Выходзячы з ўсяго гэтага, мы не памылімся, калі згадзімся з Глаголевай, што на расказваньне ў школе трэба зварочваць увагу ня толькі на лекцыях, дзе аддаецца вядомы час на разьвіцьцё вуснае мовы, але і ў пазакляснай рабоце і ў першую чаргу ў літаратурным гуртку. Мэтод расказваньня займае выдатнае месца сярод мэтодаў політасьветработы. Кнігі не заўсёды даходзяць у нас да чытача, бо значная частка насельніцтва Саюзу малапісьменная. Мы яшчэ жывем у такіх умовах, што расказчыка даводзіцца скарыстоўваць замест кнігі. „Вось якое значэньне мае расказваньне для слухачоў“, кажа Глаголева: „яно набліжае кнігу да шырокіх мас, навучае слухаць, падвышае культуру мовы, выхоўвае эмоцыіі разьвівае вобразнае мышленьне, дае веды, зьберагае час, абуджае дзейнасьць і творчасьць“. Вялізарную грамадзка-карысную работу правёў бы школьны літгурток, каб, падрыхтаваўшы хаця невялікі кадр расказчыкаў, узяў на сябе сыстэматычнае выступленьне з расказваньнем перад дзіцячай аудыторыяй (у школе, піонэрскім клюбе), рабочай (у чытальні пры бібліотэцы і ў часе абеду ў сталоўцы пры прадпрыемстве), сялянскай (у доме селяніна—у горадзе, у хаце-чытальні—на вёсцы). Што расказваць? Мастацкую літаратуру: паасобныя дробныя творы і зьмест буйных твораў (першае лёпей). Глаголева прапануе праводзіць вечары расказваньня на такія, прыкладна, тэмы: „Ленін“, „Новы быт“, „Рэлігійны дурман“. Якія здольнасьці павінны быць у расказчыка? Папершае, яму трэба ўладаць жывой, вобразнай мовай, падругое, добрым вымаўленьнем і, нарэшце, ахвотай і ўменьнем пільна рыхтавацца да выступленьняў. Яшчэ адна заўвага. І пры добрых здольнасьцях няхай адзін расказчык не займае доўгі час аудыторыю: уражаньне застанецца лепшым, калі яны будуць зьмяняцца праз 10-15 хвілін—нормальны тэрмін для выступленьня з расказваньнем перад публікай аднэй асобы.

**Вучот работы літаратурнага гуртка**

Форма № 1

| Час і месца работы | Склад і лік прысутных | Тэма работы | Формы работы | Хто з членаў гуртка прымаў актыўны ўдзел у рабоце; у чым ён заключаўся | Найбольш цікавыя моманты ў рабоце | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |

2-ая форма—вучот наведваньня гуртка—аналёгічная форме вучоту наведваньня клясных заняткаў. Вялікае значэньне для посьпеху ў рабоце мае дысцыпліна, а таму бюро гуртка разам з кіраўнікам павінны ўстанавіць яе з першых збораў.

[1]) Для ўзору гл. Поляк—„Указатель художественной литературы на социальные темы, Неўскі—„Беллетристика на социальные темы“, „Спутник читателя“, изд. „Прибой“.

[2]) Аб літаратурных вечарох гл. у „Асьвеце“ за 1928 г., № 7, стар. 88—89.

[3]) „Народный учитель“, 1925 г., № 3.

Прынцып запісу ў гурток дабравольны, але наведваньне заняткаў яго абавязковае: толькі ў такім выпадку можа разьвівацца здавальняючая работа. Таксама абстаіць справа і з рознымі абавязкамі: кожнае заданьне вучань бярэ на сябе толькі тады, калі хоча, але выконваць яго павінен уважліва і ў вызначаны тэрмін. Тых, хто ня выконвае гэтых правіл, а таксама тых, хто перашкаджае рабоце, агульны сход выключае з гуртка.

Усё, пра што казалася вышэй, дае некаторыя практычныя прапановы аб тым, што і як рабіць у школьным літгуртку, які складаецца з вучняў старэйшых клясаў (7-й і вышэй). Аднак яшчэ раз паўтараю, што зрабіць усё, аб чым тутака было расказана, на працягу аднаго году з сярэднім літгуртком надзвычайна цяжка, але многія прапановы могуць быць скарыстаны пры організацыі літгуртка кожным гурткаводам.

Кіраўнік гуртка—выкладчык літаратуры. Ён павінен карыстацца аўторытэтам сярод вучняў і ўмець так організаваць заняткі, каб яго прысутнасьць не перашкаджала разьвіцьцю ініцыятывы і самадзейнасьці вучняў.

Адначасова кіраўніку заўсёды трэба памятаць, што, як справядліва кажуць Львоў і Палятаева[1]): „няма ніякай патрэбы падтрымоўваць жыцьцё таго ці іншага гуртка, калі ў клюбістаў або здаволены запатрабаваньні, або цікавасьць да работы гуртка дашчэнту зьнікла...“ бо „цікавасьць да работы зьяўляецца асноўным стрыжнем заняткаў гуртка“.

[1]) Львоў і Палятаева—„Организация клубной работы с детьми“.

---

В. КУНЦЭВІЧ

# ЭКСКУРСІІ НА ШКОЛЬНЫ ВУЧАСТАК

(*Да вывучэньня шкоднікаў сельскай гаспадаркі*)

У програмах па прыродазнаўству для VI клясы, як вядома, вялікае месца займаюць шкоднікі і прыяцелі сельскай гаспадаркі. Зразумела, пры наданьні прыродазнаўству выразнага сельска-гаспадарчага ўхілу вывучэньне жывёл безадносна да сельскай гаспадаркі быць ня можа. Яскрава прыкладны політэхнічны зьмест маюць програмы і па другіх прадметах. Аднак, політэхнізацыя ўнесла нешта зусім новае ня толькі ў програмны зьмест, але і ў мэтоды выкладаньня прыродазнаўства.

У мінулыя гады пераходы ў нас адбываліся ад разьмеркаваньня програмнага матар'ялу паводле натуральнай сыстэмы да разьмеркаваньня па „згуртаваньнях“, як поле, гарод ды інш. Пры такіх зьменах форма вывучэньня жывёл паводле тыповых прыкладаў з яе добра распрацаванымі мэтодамі ў сутнасьці заставалася бяз зьмен. У сучасны момант мы прымушаны такую форму некалькі пераглядзець. На самай справе, вывучэньне тых ці іншых шкоднікаў, толькі як прадстаўнікоў акрэсьленай групы жывёл з іх спэцыфічнай морфолёгіяй і біолёгіяй, траціць сэнс. Перад выкладчыкам цяпер стаіць задача дакладнага вывучэньня жыцьця шкодніка ў мэтах аўладаньня спосабамі змаганьня з ім. Пры наяўнасьці вялізнай колькасьці шкоднікаў (і прыяцеляў) такое вывучэньне выключна мэтодамі, уласьцівымі прыродазнаўству, становіцца немагчымым. Выкладчыку даводзіцца ўсё часьцей пераходзіць ад мэтоду дасьледчага, да мэтодаў дэмонстрацыйнага і ілюстрацыйнага, а часамі, пры поўнай адсутнасьці ў данай мясцовасьці (і ў колекцыях) шкодніка,—і да простых гутарак...

Выключнае значэньне пры даным становішчы набываюць экскурсіі. Апошнія пры належнай іх мэтодычнай распрацоўцы дадуць выйсьце з мэтодычнай неакрэсьленасьці, якая наглядаецца ў

сучасны момант у сувязі з пераходам на працу па новых програмах.

Маленькі вопыт экскурсіі на школьны вучастак, які падаецца ніжэй, зразумела, не прэтэндуе на дасканалую распрацоўку. Экскурсія праводзілася ў першай палове верасьня.

### 1. Падрыхтоўка да экскурсіі

Перад экскурсіяй праводзіцца работа з вучнямі па высьвятленьню страт, якія прыносяць шкоднікі сельскай гаспадарцы (у даным выпадку саду і гароду)[1], разам з чым вучні звычайна прыходзяць да вываду аб патрэбнасьці вывучэньня шкоднікаў і змаганьня з імі. Далей вучні знаёмяцца з мэтодамі адшукваньня шкоднікаў і высьвятленьня шкоднай дзейнасьці і наогул іх жыцьця.

Трэба заўважыць, што ад вынікаў распрацоўкі гэтых пытаньняў у значнай ступені залежыць пасьпяховасьць усёй экскурсійнай работы. У дадатках трэба зьвярнуць увагу на належную пастаноўку запісаў аб шкодніках і іх пашкоджаньні ў часе экскурсіі.

На экскурсію трэба ўзяць наступныя рэчы:

1. Прабіркі з коркамі для збору шкоднікаў і пушачкі для тэй-жа мэты.
2. Прэс для захаваньня пашкоджаных расьлін з дастатковай колькасьцю паперы для „рубашак".
3. 2-3 садовыя нажы.
4. Марылкі для шасьцёхножак.
5. Сачок для лоўлі матылёў.
6. Некалькі рыдлёвак.
7. Лупы.
8. Сшыткі, алоўкі.

### 2. На экскурсіі

На экскурсіі ў першую чаргу дасьледуецца школьны сад. Работа праводзіцца з такім разьлікам, каб у аднолькавай ступені былі дасьледваны ствол і карона дрэва, а таксама і апаўшыя плады. У часе работы вучняў настаўніку даводзіцца часта даваць тыя ці іншыя тлумачэньні адносна некаторых выкрытых шкоднікаў, а часам і спосабаў барацьбы з імі (напрыклад, пабелка ствалоў, абрэзка сухого гальля).

У садзе адшуканы наступныя шкоднікі:

Яблыневы кветажэр (Anthonomus pomorum L). Адшукана некалькі паасобнікаў у шчылінах кары на ствале, а таксама і пад адстаўшай карой засохшых галінак. Між іншым, два паасобнікі жучка былі выкрыты сярод лішайнікаў, якія густа пакрылі стары плот, якім абгароджан сад. Разгляд і замалёўваньне жучкоў, з-за іх маленькіх памераў (усяго каля 5 мм), даводзіцца аднесьці да клясных (ці самастойных пазаклясных) работ. Меры барацьбы з жучком, як абчыстка яблыневых ствалоў ад моху, лішайнікаў і адмёршых галінак і лусак кары, а таксама пабелка ствалоў і накладка лоўчых паяскоў—разглядаюцца на экскурсіі. Пры гэтым даводзіцца зьвярнуць увагу на сваячасовае зьнішчэньне лусак кары, моху і лішайнікаў, якія ападаюць з дрэва пры яго абчыстцы.

Бялян-жываплотнік (баярышніца, Aporia crataegi L). Знойдзены гнёзды з вусенямі. Пры разглядзе гнёзд зьвяртаецца ўвага на іх будову, разьмеркаваньне ў гнязьдзе вусеняў і іх колькасьць. Надворная будова вусеня разглядалася ў часе кляснае работы. Далейшае азнаямленьне з жыцьцём матыля магчыма толькі пры наяўнасьці адпаведных (біолёгічных) колекцый, якія ў нас, за рэдкімі выключэньнямі, пакуль што адсутнічаюць. Між іншым, пры разглядзе разьвіцьця матыля цікава зьвярнуць увагу вучняў на паходжаньне забабонаў аб „крывавых дажджох" (пасьля выхаду з кулька матылі выпускаюць з апальнай адтуліны кроплі чырвонаватых выпражненьняў. Пры масавым зьяўленьні матылёў лісьце бывае пакрыта выпражненьнямі, як бы кроплямі крыві).

Яблыневая пладажорка (Carpocapsa pomonella L). Збор яблыкаў, апаўшых з дрэў, дае надзвычайна багаты матар'ял для

[1]) Пытаньне больш падрабязна высьвятляецца пасьля экскурсіі.

вывучэньня шкоднай дзейнасьці вусеня пладажоркі. Апрача вусеняў, на экскурсіі ўдалося адшукаць і іх шоўкавістыя капшучкі (на плоце і ў шчылінах кары). Для вывучэньня вусеня і яго дзейнасьці на сабраным матар'яле вучні высьвятлялі наступнае: 1) надворная будова і афарбоўка вусеня, 2) рух, 3) дыхальцы (дзе зьмешчаны), 4) хады вусеня ў яблыку (у якім месцы найчасьцей пранікае ў яблыка), 5) капшучок вусеня, затрыманьне яго разьвіцьця на працягу зімы (дыяпаўза), 6) пры наяўнасьці матылька зьвярнуць увагу на яго ахоўную афарбоўку і жыцьцё. Сродкі барацьбы з яблыневай пладажоркай даводзіцца аднесьці да клясных занядкаў.

Агрэставы пільнік (Nematus ventricosus Kl). Значная колькасьць кустоў смуродзіны і агрэсту з моцна аб'едзеным лісьцем прымусіла пашукаць шкодніка. Аднак, шкоднік, відавочна, ўжо накіраваўся на зімоўку (чарвяк зімуе ў зямлі), бо толькі пасьля доўгіх пошукаў удалося выкрыць некалькі маленькіх брудна-зялёных з чорнымі кропачкамі і чорнай галавой вусеняў агрэставага пільніка. Жучка не адшукалі.

Дрэваточац пахнючы (Cossus L). На аднэй з яблынь выкрылі хады вусеня дрэваточца. Самога вусеня дастаць з драўніны не ўдалося. Абмежаваліся агульным аглядам яго шкоднай дзейнасьці і, між іншым, зьвярнулі ўвагу на характэрны пах (нагадвае пах драўлянага воцату), які распаўсюджваўся з яго ходу ў драўніне (крыніцай паху зьяўляецца вусень).

У гародзе шкоднікаў аказалася вельмі багата. Прыводжу кароткія заўвагі аб некаторых з іх.

Шэры палявы сьлімак (Agriolimax agrestis). Сьлімак у вялікай колькасьці сустракаўся на лістох капусты. Вывучэньне сьлімака вялося па наступных пытаньнях: надворная будова; прымусіць сьлімака выцягнуцца і паўзьці (пахукаць на яго); зьвярнуць увагу на яго галаву, мацальцы; разгледзець ласкут скуры, што месьціцца на яго сьпінцы (пад ім знаходзіцца дыхацельная паласьць) і адшукаць дыхацельную адтуліну; пасыпаць крыху солі (NaCl) на сьлімака (з-заду mantri) і панаглядаць выдаленьне сьлізоты; рух (звычайныя досьледы па гэтаму пытаньню); пытаньні аб размнажэньні сьлімака і спосабах змаганьня з ім на экскурсіі разглядаць не даводзіцца.

Капусны матыль (Pieris brassicae L) і рэпніца (P. rapae L) сустракаліся досыць часта. На качанох капусты адшуканы вусені. Сярод іх прыкмечаны паасобнікі з адзнакамі (жоўтаваты колер, выдаленьні з роту маюць жоўта-зялёны колер) заражэньня наезьнікам (Apanteles glomeratus Glov, як аказалася потым). Такіх вусеняў даводзіцца браць для далейшых, часам вельмі каштоўных, нагляданьняў.

Капусная тля (Aphis brassicae) сустракалася ў значнай колькасьці. Сярод колёній тлі прыкмячаліся і крыластыя паасобнікі. Удалося адшукаць на ніжнім баку лістоў капусты бліскучыя чорныя яечкі тлі. Разгляд некаторых асаблівасьцяй будовы і жыцьця тлі (афарбоўка, воскавы „налет“, выдаленьні) трэба правесьці на экскурсіі. З ворагаў тлі, найбольш даступных нагляданьням, аказаліся вусень мухі-бурчэлкі (Lyrphidae) і, часткова вусені божай кароўкі (Coccinella septempunctata). Тлі, заражонай наезьнікамі, на экскурсіі не адшукалі.

### 3. Клясная работа

Работа над сабраным на экскурсіі матар'ялам заключаецца звычайна ў больш дэталёвым азнаямленьні з шкоднікамі і з тым, што яны пашкодзілі. Вялікае значэньне тут набывае правільна пастаўленае замалёўваньне асабліва характэрных шкоднікаў (зразумела, мэтай замалёўваньня зьяўляецца ня толькі азнаямленьне менавіта з даным шкоднікам, а і наогул вывучэньне морфолёгічных адзнак яго, як прадстаўніка акрэсьленай групы жывел[1]), а таксама і апісаньне іх.

Для больш-менш працяжнага вывучэньня сабранага на экскурсіі жывога

[1]) Досыць падрабязны плян такога (морфолёгічнага) вывучэньня шкоднікаў зьмешчан у кнізе Багданава-Кацькова „Энтомологические экскурсии на огороды“).

матар'ялу патрэбна наяўнасьць адпаведных садкоў. Пабудова апошніх і арганізацыя нагляданьняў за імі звычайна ня так ужо складана і ў большасьці выпадкаў апраўдвае патрачаны час і сілы, асабліва вясною.

Пытаньні аб зімоўцы шкоднікаў, па-мойму, варта разглядаць асобна, у часе распрацоўкі якіх зрабіць спэцыяльную экскурсію. Пры гэтым мэтазгодна разглядаць зімоўку шкоднікаў паводле іх атрадаў ці якіх іншых адзнак натуральнай сыстэмы. Такі разгляд дае добрыя вынікі як у сэнсе азнаямленьня з іх біолёгіяй, так і ў напрамку аўладаньня спосабамі змаганьня з імі.

Меры барацьбы са шкоднікамі трэба вылучыць у асобную тэму (хоць гэтага і ня зроблена ў афіцыйных праграмах па прыродазнаўству). Выклікаецца гэта асаблівай важнасьцю данага пытаньня, якое, трэба дадаць, пры разглядзе яго разам з тымі ці іншымі шкоднікамі настолькі распыляецца, што фактычна ў вучня нічога не застаецца.

Розныя спосабы барацьбы са шкоднікамі, па маёй думцы, павінны распрацоўвацца паводле наступнага пляну:

1. Культурна-гаспадарчыя мерапрыемствы. Паасобна разгледзець іх для гароду, саду і поля. Да такіх мерапрыемстваў звычайна адносяцца наступныя: а) севазварот; б) зьнішчэньне пустазельля; в) сваячасовая апрацоўка глебы і глыбокае заворваньне; г) тэрміны сяўбы; д) заворваньне і зьнішчэньне рэштак ураджаю; е) ачыстка насеньня (забясьпечвае большую ўстойлівасьць супроць шкоднікаў і пазбаўляе некаторых з апошніх месц іх разьвіцьця); ж) угнаеньне (павялічвае ўстойлівасьць); з) гатункі расьлін (устойлівыя да некаторых шкоднікаў); і) ачыстка ад сухіх галін і старой кары садовых дрэў; іх абмазваньне; к) зьнішчэньне падалкі ды іншыя.

2. Спэцыяльныя мэханічныя спосабы барацьбы: а) збор рукамі; б) штучныя „начлежкі“, як кучы травы, гальля ды інш., куды зьбіраюцца шкоднікі начаваць; в) ахоўныя і лоўчыя канавы; г) лоўля клеевымі і лавучымі паяскамі і сьцягамі; д) лоўля матылёў на патаку; е) зьнішчэньне яйкавых кладак і зімовых гнёзд абтрасаньне (у садох ды інш.).

3. Хэмічныя спосабы барацьбы.

а) павярховая атрута, тутунёвая выцяжка, зялёнае мыла, карболавая эмульсія, газавая эмульсія, жалезны купарос.

б) нутраныя атруты, парыская зялянінa, джыпсін (мышаковіста-кваснае волава), мышаковіста-квасны натры, хлёрысты бары.

в) атручаныя прынады (для мышэй, мядзьведзіка—галоўным чынам мышаковіста-квасны натры;

г) газавы спосаб: серкавуглярод, хлёрпікрын; самалёты ў барацьбе са шкоднікамі; значэньне колектыўнага змаганьня са шкоднікамі.

4. Птушкі (іх значэньне ў барацьбе са шкоднікамі, ахова і прыбаўленьне іх).

Распрацоўка пытаньняў барацьбы са шкоднікамі павінна даць вучню ня толькі тэорытычныя ўяўленьні, а і практычныя навыкі. Для гэтага даводзіцца ў парадку лябораторнай работы вучняў прыгатаваць тыя ці іншыя атрутныя матэрыі і выпрабаваць ужываньне іх на практыцы.

У адносінах вывучэньня карыснай дзейнасьці птушак і іх аховы і прываблeньня вельмі карысна бывае часам дзейнасьць „гурткоў юных натуралістаў“. Так, напрыклад, некаторыя з членаў гуртка ўмінулым годзе заняліся вывучэньнем карыснай дзейнасьці шпака і вераб'я. У выніку зробленых нагляданьняў, між іншым, аказалася, што шпак у часе кармленьня сваіх птушанят прыносіць у гняздо розных вусеняў (за 4 гадзіны) каля 60 штук. Верабей у той-ж тэрмін прыносіць каля 50 штук. Зразумела нагляданьні гэтыя нельга лічыць сталымі, але ўсё-ж атрыманы матар'ял мае значную каштоўнасьць, хоць-бы ўжо таму, што ён здабыты самастойна.

Л. ШАШКОЎ

# АНТЫРЭЛІГІЙНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ ПРЫ ВЫКЛАДАНЬНІ ГРАМАДАЗНАЎСТВА

*(Дадатковыя матар'ялы да падручніка „Антырэлігійнае выхаваньне ў школе")*

## 5-Я КЛЯСА

### ВЁСКА

ТЭМА: **грамадзкае жыцьцё і быт вёскі пры савецкай уладзе**

У сувязі з прапрацоўкай першай часткі тэмы ў падручніку даецца шмат антырэлігійнага матар'ялу (у фактах і лічбах), якім выкрываецца клясава-эксплёататарская сутнасьць праваслаўнага і каталіцкага духоўніцтва; высьвятляюцца памеры багацьцяў, якія імі рознымі захадамі вымагаліся непасрэдна ад працоўных мас гораду і вёскі, а таксама атрымоўваліся ад дзяржавы ў дарэволюцыйныя часы і спажываліся. Даецца малюнак памераў багацьцяў, якія спажываліся і спажываюцца духоўніцтвам у другіх капіталістычных краінах.

У сувязі з прапрацоўкай другой часткі тэмы таксама даюцца, праўда, ня поўныя антырэлігійныя матар'ялы і мэтодычныя паказаньні пра памеры і мэтоды эксплёатацыі папамі і ксяндзамі рэлігійных працоўных мас у СССР у сучасны момант.

На шэрагу прыкладаў даводзіцца прагнасьць клерыкалаў розных веравызнаньняў да грошай. Разглядаецца шэраг рэлігійных забабонаў з быту беларускага і яўрэйскага працоўнага насельніцтва; даводзіцца шкоднасьць гэтых забабонаў і інш.

Але-ж нельга сказаць, што антырэлігійным матар'ялам, які распрацаваны ў падручніку па гэтай тэме, асабліва ў другой частцы тэмы, выкарыстоўваецца ўсё тое, што сапраўды можна і трэба выкарыстаць у мэтах антырэлігійнага выхаваньня ў процэсе прапрацоўкі дадзенай тэмы.

Трэба максымальна папоўніць антырэлігійны матар'ял у сувязі з прапрацоўкай тэмы „Грамадзкае жыцьцё і быт вёскі пры савецкай уладзе", што распрацаваны і зьмешчаны ў падручніку. Пры чым, калі ў падручніку паданы і фактычны матар'ял, і мэтодычныя паказаньні, і мэтавая ўстаноўка па кожнай тэме, дык трэба застанавіцца, галоўным чынам, на мэтодычных паказаньнях і мэтавай устаноўцы, пры чым трэба мець на ўвазе, што гэты дадатковы матар'ял, як і асноўны, зьмешчаны ў падручніку (падручнік вышаў з друку значна пагадзя распрацоўкі тэмы ў школах) па данай тэме, можа быць выкарыстаны толькі ў канцы навучальнага году ў процэсе падагульненьня і паўтарэньня програмнай работы за год.

Пасьля гэтых кароткіх заўваг, пяройдзем да разгляду тых антырэлігійных момантаў, якія могуць быць распрацаваны ў сувязі з тэмай у парадку дапаўненьня таго антырэлігійнага матар'ялу, які ўжо даны ў падручніку.

Першы момант, які трэба высьвятліць,—гэта як абстаяла справа з рэлігіяй, рэлігійным выхаваньнем у мінулым і наогул, каму і для чаго патрэбна рэлігія, г. зн., растлумачыць клясавы сэнс рэлігіі. Потым трэба пазнаёміць вучняў, як да рэволюцыі было організавана рэлігійнае выхаваньне моладзі і дарослага працоўнага насельніцтва, увязаўшы гэта з тым, як яно організавана ў сучасны момант у капіталістычных краінах. Далей трэба пазнаёміць з тым, як праз школу, царкву і літаратуру эксплёататарскімі клясамі (буржуазіяй і памешчыкамі) пры дапамозе і актыўным удзеле сваіх паслугачоў царкоўнікаў усіх веравызнаньняў і сэктантаў, як эксплёататараў і клясавых ворагаў у сваю чаргу, прышчапляліся рабочым і наогул працоўным масам рэлігійныя пачуцьці і настроі, рэлігійны дурман у сваіх эксплёататарскіх мэтах.

Сьледам за гэтым, хоць ў кароткіх рысах трэба пазнаёміць і з тым, як сама сельская гаспадарка ў былой царскай Расіі (раздробленасьць, праспалосіца, прымітыўны спосаб апрацоўкі глебы, залежнасьць ад рынку, нарэшце, нізкі

культурны ўзровень бядняцка-серадняцкіх мас сялянства) спрыяла справе рэлігійнага выхаваньня, абумоўлівала сабою гэта выхаваньне.

Другі момант, на якім трэба застанавіцца,—гэта як абстаіць справа з рэлігіяй і рэлігійнасьцю працоўнага сялянства ў сучасны момант.

Разьбіраючы гэта пытаньне, трэба перш за ўсё адзначыць, што індустрыялізацыя краіны, колектывізацыя сельскай гаспадаркі, якая павінна быць скончана ў БССР да канца 1931 году, ліквідацыя кулацтва як клясы ёсьць моцны і рашучы ўдар па карэньнях рэлігійнасьці працоўных мас. Непарыўка зьнішчае рэлігійныя забабоны, рашуча рве старажытныя, дзедаўскія традыцыі і г. д.

Разам с гэтым трэба адзначыць, што гэтым яшчэ ня зьнішчаюцца зусім рэлігійныя пачуцьці і настроі. Рэлігія як ідэолёгічная плынь, якая вякамі прышчаплялася працоўным масам эксплёататарскімі клясамі, яшчэ пэўны час будзе захоўвацца сярод некаторай часткі працоўных. Рэлігія будзе адміраць па меры вызваленьня ад старых традыцый, зьвязаных ці вынікаючых з дробнатаварнай, індывідуальнай гаспадаркі, з яе прымітыўным спосабам вытворчасьці.

Трэба падкрэсьліць, што мы ўжо цяпер маем значнае ажыўленьне антырэлігійнай работы ў колгасах (прыстасаваньне цэркваў і касьцёлаў да клюбаў, рашучы адпор сэктантам, выстаўленьне папоў, ксяндзоў разам з кулакамі з раёнаў суцэльнай колектывізацыі ды інш.).

Далей трэба растлумачыць, чаму кулак, нэпман, былы ўраднік так моцна трымаюцца рэлігіі, царквы, сынагогі, касьцёлу, разам дзейнічаюць з царкоўнікамі і сэктантамі, абапіраючыся на вучэньне царквы і „сьвятога“ пісаньня супроць мерапрыёмстваў партыі і савецкай улады, асабліва колектывізацыі.

Трэба адзначыць і той момант, што кулак, нэпман часта захоўваюць свае рэлігійныя (для віду) настроі толькі таму, што гэта адпавядае іх эксплёататарскім мэтам.

У выніку ўсяго гэтага падкрэсьліць, што праводзімая партыяй і савецкай уладай політыка па рэконструкцыі народнай гаспадаркі наогул і ў прыватнасьці па перабудове сельскае гаспадаркі на соцыялістычны лад, праводзячы адначасна з гэтым падвышэньне культурнага ўзроўню рабочае клясы і працоўнага сялянства, і бязьлітасную антырэлігійную барацьбу, антырэлігійнае выхаваньне,— зьяўляецца правільнай. Толькі такі шлях забясьпечвае канчатковае вызваленьне працоўных гораду і вёскі ад путаў рэлігійнага дурману.

Трэцім момантам, на якім трэба абавязкова застанавіцца—гэта на контррэволюцыйнай дзейнасьці царкоўнікаў і сэктантаў і прычынах ажыўленьня гэтай дзейнасьці ў сучасны момант.

Прыступаючы да распрацоўкі данага пытаньня, трэба спачатку высьветліць прычыны (пасьпяховае будаўніцтва соцыялізму ў горадзе і вёсцы; ліквідацыя кулацтва, як клясы, на аснове суцэльнай колектывізацыі, бесьперапынны вытворчы тыдзень ды інш.), якія выклікалі, з аднаго боку, надзвычайна вялікі рост бязбожніцтва сярод рабочае клясы і працоўнага сялянства, а з другога боку—ажыўленьне контррэволюцыйнай дзейнасьці царкоўнікаў і сэктантаў.

Нарэшце, чацьвёрты момант, які трэба разгледзець,—гэта конкрэтныя факты, мэтоды і сродкі змаганьня клерыкалаў усіх веравызнаньняў і сэктантаў супроць індустрыялізацыі краіны і колектывізацыі сельскай гаспадаркі (запужваньне колгасьнікаў прыходам пана Пілсудзкага, „карай божай“, бібліяй, ды інш.).

У сувязі з распрацоўкай падтэм даданай тэмы „Сельсавет і яго дзейнасьць“, „Грамадзкія організацыі на вёсцы“, трэба пазнаёміць з тым, як кулак, поп, ксёндз, асабліва сэктант у мэтах больш пасьпяховай барацьбы з усімі мерапрыёмствамі партыі і савецкай улады ўсімі захадамі імкнуцца пралезьці або прасунуць сваіх людзей у колгасы, савецкія і грамадзкія організацыі з тым, каб іх разбураць знутры і гэтым самым затрымаць тэмп перабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад.

Апроч таго, трэба пазнаёміць і з тым, як папы, ксяндзы, рабіны, сэктанты, як клясавыя ворагі імкнуцца організаваць навокал сябе вясковую беднату, праз рознага роду падачкі, організоўваць навакол сябе таксама моладзь, якая імі

часта выкарыстоўваецца для сваёй контррэволюцыйнай дзейнасьці. Потым пазнаёміць з програмнымі запатрабаваньнямі царкоўнікаў і сэктантаў у часе перавыбарчых кампаній: 1) аднаўленьне ў правох паслугачоў рэлігійных культаў, 2) вызваленьне ад падаткаў, 3) захаваньне цэркваў, касьцёлаў, сынагог, 4) адчыненьне рэлігійных школ, 5) рамонт цэркваў ды іншых рэлігійных устаноў.

Трэба таксама адзначыць і такія факты, як пасылку папоўскімі цэнтрамі сваіх „лепшых“ агітатараў у больш „небясьпечныя“ месцы—раёны суцэльнай колектывізацыі з спэцыяльнымі пуцёўкамі, як замаскаваную агітацыю, быццам, за савецкую ўладу, з мэтай прасунуць у сельсавет кулакоў і падкулачнікаў, заклікаючы праваслаўных падпарадкавацца савецкай уладзе, бо „ўсялякая ўлада ад бога“, як удзел у зьбіраньні спэцыяльных фондаў і раздачы іх бедным з вывешваньнем лёзунгаў „Багатыя ахвяруюць, бедныя атрымоўваюць“, зрыў перадвыбарчых і перавыбарчых сходаў, шляхам прызначэньня ў гэты час розных служб у царкве. Трэба адзначыць і тое, як царкоўнікі і сэктанты разам з кулакамі агітуюць супроць дзяржаўных пазык, хлебазагатовак, імкнуцца падарваць абарону СССР. У заключэньне трэба адзначыць, як усёй гэтай контррэволюцыйнай дзейнасьці царкоўнікаў і сэктантаў рабочая кляса, савецкая ўлада, пад кіраўніцтвам партыі, дае бязьлітасны адпор.

**Лігаратура:**

1. М. Чудновцев—Политическая роль церковников и сектантов в СССР (стар. 50—20 і 27—40).

2. Ф. Путинцев—Духоборье.

3. Фолещук—Кулак и поп—враги батрачества.

4. Клебанов—Классовое лицо современного сектантства.

5. АППО МКВКП(б)—Религия и классовая борьба (стар. 45—84).

**А. ПЭУЗНЭР**

# НЕКАЛЬКІ ДАДАТКАЎ ДА ПРОГРАМЫ

(*У парадку прапановы*)

За апошні час усё больш і больш на старонках нашага друку пачынае высьвятляцца становішча школ ды іх работа па антырэлігійнаму выхаваньню. Трэба адзначыць, што на месцах, у школах, у раённых мэтодычных бюро ідзе дасьледчая работа, ёсьць спробы паставіць пытаньне антырэлігійнага выхаваньня на тую вышыню, якую яно павінна займаць у наш час. Бясспрэчна тое, што програмны матар'ял недастаткова адбівае гэту неабходнасьць узмацненьня барацьбы з рэлігіяй. Аб гэтым сьведчыць як патрабаваньне паявлічэньня антырэлігійнага матар'ялу на старонках пэдагогічнага друку, так і самастойнае паявлічэньне яго (матар'ялу) настаўнікамі на месцах.

Па нашай думцы, трэба ўнесьці ў програмы наступныя дадаткі:

1. III год. У комплексе «Наш раён» да 7-й тэмы (пункт «а») дадаць: «Прывілеяванае становішча царквы пры самаўладзтве» з наступным зьместам:

а) праваслаўнае духоўніцтва, як гэгемон веравучэньняў пры ня больш 66 проц. праваслаўных;

б) багацьці праваслаўнай царквы (Тройца-Сяргееўскі кляштар з 100 тысяч прыгонных душ; Салавецкі кляштар больш 70.000 гэктараў зямлі);

в) прыгонная праца на царкоўнай зямлі (прачытаць адпаведныя фрагмэнты з мастацкай літаратуры).

Як матар'ял для матэматыкі, можна пры прапрацоўцы гэтай падтэмы скарыстаць наступнае:

1. Прыбыткі маскоўскага мітрополіта (у год):

| | |
|---|---|
| Пэнсія | 6.000 руб. |
| Сталовыя | 4.000 руб. |
| Ад архірэйскага дому | 8.000 руб. |
| Ад Чудава кляштару | 6.000 руб. |
| Ад Сяргеевай лаўры | 12.000 руб. |
| Ад Іверскай часоўні | 45.000 руб. |
| Усяго | 81.000 руб. |

Прыбыткі Наўгародзкага архіяпіскапа (у год):

| | |
|---|---|
| Пэнсія | 1.500 руб. |
| Сталовыя | 4.000 руб. |
| Ад архірэйскага дому | 2.000 руб. |
| Ад Наўгародзкага падвор'я | 300.000 руб. |
| Усяго | 307.500 руб.

2. IV год. Тэма: «Як стварыўся СССР». У пункце «м» («Змаганьне») дадаць наступнае:

а) студзеньскі дэкрэт 1918-га году аб адлучэньні царквы ад дзяржавы і тлумачэньне яго;

б) патрыярх Ціхан і царкоўны сабор супроць «сатанскай» пастановы СНК;

в) як украінскі біскуп спаткаў Скарападзкага;

г) дзейнасьць Ціхана супроць савецкай улады;

д) папы і белагвардзейшчына;

е) конфіскацыя царкоўных каштоўнасьцяй.

У якасьці асобнай падтэмы мы лічым патрэбным наступнае:

«Саюз ваяўнічых бязбожнікаў і яго задачы» з наступным зьместам:

а) першыя крокі бязбожніцтва пасьля Кастрычніка;

б) організацыя С. Б. у 1925 г. (статут і рост);

в) новыя мэтоды работы рэлігіі (жывая царква);

г) сэктанты, іх клясавая сутнасьць і асаблівая шкоднасьць іх;

д) апошняя рэорганізацыя ў саюзе ваяўнічых бязбожнікаў (прычыны, статут і сучаснае становішча—апошняе па газэце і часопісу «Бязбожнік»).

Акрамя вышэйназваных програмных зьмен, па нашай думцы, трэба, каб на старонках друку пачала высьвятляцца форма пазашкольнай работы па антырэлігійнаму выхаваньню. Трэба, каб настаўнік, організуючы ячэйку маладых бязбожнікаў, паставіў перад ёй конкрэтныя задачы, бо бяз іх у вучняў губіцца цікавасьць да работы ў ячэйцы.

Якія конкрэтныя задачы можна паставіць перад вучнёўскай ячэйкай?

1. Ячэйка вядзе агітацыю за выпіску антырэлігійнай літаратуры, пасылаючы весткі і рух выпіскі у Райсавет С. В. Б.

2. Ячэйка стала вывучае стан ворага:

а) лік цэркваў, сынагог у школьным раёне;

б) хто кіруе ў царкоўных саветах (падрабязна па соцыяльнаму і матар'яльнаму становішчу);

в) наведваньне царквы, сынагогі, асабліва ў часы сьвят;

г) сэктанты, якой сэкты і хто імі кіруе;

д) якія кампаніі праводзяць веруючыя, асабліва ў сувязі з колектывізацыяй і іншымі нашымі савецк. кампаніямі;

е) калі і якія грашовыя зборы праводзяць яны;

ж) рэгістрацыя і апісаньне ўсіх агідных з'яў у часы рэлігійных сьвят (п'янства, бойкі і г. д.).

3. Ячэйка вывучае антырэлігійны рух вёскі:

а) рэгіструе ўсе факты антырэлігійнасьці (несьвяткаваньне рэлігійных абрадаў, рост наведваньня вучнямі школы ў часы рэлігійных сьвят);

б) лік антырэлігійна настроеных з насельніцтва;

в) дапамагае вясковай ячэйцы ў організацыі дакладаў, вечароў на антырэлігійныя тэмы і рэгіструе іх;

г) організуе гурток, які вывучае гэта пытаньне і супольна з настаўнікам падводзіць вынікі па матар'ялах, асьвятляе вынікі ў школьнай сельсавецкай альбо раённай газэце.

Вядома, што антырэлігійнае выхаваньне вучняў не выабражальна бяз пэўнага ўплыву на бацькоў, работа з імі патрабуе таксама сваёй конкрэтызацыі. Мы прапануем наступнае:

1. Загадчык або настаўнік, робячы справаздачу аб школе, павінен уключыць антырэлігійныя моманты (наведваньне вучнямі школы ў рэлігійныя сьвяты, рост ячэйкі бязбожнікаў і антырэлігійнай літаратуры ў школе, дасягненьні ў гэтай галіне).

2. Практыкаваць выстаўкі антырэлігійнага маляваньня вучняў (карыкатуры на прадстаўнікоў рэлігійнага культу, на асобныя рэлігійныя тэмы і г. д.) перад бацькамі.

3. Антырэлігійныя вечары, лекцыі і пастаноўкі ў школе.

4. Вербаваць бацькоў у члены С. Б. В.

Асабліва важным мы лічым узьдзейнічаньне на насельніцтва праз мастацкія пастаноўкі ,але, на жаль, органы нарасьветы не забясьпечылі школ адпаведнай літаратурай.

З. МАСКАЛЕВІЧ

# ПРОБЛЕМА СОЦЫЯЛЬНАГА ПЕРАВЫХАВАНЬНЯ НА БЕЛАРУСІ

У агульнай сыстэме соцыяльнага перавыхаваньня выключнае значэньне маюць пытаньні організацыі выхаваўча-навучальнай справы, правільнай пастаноўкі рамесьніцкага навучаньня і сыстэма прыёму і выпуску выхаванцаў.

Перавыхаваўчыя ўстановы прызначаюцца для абслугоўваньня так званых „цяжкіх“ дзяцей, якія цяжка паддаюцца выхаваўчай узьдзейнасьці, ня могуць укласьціся ў рамкі грамадзтва, школы, сям'і, заўсёды ўваходзяць у рэзкі конфлікт з існуючымі нормамі права і парадку.

Па свайму якаснаму складу „цяжкія“ дзеці даюць вельмі стракаты малюнак: тут і соматычна слабыя, з актыўнымі сухотамі і рахітам, якія пры затармажанасьці разумовых процэсаў вельмі схілены да ўтомы і раздражлівасьці, тут і псыхонэўропаты, з іх эмоцыянальна-валявою няўстойлівасьцю і павышанаю афэктыўнаю ўзбуджлівасьцю; тут і дэгенэраты, характэрнаю адзнакаю якіх зьяўляецца паніжэньне якой-небудзь разумовай здольнасьці; тут і дэбілікі, з паніжэньнем усіх разумовых здольнасьцяў, і эмбэцылікі, з рэзкаю разумоваю адсталасьцю.

Цяжка выхоўваемыя дзеці характарызуюцца цэлым шэрагам недахопаў і адхіленьняў у інтэлектуальнай і эмоцыянальна-валявой сфэры.

Зразумела, што перавыхаваць такіх дзяцей цяжка. Такія дзеці патрабуюць вельмі тонкага пэдагогічнага падыходу і асаблівай організацыі навучальна-выхаваўчай справы. Перад перавыхаваўчаю ўстановаю стаіць вельмі складаная задача—так організаваць навучальна-выхаваўчы апарат, каб ён мог ахапіць сабою і падпарадкаваць свайму ўплыву ўсю гэтую стракатую масу хворых дзяцей.

Перад установаю паўстае задача так організаваць увесь дзіцячы колектыў, каб ён найлепш спрыяў выпрацоўцы псыхічнай роўнавагі выхаванцаў, іх колектыўнай солідарнасьці, працаздольнасьці. Трэба мець на ўвазе, што ў даным выпадку мы павінны разумець пад выхаваньнем ня толькі культуру інтэлекту, але галоўным чынам выхаваньне дзіцячай асобы ў сэнсе аздараўленьня яе сьветапогляду, падрыхтоўкі да самастойнага працоўнага жыцьця, выпрацоўкі самаконтролю і ўнутранай дысцыпліны, пры чым, замест чыста мэханічных звычак і соцыяльных рэфлексаў, на першы плян высоўваецца культура сьвядомасьці і эмоцыянальна-валявой накіраванасьці. Зразумела, што ўсё гэта патрабуе ўсебаковага і об'ектыўнага азнаямленьня з індывідуальнасьцю выхаванца, без чаго немагчыма ні індывідуалізаваць пэдагогічны да яго падыход, ні пашырыць і аздаравіць яго інтэлект, ні, тым больш, правесьці вельмі складаны і працяглы ў сваёй эволюцыйнасьці процэс псыхотэрапіі.

Зразумела, што організацыя дзіцячага колектыву патрабуе выключнай асьцярожнасьці пры ўкомплектаваньні дзецьмі перавыхаваўчых установ, вельмі асьцярожнай дыфэрэнцыяцыі дзяцей па іх псыхічных асаблівасьцях.

А тым часам справа ў нас пакуль што пастаўлена ня зусім так, як гэта трэба.

* * *

Навучальна-выхаваўчая справа складаецца з двух вельмі цесна паміж сабою зьвязаных, адзін з другога выцякаючых, адзін другога абумоўліваючых элемэнтаў—кляснага навучаньня і выхаваньня ў агульным сэнсе гэтага слова.

Па ступені свайго разумовага разьвіцьця і здольнасьцяў выхаванцы перавыхаваўчых устаноў падзяляюцца на дзьве якасна процілеглыя і колькасна няроўныя катэгоры: пераважную большасьць складаюць дзеці школьна запушчаныя, разумова адсталыя; нязначную частку складаюць дзеці, якія стаяць вышэй ордынару, разьвіты не па сваіх гадох, прад'яўляюць школе падвышаныя патрабаваньні. Для першых патрэбны кадры пэдолёгічна падрыхтаваных працаўнікоў, сыстэма дапамагальных клясаў і належнае тэхнічнае абсталяваньне школы навочнымі дапаможнікамі, якое зьяўляецца асноўнаю ўмоваю пасьпяховасьці працы з імі.

Для другіх патрэбна пашыраная програма, прыблізна ў межах другога концэнтру, штат спрактыкаваных пэдагогаў, добрыя бібліотэкі, музэі. Між тым нічога гэтага ў нас няма. Школы перавыхаваўчых устаноў абслугоўваюцца ня зусім кваліфікаванымі працаўнікамі, тэхнічнае абсталяваньне школ нікуды ня варта; програмы ня ідуць далей 4 годкі. Выключэньнем зьяўляецца Магілеўская дзіцячая комуна, пры якой пабудавана сямігодка.

Нашы перавыхаваўчыя ўстановы бяссыстэмна ўкомплектоўваюцца дзецьмі: у адну ўстанову накіроўваюцца дзеці розных узростаў, фізычныя калекі, сухотнікі, прыпадачныя, разумова адсталыя і псыхонэўропаты ўсіх адценьняў. Такая стракатая маса ня можа быць укладзена ў адну сталую выхаваўчую сыстэму.

Пры агульнай псыхічнай неўроўнаважанасьці, валявой няўстойлівасьці, эмоцыянальнай палкасьці, такі дзіцячы колектыў зьяўляецца вельмі небясьпечным і ў самім сабе мае ўсе моманты, якія парушаюць псыхічную роўнавагу дзяцей і паралізуюць усю выхаваўчую работу.

Пры ўсім гэтым выхаванцы накіроўваюцца ва ўстановы ў розную пару году. Пры такім парадку і пры адсутнасьці новіцыятараў, у якіх можна было-б аб'яднаць усіх навічкоў у адну групу і з ёю вёсьці асобныя заняткі; пры адсутнасьці сыстэмы клясыфікацыйнага падзелу выхаванцаў у клясах утвараюцца выключна цяжкія ўмовы для работы: у аднэй клясе зьмяшчаюцца выхаванцы рэзка процілеглых узростаў, здольнасьцяў і псыхічных асаблівасьцяй, адны з якіх паступаюць у клясу з пачатку навучальнага году другія—з 1/XI, трэція—з 1/I, а іншыя—з 1/IV. Аднаму групаводу прыходзіцца амаль з кожным з іх весьці індывідуальную работу. А пры гэтых умовах якая можа быць гутарка аб нормальнай продукцыйнасьці работы? Выхаванцы разумова адсталыя вучацца з вялікай цяжкасьцю, сядзяць іншы раз па 3 гады ў групе. А тыя, якіх не задавальняе 4-х годка, і з якімі нельга весьці заняткі індывідуальна па падвышанай програме з-за недахопу працаўнікоў, расчароўваюцца, адрываюцца ад клясных заняткаў, што парушае парадак установы.

Каб зьнішчыць гэтыя недахопы, трэба правесьці наступныя мерапрыемствы. Укомплектаваньне перавыхаваўчых устаноў выхаванцамі трэба рабіць з пачатку навучальнага году, да гэтага часу трымаць і апрацоўваць дзяцей у прыёмніках і цэнтральным разьмеркавацелі. Калі гэта немагчыма зрабіць па тэхнічных прычынах, трэба організаваць пры перавыхаваўчых установах новіцыятары і дапаможныя школы.

Перавыхаваўчыя ўстановы трэба будаваць у буйных акруговых цэнтрах, каб абслужыць іх лепшымі сямігодкамі, музэямі, бібліотэкамі, каб падпарадкаваць іх уплыву здаровай грамадзкасьці, каб разгарнуць пры іх навукова-дасьледчую практыку спэцаў-пэдолёгаў, студэнтаў пэдфаку і пэдтэхнікумаў.

Пры гэтым вельмі мэтазгодна ўжываць сыстэму асыміляцыі цяжка выхоўваемых дзяцей шляхам разьмеркаваньня іх сярод добра організаванага і соцыяльна здаровага дзіцячага асяродзьдзя.

Яшчэ некалькі слоў аб выхаваўчай справе.

Сучасная мастацкая пэдагогічная літаратура—„Рэспубліка Шкід“, „Праваparушыцелі“, „Дзеньнік Косьці Рабцова“

пераконвае нас у тым, што сэкрэт посьпеху пэдагогаў-мастакоў і знаўцаў сваёй справы крыецца як у экстраардынарнасьці іх асоб, так і ў іх уменьні зразумець і ўсебакова ахапіць асобу выхаванца.

Каб зразумець асобу выхаванца, трэба ўмець пэдагогічна да яе падыйсьці. У даным выпадку вялікую дапамогу выхавацелю дае сыстэма асабовых картак, якія павінны быць заведзены на кожнага выхаванца, і ў якіх павінны быць концэнтраваны даныя па анамнэзу, status praesens соцыолёгічнага абсьледваньня выхаванца, а таксама ўсебаковага вывучэньня яго псыхічнай і фізычнай констытуцыі. Прымаючы пад увагу, што большая частка выхаванцаў перавыхаваўчых установ скрыты і вельмі схільны да сымуляцыі і містыфікацыі, гэта абсьледваньне трэба рабіць вельмі асьцярожна, ужываючы мэтод псыхоаналізу, як інтымнага падыходу да выхаванца з магчымасьцю закрануць яго самыя балючыя душэўныя перажываньні і ўстанавіць як слабыя і адмоўныя, так моцныя і становучыя бакі ў агульнай структуры яго асобы. Далейшая перавыхаваўчая работа павінна разгортвацца ў такім напрамку, каб сублімаваць адмоўныя схільнасьці і ніжэйшыя інстынкты выхаванца і сконцэнтраваць усю яго сілу і актыўнасьць навакол яго становучых нахілаў. А для гэтага трэба мець пэдолёгічна абгрунтаваны падыход.

Вось чаму пры перавыхаваўчых установах павінны быць організаваны пэдолёгічныя габінэты, павінны працаваць сталыя ўрачы-пэдолёгі, з дапамогаю якіх пэдагогічны апарат установ шляхам пэдолёгічных конфэрэнцый і досьледаў заўсёды быў-бы ў курсе апошніх дасягненьняў пэдолёгічнай думкі, заўсёды знаходзіўся-бы ў становішчы колектыўнай самападрыхтоўкі, заўсёды правільна рэагаваў-бы і правільна разьвязваў-бы тыя балючыя пытаньні, над якімі цяпер кожны ўпаасобку і балюча думае, якія ў практыцы абмылкова вырашаюцца, што выклікае цяжкія і часам анэкдотычныя пэдагогічныя ляпсусы.

У гэтых адносінах у нас справа пастаўлена дрэнна. У інстытуце соц. перавыхаваньня ёсьць пэдолёгічны габінэт, які калісьці добра працаваў, але ў апошнія гады, за немагчымасьцю знайсьці ўрача-пэдолёга, справа заняпала.

У барысаўскім рэформаторыуме габінэту няма. Працуе там урач вэнэролёг, які замест пэдолёгічнага досьледу заняты выключна дасьледваньнем спадчыны ў выхаванцаў па сыстэме рэакцыі Vasserman'a.

Выхаванцы перавыхаваўчых установ— гэта тыя дзеці, якія ўцяклі або ўзяты з сям'і, ці са школы толькі з тае прычыны, што не хацелі і не маглі падпарадкаваць колектыву сваю хваравітую індывідуальнасьць. Яны не прызнаюць ніякіх аўторытэтаў; яны ніколі не паступяцца сваімі эгоістычнымі інтарэсамі, яны кожнае патрабаваньне з боку колектыву разглядаюць, як замах на правы іх асобы. Пры сваёй афэктыўнасьці яны вельмі балюча рэагуюць на самыя законныя і звычайныя патрабаваньні і выяўляюць соцыяльна-небясьпечную агрэсыўнасьць.

Наша пэдагогічная практыка паказала, што соцыяльныя фактары выхаваньня зьяўляюцца самымі актыўнымі, што патрабуе, каб выхаваўчая сыстэма будавалася на падставе правільнай організацыі дзіцячага колектыву і соцыяльнага асяродзьдзя.

Колектыўнасьць жа трымаецца сталым парадкам і дысцыплінаю, пры чым пад апошняю трэба разумець не мэханічныя навыкі трыманьня і соцыяльныя рэфлексы, а самадысцыпліну, якая грунтуецца на эмоцыянальна-валявой культуры, на разуменьні адказнасьці за свае абавязкі, на паважаньні колектыву; рэгулюецца комплексам правіл і нормаў інтэрнату; падпарадкуецца тым загадам і дырэктывам, якія ідуць ад самой асобы.

Але як аб'яднаць у самадысцыпліна ваны колектыў такіх дзяцей, якія выпрацавалі анархо-індывідуалістычны настрой і ўпэўнены, што ўсё ім дазволена, усё можна? Чым рэгуляваць і стымуляваць трыманьне такіх дзяцей?

Аб індывідуальнай самадысцыпліне ў першыя часы і гаварыць ня прыходзіцца, бо яна выпрацоўваецца пазьней і зьяўляецца вынікам працяжнай і складанай выхаваўчай апрацоўкі.

Колектыўная самадысцыпліна таксама нарастае і выяўляецца вельмі слаба, бо,

з аднаго боку, увесь час лепшыя актыўныя і выхаваныя дзеці выпускаюцца з установы і накіроўваюцца на самастойную работу, і прыходзіцца заставацца з горшымі, з другога боку, наогул выяўленьне гэтай колектыўнай самадысцыпліны паралізуецца орыгінальнаю этыкаю выхаванцаў, якая разглядае кожнае выступленьне найбольш актыўных і сьвядомых выхаванцаў за падтрыманьне дысцыпліны і парадку, як здраду „таварыству“, і называе такіх актывістаў „падлізамі“, „лягавымі“. Звычайна навакол такой „опозыцыі“ цэнтралізуецца пераважная большасьць выхаванцаў. Актывісты застаюцца ў меншасьці і ня толькі нэўтралізуюцца, але часта нават паддаюцца ўплыву гэтай опозыцыі, на чале якой стаіць звычайна вельмі популярны правадыр і дэмагог, якім зьяўляецца альбо адзін „атаман“, альбо моцна спаяны колектыў.

У процілегласьць опозыцыі аб'яднаем лепшых выхаванцаў, організуем з іх актыў і самакіраўніцтва і дапаможам яму падпарадкаваць свайму ўплыву ўсю дзіцячую масу. Шляхам падтрымліваньня, матарьяльнага заахвочваньня і зацікаўленьня ў становішчы ўстановы, гэты актыў паступова зьбірае навакол сябе ўсё больш і больш выхаванцаў і ўплывае на грамадзкую думку. Але за работаю гэтага актыву трэба пільна сачыць, бо сыстэма заахвочваньня часта вядзе да адмоўных вынікаў, а таксама бываюць выпадкі, калі актывісты ўваходзяць у настолькі рэзкі конфлікт з паасобнымі выхаванцамі, што пытаньне вырашаецца бойкамі, што зьяўляецца момантам, які дэморалізуе ўсю масу і стымулюе ўзмацненьне „опозыцыі“ і падзяленьне выхаванцаў на варожыя групы.

Характэрны выпадак.

На чале дзіцячага самакіраўніцтва стаў Я. П-кі. Гэты выхаванец рашуча пачаў падтрымліваць парадак: дапамагаў выхавацелям, будзіў таварышоў, пільна сачыў за іх трыманьнем. На кожнае правапарушэньне з боку таварышоў ён рэагаваў вельмі балюча: цягнуў іх да выхавацеля, „крыў“ на дзіцячых сходах. Большасьць выхаванцаў за гэта адносілася да яго варожа. Пачалася опозыцыя. І вось аднаго разу хітры правадыр опозыцыі пайшоў на провокацыю: ён наўмысьля распачаў спрэчку з П., пачаў крычаць, быццам П. яго набіў. На лямант свайго правадыра набеглі „опозыцыянэры“ і набілі П. Апошні ўцёк з установы і прышлося нанова організоўваць самакіраўніцтва. Новаму апарату выхаванцы доўгі час не хацелі падпарадкавацца, бо „пераможнікі-опозыцыянэры“ увесь час выкідвалі дэмагогічныя лёзунгі („прэч здраднікаў“, „лягавых“) і тэрорызавалі іх.

У такіх выпадках выключнае значэньне набывае асоба выхаваўцы. З практыкі і літаратуры мы ведаем, што ў даным выпадку выхаванцы больш за ўсё падпарадкуюцца аўторытэту і зачараваньню асобы выхаваўцы. Але гэта ня зусім добра, бо трэба прывучаць дзяцей падпарадкавацца не асобам, а прынцыпам.

Як бы сабе ні было, хоць з вялікай цяжкасьцю, але з дапамогаю лепшых выхаванцаў, пры скарыстоўваньні актыўнасьці і самадзейнасьці дзіцячага асяродзьдзя, мы падтрымліваем дысцыпліну, парадак, роўнавагу, утвараем комплекс такіх соцыяльных фактараў і ўмоў, якія выхаваўча ўплываюць на дзіцячую масу.

Як бы сабе ні было, але цаною напружанай работы мы на вачох нашай грамадзкасьці маем у перавыхаваўчай справе значныя дасягненьні, перавыхавалі і прыстасавалі да работы шмат дзяцей, некаторыя з якіх лічыліся „безнадзейнымі“, „непапраўнымі“. І ў справе організацыі дзіцячага асяродзьдзя наша работа з боку яе мэтодыкі зусім не адрозьніваецца ад работы звычайных школ, толькі яна не дае такога хуткага эфэкту, патрабуе большай напружанасьці і пэдолёгічнай вытрыманасьці і знаходзіцца ў становішчы рэзкіх пераходаў ад уздыму да ўпаду. Апошняя акалічнасьць тлумачыцца бягучасьцю складу выхаванцаў і няўстойлівасьцю іх настрою.

Але ва ўмовах перавыхаваўчых установў бываюць выпадкі такіх паводзін выхаванцаў, якія выходзяць за межы нормаў пэдагогічнага ўзьдзейнічаньня і пагражаюць небясьпекаю ўстанове.

Прыклады:

Выхаванцы гуляюць у лапту. Адзін з выхаванцаў Нас-а за няўдачную падачу

мяча так моцна выцяў таварыша кулаком па твары, што апошні паваліўся на зямлю і заліўся крывёю.

Выхавацель зрабіў яму заўвагу.

Тады Нас-а выцяў выхавацеля і сказаў: „А табе якое дзела? Вось і табе дам па мордзе, а ты мне нічога ня зробіш. Калі я і заб'ю цябе, мне ўсёроўна нічога ня будзе. А ты толькі папрабуй мяне крануць, дык у падвале згнієш“.

Другі прыклад:

У спальнях звычайна падтрымліваецца парадак, выхаванцам да вызначанага часу забаронена знаходзіцца ў спальнях. Аднаго разу выхаванец Пятро Буд-лаў падабраў ключ і забраўся ў спальню. Дзяжурны выхавацель заўважыў гэта і прапанаваў Буд-ву пакінуць спальню. Апошні схапіў сякеру, кінуў яе ў выхавацеля, які толькі выпадкова застаўся жывы. Пасьля гэтага Буд-лаў выбег са спальні, узяў кій, якім пачаў біць у шыбы і меншых выхаванцаў.

Яшчэ прыклад:

Выхаванец К. Б-н зайшоў на фэрму і выкраў у скотніцы жбан малака. Скотніца пажалілася мне, і я меў па гэтаму пытаньню з Б-ным размову. Прайшоў тыдзень. Вечарам у лазьні мыліся кабеты, і разам з імі скотніца. Б. увабег з калом у лазьню, пабіў некалькі шыбаў, перапалохаў і разагнаў кабет, а скотніцу пабіў.

Калі мы маем справу ў такіх выпадках з выхаванцам хворым, псыхопатам, дык патрэбна мэдыко-пэдагогічнае ўзьдзейнічаньне, патрэбна дапамога ўрача пэдолёга, патрэбен спэцыяльны мэдычны ізолятар. Звычайна афэкт, ці рэцыдыў псыхозу, праходзіць, выхаванец ня толькі праз некаторы час супакойваецца, але нават часта адчувае сябе вінаватым, просіць прабачэньня.

Але што рабіць у такіх выпадках, калі перад намі выхаванец зусім здаровы і нормальны, калі яго дзікі ўчынак зьяўляецца продуктам яго нязвычайнай распушчанасьці. Сярод нашых выхаванцаў вельмі часта сустракаюцца такія дэмагогі і дэмаралізатары, якія прайшлі ўвесь СССР, былі ў дзесятках дзіцячых дамоў; жывучы ў такіх буйных цэнтрах бяспрытульнасьці, як Масква, Ленінград, Харкаў, Одэса, маральна разлажыліся да апошняга; добра знаёмы з усімі спэцамі дэфэктолёгамі—Грыбаедавым, Бельскім, Рассалімо, Кашчэнка; праходзілі дзесяткі разоў праз пэдолёгічныя габінэты, вывучалі ўсе тэсты, наперад ведаюць, якое ім зробяць запытаньне і зьдзекуюцца з дасьледчыка, даводзячы яго да роспачы; добра ведаюць сваю безадказнасьць нават за самы дзікі ўчынак і злоўмысна разлагаюць установу, правакуюць пэдагогаў. Пакінуць іх учынкі непакаранымі—гэта значыць пры слабавольнасьці і намоўнасьці дзіцячай масы ставіць установу пад пагрозу масавага псыхозу і эксцэсаў, гэта значыць дэмаралізаваць дзяцей, прышчапляючы ім такое перакананьне, што ва ўстанове можна бяскарна ўсё рабіць; гэта значыць выхоўваць будучых хуліганаў. Ужываць-жа такія захады, якія практыкуюцца ў сучасны момант у нашых перавыхаваўчых установах (выдаленьне выхаванцаў з установы альбо перадача іх крымвышуку і судовым органам)—пэдагогічна немэтазгодна, бо ўстановы трацяць увесь свой сэнс і прызначэньне, выхаванцы зноў пападаюць на вуліцу, павялічваюць шэрагі бяспрытульнікаў і правапарушнікаў і ў процэсе прахаджэньня праз ардамы і суды дэмаралізуюцца цалкам.

Хваробу лягчэй папярэдзіць, як лячыць. І ў нашай справе ўсё разуменьне і напрактыкаванасьць выхавацеля павінны быць накіраваны на профіляктычныя мерапрыемствы.

У мэтах гэтай профіляктыкі, мне здаецца, вельмі мэтазгодна ўжываць сыстэму абмежаваньняў выхаванцаў ў іх правох і матар'яльных выгадах, для чаго трэба ўстановы так організаваць, каб яны складалі з сябе стройную сыстэму павільёнаў, пабудованых па прынцыпу паступовага палепшаньня праваВога і матар'яльнага становішча выхаванцаў, і па іх разьмеркаваць дзяцей, прыстасаваўча да іх якаснага складу і ступені перавыхаваньня.

Гэта сыстэма клясыфікацыйнага падзелу, умела ўжытая ў практыцы, ужо дала добрыя вынікі.

Яшчэ раз адзначым, што гэтая профіляктыка з асабліваю катэгорычнасьцю патрабуе нязвычайнай асьцярожнасьці і ўмеласьці ў справе ўкомплектаваньня устаноў выхаванцамі.

* * *

Канчатковаю мэтаю социяльнага перавыхаваньня зьяўляецца прыстасаваньне выхаванцаў да самастойнай кваліфікаванай работы.

Гэта мэта дае спэцыфічную афарбоўку і напрамак працоўна - выхаваўчаму рэжыму ўстаноў з яго станоўчымі эмоцыямі і інтарэсамі; гэтаю мэтаю прасякнута ўся сыстэма самаабслугоўваньня; дзеля гэтай мэты ў перавыхаваўчых установах організуецца цэлы шэраг навучальна-вытворчых майстэрняў.

Але-ж, ня гледзячы на такое выключнае значэньне, якое набывае працоўнае выхаваньне і рамесьніцкае навучаньне ў агульнай сыстэме перавыхаваньня, трэба адзначыць, што гэтая справа пастаўлена вельмі слаба.

Звычайна організуюцца шаблённыя майстэрні—шавецкая, кравецкая, сталярная, сьлясарная.

Звычайна майстэрні слаба абсталяваны, ня могуць шырока разгарнуць сваю вытворчасьць, ня могуць захапіць выхаванцаў сваім размахам і пэрспэктывамі. З прычыны недастатковага абсталяваньня майстэрні ня могуць конкураваць з рынкам, зьяўляюцца няжыцьцёвымі і абмяжоўваюць сваю вытворчасьць толькі самаабслугоўваньнем.

Майстэрні абслугоўваюцца дрэннымі інструктарамі, бо кваліфікаваных інструктароў-пэдагогаў мы яшчэ ня маем, і прыходзіцца карыстацца інструктарамі-рамесьнікамі, ды і то самымі нізкапробнымі, бо цяжка знайсьці кваліфікаванага інструктара на 80 р. у месяц, ды яшчэ на выезд у вёску.

Строга вытрыманых навучальна-вытворчых програм звычайна няма, а дзе яны і ёсьць, дык ня могуць быць выканы з прычыны непадрыхтаванасьці і малапісьменнасьці інструктарскага апарату. Разьмеркаваньне выхаванцаў па майстэрнях ня ўзгоднена з патрабаваньнямі псыхотэхнічнага адбору, што яшчэ больш ускладняе работу майстэрняў і зьяўляецца прычынаю такога зьявішча, што некаторыя выхаванцы, як гастралёры, праходзяць праз усе майстэрні, ня толькі ня робяцца політэхнікамі, але, як і трэба чакаць, ня могуць навучыцца ніякаму рамяству.

Кожнаму інструктару даецца ў навучаньне прыблізна 20 выхаванцаў, якіх ён ня можа належным чынам інструктаваць, ня можа падтрымаць у кожнага з іх зацікаўленасьць да рамяства; ня можа дапамагчы кожнаму пры няўдачы і прышчапіць яму веру ў свае сілы і здольнасьці.

А ў гэтым выпадку трэба памятаць, што выхаванцы, як цяжка выхоўваемыя, школьна занядбалыя, разумова адсталыя і слабавольныя, пры навучаньні іх рамяству патрабуюць да сябе асаблівай увагі з боку інструктара.

Трэба ім добра тлумачыць усю тэхніку рамяства; трэба падтрымліваць іх зацікаўленасьць да рамяства; трэба асьцерагаць іх ад цяжкіх перашкод у рабоце і расчараваньня, трэба прывучыць іх да плянавай работы і паступова выпрацоўваць сьвядомасьць, уважлівасьць і працаздольнасьць. Усё гэта патрабуе ад інструктара знаёмства з элемэнтарнымі правіламі пэдагогічнага падыходу. А на справе мы бачым, што няўмелы падыход інструктароў вельмі часта парушае псыхічную роўнавагу выхаванцаў, якая з такой цяжкасьцю здабыта шляхам упартай работы выхаваўчага апарату. Паводле матар'ялаў, якія ў мяне ёсьць, можна з упэўненасьцю сказаць, што 90 проц. усіх уцёкаў выхаванцаў і іх жыцьцёвых зрываў узьнікаюць менавіта на грунце іх адрыву ад майстэрняў і няўмелага да іх падыходу пры навучаньні рамяству. Я магу з упэўненасьцю сказаць, што майстэрні нашых перавыхаваўчых устаноў за вельмі нязначным выключэньнем зьяўляюцца скарэй за ўсё клясамі ручной працы і даюць выхаванцам нязначную кваліфікацыю. Калі да ўсяго гэтага далучыць, што гэтыя майстэрні ня маюць афіцыйнага тавару, што не дае выхаванцам пэўнай магчымасьці атрымаць работу па спэцыяльнасьці, дык мы павінны прызнаць, што справа рамесьніцкага навучаньня ў перавыхаваўчых установах патрабуе рэорганізацыі.

У якім-жа напрамку рабіць гэтую рэорганізацыю?

Перад тым, як даваць майстэрням мэтавую ўстаноўку, скажам некалькі слоў

аб якасных асаблівасьцях выхаванцаў. Трэба адзначыць, што на грунце бяспрытульнасьці і з ёю зьвязаных соцыяльнай занядбаласьці, раньніх злоўжываньняў наркотыкамі і палавымі лішкамі бяспрытульнікі набываюць цэлы шэраг антысоцыяльных звычак, скажаюць сваю псыхічную конституцыю, парушаюць фізычны статус. У іх ня толькі выпрацоўваецца недысцыплінаванасьць, нездаровы індывідуалізм і эгоцэнтрызм, але поруч з гэтым заўважваецца адсутнасьць фізычнай плястычнасьці і расстройства моторна-рухавых процэсаў і координацыі.

Значыцца, перад выхаваўчаю ўстановаю стаіць задача дысцыплінаваць выхаванцаў, навучыць іх колектыўнай згоднасьці і плястычнасьці руху. Гэты вельмі складаны і марудны процэс псыхофізычнай ортопэдыі лепш за ўсё можна правесьці праз майстэрні, пабудаваўшы іх па сыстэме ЦІП. Гэтая сыстэма, з яе трэніроўкаю, рухавою гімнастыкай, колектыўна ўзгодненаю работаю, строгаю чыста вайсковаю дысцыплінаю, плянавасьцю, зьяўляецца найлепшым сродкам для таго, каб ня толькі даць выхаванцам належную рамесьніцкую кваліфікацыю, але соцыяльна перавыхаваць і псыхофізычна аздаравіць іх, пры чым трэба будаваць не шаблённыя цэхі, аб якіх мы гаварылі раней, а цэхі вытворча-будаўнічага характару—пячнікоў, каменшчыкаў, штукатураў, будаўнікоў, арматуршчыкаў, сьлесароў, сталяроў, у якіх адчуваецца вялікая патрэба ў наш век індустрыялізацыі і будаўніцтва, якія забясьпечвалі-б выхаванцам работу на прадпрыемствах.

Выпуск курсантаў рабіць па ўсіх правілах экспэртызы з выдачаю атэстатаў. У даным выпадку можа быць гутарка толькі аб павялічэньні тэрміну выкананьня програмы ад 6 месяцаў да 1 году, а то і болей, што выклікаецца фізычнаю і псыхічнаю няпоўнакаштоўнасьцю выхаванцаў.

Наша практыка (сталярная майстэрня Барысаўскага рэформаторыуму і сьлясарная майстэрня Магілеўскай дзіцячай комуны) паказвае, што ва ўмовах перавыхаваўчых устаноў сыстэма ЦІП'у сябе апраўдвае і зьяўляецца магутным фактарам у справе перавыхаваньня, рамесьніцкага навучаньня і працоўнага прыстасаваньня выхаванцаў.

* * *

Асноўная маса выхаванцаў перавыхаваўчых устаноў складаецца з такіх дзяцей, якія пацярпелі жыцьцёвыя зрывы, страцілі жыцьцёвыя пэрспэктывы і ў процэсе цяжкіх жыцьцёвых умоў выпрацавалі сумны пэсымістычны сьветапогляд. Усё ім абрыдла, яны ва ўсім расчараваліся, яны ня вераць у лепшую будучыну.

Трэба адзначыць, што пры ўсёй стракатасьці псыхопатычных конституцый, якія назіраюцца сярод такіх дзяцей, элемэнт дэпрэсыўнага псыхозу зьяўляецца звычайным амаль у кожным выпадку, толькі ў адных ён мае сталы характар, а ў другіх выяўляецца ў форме вельмі рэзкіх і балючых рэцыдываў.

Пад уплывам такога настрою яны ня хочуць вучыцца і працаваць; яны ня бачаць ніякага сэнсу ні ў клясных занятках, ні ў навучаньні рамяству і звычайна так формулююць сваю ідэолёгію:

„не хачу ні вучыцца, ні працаваць, бо ўсёроўна з мяне нічога ня будзе; дзе-небудзь так і загіну з голаду; у мяне многа было таварышоў, а хто з іх вышаў у людзі?“

Не знаходзячы ва ўстанове жыцьцёвай мэты, такія выхаванцы вельмі схільны да ўцёкаў і вандраваньняў з аднэй установы ў другую ў пошуках лепшага жыцьця.

На перавыхаваўчай установе ляжыць вельмі складаная задача ўтрымаць такіх хворых дзяцей у сваіх сьценах, падняць іх самапачуцьцё, прышчапіць ім бадзёрасьць і здаровыя інтарэсы. Для дасягненьня гэтага трэба даць ім работу па іх сілах, здольнасьцях і нахілах, уважліва аднесьціся да іх запытаньняў; паставіць іх у такія ўмовы, каб яны ўсёю сваёю істотаю адчувалі, што ў колектыве ўстановы ім добра, што ўстанова сапраўды дасьць ім належную кваліфікацыю і накіруе іх на работу адпаведна іх кваліфікацыі і сілам.

У гэтым выпадку, не чакаючы ад іх якіх-небудзь заслуг і дасягненьняў, трэба

паставіць справу так, каб колектыў установы зрабіўся для іх крыніцаю радасьці.

Трэба шырока авансаваць, не чакаючы авансаў ад іх. І на гэтыя авансы ўстанова павінна аддаць усё лепшае і самае каштоўнае, што ў яе ёсьць.

Адзін з характэрных прыкладаў.

Аднаго разу з Воршы прывезьлі ў інстытут Юрку С. з вельмі дрэннаю характарыстыкаю. Яму гадоў 15. Яму добра знаёмы перавыхаваўчыя ўстановы Масквы, Ленінграду, Вяткі, Яраслаўлю, Пермі, Самары, Саратаву, Кіеву, Харкаву, Одэсы. Нейкім цудам ён быў нават у замежных дзіцячых дамох. Ён вельмі разьвіты, здольны хлопец. Ён нідзе ня мог затрымацца. З усіх дзіцячых дамоў яго гнала нездаволенасьць сваім становішчам. Ніводзін дзіцячы дом ня мог задаволіць яго запатрабаваньні. Гэта яскравы тып патолёгічнага вандроўніка.

Першы дзень за ім быў асаблівы нагляд. На другі дзень ён прыходзіць да мяне ў габінэт і, прыветна вітаючыся, кажа:

„Вы за мною не наглядайце, бо калі я захачу, ўсёроўна ўцяку. У вас тут вольна. Я ўцёк са Смаленскага і з Арлоўскага ізолятараў і з Харкаўскага рэформаторыума ад узброенай варты. а адгэтуль і ўцякаць няма чаго. Але я яшчэ пагляджу. Калі мне спадабаецца, дык застануся, а калі не—уцяку. Даю абяцаньне, што, як надумаю ўцякаць, папярэджу вас".

Прыветна ўсьміхаючыся, ён вышаў з габінэту.

Праз тыдзень ён зноў прышоў да мяне і сказаў, што уцякаць ня будзе.

— „Мне шмат ня трэба. Мне трэба толькі добрыя адносіны і хоць маленькая надзея на тое, што інстытут можа вывесьці мяне на сьветлую дарогу працы. Адносіны да мяне добрыя, бацькаўскія. У майстэрні можна навучыцца. Ад хлопцаў я даведаўся, што з інстытуту шмат выхаванцаў накірованы ў школы і на прадпрыемствы: Сяргей З. скончыў электро-мэханічны тэхнікум і паступіў у ВТНУ, Ш. Р., В., М., Д. вучацца ў профтэхнічных школах, Б., І., Ш., Х. працуюць на фабрыцы і ў колектывах. Буду і я старацца".

Так і застаўся. Паступіў у майстэрню. Шчыра працаваў і ў клясе і ў майстэрні.

Першыя поўгада наглядаліся рэцыдывы, але дзякуючы профіляктычным мерапрыемствам, яны своечасова паралізаваліся.

А цяпер ён комсамолец, працуе ў Менску, добра забясьпечаны і зьяўляецца прыкладным рабочым.

Што-ж дапамагло ўтрымаць у інстытуце такога вандроўніка? Справа ў тым, што, ня гледзячы на такія няспрыяючыя ўмовы, як адарванасьць ад навучальных установаў і розных прадпрыемстваў, інстытут за 3 гады накіраваў у навучальныя ўстановы і на прадпрыемствы каля 45 выхаванцаў, якія добра працуюць, матар'яльна забясьпечаны. Шмат хто з іх, каля 40%, знаходзяцца ў шэрагах комсамолу. Ёсьць члены і кандыдаты КП(б)Б. Былі выпадкі, калі былыя выхаванцы выбіраліся ў члены гарсаветаў. Месячны заработак некаторых даходзіць да 180-200 руб. Адзін выхаванец па сканчэньні электро-мэханічнага тэхнікуму паступіў у ВТНУ і характарызаваны як вынаходца.

Усе выпушчаныя падтрымліваюць сувязь з інстытутам. Прыязджаюць улетку ў часе водпуску адпачыць на тыдзень-два, выступаюць на агульных сходах выхаванцаў з дакладамі і даюць добры прыклад соцыяльнай выхаванасьці, вытрыманасьці.

Усё гэта ўтварыла ва ўстанове здаровую традыцыю, надавала выхаванцам бадзёрасьць, зьяўлялася галоўным момантам, які стымулюе іх паводзіны і працоўны настрой.

У апошні час якасны склад выпускаемых з інстытуту выхаванцаў настолькі слабы, што яны накіроўваюцца толькі на біржу працы і ў саўгасы. У 1928 г. так не пашанцавала, што, ня гледзячы на ўсе захады, мы не змаглі накіраваць на работу 6 выхаванцаў, якія вельмі пасьпяхова скончылі курсы ЦІП'у.

У зьвязку з гэтым мы ўжо маем сярод выхаванцаў дрэнны настрой і паўлячэньне ўцёкаў.

Да гэтага часу выпускі маюць выпадковы характар, робяцца ў розную пару году. Магчымасьць выпуску з установы якога-небудзь пераростка залежыць да сьляпога выпадку і патрабуе ад адміні-

страцыі вялікай цяганіны. У зьвязку з гэтым іншы раз выхаванцы накіроўваюцца на такую работу, якая не адпавядае іх кваліфікацыі і нахілу і знаходзіцца ў рэзкай супярэчнасьці з патрабаваньнямі псыхотэхнікі, што цягне за сабою зрыў выхаванцаў з работы. У зьвязку з гэтым усе перарасткі чакаюць выпуску кожны дзень, хвалююцца, трацяць псыхічную роўнавагу і робяць нездаровы уплыў на ўсю масу выхаванцаў. Пры такіх умовах выхаванцы ня маюць пэўных пэрспэктыў.

Нам трэба так пабудаваць сыстэму выпуску выхаванцаў з перавыхаваўчых устаноў, каб гэтыя выпускі былі плянавымі і рэгулярна адбываліся па скончэнні навучальнага году. Гэта пытаньне трэба вырашыць законадаўчым парадкам у такім напрамку, каб кожнай установе была вызначана на тых ці іншых прадпрыемствах вядомая колькасьць месц, пры чым гэта разьмеркаваньне трэба рабіць з восені перад пачаткам навучальнага году, каб даць установам магчымасьць рацыянальна разьмеркаваць выхаванцаў па групах, весьці з імі індывідуальныя заняткі, падрыхтоўваць іх да работы па якой-небудзь спэцыяльнасьці. Гэтыя выпускі выхаванцаў з устаноў трэба рабіць з магчымаю ўрачыстасьцю, якая павінна імпонаваць астатнім выхаванцам, прышчапляць ім бадзёры настрой, стымуляваць іх трыманьне.

* * *

Як бачым, у становішчы нашых перавыхаваўчых устаноў ёсьць шмат арганізацыйных недахопаў, якія перашкаджаюць нормальнай рабоце.

Вось чаму трэба вітаць пастанову НКА аб рэорганізацыі ўсёй сыстэмы дэфэктолёгічнай асьветы па прынцыпу дыфэрэнцыяцыі дзяцей і стандартызацыі дзіцячых устаноў, бо толькі пры гэтых умовах можна належным чынам паставіць справу ўкомплектаваньня дзяцьмі перавыхаваўчых устаноў, іх адукацыі і працоўнага рамесьніцкага выхаваньня. Толькі пры гэтых умовах з нормальных школ і дзіцячых дамоў можна вылучыць усіх „цяжкіх“ дзяцей, якія да апошняга часу застаюцца без належнай увагі, ляжаць на установах цяжкім баластам, як элемэнт небясьпечны.

Толькі пры гэтых умовах можна напалову зьліквідаваць дзіцячую бяспрытульнасьць, якая на 50% харчуецца за кошт гэтых самых „цяжкіх“ дзяцей, якія ўцякаюць са школ, дзіцячых дамоў, перавыхаваўчых устаноў.

**„Справа выхаваньня дэфэктыўных дзяцей павінна выйсьці з сфэры компэтэнцыі вузкага кола дэфэктолёгаў і стаць справай усяе нашае грамадзкасьці.**

**...Няма такога дзіцяці, якога нельга было-б зрабіць сьвядомым, актыўным, адданым удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва. Справа ня ў дзецях, а ў тых, хто над імі працуе. Дрэнны той настаўнік-выхавацель, у якога дрэнныя выхаванцы. Гэта трэба мець на ўвазе кожнаму, хто мае дачыненьне да выхаваньня дзяцей“.**

# ПОЛІТАСЬВЕТНАЯ РАБОТА Ў КОЛГАСАХ

*(Мэтодычны ліст № 1)*

**Уступ**

„На падставе генэральнай лініі Ўсе-КП(б), якая накіравана на рашучы наступ на капіталістычныя элемэнты ў сельскай гаспадарцы—праз шырокае разгортваньне саўгаснага і колгаснага будаўніцтва і маючы на ўвазе гісторычна вельмі нізкі ўзровень сельскай гаспадаркі Беларусі, нізкую таварнасьць яе, вялікую аграрную перанаселенасьць, вострае малазямельле і раздробленасьць сельскай гаспадаркі, перад КП(б)Б з усёй рашучасьцю пастаўлена XII зьездам задача з усёй сілай і энэргіяй праводзіць работу па ўзмацненьні і ўзбуйненьні колгасаў і саўгасаў і па рашучым разгортваньні колгаснага будаўніцтва, як рашаючага шляху, які забясьпечвае магутны ўздым бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і соцыялістычную рэконструкцыю усяе сельскай гаспадаркі".

(З рэзолюцыі верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б).

Пастаўленыя партыяй і савецкай уладай задачы ў галіне соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі патрабуюць вялікай напружанасьці і мобілізацыі сіл усіх працоўных вакол гэтых задач. Пасьля гісторычнага рашэньня XV зьезду партыі аб колектывізацыі сельскай гаспадаркі бядняцка-серадняцкія пласты вёскі нячуваным тэмпам ідуць па шляху аб'яднаньня дробных гаспадарак у буйныя соцыялістычныя гаспадаркі. Контрольныя лічбы па колектывізацыі сельскай гаспадаркі, вызначаныя пяцігадовым плянам соцыялістычнага будаўніцтва, выкананы з перавышэньнем.

Замест карлікавых колгасаў, якія організоўваліся ў папярэднія гады, цяпер організоўваюцца буйныя колгасы ў некалькі тысяч гэктараў, колектывізуюцца цэлыя сельсаветы, раёны і акругі (Магілеўская, Мазырская ды інш.).

„Вынікі пасьпяховага выкананьня першага году пяцігадовага пляну і пэрспэктывы разьвіцьця народнай гаспадаркі, якія вызначаліся на 1929-30 г., зьяўляюцца яскравымі паказальнікамі правільнасьці лініі партыі, якая разьлічана на максымальна напружаныя тэмпы народна-гаспадарчага будаўніцтва, і сьведчаць аб поўным банкруцтве правай бухарынскай опозыцыі, якая спрабавала сьцягнуць партыю і рабочую клясу з правільных ленінскіх позыцый у опортуністычнае балота.

Лепшай праверкай правільнасьці рашучага курсу партыі на шпаркі тэмп індустрыялізацыі і на соцыялістычнае ператварэньне сельскай гаспадаркі па шляху колектывізацыі зьяўляецца пасьпяховае выкананьне гаспадарчай програмы 1928-29 г.". (З рэзолюцыі верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б).

Шпаркі тэмп колектывізацыі сельскай гаспадаркі выклікае абвастрэньне клясавай барацьбы, якая прымае розныя формы: падпалы колгасаў, забойствы актывістых і організатараў колгасаў, пагрозы, контррэволюцыйная агітацыя як па-за колгасамі, так і ў самых колгасах. Лёзунг кулака—ідучы ў колгас, распрадай сваю жывёлу ды інш. Усё гэта выклікае неабходнасьць узмацненьня політасьветнай і выхаваўчай работы ў колгасах. Політасьветработа ў колгасах „павінна быць накіравана на разьвіцьцё соцыялістычна-сьвядомых адносін да вытворчасьці, узмацненьне працоўнай дысцы-

пліны, падвышэньне культурнага ўзроўню рабочых саўгасаў і колгасьнікаў“. (З рэзолюцыі верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б).

Толькі пад кіраўніцтвам партыйных ячэек у колгасах, пры энэргічнай рабоце палітасьветработнікаў, пры належнай організацыі і згрупаваньні культурных сіл колгасаў навокал работы клюбу, пры актыўнай дапамозе комсамольскіх і грамадзкіх організацый, на падставе шырокага разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі, праз пашырэньне соцыялістычнага спаборніцтва будуць вырашаны задачы і дасягнуты мэты, якія стаяць перад палітасьветнай работай у колгасах.

## Організацыйныя прынцыпы палітасьветнай работы ў колгасах

З мэтай організацыі і правядзеньня палітасьветнай работы, укараненьня новых форм быту сярод членаў колгасу і вакольнага насельніцтва, пры кожным колгасе організоўваецца палітыка-асьветна-бытавая комісія.

Комісія выбіраецца на агульным сходзе членаў колгасу з 5—7 асоб, старшынёй яе павінен абавязкова быць член савету колгасу.

Да работы комісіі прыцягваюцца прадстаўнікі партыйных, комсамольскіх організацый, дэлегацкага сходу жанчын і культурныя сілы, якія знаходзяцца на тэрыторыі колгасу.

Пэрспэктыўны плян работы палітасьветбытавой комісіі зацьвярджаецца саветам колгасу і агульным сходам.

Пэрспэктыўны плян работы выпрацоўваецца на тры месяцы; згодна гэтага пляну выпрацоўваецца каляндарны плян тэрмінам на адзін месяц. Сродкі для палітасьветработы вылучаюцца па агульнаму каштарысу колгасу: яны павінны быць ня больш 1 проц. валавога прыбытку; акрамя таго, комісія можа атрымоўваць розныя добраахвотныя адлічэньні грамадзкіх організацый і дотацыю розных устаноў.

Справаздачу аб рабоце пэрыодычна, ня менш двух разоў у год, комісія робіць на савеце і агульным сходзе колгасаў.

З мэтай выкананьня пастаўленых зараз партыяй і савецкай уладай задач у дзейнасьць комісіі ўваходзіць: популярызацыя пяцігодкі, усіх пастаноў партыі і савецкай улады, вывучэньне колгаснага будаўніцтва, організацыя новых колгасаў, правядзеньне ўсяе масавай палітасьветнай работы сярод членаў колгасу і працоўнага насельніцтва па-за колгасам, інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаваньне, ліквідацыя няпісьменнасьці і малапісьменнасьці і самаадукацыя. Работа комісіі павінна мець практычныя вынікі: карэнная ломка старога быту і ўнядрэньне новага, організацыя грамадзкага харчаваньня, санітарнае становішча жыльлёвых памяшканьняў, організацыя мэдсанітарных устаноў, агульнай пральні, організацыя дзіцячых ясьляў, пляцовак, школ ды інш. Палітасьветна-бытавая комісія ва ўсю работу ўцягвае шырокія масы колгаснага актыву.

У раёнах і акругах суцэльнай колектывізацыі павінна быць наступная схэма палітасьветных устаноў: буйныя колгасы, якія яднаюць некалькі насельных пунктаў, павінны мець цэнтрам палітасьветработы клюб з сталым працаўнікам. Клюб праводзіць работу ў кожным насельным пункце колгасу праз чырвоныя куткі. Клюб мае працаздольнае праўленьне. Праўленьне клюбу выбіраецца на сходзе членаў колгасу з 5-7 асоб, старшынёю праўленьня зьяўляецца загадчык клюбу. Сярод членаў клюбу разьмяркоўваюцца абавязкі па такіх галінах работы: сэкратар, кіраўнік масавай работы гурткавой, кіраўнік чырвонымі куткамі, калі іх больш за тры і г. д. Пасяджэньні праўленьня клюбу адбываюцца два разы ў месяц. Пэрспэктыўны плян работы клюбу выпрацоўваецца на тры месяцы, а каляндарны—на адзін месяц. Пэрспэктыўны плян зацьвярджаецца палітасьветна-бытавой комісіяй. Плян работы паасобных членаў праўленьня ўваходзіць у агульны плян работы клюбу.

Работу ў чырвоных куткох праводзяць саветы іх, якія выбіраюцца на агульным сходзе з 3—5 асоб і вылучаюць з свайго складу загадчыка чырвоным кутком. Да чырвонага кутка прымацоўваецца член праўленьня клюбу, які праводзіць там сыстэматычную работу і нясе адказнасьць перад праўленьнем за пастаноўку ўсяе работы. Улічваючы вялікі

рост культурных запатрабаваньняў, політасьветкомісіі організуюць пры клюбах стацыянарныя бібліотэкі з адпаведнай колькасьцю літаратуры і сталым працаўніком бібліотэкарам.

Дзейнасьць бібліотэкі заключаецца ў абслугоўваньні колгасу літаратурай з адпаведным падборам яе, організацыі бібліотэк-перасовак для чырвоных куткоў, распаўсюджваньні популярнай літаратуры па-за межамі колгасу, абслугоўваньні нацменшасьцяй на іх роднай мове і забясьпечваньні дзіцячай літаратурай.

Бібліотэка павінна папаўняцца новай літаратурай, якая набываецца згодна адпушчаемым сродкам па каштарысу, а таксама шляхам абмену кніг у раённай бібліотэцы.

У куставых колгасных аб'яднаньнях політасьветработа організацыйна будуецца гэтак-жа, як і ў буйным колгасе. У цэнтры колгасных аб'яднаньняў знаходзяцца клюбы, а ў дробных насельных пунктах — чырвоныя куткі. У раённым цэнтры знаходзіцца раённы клюб, раённая бібліотэка і кіруючы політыка-асьветны цэнтр (райполітасьветы). Канчатковая сыстэма політасьветработы і тыпу політасьветных устаноў прапрацоўваецца НКА.

Організацыйныя прынцыпы кіраўніцтва політасьветработай: раённыя нарады загадчыкаў клюбаў, бібліотэкараў і загадчыкаў чырвоных куткоў, пісьмовыя паказаньні райполітасьветкому, жывы інструктаж і нарады загадчыкаў чырвоных куткоў пры клюбах.

## Формы і мэтоды політасветнай работы

### Масавая політасьветная работа

Масавая політасьветная работа мае на мэце задавальненьне культурных патрэб колгасьнікаў, організацыю разумнага адпачынку, стварэньне новага культурнага быту, выхаваньне клясавай сьвядомасьці ў колгасьнікаў, асабліва ў рэконструкцыйны пэрыод, у зьвязку з абвастрэньнем клясавай барацьбы, выхаваньне сьвядомых адносін колгасьнікаў да абагуленых сродкаў вытворчасьці, зьніжэньне сабекошту на падставе павялічэньня продукцыйнасьці работы, увядзеньне бесьперапыннай работы, выхаваньне колгасьнікаў у інтэрнацыянальным колектыўным і антырэлігійным напрамку. Растлумачэньне колгасьнікам і сялянству політыкі партыі, што накіравана на ліквідацыю кулацтва як клясы.

Найбольш прыгодныя формы масавай работы ў клюбе наступныя:

### Работа з газэтай.

Газэта зьяўляецца вельмі добрым сродкам у перавыхаваньні мас колгасьнікаў, добрым пропагандыстым задач і пастаноў партыі і савецкай улады, а таксама добрым організатарам.

Надаючы такое значэньне газэце, трэба організоўваць галосную чытку газэт. Падбіраць артыкулы трэба, выходзячы з зацікаўленасьці колгасьнікаў у тых ці іншых пытаньнях, а таксама і з мясцовага жыцьця.

Галоснай чыткай газэт выпрацоўваецца зацікаўленасьць да іх, павялічваецца актыўнасьць колгасьнікаў у грамадзка-політычным жыцьці.

Абудзіўшы зацікаўленасьць колгасьнікаў да галоснай чыткі газэт, трэба пераходзіць да галоснай чыткі належнай рэволюцыйна-мастацкай літаратуры. Да галоснай чыткі газэт і літаратуры трэба ўважліва падрыхтавацца. З вялікай уважлівасьцю трэба выяўляць, чым найбольш цікавіцца колгасьнік, і накіраваць гэтую зацікаўленасьць па належнаму руслу. Пасьля чыткі трэба праводзіць гутарку; увязваючы прачытанае з мясцовым жыцьцём. Трэба організоўваць галосныя чыткі мастацкай літаратуры, асобна для жанчын.

### Насьценгазэта ў колгасе

Практыка паказала, што насьценгазэта зьяўляецца магутнай зброяй у перавыхаваньні мас, садзейнічае падняцьцю вытворчасьці і продукцыйнасьці работы, зьнішчае недахопы і асьвятляе дасягненьні колгасу. Праз насьценгазэту павінна быць шырока разгорнута бальшавіцкая самакрытыка. Пры кожным клюбе ў колгасе абавязкова павінна быць насьценгазэта, якая групуе вакол сябе корэспондэнтаў колгасу.

Уся організацыя работы насьценгазэты ўскладаецца на рэдколегію, якая выбіраецца на агульным сходзе рабселькораў у складзе 3-5 асоб. Найбольш прыгоднай

формай газэты будзе „Ільлічоўка“ таму, што можна будзе часта абнаўляць матар'ял. Артыкулы ў насьценгазэце павінны быць кароткія і яскравыя. Кожны артыкул павінен цесна ўвязвацца з мясцовым жыцьцём, гэта будзе выклікаць зацікаўленасьць да газэты з боку колгасьнікаў.

**Даклад і гутарка**

Адна з пашыраных форм работы ў клюбе,—гэта даклад і гутарка. Найлепшай формай работы зьяўляецца гутарка з ілюстрацыяй, лічбамі, дыяграмамі ды інш. Гутарка мае менш адмоўных бакоў, чым даклад. Да правядзеньня гутаркі кіраўнік павінен належна падрыхтавацца.

Праводзячы гутарку на тую ці іншую тэму, кіраўніку трэба пазнаёміцца, наколькі слухачом вядома гэтая тэма. Вельмі пажадана пасьля гутаркі для лепшага замацаваньня рэкомэндаваць літаратуру на тэму праведзенай гутаркі; нельга складаць вялікага сьпісу рэкомэндаванай літаратуры, трэба падбіраць больш популярную і якая ёсьць у бібліотэках.

Падбор тэм для дакладу і гутарак павінен цесна ўвязацца з соцыяльна-экономічнымі і бытавымі ўмовамі мясцовага жыцьця. Перад кожным дакладам і гутаркай трэба вывешваць аб'явы аб тэме, месцы і тэрміне правядзеньня. Аб'ява павінна быць мастацкі аформлена. Таксама карысна ў аб'яве даваць невялічкі сьпіс літаратуры па правадзімай тэме, гэта дасьць магчымасьць жадаючым падрыхтавацца. Час ад часу трэба праводзіць асобныя гутаркі для жанчын на спэцыяльныя тэмы: фізычнае выхаваньне дзяцей, спэцыфічныя для жанчын бытавыя тэмы ды інш.

**Вечар пытаньняў і адказаў**

Вечары пытаньняў і адказаў зьяўляюцца аднэй з асноўных форм масавай работы ў колгасе ня толькі таму, што яны задавальняюць масу адказамі і тлумачэньнямі, але і таму, што яны ўцягваюць масы колгасьнікаў у абгаварэньне таго ці іншага пытаньня, навучаюць самастойнаму выступленьню і клясаваму разуменьню пытаньня. Вечары выяўляюць запатрабаваньні членаў колгасу, якія потым кладуцца ў аснову далейшай масавай работы ў колгасе. Посьпех правядзеньня вечароў залежыць у значнай меры ад іх падрыхтоўкі. Каб добра правесьці вечар, трэба падрыхтавацца да актыўнага ўдзелу ўсіх прысутных, шляхам ранейшага паведамленьня праз аб'явы і плякаты, праз вусныя абвяшчэньні аб тэме вечару, тэрміне і месцы правядзеньня. Тэмы для вечароў можна выбіраць featureрознага характару: політычнага, гаспадарчага, бытавога ды інш, цесна ўвязваючы іх з бягучым жыцьцём, з задачамі партыі. У якасьці даючых адказы на пытаньні на вечар трэба прыцягваць адміністрацыю колгасу, партыйна-комсамольскія сілы, спэцыялістых, культурных працаўнікоў ды інш.

**Мастацкія вечары**

Мэта мастацкіх вечароў—даць колгасьнікам разумны і рацыянальны адпачынак. Мастацкія вечары могуць быць у форме пастаноўкі спэктакляў, вечару самадзейнасьці, інсцэніроўкі, жывой газэты, концэртаў, палітсудоў ды інш. Да ўдзелу ў мастацкіх пастаноўках павінны прыцягвацца ўсе мастацкія гурткі клюбу: драматычны, харавы, музычны, фізкультурны ды інш., і ўся моладзь колгасу.

**Кіно і радыё**

Не малое месца ў рабоце клюбу павінны займаць кіно і радыё. Яны даюць разумны адпачынак і адыгрываюць вялікую ролю ў клясавым перавыхаваньні мас. Улічваючы, што паасобныя колгасы яшчэ ня змогуць набыць кіно-апарат, колгасы павінны пэрыодычна абслугоўвацца раённымі кіно перасоўкамі. Радыё ўстаноўкі павінны быць у кожным клюбе. Радыё з кожным годам набывае ўсё большае значэньне. Радыё—пропаганды-сты і організатар. Праз радыё мы маем магчымасьць слухаць лекцыі, даклады, гутаркі, вучыцца ў радыё-саўпартшколе, радыё-комвузе, слухаць концэрты ды інш. Пасьля слуханьня дакладу па радыё можна праводзіць гутаркі, увязваючы іх з мясцовым матар'ялам.

### Экскурсіі

Экскурсіі маюць галоўным чынам тое значэньне, што яны найбольш наглядна, конкрэтна знаёмяць колгасьнікаў з рэальнымі дасягненьнямі жыцьця. Экскурсіі трэба рабіць у другія колгасы, комуны, саўгасы з мэтай вывучэньня паасобных галін сельскай гаспадаркі (жывёлагадоўля, паляводзтва ды інш) экскурсіі на прамысловыя прадпрыемствы з мэтай азнаямленьня з вытворчасьцю, умовамі жыцьця і бытам рабочых, у нацыянальныя колгасы і г. д. Экскурсіі трэба ўвязваць з масавай работай, а таксама з гурткавой. Пасьля правядзеньня экскурсіі трэба рабіць падагульненьні, з мэтай больш шырокай распрацоўкі і замацаваньня ведаў, атрыманых на экскурсіі.

### Кампаніі і рэволюцыйныя сьвяты

Задачай кожнай правадзімай кампаніі і рэволюцыйнага сьвята зьяўляецца ўцягненьне шырокіх працоўных мас у грамадзка-політычнае жыцьцё. У сучасны момант партыя і савецкая ўлада высоўвае цэлы шэраг кампаній: загатоўкі, распаўсюджваньне пазыкі, веснавая пасеўная кампанія ды інш. Клюбы колгасаў павінны стаць ініцыятарамі выкананьня гэтых задач унутры калгасу, а таксама групуючы беднату і серадняков навокал гэтага пытаньня па-за колгасам. З рэволюцыйных сьвят з асаблівым уздымам павінны прайсьці 1 мая, 7 лістапада і ленінскія дні.

### Гурткавая работа

Імкненьне колгасьнікаў да падняцьця свайго політычнага і культурнага ўзроўню высоўвае перад політасьветработай у калгасе глыбокую гурткавую работу. Больш карыснымі гурткамі ў колгасе зьяўляюцца: гурток бягучай політыкі, антырэлігійны, вайсковы, санітарны, фізкультурны, сельска-гаспадарчы (выраб малочных продуктаў, жывёлагадоўлі), мастацкі, драматычны, харавы, музычны ды інш. Організацыя гурткоў павінна адбывацца па прынцыпу добраахвотнасьці: гурток павінен налічваць ня больш 10-20 асоб.

Кожны гурток праўленьнем клюбу забясьпечваецца адпаведнымі кіраўнікамі. На організацыйным сходзе гуртка выбіраецца стараста, абавязкам яго зьяўляецца—весьці падлік работы і наведваньня членаў гуртку, прыносіць кнігі, дапаможнікі ды інш. Гурток працуе па сталай праграме, якая павінна быць абгаворана на агульным сходзе гуртка, зацьверджана праўленьнем клюбу. Найлепшым мэтодам заняткаў гуртка будзе жывая разгорнутая гутарка. Кіраўнік рыхтуецца да заняткаў, складае плян гутаркі і пытальнік. Члены гуртка чытаюць матар'ял па чарзе, потым кіраўнік задае пытаньні. Пытаньні павінны быць кароткія і зразумелыя, адказваць на якія павінны ўсе члены гуртка.

### Школьна-курсавая работа

Першай баявой задачай школьна-курсавой работы зьяўляецца пагалоўная ліквідацыя няпісьменнасьці і малапісьменнасьці. Суцэльная колектывізацыя катэгорычна высоўвае і задачу поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці. Другая задача—дашкольнае выхаваньне.

Організацыя працы на пачатках колектывізацыі сродкаў вытворчасьці і падводзіць нас да задачы вызваленьня жанчын ад клопатаў аб дзецях, асабліва ў пару сэзонных сельска-гасп. работ. З гэтай мэтай у колгасах павінна быць шырока разгорнута сетка дашкольных устаноў. Трэцяя задача—рэальнае забесьпячэньне ўсеагульным навучаньнем дзяцей школьнага ўзросту ў колгасах. Сама школа павінна перабудаваць сваю работу. Савецкая школа ў раёнах суцэльнай колектывізацыі павінна стаць школай, якая організуе працу дзяцей і падлеткаў на новых соцыялістычных пачатках. Сваю работу школа павінна ўвязаць з работай колгасу. Адначасова з усеагульным пачатковым навучаньнем у колгасах трэба разьвіваць падвышаную асьвету ў вячэрніх школах сялянскай моладзі, пры чым школа сялянскай моладзі павінна цалкам прыстасавацца да запатрабаваньняў колгаснага будаўніцтва і быць школай колгаснай моладзі. Пры шырокім разгортваньні школ колгаснай

моладзі, пашырэньні выпіскі газэт і часопісяй, пры разгортваньні самаадукацыі мы зьнішчым рэцыдыў няпісьменнасьці і малапісьменнасьці.

### Работа сярод жанчын

Жанчына да гэтага часу знаходзіцца на вельмі нізкім культурным узроўні і зьвязана з старым бытавым укладам, што не дае ёй магчымасьці ўцягвацца ў грамадзка-палітычнае жыцьцё. Асноўнай задачай політасьветработы сярод жанчын-колгасьніц зьяўляецца—падняць іх палітычна-культурны ўзровень, уцягнуць яе ў грамадзка-палітычнае жыцьцё і перабудаваць стары быт. Трэба аслабаніць жанчыну ад лішняй хатняй работы, праз організацыю грамадзкага харчаваньня, грамадзкай пральні, дзіцячых ясьляў, пляцовак ды інш.

Адначасова з гэтым трэба падняць зацікаўленасьць ды ініцыятыву жанчын-колгасьніц, уцягнуць іх у грамадзка-палітычнае жыцьцё шляхам правядзеньня сярод іх гутарак на найбольш цікавыя тэмы, галосных чытак газэт і організацыі гурткоў (кройкі і шыцьця птушкагадоўлі, па апрацоўцы малочнага продукту ды інш.), шляхам уцягненьня іх у лікпункты і школы малапісьменнасьці, пасылкі на розныя курсы. Шырокая работа павінна праводзіцца на дэлегацкіх сходах, якія павінны стаць грамадзкай школай.

### Работа сярод моладзі і дзяцей

Важнае месца займае політасьветработа ў колгасе сярод моладзі і дзяцей. Уся моладзь і дзеці павінны быць пад уплывам комсамольскіх організацый і піонэратрадаў. Пры клюбах у колгасах павінны быць організаваны юнацкія сэкцыі.

Асноўная задача політасьветработы ў колгасе, якая праводзіцца комсамольскай організацыяй і юнсэкцыяй клюбу,—гэта ўзняць палітычны ўзровень моладзі, задаволіць культурна-бытавыя запатрабаваньні моладзі, уцягнуць яе ў соцыялістычнае будаўніцтва.

Лепшыя формы політасьветнай работы сярод моладзі—гэта ўсе віды масавай работы, гурткі ды інш. Належную ўвагу трэба зьвярнуць на падрыхтоўку моладзі колгасаў у навучальныя ўстановы, організоўваючы падрыхтоўчыя курсы. Работа сярод дзяцей колгасаў таксама займае не малое месца ў політасьветнай рабоце. Трэба, каб узрастаючае пакаленьне выхоўвалася ў пролетарска-клясавым, колектывістычным ды ў інтэрнацыянальным духу; трэба забясьпечваць яго адпаведнай літаратурай, часопісамі і газэтамі. Дзяцей трэба ўцягваць у работу бібліотэкі па ўпарадкаваньню літаратуры, у работу клюбу па ўпрыгожваньні яго і ў іншыя віды работы, пасільныя дзецям. Непасрэдна кіруючым асяродкам па рабоце сярод моладзі і дзяцей у колгасе зьяўляецца ячэйка ЛКСМБ, якая ахапляе сваім кіраўніцтвам усю колгасную моладзь, організоўвае піонэратрад, наладжвае школьна-курсавую работу і самаадукацыю. Комсамол—застрэльшчык ва усёй культурнай рабоце ў колгасе, асабліва сярод моладзі і дзяцей, ён застрэльшчык перабудовы быту, увядзеньня лепшых форм і мэтодаў у вытворчасьці і г. д.

### Соцыялістычнае спаборніцтва

Задачай соцыялістычнага спаборніцтва ў колгасах зьяўляецца прыцягненьне мас да актыўнага ўдзелу ў соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі і быту, організацыі новых форм работы і падняцьця вытворчасьці і продукцыйнасьці працы ў колгасе.

Соцыялістычнае спаборніцтва праводзіцца паміж колгасамі, саўгасамі і колгасамі, колгасамі і прадпрыемствамі і ўнутры самога колгасу па асобных галінах гаспадаркі і паасобнымі калгасьнікамі.

Каб організаваць соцыялістычнае спаборніцтва, перш за ўсё трэба паставіць даклад на агульным сходзе членаў колгасаў на тэму аб задачах соцспаборніцтва, цесна ўвязаўшы з задачамі колгасу; пра падняцьце вытворчасьці і продукцыйнасьці работы, рацыяналізацыю часу ды інш., а таксама вырашаецца, каго выклікаць на спаборніцтва. Пасьля абгаварэньня на сходзе гэтага пытаньня, трэба вылучыць комісію для распрацоўкі конкрэтнага пляну дагавору; дагавор зацьвярджаецца на агульным сходзе.

Для таго, каб соцспаборніцтва не засталося на паперы, трэба вылучыць камісію, якая-б наглядала за выкананьнем дагавору па социялістычнаму спаборніцтву; трэба соцспаборніцтва асьвятляць у „ільлічоўцы“, інформаваць колгасьнікаў на агульных сходах аб дадатных і адмоўных бакох правядзеньня соцспаборніцтва.

Соцспаборніцтва не павінна застанавіцца толькі на тым, што будзе заключаны дагавор паміж двума колгасамі. У самым колгасе павінны заключацца дагаворы па соцспаборніцтву паміж работнікамі асобных галін гаспадаркі.

Ідэю організацыі ўдарных рабоч. брыгад трэба перанесьці і ў калгас. Трэба ад ударных брыгад пераходзіць у далейшым і да ўдарных колгасаў. Трэба цьвёрда памятаць, што спаборніцтва—не кампанія, а мэтод соцыялістычнага будаўніцтва.

**Інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаваньне**

Задача політасьветнай работы ў колгасе—выхаваць ня толькі грамадзка-актыўнага члена колгасу, але выхаваць інтэрнацыяналістага. Для гэтай мэты трэба сыстэматычна праводзіць інтэрнацыянальную работу. Формы інтэрнацыянальнага выхаваньня, даклады, гутаркі на тэмы: пра змаганьне пролетарыяту ў капіталістычных краінах, экономічнае і культурнае будаўніцтва ў нацрэспубліках, пра антысэмітызм, нацыянал-дэмократызм і шовінізм усіх колераў; організацыю інтэрнацыянальных вечароў ды інш.

На даным этапе асабліва трэба высьветліць карэньні і сутнасьць беларускага нацыянал-дэмократызму, а ў яўрэйскіх і польскіх колгасах—сутнасьць яўрэйскага і польскага нацыяналізму, каб на гэтай аснове павесьці з імі рашучую барацьбу ў колгасе з розным нацыянальным складам; політасьветработу трэба будаваць так, каб яна задавальняла культурныя запатрабаваньні нацменшасьцяй.

Для правядзеньня політасьветнай работы сярод нацменаў могуць быць скарыстаны ўсе тыя формы і мэтоды работы, якімі праводзіцца політасьветная работа ў колгасе наогул, толькі яна павінна праводзіцца на роднай мове.

У колгасах трэба шырока разьвіваць антырэлігійнае выхаваньне. Задачай антырэлігійнай работы зараз зьяўляецца:

1) Разбурэньне веры і звышнатуральнага; 2) выхаваньне ў колгасьнікаў марксыцка-ленінскага сьветапогляду; 3) узяцьце царкоўных будынкаў пад культасьветныя ўстановы, аддача званоў у фонд індустрыялізацыі.

Трэба організоўваць у колгасах ячэйкі саюзу ваяўнічых бязбожнікаў, сябрамі якой павінны зьяўляцца ўсе члены колгасу. Трэба організоўваць антырэлігійныя гурткі. Пры наяўнасьці зацікаўленасьці ў атрыманьні больш шырокіх антырэлігійных ведаў, магчыма організацыя антырэлігійных сэмінараў.

Антырэлігійнае выхаваньне не павінна абмяжоўвацца толькі гурткавой і сэмінарскай работай, яна павінна пранізваць усю масавую работу.

Рэлігія зьяўляецца зброяй контррэволюцыйных сіл, таму ў колгасах не павінна мець месца рэлігійная, сэктанцкая агітацыя і пропаганда.

**Работа з беднатою ў колгасах**

Новы гісторычны этап соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі зьяўляецца этапам абвостранай клясавай барацьбы. Сутнасьць клясавай барацьбы на даным этапе характарызуецца тым, што мы перайшлі ад політыкі абмежаваньня эксплёатарскіх тэндэнцый кулацтва да політыкі ліквідацыі кулацтва як клясы. Гэтай задачы, што пастаўлена партыяй, павінна быць падпарадкавана і ўся політыка-асьветная работа ў колгасах і наогул на вёсцы, у прыватнасьці работа з беднатою.

Апошняя пастанова ЦК УсеКП(б) („Зьвязда“ № 294 ад 24/XII-29 г.) чотка вызначае політычную лінію ў рабоце з беднатою. Згодна гэтай пастановы ЦК трэба „групы беднаты ператварыць у батрацка-бядняцкія групы“. Батрацка-бядняцкае ядро ў колгасах, батрацка-бядняцкія агульныя сходы на сяле, батрацка-бядняцкія групы ў саветах і ў коопэрацыі, вось зьвеньні таго ланцуга, які зьвязвае батрацтва, асноўны атрад рабочае клясы ў вёсцы, з апорай рабочай клясы

ў вёсцы—беднатой для лепшага ўмацаваньня саюзу беднаты з серадняком, пад кіраўніцтвам партыі „накірованага супроць кулака“. Трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на організацыю „батрацка-бядняцкіх груп у колгасах найпростага тыпу, у колгасах раёнаў суцэльнай колектывізацыі і пры машынатрактарных станцыях, у асаблівасьці ў першапачатковы пэрыод іх організацыі“. Трэба шырока практыкаваць скліканьне аб'яднаных нарад батрацка-бядняцкіх груп вёскі для абгаварэньня пытаньняў гаспадарча-політычнага характару (пасеўная кампанія, хлебазагатоўкі, скарыстаньне бядняцкіх фондаў і г. д.). Трэба таксама магчыма часьцей склікаць раённыя конфэрэнцыі для падагуленьня вопыту работы бядняцка-батрацкіх груп і для ўсебаковага паляпшэньня справы абароны гаспадарчых і культурных інтарэсаў батрацка-бядняцкіх мас.

# ПРА ЎДЗЕЛ ПОЛІТАСЬВЕТНЫХ УСТАНОЎ У КОЛЕКТЫВІЗАЦЫІ ВЁСКІ І ПРАВЯДЗЕНЬНІ ВЕСНАВОЕ ПАСЕЎНАЕ КАМПАНІІ

(*Мэтодычны ліст № 2*)

## 1. Уступ

„Вынікі мінулага гаспадарчага году, які праходзіў пад знакам бурнага росту соцыялістычнай індустрыі і соцыялістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы, сьведчаць аб новых буйнейшых дасягненьнях рабочае клясы, савецкай улады і партыі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва“.

Плян першага году пяцігодкі ў асноўным выкананы са значным перавышэньнем заданьняў па шэрагу важнейшых галін народнай гаспадаркі. Напрыклад, продукцыя соцыялістычнай прамысловасьці ўзрасла на 23,7 проц. замест вызначанага па пляну 21,4 проц. у тым ліку продукцыя цяжкай індустрыі ўзрасла на 29,8 проц. замест 25,6 проц. і г. д

Шпаркі тэмп індустрыялізацыі краіны зрабіў карэнны зрух у справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, які выявіўся ў бурным росьце колгаснага будаўніцтва, што перавысіў вызначаныя пяцігодкай лічбы.

Удзельная вага колгасаў ва ўсёй таварнай продукцыі займае 4,9 проц. супроць 1,4 проц.—1927-28 г., у тым ліку па зернавых хлябох да 12,9 проц. замест вызначаных па пляну 4,5 проц.

Масавы рух колгаснага будаўніцтва ахапіў самыя шырокія колы бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, гэта значыць, што ў колгасы пайшоў за беднатой серадняк. Зараз колгасны рух ператварыўся ў процэс суцэльнай колектывізацыі паасобных раёнаў, акруг, і на гэтай аснове партыя паставіла конкрэтную задачу: на працягу бліжэйшых двух гадоў поўнасьцю колектывізаваць усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі БССР.

Надыходзячая веснавая пасеўкампанія набывае асабліва важнае політычнае значэньне. Яна фактычна зьяўляецца рашаючым этапам у справе ажыцьцяўленьня пастаўленай партыяй задачы—дабіцца новага ўздыму колгаснага руху, які-б забясьпечыў поўную колектывізацыю БССР на працягу двух год.

Пасеўкампанія будзе праходзіць ва ўмовах рашучага наступу соцыялістычных элемэнтаў на капіталістычныя, ва ўмовах выкарчоўваньня капіталістычных элемэнтаў з усяе экономікі краіны, ва ўмовах правядзеньня політыкі партыі, якая накіравана на поўную ліквідацыю кулацтва як клясы.

Гэта патрабуе ад усіх партыйных, савецкіх, профсаюзных ды іншых грамадзкіх організацый і ўсіх політасьветных

установ, асабліва на вёсцы, „умацаваньня політычнай ролі батрацка-бядняцкага ядра, стварэньня і ўзмацненьня батрацка-бядняцкіх груп“. Організаваць і аб'яднаць навокал партыі і яе генэральнай лініі асноўную і адзіную апору—батрацка-бядняцкія масы.

## II. Асноўны зьмест работы і пропаганды політасьветных установ у часе веснавой пасеўкампаніі

Уся організацыйная, культмасавая, політасьветная і мастацкая работа клюбаў, нардамоў, хат-чытален, чырвоных куткоў і бібліотэк павінна быць у сучасны пэрыод падпарадкавана асноўнай задачы—колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шырокаму растлумачэньню політычнага, клясавага значэньня колгаснага руху, сутнасьці організацыі, структуры і формы колгаснага будаўніцтва, політыкі партыі па ліквідацыі кулацтва як клясы.

Політасьветныя ўстановы павінны выступіць сапраўды ініцыятарамі і організатарамі навокал сябе шырокіх бядняцка-серадняцкіх колаў у галіне: а) організацыі новых, узбуйненьня існуючых колгасаў і пераводу першапачатковых коопэрацыйных аб'яднаньняў у вышэйшыя формы—колгасы, комуны; б) перанесьці ўвесь цяжар сваей работы ў колектыўныя гаспадаркі, накіраваць яе на далейшае абагуленьне ўсіх сродкаў вытворчасьці, ўсяе жывёлы, коннай цягавай сілы, узмацненьне гаспадарчай моцы і ўзьняцьце культурна-бытавога ўзроўню колгасьнікаў.

У часе веснавой пасеўкампаніі трэба:
1) давесьці пасеўплошчу пад колгасамі ня менш чым да 35 проц. усяго яравога кліну, а да канца гаспадарчага году—да 50 проц. усяе плошчы.

2) Пашырыць агульную пасеўплошчу пад зернавымі культурамі: ільну, канапель—на 11 проц., бульбы—на 6 проц., канюшыны—на 50 проц., сэрадэлі—на 40 проц.

3) Дабіцца падняцьця ўраджайнасьці ў саўгасах на 30 проц., у колгасах—на 25 проц., у індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках—на 20 проц., для чаго організаваць масавую работу па ачыстцы і пратручваньні ўсяго насеньня, зьбіраньні і скарыстаньні попелу і наогул правядзеньні агрыкультурных мерапрыемстваў.

4) Вельмі важнымі і новымі ў гэтым годзе зьяўляюцца пытаньні (паводле пастановы СНК БССР): а) стварэньне спэцыяльных насенных фондаў пры колгасах у разьмеры 300 тысяч тон і пры комітэтах сялянскай узаемадапамогі—12 тысяч тон; б) далейшае пашырэньне разьвіцьця жывёлагадоўлі, павялічэньне буйнай жывёлы на 10 проц.. сьвіней—на 30 проц. у параўнаньні з 1928-29 г., правядзеньне рашучай барацьбы з кулакамі, шкоднікамі, якія зьнішчаюць, разбазарваюць коні і рагатую жывёлу.

5) Прыняць усе захады да поўнага ахопу бядняцка-серадняцкіх гаспадарак контрактацыяй, асабліва тэхнічных культур (лён, бульба ды інш).

6) Правядзеньне штодзённай, сталай работы па шырокаму прасоўваньню аграпропаганды, укараненьню тэхнічных ведаў у бядняцка-серадняцкія масы, у першую чаргу, якія аб'яднаны ў колгасы.

Вось кола тых пытаньняў, навокал якіх павінна будавацца ўся работа політасьветных установ як у горадзе, так і на вёсцы.

Такім чынам пытаньне падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой пасеўкампаніі ў гэтым годзе зьяўляецца асноўным і выходным пунктам усяе работы, усіх масавых політасьветных установ. Трэба будаваць работу так, каб яна забясьпечыла ня толькі агітацыю і пропаганду чарговых задач партыі і савецкай улады, але каб дапамагала практычна ажыцьцяўляць мерапрыемствы і плян веснавой пасеўкампаніі ў канкрэтных умовах свайго раёну, сельсавету і давяла-б пляны да кожнага саўгасу, колгасу, вёскі і асобнага бядняцка-серадняцкага двара.

На вялікі жаль, даводзіцца констатаваць, што пераважная большасьць політасьветных установ далёка адстала ад агульных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Большасьць клюбаў, нардамоў і хатчытален да гэтага часу займаліся пераважна „культурніцтвам“, зусім слаба ўдзельнічалі ў агульнай справе соцыялістычнага будаўніцтва і колектывізацыі вёскі.

Хаты-чытальні яшчэ ня сталі „організуючым цэнтрам культурнай і політычнай актыўнасьці бядняцка-серадняцкіх мас“ на вёсцы.

Усё гэта настойліва патрабуе рашучага пералому, карэннай перабудовы работы ўсіх політасьветных устаноў, асабліва на вёсцы.

Трэба ўзяць такія тэмпы работы, якія-б забясьпечвалі выраўнаньне ўсяго фронту культмасавай, політасьветнай работы з агульнымі тэмпамі і новымі задачамі социялістычнага будаўніцтва.

## III. Формы і мэтоды работы політасьветных устаноў

1) Клюбы павінны сваю работу накіраваць у бок шырокага растлумачэньня і популярызацыі сярод рабочых, членаў профсаюзу, задач рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, практычных мерапрыемстваў і плянаў веснавой пасеўкампаніі, узмацненьня кіруючае ролі рабочае клясы, аказаньня практычнай дапамогі ў колектывізацыі вёскі і правядзеньні пасеўкампаніі.

Усю гэту работу трэба шчыльна ўвязаць з работаю шэфтаварыства.

а) Разам з шэфтаварыствам організаваць спэцыяльныя брыгады для пасылкі ў колгасы, вёскі на час правядзеньня пасеўнай кампаніі: па організацыі колгасаў, рамонце сельска-гаспадарчага інвэнтару, ачыстцы насеньня, зборы попелу, распаўсюджваньні сельска-гаспадарчай літаратуры і г. д.

Акрамя агульных брыгад, трэба клюбам вылучыць дадаткова з актыву клюбу і розных гурткоў свае брыгады па асобных галінах работы: брыгады агітатараў, масавікоў, рабкораў, мастакоў, брыгады кройкі і шыцьця ды іншыя вытворчыя брыгады.

Пажадана, каб пасылка гэтых брыгад чаргавалася паміж сабою, скажам: першымі едуць агітатары, масавікі, другімі—рабкоры, мастакі і г. д. з тым, каб папярэдне правесьці адпаведную агітацыйна-масавую работу і адначасова падрыхтаваць глебу і об'екты работы для другіх.

За тыдзень-два да выезду кожная брыгада павінна добра падрыхтавацца, скласьці плян работы, разьмеркаваць абавязкі, сьпісацца з сельсаветам і г. д.

б) акрамя пасылкі брыгад, трэба разгарнуць шырокую работу па аказаньні практычнай дапамогі праз прыняцьце культшэфства над колгасамі і вёскамі, організаваць збор сродкаў праз суботнікі, платныя вечары, лётарэю, на сельска-гаспадарчыя машыны, на організацыю дзіцячых ясьляй, радыё ды інш.

Правесьці збор сельскай-гаспадарчай і наогул грамадзка-політычнай літаратуры, вылучыць спэцыяльныя бібліотэчкі-перасоўкі для падшэфнага колгасу і вёскі. Трэба організаваць у горадзе па клюбах, установах, школах і жактах збор попелу;

в) аказаць рэальную дапамогу політасьветным установам на вёсцы—хатам-чытальням, чырвоным куткам—у галіне ўзмацненьня культмасавай, політыка-выхаваўчай работы сярод колгасьнікаў, батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі;

г) работа ўнутры клюбаў павінна шырока адлюстроўваць пытаньні колектывізацыі і правядзеньня пасеўкампаніі. Трэба прапрацаваць пытаньні социялістычнай перабудовы вёскі і пасеўкампаніі на гуртках, спэцыяльных вечарох з дакладамі, лекцыямі, на вечарох пытаньняў і адказаў, выпускам насьценгазэты, організацыяй экскурсіі членаў саюзу і клюбу ў бліжэйшы колгас, саўгас.

2. Нардом павінен зьявіцца організуючым і кіруючым асяродкам усіх політасьветных устаноў, якія знаходзяцца на тэрыторыі раёну яго дзейнасьці.

Гэтую ролю нардом павінен ажыцьцёвіць цалкам і поўнасьцю ў пытаньнях колектывізацыі вёскі і правядзеньні веснавой пасеўкампаніі. Асноўнымі мерапрыемствамі дзейнасьці нардому павінна быць: а) на падставе пляну колектывізацыі і пасеўкампаніі свайго раёну распрацаваць плян удзелу нардому. Плян павінен ахапіць ня толькі цэнтр раёну—мястэчка, але ўсе выключна сельсаветы, колгасы, вёскі, асабліва тыя, якія вызначаны для пераходу на суцэльную колектывізацыю; б) прыцягнуць і аб'яднаць навокал сябе ўсе культурныя сілы і сродкі ўсіх савецкіх профэсійных, коопэрацыйных і грамадзкіх організацый

раёну. Правесьці шырокія раённыя нарады прадстаўнікоў усіх гэтых арганізацый, хатнікаў, кіраўнікоў чырвоных куткоў, членаў савету колгасу, якія выконваюць культмасавую работу, старшынь культсэкцый, сельсаветаў ды інш. па пытаньнях перабудовы ўсяе культмасавай і палітвыхаваўчай работы ў адпаведнасьці з сучаснымі задачамі колгаснага будаўніцтва і практычным удзелам ў пасеўкампаніі; в) арганізаваць спэцыяльную агітфурманку, у якой павінны быць аддзелы агітацыі і пропаганды, сельскагаспадарчай літаратуры, даведак і г. д. Рабіць пэрыодычныя і масавыя выезды на дзень-два спэцыяльных брыгад у колгасы, саўгасы, вёскі. Арганізаваць выхады і прымацаваньне актыву нардому для дапамогі ў рабоце хатам-чытальням, чырвоным куткам; г) наладзіць шырокую агітацыйную і пропагандыцкую работу ўнутры нардому (лекцыі, даклады, вечары, гурткі, насьценгазэты, чыткі, выстаўкі с.-г. літаратуры, радыё, кіно і г. д.),зьмест якой цалкам павінен адпавядаць конкрэтным задачам па колектывізацыі сельскай гаспадаркі і правядзеньню пасеўкампаніі ў даным раёне.

3. Хаты чытальні, выходзячы з усяго вышэй пералічанага і на падставе пляну веснавой пасеўкампаніі свайго раёну і сельсавету, павінны распрацаваць і вызначыць конкрэтныя задачы і практычныя мерапрыемствы работы на бліжэйшы час (3-4 месяцы). Трэба арганізаваць навокал хаты-чытальні шырокія колы колгаснага батрацка-бядняцкага актыву. Прыцягнуць да работы ўсіх грамадчыкаў, партыйцаў, комсамольцаў, настаўнікаў ды інш. культурна-грамадзкія сілы.

Аб'яднаць усе пляны, сілы сельсавету, КСУ, кооперацыі, рабачкому, школы ў адзіны плян і арганізуючы цэнтр хатучытальню. Ажывіць работу існуючых саветаў хат-чытальнь. Увесьці ў яго склад прадстаўнікоў ад партыйных, комсамольскіх, савецкіх, кооперацыйных, профсаюзных ды інш. арганізацый, а таксама з колгасаў і наогул батракоў і беднякоў. Правесьці шырокія нарады гэтых прадстаўнікоў, культактыву.

Вылучыць апорныя, ударныя пункты— колгасы, комуны, саўгасы і вёскі, якія аб'яднаюцца ў колгас, альбо намечаны па пляну да колектывізацыі, у прыватнасьці, трэба арганізаваць ва ўсіх колгасах чырвоныя куткі. Вылучыць туды бібліотэкі-перасоўкі, правесьці падпіску на газэты, часопісі, а таксама на сельска-гаспадарчую літаратуру.

Для сталай работы ў чырвоных кутках прыцягнуць батрацка-бядняцкі колгасны актыў, прымацаваць членаў, савету альбо з актыву да хат-чытальнь, да чырвоных куткоў. Адначасова трэба правесьці адпаведную работу ў школах, лікпунктах, дапамагчы ім распрацаваць мерапрыемствы па практычным удзеле ў гэтай рабоце.

Правесьці шырокую работу па растлумачэньню асноўных задач і мерапрыемстваў партыі і савецкай улады ў галіне колектывізацыі с. г. і веснавой пасеўкампаніі. Популярызаваць нашы дасягненьні першага году выкананьня пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва, а таксама высунутых мерапрыемстваў на другі год пяцігодкі, асабліва ў галіне колгаснага будаўніцтва, пашырэньне пасеўплошчы, уздым ураджайнасьці, якаснае і колькаснае павялічэньне жывёлагадоўлі, завастрыўшы асноўную ўвагу ва ўсіх гэтых пытаньнях на ажыцьцяўленьні політыкі партыі па ліквідацыі кулацтва, як клясы.

Гэта работа павінна праводзіцца праз масавыя сходы, лекцыі, вечары пытаньняў і адказаў, гутаркі, чыткі газэт, лёзунгі, плякаты, насьценгазэты і г. д. Праводзімую работу трэба больш наблізіць да адлеглых колгасаў, саўгасаў і вёсак. Пры хатах-чытальнях арганізаваць спэцыяльныя куткі колектывізацыі і пасеўкампаніі. Набыць неабходную колгасную с.-г. літаратуру, пастановы партыі і савецкай улады, лёзунгі, плякаты, дыяграмы, пляны па пытаньнях колектывізацыі і пасеўкампаніі.

Падрыхтаваць і правесьці шэраг агітсудоў над кулакамі, шкоднікамі колгаснага будаўніцтва, шэраг судоў над тымі, хто разбазарвае і зьнішчае жывёлу, хто выступае супроць колгасу, хто нядбайна вядзе падрыхтоўку да веснавой пасеўкампаніі і г. д.

Арганізаваць экскурсіі сялян вёскі ў прыкладныя колгасы, саўгасы для

азнаямленьня з жыцьцём колгасу, з працаю ў ім. Гэтыя экскурсіі павінны суправодзіцца грунтоўным тлумачэньнем агронома, загадчыка ды іншых спэцыялістых. Пры хаце-чытальні і больш буйных колгасах, саўгасах трэба арганізаваць і правесьці шэраг кароткатэрміновых вячэрніх курсаў-конфэрэнцый і гурткоў колгасьнікаў і перадавых сялян беднякоў і серадснякоў па пытаньнях:

а) аб мэтах і задачах колгаснага будаўніцтва, структуры колгасу, унутраным становішчы і рабоце ў колгасе;

б) аб пляне і агрыкультурных мерапрыемствах па падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой пасеўкампаніі і задачах кожнага колгасу і бядняцка-серадняцкага двара, з тым, каб праз гэтыя курсы і сельска-гаспадарчыя гурткі падрыхтаваць перадавых, актыўных удзельнікаў колгаснага будаўніцтва, якія павінны зьявіцца асноўнай групай нанова організуемага колгасу, альбо прасьцейшых форм вытворчага аб'яднаньня машынных, насенных, малочных ды іншых таварыстваў.

4. Чырвоныя куткі павінны праводзіць у асноўным такую-ж работу як па зьместу, так і па форме, што і хатычытальні, выходзячы з сваіх конкрэтных умоў і асаблівасьцяй.

5. Бібліотэкі, як гарадзкія, так і, асабліва, раённыя павінны прыстасаваць сваю работу да задач па колектывізацыі і веснавой пасеўкампаніі:

а) аб'яднаць у раённай бібліотэцы сілы і сродкі коопэрацыі, профсаюзаў ды іншых організацый; распрацаваць плян выпіскі сучаснай грамадзка-політычнай, колгаснай і сельска-гаспадарчай літаратуры; вылучыць сельска-гаспадарчую і колгасную літаратуру ў асобныя бібліотэчкі-перасоўкі для колгасаў і вёсак.

б) прыцягнуць маючыяся і вылучыць дадаткова праз комсамольскую і піонэрскую організацыі кніганошаў, лістаносцаў, праз якіх організаваць шырокае распаўсюджваньне сельска-гаспадарчай колгаснай літаратуры сярод колгасьнікаў і сялян;

в) організаваць як сталыя, так і пэрыодычныя выстаўкі сельска-гаспадарчай літаратуры, спэцыяльныя перасовачныя ларкі для продажу таннай літаратуры.

Гэту работу трэба ўвязваць і праводзіць разам з спажывецкай коопэрацыяй.

6. Школы малапісьменных і лікпункты сваю работу праводзяць у цеснай сувязі і пад кіраўніцтвам хаты-чытальні. Прапрацаваць спэцыяльна на сваіх занятках плян і мерапрыемствы па колектывізацыі і пасеўкампаніі. Кожны лікпункт і школа малапісьменных павінны распрацаваць плян практычнага ўдзелу як усяго лікпункту, так і кожнага вучня ўпаасобку.

а) правесьці адпаведную падрыхтоўку да організацыі колгасаў; выявіць жадаючых уступіць у колгас і стварыць з іх асноўнае ядро для колгасаў, якія толькі што організуюцца, і навакол яго вербаваць астатніх сялян—беднякоў і серадснякоў;

б) організаваць работу па падрыхтоўцы кожнага вучня да пасеўкампаніі: рамонт сельска-гаспадарчага інвэнтару, ачыстку насеньня, збор насеньня ў спэцыяльныя насенныя фонды, збор попелу; організаваць дапамогу беднаце, удовам па калектыўным воравe і засеве поля і г. д.

в) па прыкладу хат-чытален трэба правесьці ў лікпунктах і школах масавую работу: гутаркі, галосныя чыткі, вечары пытаньняў і адказаў; асобна ў школах малапісьменных выпусьціць насьценгазэту па пытаньнях колектывізацыі і пасеўкампаніі; організаваць некалькі экскурсій у бліжэйшыя колгасы, саўгасы, пасьля чаго абгаварыць пытаньне аб формах, мэтодах работы і жыцьці ў гэтым колгасе, саўгасе на спэцыяльным сходзе;

г) на падставе пастановы прэзыдыуму цэнтральнага савету т-ва „ПН" у гэтым годзе трэба пры кожным колгасе організаваць спэцыяльны „культгэктар" у фонд ліквідацыі няпісьменнасьці, які трэба апрацаваць, засеяць і наглядаць за ім сіламі ячэек „ПН", сумесна з лікпунктамі і школамі.

Ва усёй гэтай рабоце ўсім політасьветным установам трэба набыць і скарыстаць наступную літаратуру, якая выйшла да пасеўкампаніі:

1. Молатаў—Аб колектыўным руху.

2. Сталін—Да пытаньняў аграрнай політыкі ў СССР.

3. Сталін—Рэзолюцыі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП і студзеньскага пленуму ЦК КПБ.
4. Туткін—Організацыя беднаты.
5. Кірылаў—Контрактацыя і яе значэньне ў сельскай гаспадарцы.
6. Кіндзееў—Як перайсьці да колектыўнай гаспадаркі.
7. Вольф—Аб веснавой пасеўкампаніі (б-ка агітатара).
8. Восіпаў—Што такое агромінімум.
9. Курынаў—Рабочы і веснавая пасеўкампанія.
10. Астроў—Статут колгасу ў пытаньнях і адказах.
11. Акінін—Організацыя працы і разьмеркаваньне прыбытку ў колгасе.
12. Капін—Культурна-політасьветная работа ў колгасе.
13. Сымонаў—Соцыялістычнае спаборніцтва ў вёсцы.
14. Каган—Саўгасы, колгасы і машына-трактарныя станцыі.
15. Кіндзееў—Як узьняць ураджайнасьць.
16. Кіндзееў—Спадарожнік рабочага па сельскай гаспадарцы.
17. Гусеў—Наша гаспадарка праз 5 год.
18. Дзедаў—Як вырасьце сельская гаспадарка праз 5 год.
19. Лабадаеў—Бальшавіцкім тэмпам.
20. Заяц—Ачыстка насеньня.
21. Бібліотэка аб вясеньнім севе—кніжка-капейка.
22. В. Мілюцін. Асноўныя задачы колектыўных гаспадарак у сучастны пэрыод.
22. П. Заяц. Вясновая сельска-гаспадарчая кампанія і яе задачы.
24. М. Цынкоў, С. Кудзінаў. Аплата працы ў калгасах.
25. Т. Аўчынікаў. Як організаваць соцыялістычнае спаборніцтва ў сельскай гаспадарцы.
26. П. Гураў. Як заняць лішнія рабочыя рукі на вёсцы.
27. А. Горын—Што сказала XVI партконфэрэнцыя пра колектывізацыю сельскай гаспадаркі.
28.—Прыкладная інструкцыя унутранага распарадку для с.-г. арцеляй БССР.
29. Навукова-мэтадолёг. камітэт. Программы гуртка па арганізацыі колектыўнай гаспадаркі ў вёсцы.

**Галоўполітасьветы НКА БССР.**

---

**О. КАНАКОШІН**

# ШТАБЫ ПОЛІТЫЧНА-КУЛЬТУРНАГА АБСЛУГОЎВАНЬНЯ РАЁНАЎ СУЦЭЛЬНАЙ КОЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

На падставе рашэньняў верасьнёўскага пленуму ЦК КП (б) Б і лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП (б) апошні пленум ЦК КП (б) Б, што адбыўся ў першых чыслах студзеня, ужо конкрэтызаваў тэрмін, у які ўся сельская гаспадарка беднякоў і серадтякоў БССР павінна быць колектывізавана.

„Пленум ЦК, улічваючы ўсё ўзрастаючы тэмп руху бядняцка-серадняцкіх мас у колгасы, усё ўзрастаючую творчую энэргію і ініцыятыву батрацтва, беднаты і серадтякоў у справе будаўніцтва колектыўных форм землеробства, ставіць перад усёй КП (б) Б, перад рабочай клясай і ўсёй пролетарскай грамадзкасьцю практычную задачу поўнасьцю колектывізаваць усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі да канца 1931 г.“

(З рэзолюцыі аб суцэльнай колектывізацыі с.-г. БССР і правядзеньні с.-г. кампаніі ў 1930 г.).

На выкананьне гэтай гісторычнай пастановы пленуму ЦК нашай партыі павінны быць накіраваны ўсе сілы КП(б)Б, усе сілы рабочае клясы БССР, каб якраз у гэтыя два гады Беларусь непераможнай воляй пролетарыяту і працоўных была ператорана з краіны з дробна-

# СХЭМА

## КУЛЬТУРНАГА АБСЛУГОЎВАНЬНЯ КАЛГАСУ —РАЙЁНУ СУЦЭЛЬНАЙ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ.



ўласьніцкай сельскай гаспадаркай у краіну суцэльнай колектывізацыі ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

У выкананьні гэтай вялічэзнай задачы адну з важных роляй адыгрывае палітычная і культурная работа, бо тут з усёй вастратой перад намі стаіць задача палітычнага забясьпечаньня пляну „соцыялістычнага ператварэньня сельскае гаспадаркі“, разам з гэтым плян наступленьня соцыялізму патрабуе перабудовы сыстэмы палітычнага і культурнага абслугоўваньня вёскі і паскораных тэмпаў усяе гэтай работы.

Яшчэ лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) у рэзолюцыі аб задачах колгаснага будаўніцтва падкрэсьліў, што

„савецкія органы, колгасная сыстэма, с.-г. і спажывецкая коопэрацыя і ўся савецкая грамадзкасьць павінны разгарнуць шырокую работу па культурнаму абслугоўваньню колгаснага насельніцтва ў першую чаргу ў буйных колгасах і ў раёнах суцэльнай колектывізацыі“...

Праўда, мы маем ужо і зараз добрыя ўзоры палітычнага і культурнага абслугоўваньня паасобных колгасаў, але гэта можна тлумачыць часткова і тым, што пролетарская грамадзкасьць актыўна дапамагала гэтым раёнам і ўзьнімала там работу на належную, дагэтуль нябачаную, вышыню. Добрыя прыклады абслугоўваньня такіх раёнаў, як Клімаўшчына нас ня могуць супакойваць. У большасьці раёнаў палітычная і культурная работа праводзіцца вельмі марудна па тэмпах і не здавальняюча па зьместу і сыстэме.

Зьмены вытворчых прынцыпаў у с. г. нямінуча павінны выклікаць і зьмены ў сыстэме культурнага абслугоўваньня вёскі, бо вёска карэнным чынам пера-твараецца: замест дробна-ўласьніцкіх гаспадарак ствараюцца новыя, вялікія вытворчыя с.-г. аб'яднаньні з аграмаджанымі сродкамі вытворчасьці, дзе аграмаджаная праца колектыву будзе зьяўляцца падставай для соцыялістычнага перавыхаваньня селяніна, і тут мэтоды і сыстэма, разьлічаныя на індывідуальнае абслугоўваньне, павінны быць перабудаваны.

Гаворачы аб сыстэме палітасьветных устаноў, якія мы зараз маем на вёсцы, трэба мець на ўвазе тое, што гэтая сыстэма і дагэтуль засталася бяз ніякіх зьмен з пачатку яе пабудовы. Шэраг устаноў і організацый, як хаты-чытальні, нардамы, радыё-вузлы, бібліотэкі, коопэрацыйныя, чырвоныя куткі, match рознастайныя гурткі і г. д. праводзяць работу без адзінага пляну; часта хата-чытальня бярэцца за тое, што можа лепей выканаць бібліотэка, гэтаму спрыяе і слабасьць райпалітасьветаў на месцах і тое, што кожная ўстанова мае свае вышэйшыя органы, якія дрэнна ўвязваюць работу паміж сабой, і гэты разнабой даходзіць да раёну і там адбітак ведамсьцьвенасьці ўплывае на работу. Такое становішча зьяўлялася нормальным, калі ішла гутарка аб абслугоўваньні неорганізаванай бядняцка-серадняцкай масы вёскі, але зараз справа ідзе па інакшаму, паўстае пытаньне аб абслугоўваньні організаваных бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Перабудова старых і пабудова новых органаў палітычнай і культурнай работы адстае ад тэмпаў соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Нам трэба

„ў бліжэйшы час дабіцца, каб у кожным колгасе, у кожным населеным пункце, а ў першую чаргу ў раёнах суцэльнай колектывізацыі, быў чырвоны куток альбо культпункт, у кожным кусьце колгасаў альбо вытворчым вучастку—кустава клюб, а ў цэнтры раёну, у месцы знаходжаньня яго тэхнічнай базы—магутны палітычна-культурны цэнтр...“ („Правда“).

Нам трэба, каб усе сілы і сродкі, што ідуць у раён суцэльнай колектывізацыі, аб'ядналіся ў адзінае цэлае і разьмяркоўваліся па адзінаму пляну, бо толькі пры гэтай умове мы зможам больш рацыянальна і з большым эфэктам скарыстаць тое, што даецца раёну.

Таму стварэньне адзінага кіруючага і пляну ючага цэнтру пры інспэкторыятах асьветы РВК, па палітычнаму і культурнаму абслугоўваньню колгасаў раёну суцэльнай колектывізацыі, зьяўляецца неадкладнай справай.

Перш чым гаварыць аб самым раённым цэнтры, мы павінны накідаць схему нізавых зьвеньняў, праз якія павінна праводзіцца работа на месцах.

Выходным пунктам у пабудове сеткі політасьветных устаноў для нас зьяўляецца сыстэма вытворчых аб'яднаньняў, з якіх складаецца колгас і сыстэма колгасаў, што ўваходзяць у раён суцэльнай колектывізацыі. І калі мы прымем за рэальнае, а гэта яшчэ будзе так на некаторы час, што вытворчыя аб'яднаньні прыдзецца будаваць навокал колектывізаваных вёсак і пасёлкаў, дык

у кожнай колектывізаванай вёсцы альбо колектывізаваным пасёлку трэба стварыць чырвоны куток; кіраваць кутком павінен культупаўнаважаны, які абіраецца на агульным сходзе вытворчага аб'яднаньня.

Гэта першае зьвяно сыстэмы культурнага абслугоўваньня колгасьнікаў. Вышэйшая форма вытворчага аб'яднаньня (па нашай думцы) будзе колгас, і тут у гэтым больш складаным вытворчым аб'яднаньні павінна быць другое зьвяно сыстэмы.

Кожны колгас павінен мець клюб—рэорганізаваную хату-чытальню, з шэрагам гурткоў, радыё-устаноўкай, чытальняй і г. д, пры чым усе галіны работы такога клюбу павінна абслугоўваць і раённая політасьветная база. Для кіраўніцтва клюбнай работай абіраецца савет, які складаецца з культупаўнаважаных першага зьвяна і з таварышоў ад розных організацый.

Як мы ўжо казалі, у раёне пры РВК ствараецца адзіны цэнтр, які аб'яднае ўсе людзкія сілы, тэхнічныя сродкі культурнай работы, як кіно, радыё, усе сродкі, якія выдаткоўваюцца рознымі ўстановамі і організацыямі, цэнтр плянуе і кіруе ўсёй політыка-асьветнай работай раёну суцэльнай колектывізацыі.

У раённы політычна-культурны цэнтр РВК павінны ўваходзіць:

1. Бібліотэка-чытальня з некалькімі бібліотэкамі-перасоўкамі; колькасьць перасовак залежыць ад таго, колькі колгасаў уваходзіць у раён суцэльнай колектывізацыі. Гэтыя перасоўкі час-ад-часу перакідаюцца з аднаго клюбу ў другі, а пры тых умовах, што ў кожным раёне будзе аўтомобіль (а гэта плянам прадугледжана), рабіць гэта будзе вельмі лёгка.

2. Кіно-стацыянарка для абслугоўваньня раённага цэнтру з некалькімі кіно-перасоўкамі, для апошніх тут-жа трэба мець і належную колькасьць кіно-карцін, якія праз раённы цэнтр будуць абменьвацца, такім чынам кіно-стацыянарка будзе і кіруючым раённым пунктам для перасовак.

3. Радыё-вузел з невялічкім узмацнілем і сваім мікрофонам. Радыё праз дротавую тэлефонную сетку можа даваць перадачы ў колгасы і ў вытворчыя аб'яднаньні. Мікрофон дае магчымасьць рабіць і свае раённыя перадачы, перадаваць асобныя даклады і паведамленьні, а таксама і агульныя распараджэньні кіраўніцтва колгасу па гаспадарчай лініі.

4. Пошта і тэлефон—політычнае і культурнае значэньне гэтага зьвяна не патрабуе тлумачэньня.

5. Колгасная шматтыражная друкаваная газэта, якая павінна выдавацца два альбо чатыры разы ў месяц. У тых раёнах, дзе ёсьць друкарні, справа з выданьнем газэты будзе ўпірацца выключна ў пытаньне задавальненьня папераў, а там, дзе няма друкарні, трэба наладзіць справу з паходнай друкарняй. Кожная акруга можа без вялікіх цяжкасьцяй абсталяваць такую друкарню, як гэта зрабілі менскія друкары ў дзень друку, паставіўшы плоскую машыну на аўтомобіль, які і прыводзіў у рух і друкарскую машыну. Такая друкарня за месяц зможа абслужыць ад 5 да 6 раёнаў.

6. Партыйная школа ў раёне разьлічваецца на сталых слухачоў, якія вучацца ня менш аднаго вучэбнага году. Габінэт партработы ставіць сваёй мэтай дапамагчы тым партыйным таварышом, якія праводзяць агітацыйна-масавую і прапагандыцкую працу.

7. Зусім новае для раёну—гэта колгасная сельска-гаспадарчая школа, тып якой павінен быць выпрацаван з улікам вопыту і школ фабзавучу і с.-г. тэхнікумаў; такая школа павінна быць чымсьці сярэднім у параўнаньні з гэтымі абедзьвюма ўстановамі. Мы ўпэўнены, што нашыя спэцыялістыя агрономы і пэдагогі такі тып школы створаць, бо падрыхтоўка тэхнічна пісьменнага колгасьніка- -справа вельмі актуальная, і яе трэба вырашаць ня вышэй як у раённым маштабе. Мэтазгодна пры школе мець і агрономічны савет, які-б аб'яднаў вопыт і досьледы

месц і вывучаў паасобныя пытаньні на вопытных паказальных вучастках.

8. Лектарскае бюро, аб'яднаючы і ўлічваючы ўсе палітычныя і культурныя сілы раёну, можа лепш разьмяркоўваць іх, чым кожная ўстанова ўпаасобку, як гэта ёсьць зараз.

9. Бюро самаадукацыі пры школах сямігодках павінна будзе паставіць работу па самаадукацыі сярод колгасьнікаў і весьці кіруючую работу па завочнаму навучаньню.

10. Культпалаткі альбо агітпалаткі-перасоўкі прымацоўваюцца да машынатрактарных колён, альбо да машынаконных колён. Работу вядзе той жа таварыш, які, бязумоўна, будзе ў рэзэрве кожнай колёны з інструмантамі і іншымі паасобнымі матэр'яламі. Калі будзе магчымасьць набыць палатку такую, як вайсковая, дык гэта будзе зусім добра. У палатцы павінны быць газэты, плякаты, маленькія брошуркі, ілюстраваныя часопісі, агротэхнічныя брошуркі і лістоўкі ў адпаведнасьці з тэй работай, якую праводзіць машынная колёна.

11. Зусім новай часткай у рабоце павінны быць саветы па перабудове быту колгасьнікаў на чале з інструктарам па быту. Перад гэтым зьвяном стаіць задача распрацоўкі шэрагу мерапрыемстваў па рэорганізацыі быту (новы быт жанчын-колгасьніц, выхаваньне дзяцей, пабудова бытавых установ і г. д.).

12. Такое зьвяно, як савет па ахове здароўя, павінен распрацаваць комплекс мерапрыемстваў па ахове здароўя колгасьнікаў, па санітарнаму абслугоўваньню колгасьнікаў, па вывучэньню ўмоў працы і ўплыву вытворчасьці на здароўе колгасьнікаў і г. д.

І нарэшце апошнія тры зьвяны не патрабуюць ніякіх тлумачэньняў, бо з іх назвы яскрава відавочны іх абавязкі.

Увязаўшы работу кожнага зьвяна з агульным плянам палітычнага і культурнага абслугоўваньня раёну, мы можам дабіцца максымальнай актыўнасьці кожнага зьвяна.

Практыка некаторых раёнаў СССР дае нам добрыя прыклады работы рабочых брыгад, аб'яднаных з культурнымі брыгадамі, такія брыгады праводзяць палітычную, організацыйна-гаспадарчую і культурную работу ў колгасах. Такія саюзы, як працасьветы, мэдсанпрацы, спэцыялістыя розных галін, студэнты, павінны праводзіць работу не паасобку, а разам з рабочымі прамысловых прадпрыемстваў, ствараючы аб'яднаныя брыгады.

Агітацыйна-пропагандыцкія брыгады, укомплектаваныя з агітатараў, пропагандыстых і студэнтаў комвузу, таксама з большым эфэктам будуць працаваць у колгасах, бо ў час іх работы ў колгасе яны створаць і падрыхтуюць навокал габінэту партработы актыў, які зможа працягваць іх работу, падтрымоўваючы сувязь з брыгадай.

Саюз працаўнікоў асьветы, с.-г. спэцыялістыя, якія пачынаюць у некаторых кутках Савецкага Саюзу праводзіць ліквідацыю агрономічнай няпісьменнасьці сярод вясковага настаўніцтва, праз політасьветбазы (паасобныя яе зьвеньні) будуць мець магчымасьць лепш разгарнуць сваю работу і замацаваць яе.

Нават і такія агульнадзяржаўныя мерапрыемствы, як збор другараднай сыравіны, як лесазагатоўкі, кожным зьвяном базы павінны праводзіцца як палітычная работа па агульнаму пляну работы політасьветбазы раёну суцэльнай колектывізацыі.

Мы прыводзім гэтыя прыклады для таго, каб давесьці, што справа, якой павінны займацца політасьветбазы, зьяўляецца сапраўды вялікай і рознастайнай, таму тут павінна быць самая выразная чоткасьць у самой організаванай пабудове палітычнага і культурнага абслугоўваньня колгасаў. Гэту галіну работы мы ні ў якім разе не павінны разглядаць як другарадную, а як складаную частку агульных мерапрыемстваў, якія праводзіць партыя па соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі.

ХВ. СЬЦЕПАНЮК

# ЗА КЛЯСАВУЮ СУТНАСЬЦЬ, ЗА БАЯВЫ ТЭМП

Пастаўленыя партыяй гісторычныя задачы соцыялістычнай рэконструкцыі ўсяе народнай гаспадаркі, масавай колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, ператвараючы колгасны рух у суцэльную колектывізацыю раёнаў, акруг, і ў бліжэйшыя два гады пакрыць савецкую Беларусь густою сеткаю аграіндустрыяльных комбінатаў, машынна-трактарных станцый, куставых аб'яднаньняў соцыялістычнага земляробства і землякарыстаньня—патрабуюць рашучага выраўненьня ўсяго фронту політасьветнай і культурнай работы з агульнымі тэмпамі і новымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Між тым сучасная політасьветная і культурная работа наогул, у прыватнасьці і асаблівасьці работа па ліквідацыі агульнай тэхнічнай і політычнай няпісьменнасьці, значна адстае ад агульных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

І чым бліжэй мы падыходзім да практычнага вырашэньня асноўных задач соцыялістычнага будаўніцтва, тым больш адчуваем гэтую адсталасьць, і шчыльна ўпіраемся ў клясавую, політычную несьвядомасьць, агульна адукацыйную, тэхнічную няпісьменнасьць мільёнlittle колаў працоўных.

Усё гэта надае закінутай да гэтага часу справе ліквідацыі няпісьменнасьці выключна важнае політычнае значэньне, клясавую сутнасьць і „высоўвае яе, як адну з актуальнейшых задач соцыялістычнага будаўніцтва“.

Разглядаць справу ліквідацыі няпісьменнасьці трэба ня толькі з пункту гледжаньня—навучыць тэхнічнай грамаце, набыць навыкі ўменьня чытаць, пісаць і лічыць, гэта само сабою зразумела, асноўнае ў наш час—гэта політычнае, клясавае выхаваньне мільёнаў працоўных мас, далучэньне іх да актыўнага і сьвядомага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

Для таго ,каб пацьвердзіць выключную політычную важнасьць задачы ліквідацыі няпісьменнасьці, падамо некалькі лічбаў.

Па дэмографічнаму перапісу ў 1926 г. у БССР сярод усяго насельніцтва, 4.983.240 чалавек усіх узростаў, няпісьменных было 2.956.759, што складала 59,3 проц.

А калі ўзяць выключна актыўную частку насельніцтва ва ўзросьце ад 12 г. да 35 год, тады яна складала 806.294 ч., альбо 36 проц.

Праўда, з 1926 г., дзякуючы правадзімай рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці, гэтая лічба скарацілася і ў бягучым годзе складае сярод актыўнай часткі насельніцтва 685.170 чл.

Трэба памятаць, што гэтая вялікая няпісьменнасьць ёсьць спадчына мінулага панаваньня капіталістых і памешчыкаў і таму яна (няпісьменнасьць) найбольш распаўсюджана сярод адсталых соцыяльных групі рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкіх колаў працоўнага сялянства,—як найбольш ударных, перадавых груп сучаснага соцыялістычнага будаўніцтва.

**Якім тэмпам ішла работа па ліквідацыі няпісьменнасьці (за апошнія 4 гады)**

| ГАДЫ | Ахоплена | Скончыла | Лік 12 г. падлеткаў, якія засталіся па за школай | Прыбыло пісьмен. |
|---|---|---|---|---|
| 1925/26 г. | 75.000 | 42 000 | 40.000 | 2.000 |
| 1926/27 „ | 70.073 | 39.031 | 37.500 | 1.531 |
| 1927/28 „ | 52.670 | 39 339 | 30.813 | 8.526 |
| 1928/29 „ | 117 349 | 67.829 | 27.350 | 40.476 |
| Усяго | 315.092 ч. | 188.197 ч. | 135.663 ч. | 52.533 ч |

Прыведзеныя лічбы ліквідацыі няпісьменнасьці навочна паказваюць, што гэта работа была найбольш закінутай і займала апошняе месца, асабліва першыя тры гады. Толькі 1928/29 год, дзякуючы „культпаходу“ мы маем некаторы пералом, аднак і ён значна адставаў ад запраэктыраванага пляну (165,198 чал.), асабліва ад агульных тэмпаў выкананьня першага году пяцігодкі соцыялістычнага будаўніцтва.

Улічваючы ўсё гэта Бюро ЦК УсеКП у маі месяцы і сэкрэтарыят ЦК КПБ паставілі ў якасьці асноўнай задачы—дабіцца рашучага пералому ў далейшай рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці, карэнным чынам перабудаваць усю сыстэму работы, на падставе вынікаў набытага вопыту і плянамернай арганізацыі ўсяе работы па ліквідацыі няпісьменнасьці на аснове адзінага пляну аб'яднаньня сіл, сродкаў і шырокай грамадзкасьці ўсіх арганізацый, якія прымаюць удзел у ліквідацыі няпісьменнасьці. Узмацніць тэмп ліквідацыі няпісьменнасьці, ахопліваючы ў першую чаргу: у горадзе індустрыяльных рабочых і новыя колы пролетарыяту, у вёсцы—батракоў, рабочых саўгасаў, сэзоньнікаў, колгасьнікаў і беднякоў".

У якасьці практычнай задачы пастаўлена: „ліквідаваць няпісьменнасьць індустрыяльных рабочых, членаў профсаюзаў, батрацтва, членаў колгасаў, рабочых саўгасаў, грамадчыкаў, падросткаў і прызыўнікоў у гэтым 1929/30 г., і сярод астатняга працоўнага насельніцтва ў 1930/31 г."

Выкананьне пастаўленай задачы патрабуе ліквідацыі няпісьменнасьці за два гады толькі сярод актыўнай часткі насельніцтва ва ўзросьце ад 12 да 35 год 685,170 чал., а калі ўзяць рабочых, колгасьнікаў ва ўзросьце вышэй 35 г., а мы, бязумоўна, павінны іх ахапіць, прыблізна ад 45-50 гадоў, дык гэтая лічба значна ўзрасьце прыблізна да 850 тысяч чалавек.

Плян ліквідацыі няпісьменнасьці ў гэтым годзе як раз і выходзіць з гэтай устаноўкі. Па пляну 1929/30 году вызначана ліквідаваць няпісьменнасьць сярод 280490 чал. альбо ў чатыры разы больш чым ў мінулым годзе, пры чым, выкананьне 40% ускладзена выключна на сродкі і сілы грамадзкасьці. Вызначаны плян з пачатку навучальнага году быў даведзены да акругі, раёну і сельсаветаў з паказам пэўнай колькасьці асоб для ліквідацыі іх няпісьменнасьці па лініі НКА, т-ва „ПН" і прафсаюзаў.

Папярэднія весткі аб ходзе работы па ліквідацыі няпісьменнасьці ў бягучым 1929/30 г. па 5 акругах даюць наступны малюнак:

| Акругі | Вызначана плянам | Фактычна ахоплена 1/XII-29 г. | Рабочых | Батракоў | Колгасьнікаў |
|---|---|---|---|---|---|
| Бабруйская па 12 район. | 34.168 | 30.786 | 1.427 | 912 | 1.186 |
| Гомельская „ 11 „ | 27.419 | 23.286 | 1.582 | 1.092 | 1.193 |
| Мэнская „ 17 „ | 31.327 | 45.200 | 3.375 | 5.550 | — |
| Магілеўская „ 13 „ | 33.233 | 21.371 | 682 | 779 | 3.303 |
| Аршанская „ 12 „ | 22.743 | 18.466 | 1.029 | 689 | 1.564 |
| Усяго па 65 раён. | 148.890 ч. | 139.109 ч. | 8.095 ч. | 9,022 ч. | 7.245 ч. |

Паданыя лічбы паказваюць, што, за выключэньнем Менскай акругі, якая значна перавысіла плянавую наметку, усе астатнія акругі фактычным ахопам на 1/XII-29 г. ня выканалі плянавых заданьняў. Магілеўская, Гомельская і асабліва Полацкая і Мазырская акругі нават далёка адсталі ад выкананьня намечанага пляну.

Яшчэ горш абстаіць справа ў галіне ахопу ўдарных груп з рабочых, членаў саюзу, батракоў, колгасьнікаў,

Па дагавору, які заключаны Наркомасьветы з цэнтральнымі праўленьнямі профсаюзаў, прадугледжана зьліквідаваць няпісьменнасьць у бягучым годзе сярод рабочых членаў усіх прафсаюзаў у колькасьці 60.322 чал. з якіх асобна па саюзу СГЛР 50.000 чал.

Вышэй паказаныя лічбы па 5-ці акругах паказваюць на дастатковы ахоп рабочых (8.095 чал.), зусім малы лік батракоў (9.022 ч.), а таксама колгасьнікаў (7.245 ч.).

Асобныя факты і матар'ялы абсьледваньня гэтай справы на мясцох з боку рабочых брыгад ЦСПСБ, СГЛР ды інш. сьведчаць, што на паасобных буйных прадпрыемствах („Бярэзіна", „Домбаль", „Дзьвіна") ахоплена і вучыцца ў школах і лікпунктах толькі 40-50% наяўных няпісьменных.

У некаторых раёнах злачынна мала, а ў асобных лікпунктах зусім няма батракоў, тады як у вёсках пад самым

носам лікпункту і ліквідатара знаходзяцца адзінкі і дзесяткі няпісьменных батракоў.

У той час, калі на лікпунктах вучыцца зусім мала рабочых, батракоў і колгасьнікаў мы маем у паасобных раёнах значную частку кулакоў, гандляроў, індывідуальна - абкладзеных заможнікаў. Так, па Бабруйскай акрузе вучыцца ў лікпунктах 1020 чал., у Гомельскай 339 ч., Магілеўскай 260 ч. і г. д.

Трэба адзначыць, што паданыя лічбы і факты сьведчаць аб тым, што ў гэтай рабоце на мясцох мы маем яўнае скрыўленьне клясавай лініі, якое ў асноўным выразілася:

а) у агульнай недаацэнцы політычнай важнасьці і клясавай сутнасьці задачы ліквідацыі няпісьменнасьці.

б) акруговыя і раённыя ўстановы Наркомасьветы ў значнай сваёй частцы не забясьпечылі чоткага правядзеньня генэральнай лініі партыі, якая накіравана на поўнае забесьпячэньне ахопу ўдарных груп: рабочых, батракоў, колгасьнікаў і беднякоў.

в) нізавыя парторганізацыі (райкомы, ячэйкі) зусім слаба і несваячасова рэагавалі на такія зьявішчы.

На вялікі жаль, у НКА няма яшчэ дакладных вестак аб соцыяльным складзе настаўнікаў лікпунктаў і школ малапісьменных.

Але-ж паасобныя факты паказваюць, што і тут у складзе настаўнікаў, якія выконваюць ня толькі тэхнічную справу, але праводзяць і політычнае, клясавае выхаваньне працоўных, ёсьць чужыя, варожыя нам людзі: дзеці гандляроў, кулакоў, былыя папы, розныя чыны ды інш., якім мы ні ў якім разе ня можам і не павінны даверыць справу комуністычнага выхаваньня працоўных.

Усё гэта настойна патрабуе ад партыйных, комсамольскіх, савецкіх, профсаюзных організацый т-ва „ПН“ тэрміновай, сталай праверкі соцыяльнага складу як вучняў лікпунктаў і школ, так і, асабліва, ліквідатараў.

Выявіць усе чужыя, варожыя нам элемэнты: кулакоў, гандляроў, пазбаўленых права голасу, індывідуальна-абкладзеных. Ужыць самыя рашучыя захады, па безадкладнаму адсеву іх як з лікпунктаў і школ, так, асабліва, са складу організатараў, ліквідатараў, якія вядуць справу ліквідацыі няпісьменнасьці. Патрэбна дадаткова мобілізаваць нашы пролетарскія кадры пісьменных комуністаў, комсамольцаў, рабочых прадпрыемстваў саўгасаў, колгасьнікаў, грамадчыкаў, беднякоў і серадняков і кінуць іх на гэты адказны вучастак работы.

Вучыцца ніколі ня позна,—ні ўзімку ні ўлетку. Таму трэба зараз-жа прымаць усе захады па далейшаму ўцягненьню пагалоўна ўсіх рабочых, членаў саюзу, батракоў, рабочых саўгасаў і членаў колгасаў, якія засталіся за бартом школ, з тым, каб у гэтым 1929-30 годзе дырэктыву партыі выканаць цалкам і поўнасьцю. Калі з паасобнымі групамі работу па ліквідацыі няпісьменнасьці нельга будзе скончыць да мая, дык працягнуць яе да жніўня, але адступаць ад гэтага, як у сярэдзіне навучальнага году, так і ў канцы яго ні ў якім разе нельга.

Толькі так трэба ставіць пытаньне перад усімі організацыямі і перад усёй грамадзкасьцю. Зараз паўстае вельмі важнае пытаньне, аб поўным замацаваньні да канца навучаньня ўсіх ахопленых з пачатку навучальнага году. Не дапусьціць ніякіх перабояў у рабоце. Весткі з месц сыгналізуюць, аб тым, што ўжо наглядаецца значны адсеў, уход з лікпунктаў і школ. Па асобных лікпунктах адсеў дасягае—20-25%. Паўстае рэальная небясьпека, што гэты адсеў будзе павялічвацца, калі зараз ня будуць прыняты адпаведныя захады.

Аб гэтым могуць пацьвердзіць вынікі мінулых гадоў, якія далі адсеў да 40-50%, калі ў лютым і сакавіку зусім зрывалася работа шмат дзесяткаў лікпунктаў. Гэта абавязвае ўсе організацыі без выключэньня ні на хвіліну не паслабляць ўвагі, ні на крок ня зьніжаць тэмпу. Наадварот, трэба ўзьняць выключную увагу, узмацніць далейшы тэмп гэтай работы, прыцягнуць да непасрэднай работы ў лікпунктах кожную організацыю і кожнага ўпаасобку члена яе.

Асноўнае, што патрэбна ў сучасны момант для работы ў лікпунктах і ў школах, гэта шырокае разгортваньне грамадзкай, політычнай і культмасавай работы. Трэба ўвязаць ліквідацыю няпісьменнасьці з усімі формамі масавай

політасьветнай работы (правядзеньне гутарак на грамадзка-політычныя тэмы, пастаноўка лекцыйнай, экскурсійнай, клюбнай работы, выкарыстаньне газэты, кніжкі для малапісьменнага, уцягненьне няпісьменных і малапісьменных у грамадзкую работу).

Па некаторых акругах і раёнах ужо зроблены першыя крокі ў гэтым напрамку. У Гомлі вызначаны спэцыяльны „культдзень“ для грамадзка-політычнай і культурна-масавай работы, намячаецца таксама „культдзень“ у Бабруйску і Менску. У Бабруйску Агітпропам АК КП(б)Б вылучаны каля 60 партыйцаў, якія прымацаваны да лікпунктаў і школ для правядзеньня грамадзка-політычнай работы з няпісьменнымі і малапісьменнымі.

Намячаюцца да правядзеньня паасобныя экскурсіі, уводзяцца клюбныя дні, для культурнага абслугоўваньня вучняў і г. д. На жаль, гэты вопыт ня стаў яшчэ дасягненьнем усіх акруг і раёнаў.

Да гэтага часу лікпункты і школы амаль што не вялі ніякай грамадзка-політычнай работы. Такія пытаньні, як: пяцігодка, соцыялістычнае спаборніцтва, промфінплян, колектывізацыя, ліквідацыя кулацтва як клясы, пасеўкампанія і г. д., не прапрацаваны ў лікпунктах і школах.

Трэба дабіцца таго, каб асноўныя пытаньні, над якімі зараз працуе ўся партыя, уся рабочая кляса, былі бы растлумачаны і вядомы сотням тысяч працоўных, якія вучацца ў лікпунктах і школах, былі-б стрыжнем работы гэтых школ і лікпунктаў.

Апошняе пытаньне, якое мае рашаючае значэньне ў выкананьні пастаўленых партыяй задач,—гэта соцыялістычнае спаборніцтва.

Пакуль што мы маем выступленьне толькі зьверху, акруговых устаноў таварыства „ПН“ (Бабруйск—Магілеў, Полацк—Віцебск). Нізавыя школы, лікпункты і ячэйкі „ПН“ і самі масы ня ўцягнуты ў соцыялістычнае спаборніцтва.

Па вопыту фабрык, заводаў і колгасаў трэба шырока разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва ва ўсёй рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці. Уцягнуць у соцыялістычнае спаборніцтва пагалоўна ўсе зьвеньні зьнізу, да верху.

Пераключыць работу па ліквідацыі няпісьменнасьці на клясавую, політычную аснову, на баявыя тэмпы работы.

**„Усе гавораць пра ліквідацыю няпісьменнасьці. Вы ведаеце, што ў краіне няпісьменнай пабудаваць комуністычнае грамадзтва нельга. Недастаткова таго, каб савецкая ўлада загадала, або каб партыя дала пэўны лёзунг, або каб кінуць вядомую частку лепшых работнікаў на гэтую справу. Для гэтага трэба, каб само маладое пакаленьне ўзялося за гэтую справу“.**

*Ленін.*

Н. КАНАПЛІН

# ЛЕНІН ПРА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА

„Пролетарыят прадстаўляе і ажыцьцяўляе больш высокі плян грамадзкай організацыі працы, у параўнаньні з капіталізмам. У гэтым сугнасьць. У гэтым крыніца сілы і прычына няўхільнай, поўнай перамогі комунізму". Гэтак ахарактарызаваў у свой час т. Ленін значэньне „комуністычных суботнікаў". Гэта разглядалася Уладзімерам Ільлічом толькі як пачатак новых соцыялістычных мэтодаў работы, гэта—„вялікі пачын". Але гэты пачатак разглядаўся ім, як зьявішча надзвычайна вялікай важнасьці. „Гэта",—гаворыць ён,—„пачатак перавароту, больш цяжкага, больш істотнага, больш карэннага, больш рашучага, чым нізрынуцьце буржуазіі, бо гэта перамога над уласнай закаранеласьцю, разбэшчанасьцю, дробна-буржуазным эгоізмам, над тымі звычкамі, якія прakляты капіталізм пакінуў у спадчыну рабочаму і селяніну"[1]).

Дзеля таго, каб зварот да капіталізму стаў немагчымым, і комунізм зрабіўся сапраўды няўхільным, т. Ленін лічыць патрэбным замацаваць гэтую „перамогу над уласнай закаранеласьцю", а разам з гэтым стварыць новую соцыялістычную дысцыпліну.

„Комуністычныя суботнікі" апроч усяго гэтага, маюць вялізарнае гісторычнае значэньне і з тае прычыны, „што яны паказваюць нам сьвядомы і добраахвотны пачын[2]) рабочых у разьвіцьці продукцыйнасьці працы, у пераходзе да новай працоўнай дысцыпліны, у творчасьці соцыялістычных умоў гаспадаркі і жыцьця[3]).

Гэтыя паказаньні т. Леніна маюць асабліва актуальнае значаньне для перажываемага намі этапу соцыялістычнага будаўніцтва. Мы зараз падыйшлі значна бліжэй і ў больш шырокім маштабе да тэй-жа проблемы ўцягненьня мільённых мас у справу падвышэньня продукцыйнасьці працы, да якой партыя і савецкая ўлада падыходзілі неаднакроць пры дапамозе „комуністычных суботнікаў", вытворчых аглядаў і г. д. Больш, чым калі-б там ні было, трэба нам зараз, каб дырэктывы партыі сьвядома падхопліваліся мільёнамі працоўных. Не адзінкі і іх працоўны гэроізм, а таксама не паасобныя колектывы, а рэволюцыйны ўздым і вытворчы энтузыязм мас—вось у чым бачыў т. Ленін „фактычны пачатак комунізму".

Найвялікшыя задачы перетварэньня экономічнай сыстэмы Савецкага Саюзу, накіраваныя да ператварэньня 1/6 часткі земнай кулі ў краіну буйнай машынавай індустрыі, патрабуюць найсур'ёзнейшай і найглыбокай зьмены організацыі працы.

Гэта організацыя павінна забясьпечыць хуткі тэмп соцыялістычнага награмаджэньня для патрэб народнае гаспадаркі і, апроч таго, заўсёднае падвышэньне матар'яльнага і культурнага ўзроўню працоўных мас. Але гэтага можна дасягнуць толькі перайшоўшы на новую соцыялістычную організацыю працы. Без сьвядомых адносін мас да вытворчасьці, бяз іх актыўнага ўдзелу ў організацыйна-тэхнічнай перабудове нашай экономікі, без таго, каб гэта перабудова адбывалася ня ў масавых памерах, без усяго гэтага ўсе гутаркі аб перамозе соцыялізму зьяўляюцца няжыцьцёвымі, утопічнымі.

---

[1]) Ленін, зб. твораў, т. XVI, ст. 248.
[2]) Падкрэсьлена намі Н. К.
[3]) Ленін, зб. твораў, т. XVI, ст. 252.

„Комунізм пачынаецца тамака“,—пісаў т.Ленін,—дзе праяўляецца самаадданы, які перамагае цяжкую працу, клопат звычайных рабочых аб павялічэньні продукцыйнасьці працы, аб ахове кожнага пуду хлеба, вугалю, жалеза ды іншых продуктаў, якія дастаюцца... ўсёй грамадзе ў цэлым, дзесяткам і сотням мілёнаў людзей“...[1])

Гэта вынятка гаворыць аб тым, што рабочыя масы, перабудоўваючы гаспадарку на соцыялістычных пачатках, самі павінны стварыць новую працоўную дысцыпліну, новую працоўную культуру. Гэта новая працоўная культура павінна быць непараўнальна вышэй старой капіталістычнай. „Комунізм ёсьць вышэйшая, супроць капіталістычнай, продукцыйнасьць працы добраахвотных, сьвядомых, аб'яднаных, выкарыстоўваючых перадавую тэхніку рабочых[2]).

Зразумела, што гэта высокая якасьць работы, новая культура працы, заснаваная не на капіталістычнай конкурэнцыі, а на прынцыпах соцыялістычнага спаборніцтва, павінна даць і нябачаныя дагэтуль вынікі сьвядомай колектыўнай працы

Буржуазныя пісьменьнікі, якія выслаўляюць капіталістычную конкурэнцыю, прыватную прадпрыемнасьць і „іншыя пышныя адзнакі і прыгожасьці капіталістычнага ладу“[3]), адмаўляюць за рабочай клясай, за дыктатурай пролетарыяту якія б то ні было стымулы да далейшага разьвіцьця продукцыйнасьці працы.

Для іх зьнішчэньне прыватнай уласнасьці і прыватна-уласьніцкай ініцыятывы ўяўляецца як пераход грамады ў панства гультайства, як „шэрая казарма бязьмернай нуднай працы, напоўгалоднага жыцьця, цяжкага жабрацтва“[4])

Буржуазія, як асуджаная на пагібель кляса, ня можа выйсьці з рамак капіталістычнай эксплёатацыі, яна ня можа дапусьціць больш высокую організацыю соцыялістычнай гаспадаркі, якая вызваляе творчыя сілы найшырачэйшых мас і якае дае магчымасьць разгарнуцца сапраўды масаваму пачыну, бяз усякай конкурэнцыі.

Творчая энэргія мільёнаў былых эксплёатуемых узьнімаецца пасьля зьнішчэньня капіталізму і ўласьцівай яму конкурэнцыі, на больш высокую ступень сьвядомай і ўзорнай організацыі вытворчасьці.

Адбываецца, як адзначае т. Ленін, „вялікая зьмена працы паднявольнай працай на сябе, працай плянова-організаванай у гіганцкім, агульна-дзяржаўным маштабе“.[1])

Гэта „вялікая зьмена працы“ Уладзімерам Ільлічом мысьліцца ва ўмовах і побач са зьдзейсьненьнем „соцыялістычнай організацыі спаборніцтва“.

Гэтак, у сваім артыкуле „Чарговыя задачы савецкай улады“, датаванай 29 красавіка 1918 г., Ільліч піша: „Да ліку бяссэнсіц, якія буржуазія ахвотна распаўсюджвае пра соцыялізм, належыць тое, быццам соцыялісты адмаўляюць значэньне спаборніцтва. У сапраўднасьці толькі соцыялізм, зьнішчаючы клясы і, значыць, зьнявольваньне мас, упяршыню адчыняе шлях для спаборніцтва сапраўды ў масавым маштабе“.[2]) (Курсыў мой. Н. К.).

Ленін заўсёды зьвязвае пытаньне аб спаборніцтве з пытаньнем зьдзейсьненьня пролетарскай дэмократыі, бо толькі ў савецкай дзяржаве можа быць зьдзейсьнены „сапраўдны ўдзел працоўных мас у кіраўніцтве упяршыню ставіць пытаньне аб спаборніцтве“.[3])

Тав. Ленін неаднакроць вяртаецца да пытаньня аб неабходнасьці організаваць справу соцыялістычнага спаборніцтва. „Наша задача цяпер, калі соцыялістычны ўрад на чале ўлады,—організаваць спаборніцтва“.[4])

Клясавы характар, прырода і ўнутраная організацыя новай сыстэмы спаборніцтва вельмі выразна паказаны ў наступных паказаньнях Уладзімера Ільліча ў тым-жа артыкуле „Як організаваць спаборніцтва“.

„Шырокае, сапраўды масавае стварэньне магчымасьці праяўляць прадпрыемнасьць, спаборніцтва,

[1]) Ленін. т. XVI, ст. 255.
[2]) Там-жа.
[3]) Ленін. „Як організаваць спаборніцтва“. Дзярж. выд. 1929 г., ст. 3.
[4]) Ленін. „Як організаваць спаборніцтва“ Дзярж. выд. 1929 г., ст. 4.

[1]) Там-жа, ст. 5.
[2]) Ленін, XV т. ст. 195.
[3]) Ленін, XV т., ст. 195.
[4]) Ленін, „Як організаваць спаборніцтва“, ст. 4.

сьмелы пачын зьяўляецца толькі цяпер. Кожная фабрыка... кожная вёска... зьяўляюцца цяпер і толькі цяпер шляхам дзейнасьці, на якім можа праявіць сябе чалавек працы".[1]) (Курсыў мой. Н.К.).

Спаборніцтва за лепшую ў якасных і колькасных адносінах работу, гаспадарчая і тэхнічная ініцыятыва рабочае клясы, самаадданая праца і рашучая барацьба з нядбальствам, хуліганствам, прагуламі, змаганьнем да поўнай перамогі „пролетарскай сьвядомай дысцыплінаванасьці над стыхійнай дробна-буржуазнай анархіяй",—вось пра што не пакідаў вучыць Ільліч. Новыя мэтоды спаборніцтва тав. Ленін разглядаў, як прадпасылку для таго, каб „вучыцца працаваць". „Вучыцца працаваць гэту задачу савецкая ўлада павінна паставіць перад народам ва ўсім яе аб'ёме".[2])

Але да гэтых новых мэтодаў адразу перайсьці ня так лёгка. Зусім зразумела, што гэта найвялікшая ў гісторыі чалавецтва „зьмена працы паднявольнай працай на сябе" павінна была ўнесьці ў першы час шэраг новых адносін, цяжкасьцяй. Больш таго, тав. Ленін абвяшчае бязьлітасную барацьбу як хуліганам, якія падрываюць соцыялістычную дысцыпліну працы, гэтакі ўсякаму нядбальству ў рабоце, неахайнасьці, неакуратнасьці, нэрвовай пасьпешнасьці, нахілу падмяніць справу дыскусіяй, работу — гутаркамі. Для таго, каб канчаткова выжыць і перамагчы капіталістычную спадчыну, каб перарабіць больш адсталыя масы працоўных, каб нанесьці рашучы ўдар па тых элемэнтах, якія яшчэ цяпер „хацелі-б адносіцца да народнай фабрыкі... паранейшаму з пункту погляду адзінай думкі: „урваць пабольшы кавалак і уцячы", т. Ленін настойліва заклікае ўздымаць масы на творчую, сьвядомую працу.

Нас больш усяго душыць, цісьне, рэжа, уціскае, нішчыць гэта спадчына драпежніцкага, бруднага і крывавага капіталізму. Ад гэтае спадчыны нельга вызваліцца адразу, з ёю патрэбна няўхільнае змаганьне, супроць яе трэба ня раз, і ня два, а шмат разоў, абвяшчаць і праводзіць новы крыжацкі паход"[3]).

[1]) Ленін, „Як організаваць спаборніцтва,"ст. 4.
[2]) Ленін, т. XV, ст. 194.
[3]) Ленін, т. XVI, ст. 27.

„Будам годы і дзесяцігодзьдзі",—піша т. Ленін праз год пасьля першага суботніку, „працаваць наддапасаваньнем суботнікаў, іх разьвіцьцём, распаўсюджваньнем, паляпшэньнем, укараненьнем у норавы"[1]).

Як у свой час гэтыя суботнікі зьяўляліся „масавай спробай увядзеньня комуністычнай працы" і абуджалі ў рабочай масе лепшыя інстынкты клясы, гэтак і спаборніцтва абарочваецца ў асноўную форму організацыі мас, організацыі, якая садзейнічала-б стварэньню ўзорных мэтодаў работы.

Соцыялістычнае спаборніцтва ў даны час разьвіваецца па шляху, які паказаны Уладзімерам Ільлічом. Тут важную ролю адыгрывае „сіла прыкладу" і „такі сродак організацыі спаборніцтва, як галоснасьць" Ня меншае значаньне ў гэтай адказнай справе соцыялістычнага будаўніцтва мае „цьвёрдая рашучасьць зьдзейсьніць яе (новую работу Н. К.) і вытрымка ў ажыцьцяўленьні вялікай і цяжкай мэты"[2]).

Якімі-ж павінны быць зьмест і мэтоды соцыялістычнага спаборніцтва? Менш усяго формалізму, бюрократычнага падыходу да гэтага адказнага палітычнага пытаньня зьверху. Шырокая, сьмелая ініцыятыва саміх мас, якія зьнізу даюць шматлікія прыклады творчых талентаў—вось парука посьпеху.

„Трэба організаваць спаборніцтва практыкаў-організатараў з рабочых і сялян, аднаго з другім. Трэба змагацца супроць усякага шаблёнаваньня і спроб устанаўленьня аднастайнасьці зьверху, да чаго звычайна маюць нахіл інтэлігенты. З дэмократычным і соцыялістычным цэнтралізмам ні шаблёнаваньне, ні ўстанаўленьне аднастайнасьці зьверху ня маюць нічога агульнага. Адзінства ў асноўным, у карэнным, у істотным не парушаецца, а забясьпечваецца рознастайнасьцю ў падрабязках, у прыёмах падыходу да справы, ў спосабах ажыцьцяўленьня контролю, у шляхох зьнішчэньня і абясшкоджаньня паразытаў (багатых і жулікаў, нядбалых і гістэрычак з інтэлігенцыі і г. д. і г. д.[3]).

[1]) Ленін, т. XVII, ст. 207.
[2]) Ленін, т. XV, ст. 196 і 196.
[3]) Ленін, „Як організаваць спаборніцтва," ст. 13—14.

Як на вялікі ўзор спалучэньня пачыну, самастойнасьці, волі рухаў, энэргіі, размаху зьнізу, т. Ленін спасылаецца на Парыскую Комуну. „Саветы ідуць па тым-жа шляху... Трэба, каб кожная «комуна», кожная фабрыка, кожная вёска, кожнае спажывецкае таварыства, кожны комітэт забесьпячэньня выступілі на спаборніцтва адзін з другім, як практычныя організатары вучоту і контролю за працаю і разьмеркаваньнем продуктаў“[1]). Програма гэтага спаборніцтва простая і зразумела ўсякаму: „каб хлеб быў у кожнага, каб усе хадзілі ў моцным абутку і ў не падзёртай вопратцы, мелі цёплае жыльлё, працавалі добрасумленна, каб ніводны жулік (у тым ліку і такі, які ўхіляецца ад работы) ня гуляў на волі“[2]).

Паказаныя мэтоды спаборніцтва выпрацоўваюць у рабочай клясе здаровы нахіл да рашучай пераробкі старых навыкаў у вытворчасьці, выхоўваюць новыя адносіны рабочых мас да свае фабрыкі, да рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, да вынаходнасьці, да ўсяго ўнутранога жыцьця вытворчасьці. Разам з тым выпрацоўваецца і настойлівая патрэбнасьць барацьбы з усякімі элемэнтамі, якія перашкаджаюць і зрываюць рэволюцыйны тэмп работы.

У данай справе бязумоўна вялікую ролю адыгрывае друк. З гэтай прычыны т. Ленін заўважвае: „Узорныя комуны павінны служыць і будуць служыць выхавацелямі, настаўнікамі, падцягвацелямі адсталых комун. Друк павінен служыць зброяй соцыялістычнага будаўніцтва, знаёмячы ва ўсіх дэталях з посьпехамі ўзорных комун, вывучаючы прычыны іх посьпеху, прыёмы іх гаспадаркі, ставячы, з другога боку, „на чорную дошку“ тыя комуны, якія ўпарта захоўваюць „традыцыі капіталізму“, гэта значыць анархіі, гультайства, бязладзьдзя, спэкуляцыі“[1]).

Справа соцыялістычнага спаборніцтва разглядаецца Леніным, як справа ўцягненьня ў агульна-дзяржаўнае кіраўніцтва організатарскіх талентаў. На гэтай рабоце адзначаныя таленты „павінны *практычна* вылучацца і высоўвацца ўверх. Іх шмат у народзе. Яны толькі прыціснуты. Ім трэба дапамагчы разгарнуцца. Яны, і *толькі яны*, пры дапамозе мас змогуць вырат аваць Расію і выратаваць справу соцыялізму“[2]). (Курсыў тав. Леніна).

Таму ня дзіўна, што партыя разглядае ідэю соцыялістычнага спаборніцтва, як адзін з запаветаў Уладзімера Ільліча, запаветаў, якія паказваюць, якім спосабам упэўненай суцэльнай масай рэволюцыйных колён пасоўвацца да комунізму.

„Трапная хада жалезных батальёнаў пролетарыяту“, якія разгарнулі справу праяўленьня найвялікшага пачыну працоўных мас, павінна давесьці краіну, дзе будуецца соцыялізм, да рашучай перамогі над усімі перажыткамі і рэшткамі капіталізму.

[1])Ленін, „Як організаваць спаборніцтва,“ст.14.
[2])Ленін, Там жа.

[1]) Ленін, т. XV. ст. 196.
[2]) Ленін, „Як організаваць спаборніцтва.“ ст. 16.

ГАННА ПАШУЧЭНКА

# Ў ШКОЛАХ КАПЫЛЬСКАГА РАЁНУ

Соцыялістычнае спаборніцтва ў школе павінна зьявіцца мэтодам комуністычнага выхаваньня дзяцей, мэтодам паднняцьця вытворчай і грамадзкай работы школы і пераходу на новыя формы работы ў сувязі з рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі і прамысловасьці. Рабскія адносіны да работы, рабскі тэмп самой работы павінны быць выціснуты рэволюцыйным энтузыязмам, тым энтузыязмам, які прымушае вучня самую дробную работу выконваць з захапленьнем, з сьвядомасьцю таго, што гэтая работа зьяўляецца часткай вялізарнае работы па будаўніцтву соцыялізму.

На вялікі жаль, шмат якія школы ня толькі не распачалі спаборніцтва, але нават і не распрацавалі гэтага пытаньня. Ударная брыгада Менскага Белпэдтэхнікуму, якая абсьледвала 12 масавых школ Капыльскага раёну, выявіла, што з гэтых 12 школ толькі 2 школы Лешнянская і Цімкаўская яўрэйская чатырохгодка распачалі соцыялістычнае спаборніцтва. У астатніх школах спаборніцтва няма. Гэта яскравы доказ няўменьня падхапіць і організаваць дзіцячую ініцыятыву.

Але ў тых школах, дзе спаборніцтва распачата, пастаноўка яго знаходзіцца далёка не на належнай вышыні. У Цімкаўскай яўрэйскай чатырохгодцы спаборніцтва разгорнута толькі між клясамі, спаборніцтва ўсяе школы з другою школаю адсутнічае. Гэта пагражае небясьпекай разьвіцьця ў дзяцей пачуцьця цэхаўскай конкурэнцыі і не дае ім уяўленьня пра работу па соцыялістычнаму спаборніцтву школы ў цэлым.

Пытаньне пераходу школы на новыя формы работы ў сувязі з рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі (Копыльскі раён - раён суцэльнай колектывізацыі) зусім апушчана. Ні ў аднэй умове няма ніводнага пункту пра работу школы па колектывізацыі.

Нават прынятыя ўмовы па соцспаборніцтву ў большай сваёй частцы ня выконваюцца. Гэта паказвае на формльныя адносіны да соцыялістычнага спаборніцтва, на неразуменьне значэньне спаборніцтва.

Праверкі ходу соцыялістычнага спаборніцтва ня было. Правядзеньне - ж праверкі, з удзелам усіх вучняў і настаўнікаў, значна пасунула-б ўперад работу школы.

У рабоце вучнёўскіх організацый соцыялістычнае спаборніцтва не заняла належнага месца. Трэба, каб уся работа грамадзкіх організацый школы праходзіла пад лёзунгам соцыялістычнага спаборніцтва. Гэтага няма. Наадварот, вучком вельмі мала клапоціцца аб лёсе спаборніцтва. Толькі з боку вучкому яўрэйскай чатырохгодкі ёсьць спробы да прыняцьця актыўнага ўдзелу ў правядзеньні спаборніцтва—вылучаны па клясах прадстаўнікі, якія павінны сачыць за ходам спаборніцтва.

Школьны друк, які павінен зьявіцца ня толькі інформатарам, але і організатарам, застрэльшчыкам кожнага новага пачынаньня, недастаткова адлюстроўвае ход спаборніцтва і не зьяўляецца штурхачом у справе яго разгортваньня.

Асноўная віна за неразгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва кладзецца на настаўніка, які павінен быць організатарам яго. Настаўнікі ў сваёй масе ня ўцямілі ўсяго значэньня соцыялістычнага спаборніцтва. Пра гэта яскрава сьведчыць той факт, што ня гледзячы на распачатае спаборніцтва між настаўніцкімі колектывамі Ляшнянскага і Быстрыцкага сельсаветаў, удзел настаўнікаў абсьледваных школ гэтых сельсаветаў у выкананьні умовы па соц спаборніцтву сваіх школ нездавальняючы.

Трэба, каб зараз-жа кожны настаўнік узяўся за дакладную распрацоўку гэтага пытаньня з дзяцьмі, растлумачыў усё значэньне соцыялістычнага спаборніцтва. Школа павінна разгарнуць спаборніцтва ўнутры сябе між клясамі, грамадзкімі організацыямі школы па пытаньні падняцьця грамадзкай і вытворчай работы школы; стварыць ударныя брыгады, як па вучобе, так і па грамадзкай рабоце; усю работу вучнёўскіх і грамадзкіх організацый школы праводзіць пад лёзунгам соцыялістычнага спаборніцтва. Трэба распачаць спаборніцтва між школамі, пры чым пажадана—між школамі розных нацыянальнасьцяй, што будзе значна спрыяць інтэрнацыянальна-клясаваму выхаваньню. Соцыялістычнае спаборніцтва—не кароткатэрміновая кампанія, а мэтод штодзённай работы школы.

Соцыялістычнае спаборніцтва—ініцыятыва мас—павінна і ў школе праходзіць без ніякага прыдушэньня дзіцячай ініцыятывы, пры сталай і ўмелай дапамозе з боку настаўніка.

А. АНСКІ

# „МАЛЕНЬКАЯ“ НЯЎВЯЗКА Ў ПАДРЫХТОЎЦЫ КАДРАЎ

(*Пра Магілеўскі пэдтэхнікум*)

Ажыцьцяўленьне чарговых задач комуністычнай партыі ў галіне падрыхтоўкі культурных кадраў на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва патрабуе выразнае клясавае ўстаноўкі ва ўсёй навучальна-выхаваўчай рабоце ўсіх навучальных устаноў, каб падрыхтаваць сапраўды новыя пролетарскія кадры, якія-б на справе зьяўляліся ініцыятарамі і організатарамі савецкай грамадзкасьці ў пасьпяховым ажыцьцяўленьні задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Абвастрэньне клясавае барацьбы ў сувязі з разгорнутым рашучым наступам на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі ў мэтах поўнага выкарчоўваньня рэшткаў капіталізму патрабуе марксыцка-ленінскай клясавай сьвядомасьці, бальшавіцкай вытрыманасьці і пільнасьці ў організацыі пастаноўкі навучальнай і выхаваўчай работы ва ўсіх навучальных установах.

Вялікая армія асьветнікаў і, ў першую чаргу настаўніцтва, у сучасны момант больш як калі-б там ні было можа і павінна паказаць сваю гатоўнасьць і адданасьць компартыі на справе, але яго трэба ўзброіць тэорытычна.

Складанасьць умоў працы ў даны момант патрабуе ад нашых навучальных устаноў выразнае навучальна-выхаваўчай работы, якая-б спрыяла комуністычнаму выхаваньню, прышчапленьню і выпрацоўцы пэўнага марксыцка-ленінскага сьветапогляду, формаваньню і загартаваньню пролетарскай ідэолёгіі новых кадраў, давала-б тэорытычна ўзброенага новага працаўніка.

Настаўнік—першы «агітпропшчык» і практычны працаўнік па ажыцьцяўленьні чарговых задач компартыі на вёсцы.

На падрыхтоўку пэдкадраў і, асабліва для вясковае школы, трэба зьвярнуць самую большую ўвагу.

Пролетарызацыя пэдагогічных навучальных устаноў ідзе з вялікай напружанасьцю; уплыў на ідэолёгічнае формаваньне, на пролетарызацыю ідэолёгіі новага настаўніка нашы навучальныя ўстановы мала зьвяртаюць увагі. У падмацаваньне гэтага вываду, мы пазнаёмім чытачоў, як ідзе падрыхтоўка настаўнікаў у Магілеўскім пэдтэхнікуме.

Магілеўскі беларускі пэдагогічны тэхнікум ня цалкам ажыцьцявіў ускладзеныя на яго компартыяй задачы па падрыхтоўцы культурных кадраў, аб чым можа сьведчыць ніжэй прыведзеная характарыстыка і становішча працы пэдтэхнікуму ў паасобных галінах.

**Пролетарызацыя тэхнікуму**

Магілеўскі пэдагогічны тэхнікум існуе ў складзе 8 курсаў (4 асноўных і 4 роўналежных). На ўсіх курсах вучыцца 326 асоб, з іх на школьным аддзяленьні—292 і на дашкольным—34 студэнты. Падзел на школьнае і дашкольнае аддзяленьні пачынаецца з III курсу. З гэтых лічбовых даных відаць, што тэхнікум рыхтуе школьных і дашкольных працаўнікоў для свае акругі, бо з 1929-30 навучальнага году ўсе пэдтэхнікумы раёнаваны.

Як жа ідзе пролетарызацыя студэнцкага складу ў тэхнікуме?

Для большага ўяўленьня, я прывяду лічбы ў процантных вымяральніках за апошнія тры гады па ўсіх социяльных групоўках:

Наяўны склад студэнцтва па соцыяльнаму паходжаньню характарызуецца: а) дзяцей рабочых у 1927-28 г. было 10,7 проц.; у 1928-29 г.—15,3 проц., а ў гэтым 1929-30 годзе—ўжо 23,5 проц. Як відаць, процант дзяцей рабочых штогодна расьце. Да 1929-30 году батракоў у тэхнікуме амаль зусім ня было, ды і ў гэтым годзе яны складаюць толькі 1,5 проц. Курыя рабочых выканана, але з вялікім спазьненьнем, бо некаторыя з дзяцей рабочых, залічыўшыся ў пэдтэхнікум, пазьней кідалі вучобу ды ішлі ў другія навучальныя ўстановы—індустрыяльныя.

Рэзэрвам для папаўненьня курыі рабочых у пэдтэхнікуме былі 2-х гадовыя пэдкурсы. Апошняе залічэньне па курыі рабочых было 16-XI 1929 году.

б) Сялянская група ў 1927-28 годзе складала 60,7 проц., у мінулым годзе зьменшылася да 51,4 проц., а ў гэтым годзе—да 49 проц. Зьмяншэньне пайшло пераважна за лік павялічэньня ядра рабочых. Дыфэрэнцыяцыі сялянскай групы да 1928 г. у тэхнікуме ня было. За 2 апошнія гады назіраецца павялічэньне дзяцей колгасьнікаў і вясковай беднаты: калі ў мінулым годзе было 13,3 проц., дык у гэтым годзе мы маем 46,2 проц.

Рабоча-сялянская група ў пэдтэхнікуме ў гэтым годзе складае 72,5 проц., пры чым сярод сялянскай курыі ёсьць 7,5 проц., якія плоцяць с.-г. падатку больш 40 руб.

в) За апошнія гады мы маем зьмяншэньне групы, якую складалі дзеці папоў, часта гандляроў ды інш. У 1927-28 г. было 7,8 проц., у 1928-29 г.—5,1 проц., а ў гэтым годзе—2,4 проц.

г) Група служачых—9,2 проц., саматужнікаў—2,1 проц. і выхаванцаў дзіцячых дамоў 4,3 проц., а ўсе разам складаюць 27,5 проц., з якіх 9,2 проц. дзяцей настаўнікаў і 4,3 проц. выхаванцаў дзіцячых дамоў.

Назваць сучасны соцыяльны склад студэнцтва зусім здавальняючым яшчэ нельга. Соцыяльнае і матар'яльнае становішча некаторых студэнтаў высьвятляецца. Многія па дакумантах лічацца не па свайму сапраўднаму паходжаньню, а некаторыя падлягаюць дадатковай праверцы. Мясцовыя організацыі на запыты тэхнікуму даюць весткі аб студэнту з вялікім спазьненьнем, часта ўхіляюцца ад адказаў на некаторыя пытаньні, якія ставяцца тэхнікумам у парадку вывучэньня.

Партыйнае ядро сярод студэнцтва зусім нязначнае—1,5 проц.; комсамольскае ядро штогодна павялічваецца; калі ў 1927-28 г. было 30,3 проц., у 1928-29 г.—32,5, дык у гэтым годзе—ужо 36 проц. Аднак разам з гэтым характэрна адзначыць, што комсамольскае ядро ў тэхнікуме зусім не расьце, што сьведчыць аб дрэннай выхаваўчай рабоце. Для паўнаты малюнку падам характарыстыку складу студэнцтва па нацыянальнасьці і па полу.

У нацыянальным складзе назіраецца нязначнае зьмяншэньне беларусаў: калі ў мінулым годзе іх было 83,4 проц., дык у гэтым—80,5 проц.; яўрэяў было 13,4 проц., цяпер—13,2 проц.

Па полу назіраецца шпаркае павялічэньне жанчын: калі ў 1927-28 г. было 55 проц., дык у гэтым годзе—64 проц.

З усяго вышэйпрыведзенага відаць, што пролетарызацыя тэхнікуму штогодна павялічваецца, глеба для разгортваньня належнай работы ёсьць, але на справе атрымоўвалася зусім наадварот. Ніякай работы па вылучэньню і падрыхтоўцы дзяцей рабочых, батракоў і беднаты да актыўнай грамадзкай работы ня было, кіруючыя пасады ў студорганізацыях займаліся студэнтамі з групы служачых, а на чале профкому апынуўся нават кулак Ляўчэня. Вось да чаго можна дайсьці, калі страціць пэрспэктывы росту і не заўважаць абвастрэньня клясавае барацьбы, якая адбываецца ў сьценах навучальных устаноў.

Нельга абыйсьці моўчкі такога зьявішча, якое характэрна ня толькі для Магілеўскага пэдтэхнікуму, а і для ўсіх пэдагогічных навучальных устаноў, гэта—*адсеў студэнцтва.*

На працягу ўсяго 1928-29 г. з усіх курсаў пэдагогічнага тэхнікуму выбыла 56 асоб.

Галоўнейшыя прычыны выбыцьця наступныя: па матар'яльнай незабясьпечанасьці—17 асоб, выключана за захаваньне социяльнага паходжаньня—14 асоб, выключана за пакражу і хуліганства—6 асоб, выбылі па непасьпяховасьці—2 асобы, паступілі ў другія навучальныя ўстановы—7 асоб, выбылі па хваробе—1, па ўласнаму жаданьню, без паказаньня прычын, ды інш.—4.

Такім чынам выбыўшыя 51 асоба складаюць 15,6 проц. да агульнага ліку студэнтаў. Гэты адсеў надзвычайна вялікі; ён перавышае ў тры разы плянавыя меркаваньні НКА (20 проц. на 4 гады).

Калі-ж пакінуць у баку адсеў студэнцтва за год, а ўзяць і прасачыць на працягу ўсіх 4-х гадоў навучаньня, пачынаючы з 1-га і да самага выпуску, дык мы будзем мець такія лічбы: у 1925-26 г. было прынята на I курс 101 асоба, а скончыла ў 1928-29 г. толькі 64 асобы, уцечка 36 проц.; у 1926-27 г. было прынята 81 асоба, але да 4-га курсу дайшло толькі 51 чал., што складае 37 проц. Такім чынам вызначаная ўцечка па пляну падрыхтоўкі настаўнікаў у 20 проц. на працягу 4 гадоў перавышае гэту лічбу ў два разы. Адна з галоўных прычын уцечкі — матар'яльная незабясьпечанасьць і недастатковы лік стыпэндый і другая—незацікаўленасьць часткі студэнтаў сваёй будучай профэсіяй. Аднак тут нельга зьняць віны і з кіраўніцтва пэдтэхнікуму, якое часта, замест сваячасовага папярэджаньня і дапамогі адстаючым, бачыць адзін выхад—звольніць за непасьпяховасьць. Гэты напрамак памылковы. Пэдагогічныя навучальныя ўстановы павінны паставіць задачу—ніводнага звальненьня студэнта па непасьпяховасьці. Разам з гэтым адпаведныя дырэктыўныя ўстановы павінны зьвярнуць увагу на палепшаньне матар'яльнага становішча студэнцтва, даведшы стыпэндыяльны фонд да 80-90 проц., калі ня ўсе 100 проц. агульнага ліку студэнцтва.

У Магілеўскім пэдтэхнікуме на 326 асоб студэнтаў у гэтым годзе ёсьць 175 стыпэндый, што складае 53,4 проц., але дапушчана драбленьне 5 стыпэндый на палову, што дало магчымасьць павялічыць процант забясьпечанасьці да 55,2%.

У параўнаньні з мінулым годам лік і памер стыпэндый павялічаны, але ўсё-ж такі процант забясьпечанасьці далёка разыходзіцца з агульным процантам студэнцкага складу па социяльнаму адбору, якія маюць права на атрыманьне стыпэндый.

З прычыны неатрыманьня стыпэндый выбыла з пэдтэхнікуму на працягу 2-х месяцаў 8 асоб: з 1-га курсу 6 і з 4-га 2. У стыпэндыі ўпіраецца і пролетарызацыя пэдустаноў.

**Пра настаўніцтва**

Сучасны этап нашага будаўніцтва, надзвычайна вавастрае пытаньне на ідэолёгічным фронце ў школе, у ВНУ і ў асаблівасьці па лініі тых навучальных устаноў, дзе рыхтуюцца настаўніцкія кадры.

Выкладчыкі Магілеўскага пэдтэхнікуму спусьціўшы рукавы адносіліся да пытаньняў ідэолёгіі. Кіруючыя асобы ішлі рознымі шляхамі, кожны думаў толькі аб сабе, ці няма тут якой «міны». Для такіх думак і разваг у некаторых былі падставы.

Калі разглядаць лічбовыя даныя аб настаўніках пэдтэхнікуму, дык яны будуць характарызавацца такімі данымі за тры гады:

| ГАДЫ | Агульны лік | Па полу | | Па сац. стану | | | Па нац. складу | | Па партыйн. | | | Па адукацыі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | М. | Ж. | Сялян | Служач. | Іншых | Белар. | Рас. | Чл. КПБ | % | Беспарт. | Вышэй. | Спэц. | Сярэд. |
| 1927-28 | 22 | 22 | 19 | 9 | 10 | 3 | 20 | 2 | 1 | 4,5 | 21 | 10 | 3 | 9 |
| 1928-29 | 23 | 20 | 3 | 12 | 8 | 3 | 21 | 2 | 2 | 8,8 | 21 | 12 | 4 | 7 |
| 1929-30 | 25 | 21 | 4 | 18 | 6 | 1 | 23 | 2 | 5 | 20 | 20 | 16 | 4 | 5 |

З прыведзенай табліцы відаць, што парт'ядро сярод выкладчыкаў у гэтым годзе значна павялічылася: замест 8 проц. у 1928-29 г. і 4 проц. у 1927-28 г.

у гэтым годзе стала 20 проц. Але ўдзельная вага і ўплыў партыйцаў на беспартыйных яшчэ нязначны ў зьвязку з тым, што яны па свайму стажу і вопыту работы ў тэхнікумах у большасьці працуюць першы год.

Па социяльнаму паходжаньню склад настаўніцтва ня дрэнны, па адукацыі таксама. Але пэдагогічны колектыў быў разрозьнены, адчуваўся падзел на «старых» і «новых».

Пры дасылцы новых, маладых настаўнікаў ім не аказвалася сяброўская дапамога з боку старых выкладчыкаў, а *часта назіраліся варожыя адносіны і ігнараваньне, іх спатыкалі ў штыкі*. Нават больш таго, пры замене кіраўніцтва, у часе прызначэньня новага дырэктара партыйца, сярод выкладчыкаў адчувалася незадаволенасьць і насьмешка, пра што сьведчыць выраз, які хадзіў сярод выкладчыкаў: «Кандыдацкая шчэпка прыбілася да нашых мірных берагоў».

Загадчык навучальнай часткі вельмі суха і афіцыйна спатыкаў новых маладых выкладчыкаў і ня імкнуўся ўвесьці іх у курс справы. Пра гэта сьведчыць хоць-бы тое, што прывёўшы ў клясу новага настаўніка, ён гаварыў: «Вось вам выкладчык» (прозьвішча рэк), тым часам як усіх старых выкладчыкаў называў па імені і па бацьку, а новых толькі па прозьвішчу.

Новаму дырэктару таксама ня была аказана належная дапамога ў наладжваньні і паляпшэньні работы з боку заг. навуч. часткі тав. Машкоўскага і былога дырэктара тэхнікуму.

Як-жа ішла работа пры такіх узаемаадносінах?

Некаторая частка выкладчыкаў фармальна выконвала свае абавязкі, імкнулася прайсьці толькі програмны матар'ял, даць студэнтам акадэмічныя веды, а выхаваўчы бок работы і ўвязка програмнага матар'ялу з сучаснасьцю, прышчапленьне студэнцтву марксыцка-ленінскага сьветапогляду адсутнічалі. Такія адносіны да работы мелі дрэнны ўплыў на студэнцкі колектыў і выклікалі абурэньне з боку студэнцтва супроць тых настаўнікаў, якія імкнуліся праводзіць увязку програмнага матар'ялу з сучаснымі задачамі партыі ў галіне выхаваньня новага настаўніцтва.

У соцыялістычным спаборніцтве і разгортваньні самакрытыкі актыўнасьць выкладчыкаў слабая. У грамадзкай рабоце студорганізацыі частка выкладчыкаў ня прымала ўдзелу. Самаадукацыйная работа сярод колектыву выкладчыкаў у мэтах аўладаньня марксыцкім мэтодам работы не вялася.

Колектыў выкладчыкаў у сваёй штодзённай рабоце належнай увязкі і ўзгодненасьці ня меў. Ёсьць выпадкі, калі асобныя настаўнікі на працягу году і больш паміж сабой ня гутарылі, тым часам як па характару работы, пэдагогічнаму ... падабенству дысцыплін гэта вымагалася жыцьцёвай неабходнасьцю. Наадварот, ёсьць выпадкі, калі часта ў часе абмеркаваньня тых ці іншых пытаньняў пераходзілі на асабовыя разрахункі і пускалі ў ход розныя мянушкі: «алхімік», «мэфістофэль», «казіная сьмерць», «асьліная чэлюсьць». А калі заглянуць адным вокам у быт настаўнікаў?

На працягу некалькіх гадоў сярод выкладчыкаў тэхнікуму мела месца сыстэматычнае п'янства (у гонар выкладчыка пэдтэхнікуму Арлова была названа піўная ў горадзе «Арлоўка»).

Уся п'янка выкладчыкаў у свой час насіла назву: «Общество друзей умеренного пьянства».

Праўда, усе вышэйадзначаныя факты хваробна-бытавых зьявішч сярод выкладчыкаў тэхнікуму адносяцца, галоўным чынам, да 1927-28 навучальнага году, але яны прыведзены дзеля таго, каб паказаць, што яны не прайшлі бясьсьледна для студэнцтва і зьявіліся карэньнямі, якія выявілі сваю жывучасьць і праявіліся ў гэтым годзе сярод студэнцтва 4-га курсу.

Ёсьць факты, калі настаўнікі пэдтэхнікуму не далей як год, два таму назад наведвалі царкву, мелі абразы ў кватэрах.

Бязумоўна, частка выкладчыкаў была зьнята з работы яшчэ ў мінулым годзе, але традыцыі іх захоўваліся іх заступнікамі.

Са зьменай кіраўніцтва тэхнікуму і пры ўмацаваньні партыйнае ячэйкі но-

вымі сіламі, бруднае зельле палолася ня зусім грунтоўна.

Ці ёсьць спрыяючыя ўмовы для работы ў тэхнікуме?

Умовы для разгортваньня навучальнай справы ў пэдтэхнікуме лепшыя, чым у іншых тэхнікумах і зусім здавальняючыя. Будынак цалкам адпавядае запатрабаваньню данай навучальнай установы і цалкам абслугоўвае 8 курсаў пэдтэхнікуму нават з інтэрнатамі, 2-х гадовыя і аднагадовыя пэдкурсы. Пры пераходзе на бесьперапынны пяцідзённы тыдзень усе курсы пэдтэхнікуму і пэдкурсаў займаюцца ў вадну дзённую зьмену. Здавальняюча абсталяваны фізычны, хэмічны і прыродазнаўчы габінэты. Сельска-гаспадарчы габінэт абсталяваны недастаткова, а пэдолёго-пэдагогічны пачынае толькі засноўвацца. Для абслугоўваньня студэнцтва ёсьць свая бібліотэка, якая налічвае 16.688 тамоў. Бібліотэка штогодна папаўняецца, але без належнага пляну, а таму адчуваецца недахоп літаратуры па грамадазнаўству. Вывучэньне чытача ў бібліотэцы не вядзецца. Студэнты з організацыяй бібліотэчнай справы, тэхнікай вядзеньня вучоту і запісамі кніг, што настаўніку трэба ведаць, не знаёмяцца.

Умовы для работы ёсьць і зусім здавальняючыя, бракуе толькі аднаго дастатковага кіраўніка.

Як-жа пастаўлена навучальна-выхаваўчая справа?

**Навучальная справа**

Уся работа пэдтэхнікуму ў гэтым годзе пераведзена на больш актыўныя формы і мэтоды. Уведзена лябораторная распрацоўка пры цьвёрдым раскладзе па 2-х тыднёвых заданьнях. У вячэрнія часы організаваны дзяжурствы выкладчыкаў для дапамогі студэнтам у часе распрацовак заданьняў.

Дысцыплінаванасьць студэнтаў на лекцыях ня зусім добрая. Бываюць выпадкі спазьненьняў на лекцыі як з боку выкладчыкаў, так і студэнтаў. Назіраюцца нездаровыя зьявішчы ў тым, што студэнты організоўваюць кругавую паруку, каб колектыўна бараніць тых, якія, не падрыхтаваўшы матар'ялу па заданьню, хочуць здаць яго на «ура». Утрымаліся нават групы па абароне непасьпяваючых студэнтаў. Калі выкладчык заўважыць студэнту, што ён ідзе на здачу заданьня, ня ведаючы яго і цьвёрда дамагаецца ведаў па свайму прадмету, супроць яго ўзьнімаецца цэлая кампанія траўлі. Назіраюцца нездаровыя выпадкі і з боку некаторых выкладчыкаў, як нясур'ёзныя патрабаваньні ад студэнтаў ведаў пры здачы заданьняў, што, бязумоўна, шкодна адбіваецца на вучобе.

Кіраўніцтва навучальнай часткай было недастатковае. Дырэктар і загадчык навучальнай часткі рэдка наведвалі лекцыі выкладчыкаў. Прадметна-цыклявыя комісіі працавалі слаба. Замест сталае распрацоўкі програмных пытаньняў, поўнага ўзгадненьня і дапасаваньня аднаго прадмету да другога прадметна-цыклявыя комісіі штэмпэлявалі раней пляны, а цяпер заданьні выкладчыка, на гэтым уся іх работа і канчалася.

Выявіць пасьпяховасьць у гэтым годзе, каб параўнаць з папярэднімі гадамі, яшчэ нельга. Калі судзіць аб пасьпяховасьці студэнтаў па вестках мінулага году, дык сярэдні процант пасьпяховасьці складае 85 проц. Лік гадавых гадзін па навучальнаму пляну недавыкананы студэнтамі за год на 12 проц. і з боку выкладчыка—на 4 проц., якія галоўным чынам прыпадаюць на пропуск заняткаў.

Спробы пэдсавету правесьці тэсты, як об'ектыўны падлік і вучот ведаў і разьвіцьця студэнтаў, атрымалі рашучы адпор як з боку студэнцтва, так і часткі выкладчыкаў. Пытаньню тэстаў быў нададзены політычна-грамадзкі характар; за разбор «тэставае» справы ўзялася ячэйка КП(б)Б, у выніку ўсяго гэтага атрымалася поўная няўвязка па кіраўніцтву навучальнай справай. Тэсты некаторымі выкладчыкамі ўсё-ж такі былі праведзены, але іх правядзеньне выклікала антагонізм паміж сабою.

Некалькі слоў аб вытворчай практыцы.

Для забясьпечаньня вытворчай пэдагогічнай практыкі пры пэдтэхнікуме ёсьць вопытна-практыкавальная сямігодка. Практыка адбываецца толькі ў першым концэнтры. Адна школа ня мо-

жа цалкам задаволіць патрабаваньні практыкі для падвойных 3-х і 4-х курсаў. Пэдагогічны практыкум пачынаецца з другога курсу пасыўным назіраньнем, на 3-м курсе даюцца практычныя лекцыі, і на 4-м курсе праводзяцца самастойныя заняткі. Пэдпрактыкум ў мінулым годзе праведзен ня толькі ў вопытна-практыкавальнай школе, але і ў масавай на працягу месяца пад непасрэдным кіраўніцтвам мэтодыстых і кіраўніка пэдпрактыкуму. У гэтым годзе да пэдпрактыкуму ў вопытна-практыкавальнай школе падыйшлі раней вызначанага тэрміну, да яго не падрыхтаваліся, дзякуючы чаму адчуваліся незадаволенасьць і скаргі з боку студэнцтва.

Маючы на ўвазе, што студэнты па сканчэньні тэхнікуму павінны будуць працаваць на вёсцы, дзе трэба будзе даваць некаторыя практычныя веды па агрономіі ня толькі ў школе, але і даросламу насельніцтву, Магілеўскі пэдтэхнікум, як і іншыя пэдтэхнікумы, праводзіць сельска-гаспадарчы практыкум.

У мэтах азнаямленьня студэнцтва з агрономічнымі ведамі на практыцы пры пэдтэхнікуме ёсьць невялікі кавалак зямлі і сад у $1\frac{1}{2}$ гэктары, на якім і адбываецца сельска-гаспадарчы практыкум. Памер вучастку не дае магчымасьці нормальна разгарнуць с.-г. практыкум, выкарыстаць яго як навучальна-паказальную і першапачатковую лябораторыю. У мінулым годзе студэнты III курсу на летні час былі пасланы ў саўгасы і колгасы Магілеўскай акругі на $2\frac{1}{2}$ месяцы на с.-г. практыку, якая дала станоўчыя вынікі. Гэты вопыт тэхнікуму трэба пашырыць на другія тэхнікумы.

Студэнты 2-га курсу адбылі с.-г. практыку на сваім вучастку па садоўніцтву, гародніцтву і пчалярству.

Такім чынам вышэйпрыведзеная характарыстыка навучальнай работы як з боку тэорыі, так і з боку практыкі паказвае, што справа пастаўлена ня дрэнна.

### Грамадзкая работа

Адным з лепшых сродкаў узьдзейнічаньня на работніка ня вузка-акадэмічнага спэцыялістага, а і актыўнага грамадзкага працаўніка зьяўляецца грамадзкая работа як у сьценах навучальнае ўстановы, так і па-за сьценамі яе.

На формаваньне ідэолёгіі асобы мае уплыў і выкладчык пры выкладаньні таго ці іншага прадмету з пэўнай клясавай устаноўкай, а таксама і асяродзьдзе. Набытыя тэорытычныя веды павінны ісьці на службу грамадзтву з пэўнай клясавай устаноўкай. Самым лепшым і неабходным уплывам у нашых умовах зьяўляецца ўплыў рабочае клясы—пролетарыяту.

Магілеўскія ўмовы дазваляюць нашым навучальным установам зьвязацца з рабочымі прадпрыемствамі і ў пролетарскім асяродзьдзі перавыхоўваць будучых культурных працаўнікоў, у прыватнасьці настаўнікаў, якія павінны будуць у сваёй практычнай рабоце ажыцьцяўляць дыктатуру пролетарыяту на вёсцы.

Як-жа выкарыстаў гэтую магчымасьць Магілеўскі пэдтэхнікум?

Ніякіх захадаў з боку пэдсавету, а таксама і з боку студэнцкіх організацый ня было ўжыта да наладжваньня сувязі з рабочымі прадпрыемствамі гораду Магілеву. Ніводнага разу тэхнікум ня вынес на крытыку рабочых мас сваю навучальную і выхаваўчую работу. Варыліся ў сваім саку і дрэнна варыліся.

Як-жа організоўваў тэхнікум грамадзкую работу студэнцтва?

Былі створаны і працавалі шмат розных гурткоў, рабіліся даклады, ставіліся спэктаклі і г. д., і г. д. Але ўся гэта работа, дзякуючы таму, што яна праходзіла па абавязку і формальна, не дала станоўчых вынікаў і ў некаторых выпадках мела ўплыў у адваротны бок.

Устаноўка ў грамадзкай рабоце была ўзята не на якасьць, а на колькасьць, у выніку чаго формальна наведваліся гурткі, сядзелі на вечарох, слухалі лекцыі, даклады... а студэнцкі колектыў разлагаўся.

### Унутранае становішча студэнцкага колектыву

Клясавая барацьба, якая адбывалася навокал пэдтэхнікуму, мела свой сыгнал і ў сьценах тэхнікуму, але праявы клясавай барацьбы ў тэхнікуме не вывучаліся, у выніку чаго аформіліся групоўкі,

пачалася п'янка, крадзеж, праявы антысэмітызму ды інш.

На глебе выяўленьня і выключэньня з пэдтэхнікуму соцыяльна чужых элемэнтаў, на 4-м курсе аформіліся 2 групоўкі: адна—яўна кулацкая на чале з былым комсамольцам Ляўчэня, сынам кулака, які стаяў на чале профкому, і яго памочнікам, былым комсамольцам Шаплыкай, і другая—хуліганская на чале з былым комсамольцам Скобавым і Мацьвеенкам. Першая група зьяўлялася рупорам кулацкіх настрояў у пэдтэхнікуме. Яе сябры і прыхільнікі выступалі супроць партыйнага кіраўніцтва, супроць політыкі партыі на вёсцы, абаранялі соцыяльна чужых і ідэолёгічна варожых. Другая ўдзельнічала у сыстэматычных дробных кражах, п'янках, хуліганскіх выпадах і г. д. Гэтыя групы канчаткова выявілі сваю організаванасьць на апошнім студэнцкім сходзе, які праводзіўся комісіяй у парадку крытыкі і самакрытыкі ўсяе работы тэхнікуму.

Партыйная і комсамольская ячэйкі гаварылі аб паасобных нездаровых зьявішчах сярод студэнцтва, але не надавалі ім політычнага значэньня, аж пакуль ня прыехала партыйная комісія і ня выкрыла ўсяго загніваньня ў тэхнікуме. Дзякуючы політычнай блізарукасьці кіруючых асоб тэхнікуму ня быў даны своечасова адпор варожым элемэнтам.

Сярод студэнцтва пашырыліся нездаровыя зьявішчы, як: сыстэматычнае п'янства на IV курсе, провады выключаных соцыяльна чужых з выпіўкамі, пакража і выпіўка сьпірытусу з хэмічнай лябораторыі (гэтыя хваробныя зьявішчы запазычаны ад ранейшага «общества друзей умеренного п'янства»), крадзяжы, праявы хуліганства, антысэмітызму, беларускага, яўрэйскага і расейскага шовінізму.

Ня гледзячы на тое, што было распрацавана нацпытаньне на студэнцкіх сходах, але да гэтага часу поўнага разуменьня сутнасьці нацпытаньня, якое ажыцьцяўляецца компартыяй, няма. Інтэрнацыянальнае выхаваньне ў тэхнікуме пастаўлена слаба.

Узаемаадносіны студэнтаў старэйшых і малодшых курсаў дрэнныя. Студэнты старэйшых курсаў абзываюць студэнтаў малодшых курсаў рознымі мянушкамі, забіраюць іх харчы, што прывезены з дому. «Спаліць, ачысьціць гумно», г. зн. забраць хлеб і ўсе харчы ад студэнта навічка.

Вось якое становішча ўтварылася ўнутры студэнцкага колектыву ў сувязі з тым, што частка выкладчыкаў адыйшла ад студэнцкага колектыву, студорганізацыі пайшлі кожная па сабе, сталая выхаваўчая работа адсутнічала.

Што-ж у гэты час рабілі кіруючыя організацыі?

На пасяджэньнях пэдсавету разглядаліся пытаньні бягучага і кампанейскага характару, а такія пытаньні, як пастаноўка і організацыя выхаваўчай работы сярод студэнтаў тэхнікуму не ставіліся і не абмяркоўваліся. Ніякай увязкі ў справе выхаваўчай і грамадзкай работы пэдсавету і студорганізацый ня было. Пэдсавет мала цікавіўся вытворчымі пытаньнямі. Ён ня прымаў ніякіх захадаў да дзелавога ўрэгуляваньня непаразуменьняў паміж асобнымі выкладчыкамі.

Мясцком у жыцьці тэхнікуму не адчуваўся, дзякуючы адсутнасьці унутрывыхаваўчай работы як сярод тэхпэрсаналу, так і сярод выкладчыкаў.

Мясцком не праводзіў ніякай работы па ўзьняцьцю працоўнай дысцыпліны, не рэагаваў на хваробныя зьявішчы ўнутры колектыву выкладчыкаў. З боку акруговага праўленьня саюзу працасьветы ня было ніякага кіраўніцтва работай мясцкому тэхнікуму.

Профком пакінуў у баку ўсю выхаваўчую работу сярод студэнцкага колектыву, ня было рашучай барацьбы з хваробнымі зьявішчамі ў студэнцкім асяродзьдзі. Ніякай дапамогі з боку гарбюро пролетстуду профком ня меў, і здарылася так, што на пасаду старшыні профкому папаў кулак, які давёў справу да ўтварэньня кулацкай групоўкі.

Комсамольскі колектыў быў засьмечаны соцыяльна чужым элемэнтам, што адбілася як на ўнутраным становішчы колектыву, так і на яго кіруючай ролі. Колектыў КСМ ня толькі не дабіўся шырока разгорнутай крытыкі і самакрытыкі, а, наадварот, у яго рабоце мелі месца

замазваньні хваробных зьявішчаў сярод студэнцтва.

Комсамольскі колектыў не праявіў ініцыятывы ў організацыі і пастаноўцы выхаваўчай работы, ня вёў рашучага змаганьня з праявамі варожай ідэолёгіі.

Парт'ячэйка слаба кіравала палітычна-грамадзкім жыцьцём тэхнікуму і ў значнай меры формальна.

Социялістычнае спаборніцтва, як мэтод прыцягненьня ўсяго студэнцтва і настаўнікаў да актыўнага ўдзелу ў навучальна-выхаваўчай рабоце тэхнікуму, не знайшло свайго дастатковага практычнага ажыцьцяўленьня.

З боку вышэйпералічаных організацый тэхнікуму ня была зьвернута належная ўвага на разгортваньне крытыкі і самакрытыкі, дзякуючы чаму крытыка і самакрытыка, як мэтод уцягненьня студэнцтва і выкладчыкаў у актыўны ўдзел ва ўсім жыцьці тэхнікуму, амаль адсутнічалі. Самакрытыка ня стала мэтодам выяўленьня і барацьбы з хваробнымі зьявішчамі ў тэхнікуме і асабліва за правядзеньне выразнай пролетарска-клясавай лініі ў акадэмічнай і выхаваўчай рабоце і ў барацьбе супроць чужое ідэолёгіі, якая праяўлялася як з боку асобных студэнтаў, так і выкладчыкаў.

**Вывады**

1. Разам з палепшаньнем у галіне навучальнай справы (актывізацыя мэтодаў работы), павялічэньнем парт'ядра выкладчыкаў, паляпшэньнем у справе пролетарызацыі тэхнікуму і наогул паляпшэньнем социяльнага складу студэнцтва, ўсё-ж такі Магілеўскі пэдтэхнікум з сваімі задачамі падрыхтоўкі новых настаўнікаў на сёньняшні дзень ня справіўся.

2. Дырэктывы партыі аб форсаванай падрыхтоўцы новых пролетарскіх кадраў з пункту погляду організацыі і пастаноўкі ўсяе навучальна-выхаваўчае работы і комуністычнага выхаваньня гэтых кадраў, якія рыхтуюцца ў пэдтэхнікуме, не знайшлі яшчэ поўнага практычнага прыстасаваньня ў рабоце.

3. Абвастрэньне клясавае барацьбы ў сьценах тэхнікуму выявілася ў формах утварэньня социяльна-чужых груповак сярод студэнцтва; падачы контррэволюцыйных ананімных запісак; пасыўнага, а часам і актыўнага супраціўленьня пролетарызацыі і наогул паляпшэньню социяльнага складу студэнцтва; у праявах антысэмітызму, шовінізму розных колераў і беларускага нацыянал-дэмократызму; адмаўленьня клясавае барацьбы ў навучальных установах, імкненьня прышчапіць буржуазную ідэолёгію студэнцтву; распаўсюджваньня розных выдуманых чутак з буржуазным тлумачэньнем лёзунгаў партыі пра чарговыя задачы социялістычнага будаўніцтва, у прыватнасьці, агітацыі супроць колгаснага і саўгаснага будаўніцтва ў вёсцы і спэкуляцыі на нашых цяжкасьцях росту у горадзе, падмены клясавае барацьбы «агульна чалавечай» гуманнасьцю, распаўсюджваньня ўпадніцкіх настрояў ды інш.,—за ўсімі гэтымі праявамі захаваных клясавых ворагаў трэба пільна сачыць і своечасова даваць ім рашучы адпор.

4. Ня гледзячы на павялічэньне разьмеру і колькасьці стыпэндый у тэхнікуме, матар'яльнае становішча часткі студэнтаў усё-ж яшчэ застаецца цяжкім з прычыны недастатковага росту колькасьці стыпэндый, што, бязумоўна, адмоўна адбіваецца на павялічэньні ў тэхнікуме дзяцей рабочых і вясковай беднаты.

5. Выхаваўчая работа ў тэхнікуме праходзіла без адпаведнага ўплыву на студэнцкую моладзь, чым і тлумачыцца нездавальняючы яе якасны зьмест. Настаўніцтва ня прымала ўдзелу ў організацыі выхаваўчае работы (за выключэньнем адзінак), што мае свой вынік—неразуменьне часткаю студэнцтва політыкі партыі па рабоце ў вёсцы.

6. Социялістычнае спаборніцтва, як мэтод штодзённай работы, у тэхнікуме праводзіцца слаба.

7. Слаба разгорнута ў тэхнікуме крытыка і самакрытыка.

8. Адсутнічае работа з пролетарскай часткай моладзі. Пролетарскае ядро слаба організавана для барацьбы з социяльна-чужымі элемэнтамі і варожай ідэолёгіяй.

9. Вурок правалаў Магілеўскага пэдтэхнікуму павінны ўлічыць усе пэдтэх-

нікумы і праверыць сваю навучальна-выхаваўчую работу, наколькі яна адпавядае запатрабаваньням рэконструкцыйнага пэрыоду, пэрыоду абвостранай клясавай барацьбы. Для гэтага патрэбна ня формальна, а па сутнасьці праводзіць пролетарызацыю навучальных устаноў, сваячасова рыхтавацца да наступнага навучальнага году і весьці работу з пролетарскай часткай, каб праз яе рабіць ідэолёгічны ўплыў на астатнюю студэнцкую масу.

Толькі шляхам шырока разгорнутай і бязьлітаснай крытыкі і самакрытыкі як настаўніцтва, так і савецкай грамадзкасьці, можна палепшыць ідэолёгічны зьмест работы па падрыхтоўцы новых пролетарскіх кадраў, выкарчаваць усю гніль, усіх соцыяльна чужых ды ідэолёгічна варожых элемэнтаў з навучальных устаноў.

Толькі шляхам соцыялістычнага спаборніцтва і ўтварэньнем ударных брыгад можна ўзьняць на належную вышыню ўсю навучальна-выхаваўчую работу.

Гэта павінна памятаць кожная навучальная ўстанова.

**М. ПІГУЛЕЎСКІ**

# ЗАКОННАЯ ТРЫВОГА

Нашы беларускія сямігодкі працуюць шмат. Працуюць вучні пад кіраўніцтвам настаўнікаў, працуюць і самастойна. Працуюць і настаўнікі і нават бесьперапынна, бо трэба то гуртком кіраваць, то да лекцый падрыхтавацца, альбо сшыткі выправіць. Ёсьць і вынікі гэтай работы. Ёсьць у кожнай сямігодцы і вучні добра падрыхтаваныя. Здаецца, «на Шыпцы ўсё спакойна».

Але-ж... У тэхнікумах на першых курсах процантаў з 50 няпісьменных па беларускай мове, па расійскай і «нават» па матэматыцы. Ёсьць і такія, якія слаба разьбіраюцца і ў географіі, напрыклад, ня ведаюць зусім геофафічных мап і ня ўмеюць паказваць Атлянтычны, альбо Вялікі окіян. Я ўжо не кажу пра хэмію, бо яе амаль ніхто ня ведае. Дрэнна справа абстаіць і з другімі галінамі. На пытаньне, што такое баромэтр, адказваюць, што гэта прылада да вымеру цяплыні, альбо вагары (рычаги) бываюць мужчынскага (!) роду. Ёсьць адказы клясычныя па матэматыцы: $5 \times 8 = 34$ (!) (гэта не агаворка, а сказана зусім сьвядома), альбо квадратовы мэтр у 4 разы больш за лінейны, а кубічны—у тры разы.

І вось настаўнікі тэхнікумаў, засучыўшы рукавы, пачынаюць выпраўляць недахопы: вывучаюць з студэнтамі прапіс Лёсіка, пішуць дыктоўкі па-расійску, праходзяць нумэрацыю лікаў, складаньне, адыманьне, множаньне і дзяленьне *як цэлых лікаў*, так і дробаў і простых і дзясятковых, вывучаюць проценты па рабочай кніжцы па матэматыцы Сагаловіча, што напісана для лікпунктаў і школ мала пісьменных, паміж іншым, досыць добра напісанай. Знаёмяцца з роўнікам, мэрыдыянамі, роўналежнасьцямі, знаходзяць з натугай Балтыцкае альбо Чорнае мора і г. д. Адным словам з пачатку году першы курс тэхнікумаў ледзь ня лікпункт для падросткаў. А к канцу першага паўгодзьдзя і вынікі: на першых курсах пасьпяваючых па ўсіх галінах поўнасьцю 26 проц., няпісьменных 40 проц. і г. д. А далей—і організацыйныя вывады: таму-то папярэджаньне, а гэтаму—вымова, а гэтую (Жылінскую), як зусім неападрыхтаваную адправіць у тую сямігодку (Клімавіцкую), дзе яна вучылася, для перападрыхтоўкі. Акрамя таго, пастанова: паведаміць тыя «сямігодкі, адкуль прышлі «няпісьменныя», аб дрэннай падрыхтоўцы іхных выхаванцаў і просьба да іх—«зьвярнуць на гэта належную ўвагу».

Атрымае сямігодка ліст і будзе думаць: «вось дык падзяка. Працавалі,

працавалі—нават можна сказаць бесьперапынна, а на закуску—на табе!»

— У чым-жа справа?,—скажа чытач,—і дадасьць:

— Тут, як быццам, нейкая бязглузьдзіца. Сямігодкі працуюць, як быццам, добра, а «продукцыя», як быццам, дрэнная? Гэта-ж супярэчнасьць.

Але, дарагі чытач, самая сапраўдная супярэчнасьць, нічога ня зробіш.

Крыніца гэтай супярэчнасьці знаходзіцца часткова ў вельмі вялікіх програмах, якія затое і выконваюцца павярхоўна, а часткова—ў адсутнасьці выразна-клясавай установкі ў школах як сямігодках, так і чатырохгодках, а крыху можа вінаваты і самі настаўнікі.

Абмяркуем першае пытаньне. Усім вядома, што нашы сямігодкі імкнуцца да комплексаваньня чаго вы хочаце, да бязьмернай концэнтрычнасьці, і але забываюць пра «навыкі».

Калі, скажам, вучань на падагульненьні ў сёмай клясе ўмее вылічыць паверхню сьцятай піраміды па формуле, якая, к слову сказаць, знаходзіцца ў яго пад носам у кніжцы, ці ў шпаргалцы, альбо ведае, што ад сячэньня конуса атрымоўваюцца эліпс, парабола, гіпэрбола і круг, а ня ўмее падзяліць простых лікаў, бо часам ня ведае табліцы множаньня ($6 \times 7 = 47$!), ня ведае, ў якой руцэ трэба трымаць цыркуль і што ім рабіць (аб вусных вылічэньнях, дробах, процантах, складаньні раўнаньняў першай ступені, разьвязваньні геомэтрычных задачак на пабудову, рысаваньні плянаў я ўжо і не кажу, бо гэтымі пытаньнямі ў сямігодках мала цікавяцца, мусіць лічаць ніжэй свайго гонару займацца такімі «дробязямі», дык кажуць: «праўда, вучань *дапускае памылкі ў практычных вылічэньнях* (?), але-ж ён *выканаў* програму і таму яму можна выдаць пасьведчаньне».

Ну, і відаць—не саромяцца—за ўласным подпісам і нават з пячаткай. І едуць такія «пярэрасьлі» у тэхнікумы, дзе вядуць размовы аб досьледах над каранямі квадратовага раўнаньня, альбо «конічных сячэньнях» і надта нездаволены, што іх прымушаюць вывучаць праваліс альбо рабочую кніжку па матэматыцы для лікпунктаў.

Ці нормальна гэта? Вядомая рэч, што не. Трэба гэтую недарэчнасьць зьнішчыць і як мага хутчэй. Трэба неадкладна перагледзець програмы сямігодкі і выкінуць адтуль усё, што будзе ўваходзіць у програмы дзевяцігодак, альбо тэхнікумаў, трэба зьнішчыць да мінімуму концэнтрычнасьць, бо ў нашых умовах яна дае больш шкоды чым карысьці, спараджае верхаглядзтва, лжэвучонасьць, прывычку карыстацца словам, а не паняцьцем—гэта значыць—«словаблудзьдзе».

Цяпер некалькі слоў пра выразнаклясавую ўстаноўку ў школах.

Дзеці беднаты часта бываюць малакроўны, часта мала забясьпечаны і адзежай, і харчам, і кватэрай, і падручнікамі. Тэхнікумы і ВНУ прымаюць галоўным чынам беднату, дык і ў 4-х і ў 7-х-годках кожнаму настаўніку трэба ўзяць устаноўку на разьвіцьцё і лепшае выхаваньне клясава блізкіх вучняў. Адгэтуль і вывады: трэба школам адшукаць сродкі на забесьпячэньне беднаты падручнікамі, адзежай, агульным памяшканьнем; трэба, каб і настаўнікі не формальна адносіліся да справы, не махалі рукамі на «слабейшых», а прыглядаліся да гэтых «слабейшых», ці няма сярод іх клясава блізкіх людзей, каб своячасова і ўважліва прыйсьці ім на дапамогу і выхаваць з іх добрых, *пісьменных* і разьвітых грамадзян савецкай зямлі.

Заклікаю школы-сямігодкі Беларусі ўступіць паміж сабой у соцыялістычнае спаборніцтва пад лёзунгам: «Ніводнага *няпісьменнага* за парог школы».

**Рэдакцыя**

згаджаецца з аўтарам, што становішча навучаньня ў сямігодках не пастаўлена як належыць, а таксама з тым, што трэба рашуча пакончыць з гэтымі зьявамі. Адначасова рэдакцыя адзначае празьмерную згушчанасьць фарбаў у артыкуле т. Шігулеўскага пра адмоўныя бакі школ.

БЭНГАРАД

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫЯ МАРКСОІДЫ

„Пакажэце расійскаму школьніку карту зорнага неба пра якое ён ня меў жаднага ўяўленьня, і ён заўтра-ж зьвєрне вам гэтую карту папраўленай“. (Дастаєўскі)

Перад намі «Програма беларускай, расійскай і яўрэйскай літаратуры» для рабфаку БДзУ.

Бярэм паясьняльную запіску, чытаем: «Выкладаньне літаратуры... павінна даць рабфакаўцу правільнае марксыцкае разуменьне літаратуры, як асобнага віду клясавай ідэолёгіі». А крыху ніжэй: «З пытаньняў навуковага літаратуразнаўства рабфакаўцу неабходны наступныя веды: а) разумець *літаратурныя творы*, як органічнае адзінства *ўсіх яго компонэнтаў*, абумоўленае *быцьцём вызначанае клясы*, або грамадзкае групы ўнутры клясы». (Падкрэсьлена намі. Б.).

Дык вось, літаратурныя творы, як адзінства ўсіх яго (?!) компонэнтаў»!

Вось «правільнае марксыцкае разуменьне літаратуры», «органічнае адзінства» компонэнтаў пісьменнасьці!

Пераверзіянскі боршч густа прыпраўлены «органічным» мэханізмам.

Ну, хопіць жартаў. Даволі сьмеху. Аўтары програмы пасьмяяліся самі з сябе. Паспрабуем высьветліць, што гэта за такі марксызм, якім харчуюць «бедных» рабфакаўцаў.

З паданае вышэй вынятакі відаць, што па думцы аўтараў програмы літаратурны твор абумоўлены «быцьцём вызначанае клясы, або грамадзкае групы ўнутры клясы». Перш за ўсё ў гэтай формулёўцы кідаецца ў вочы тое, што аўтарамі зусім прапушчаны той факт, што ўплыў быцьця на такую «высокую» надбудову, як літаратура, вельмі далёка адлеглую ад базысу (быцьця),—апасярэднічаны грамадзкай псыхолёгіяй, «псыхікай грамадзкага чалавека» (Г. Пляханаў). Гэта, відаць, першая даніна, якую выплачваюць аўтары тэорыям «моднага» профэсара Пераверзева, які імкнецца давесьці, што гісторыя ідэй абумоўліваецца непасрэдна экономічнай гісторыяй, і які ня ўмее перайсьці ад экономікі да ідэй шляхам, які вызначаны Пляханаўскай «пяцічленкай».

«Гісторычная навука,—кажа Пляханаў,—ня можа абмежавацца анатоміяй (экономіяй Б.) грамады; яна мае на ўвазе ўсю купнасьць зьяў, проста ці ўкосна абумоўленых грамадзкай экономіяй... Адгэтуль вялізная важнасьць грамадзкай псыхолёгіі. Калі з ёю трэба лічыцца ўжо ў гісторыі права і політычных установаў, дык без яе нельга зрабіць ані кроку ў гісторыі літаратуры, мастацтва, філёзофіі ды інш.».

Далей:

«Усе ідэолёгіі маюць адзін агульны корань: псыхолёгію данай эпохі».

Па-другое. Літаратура, як адзін з відаў сьвядомасьці, ёсьць клясавая сьвядомасьць, абумоўленая ў першую чаргу псыхікай пэўнае клясы ці грамадзкае групоўкі, якая сваім парадкам абумоўліваецца ня быцьцём аднае пэўнае клясы, узятае ізолявана ад іншых кляс, а быцьцём грамады ў цэлым, грамады, у якой адбіваецца клясавая барацьба. Псыхіка грамадзкага чалавека паводле Пляханава абумоўліваецца: «часткова непасрэдна экономікай, а часткова соцыяльна-політычным ладам, які вырас на ёй».

Стаўшы на пераверзіянскі пункт погляду на абумоўленасьць літаратуры,

аўтары стаяць і на другім падмурку Пераверзева: адмаўленьне актыўнай соцыяльнай функцыі літаратуры. Але яны тут-жа робяць саромлівую агаворку: «Значэньне літаратуры ў грамадзкім жыцьці, клясавы характар яе ўзьдзейнічаньня на чалавека мае на ўвазе выкарыстаньне літаратуры як аднае з прыладаў клясавага выхаваньня». Заўважце чытач: ня клясавага змаганьня, а толькі «клясавага выхаваньня». Так ці іначай, хоць і ва ўрэзанай форме, літаратура разглядаецца ня толькі як факт, але і як фактар. У наступным сказе гэты момант яшчэ больш затушоўваецца. Вось у чым бачаць аўтары мэту выкладаньня літаратуры: «выхаваць у слухачоў пачучьцё *солідарнасьці,* адданасьці сваёй клясе, нянавісьці да варожых кляс і груп і разьвіваць у іх клясава-пролетарскую сьвядомасьць». Перагортваем програмы некалькімі старонкамі далей і чытаем: «Галоўная ўвага пры праходжаньні данае літаратуры зьвяртаецца на тое, *каб паказаць,* як кожная з вызначаных соцыяльных груп праз сваіх пісьменнікаў *адбівае* і *ўспрыймае* Кастрычнік і яго эпоху».

«Адбівае» і «успрыймае».

І толькі?

А як гэтыя соцыяльныя групы выкарыстоўваюць літаратуру для барацьбы з іншымі соцыяльнымі групамі? Пра гэта, мабыць, паважаныя аўтары лічаць больш выгодным памаўчаць.

Так, ці ня так, але «вялікі настаўнік»—«модны профэсар» можа быць цалкам здаволены сваімі вучнямі.

Да-рэчы: аб «соцыяльных групах, вызначаных у програме».

Програма «вызначае» такія соцыяльныя групы:

1) «Рэволюцыйны, прымкнуўшы да пролетарыяту бядняцкі пласт сялянства» у асобе... Міхася Гольдбэрга.

2) «Рэволюцыйна-бядняцка-серадняцкі пласт сучаснае вёскі, прымкнуўшы да пролетарыяту» у асобе Міхася Чарота.

3) «Рэволюцыйная сялянская бедната» у асобе «Маці» Я. Нёманскага.

4) «Рэволюцыйны серадняцкі пласт» у асобе Тараса Гушчы.

5) «Серадняцка-сялянскі пласт вёскі» у асобе Якуба Коласа.

6) «Працоўнае сялянства» у асобе Зьмітрака Бядулі і М. Гарэцкага.

7) «Бядняцка-сялянскі пласт» у асобе Янкі Купалы.

8) «Серадняцкі пласт сялянства» у асобе «Сяргея Карагі» Т. Гушчы.

9) «Рэволюцыйная дробная буржуазія» у асобе «Гаспадара» Цішкі Гартнага.

10) «Рэволюцыйная дробна-буржуазная інтэлігенцыя» у асобе «Цішкі Бабыля» М. Зарэцкага.

11) «Маладое пакаленьне прымкнуўшай да пролетарыяту рэволюцыйнай дробнабуржуазнай інтэлігенцыі» у асобе Я. Ліманоўскага».

Комэнтарыяў ня трэба. Усё ясна: 11 «соцыяльных груп», з якіх 7 зьяўляюцца «рэволюцыйнымі», 8 зьяўляюцца «сялянскімі» і 3 «дробна-буржуазнымі», пра «рэволюцыйнасьць» 4 «соцыяльных груп» зьвестак няма. Усе, відаць, «прымыкаюць» да пролетарыяту, якога дарэчы програма як соцыяльную групу не «вызначае». «Рэволюцыйная» програма не вызначае і буржуазіі, у тым ліку і кулака.

Што гэта такое і «быцьцём якой клясы ці соцыяльнай групы гэта абумоўліваецца»—хай адкажуць «вучоныя» аўтары. А рабфакаўцы, напэўне, гэта добра ведаюць.

У програме клясыфікацыя соцыяльных груп дужа прыгожая. Нарадзілі гэтую програму з яе клясыфікацыяй выкладчыкі літаратуры рабфаку. А наконт фактычных бацькоў—справа ня высьветлена: у дзіцяці вялікае падабенства да «моднага» профэсара Пераверзева і да ня менш «моднага» проф. Клейнборта.

Цікава таксама, што «соцыяльная прырода», напрыклад, Міхася Гольдбэрга, Зьмітрака Бядулі высьветлена дужа «дакладна»: Гольдбэрг — прадстаўнік «рэволюцыйнага бядняцкага пласту сялянства», а Бядуля—прадстаўнік «працоўнага сялянства», аб рэволюцыйнасьці якога зьвестак няма. Ліманоўскі—дробна буржуазны інтэлігент, які «прымкнуў»... да пролетарыяту. Затое ёсьць пісьменьнікі невядомага паходжаньня, так сказаць, беспашпартныя; гэта тыя, «соцыяльная прырода якіх ня высьветлена» і якія «дадзены» аўтарамі «част-

кова без клясыфікацыі», а часткова аднесены... да працоўнага сялянства, соцыяльную прыроду якога нашы аўтары, трэба думаць, таксама ня высьветлілі. Між іншым ня высьветлена аўтарамі і соцыяльная прырода *Андрэя Александровіча,* якога рабфакаўцы, бязумоўна, ведаюць *як аднаго з лепшых пролетарскіх пісьменьнікаў.* Але-ж, як мы бачылі вышэй пролетарыят як «соцыяльная група» «вучонай» програмай ня «вызначаны», хоць у паясьняльнай запісцы і гаворыцца: «у працягу першага паўгодзьдзя патрэбна вывучаць творы су*часных, пераважна пролетарскіх,* пісьменьнікаў... Заканчваецца знаёмства з літаратурай на IV курсе вывучэньнем сучасных пролетарскіх пісьменьнікаў».

Затое ў другім месцы тае-ж паясьняльнае запіскі «двулікіе Янусы» гавораць зусім адваротнае: «толькі ў часы Кастрычніка і пасьля яго ў сувязі з узмоцненым тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва, пад кіраўніцтвам пролетарыяту, калі *пераважная большасьць (!) нашага сялянства, у першую чаргу яго бядняцкая частка, пайшла за пролетарыятам, мы наглядаем,* як у беларускую сялянскую літаратуру паступова пачалі пранікаць пролетарскія элемэнты, а, з другога боку, *пачала будавацца пролетарская літаратура.* Вось гэтая (?!) літаратура, якая пераважна выражае (!) псыхоідэолёгію бядняцкае часткі сялянства з адбіцьцём пролетарскага ўплыву на яе, і кладзецца (!) у аснову для вывучэньня».

Але-ж нават і такая «пролетарская» літаратура «вызначаецца» толькі ў паясьняльнай запісцы, а ў самой програме і яе няма.

Тое-ж і ў справе барацьбы супроць нацыянал-дэмократызму, пра неабходнасьць якой пры выкладаньні літаратуры гаворыцца ў паясьняльнай запісцы.

«Беларуская літаратура, асабліва дакастрычнікавай пары, прасякнута нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіяй... Трэба ня толькі зьвярнуць увагу на гэтыя пытаньні, але ўсебакова высьветліць іх і даць ім належную ацэнку з пролетарскага пункту гледжаньня, паказаўшы клясавы характар нацыянал-дэмократызму і яго палітычнае значэньне ў гісторыі Беларусі».

Аднак-жа, па-першае, клясавая дыфэрэнцыяцыя ў беларускай літаратуры «вызначана» у програме нашымі «двулікімі Янусамі» так, нібы-то на Беларусі ніякае барацьбы між клясамі няма, а ёсьць проста нейкі адзіны нацыянальны фронт, ёсьць «соцыяльныя групы», якія ўсе «рэвалюцыйныя» і ўсе «прымыкаюць», ці «прымкнулі» да пролетарыяту.

Што такая ўстаноўка надзвычайна характэрная для нацыянал-дэмократаў, так сама, як, напрыклад, і адмаўленьне на *справе* існаваньня ў нас пролетарскае літаратуры, гэтага ня ведаюць, хіба толькі некаторыя «вучоныя» выкладчыкі рабфаку. Але рабфакаўцы гэта добра ведаюць.

Пра расійскую дваранскую літаратуру нашы «Янусы» пішуць, што ў ёй «клясавыя супярэчнасьці паміж панам і селянінам выяўлены не яскрава». Затое ў беларускай сялянскай літаратуры «з асаблівай выразнасьцю завострываюцца гэтыя супярэчнасьці». Гэта ў паясьняльнай запісцы. А ў програме гэтыя супярэчнасьці перайшлі ў... адзінства!

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што ў разьдзелах, у якіх гаворыцца пра поэтыку, з аднаго боку, аддаецца даніна марксыцкай фразэолёгіі, а, з другога боку, гэтая фразэолёгія, прышытая белымі ніткамі, існуе толькі для таго, каб прыкрыць махровы густапсовы формалізм.

Такімі супярэчнасьцямі поўна ўся програма.

Інтэрнацыянальнае выхаваньне раіцца праводзіць шляхам вывучэньня творчасьці... Міхася Зарэцкага (мо' і яго роману «Крывічы»?)!

Так жыве яшчэ школьнік Дастаеўскага!

«Пакажэце расійскаму школьніку карту зорнага неба, пра якое ён ня меў жаднага ўяўленьня, і ён заўтра-ж зьверне вам гэтую карту папраўленай».
вам гэтую мапу папраўленай».

Паказаў, відаць, нехта нашым аўтарам беларускую літаратуру.

Н. КАБАКОЎ

# ПРА ПІСЬМЕНЬНІКАЎ І ІХ ТВОРЫ

**Р. Мурашка—У іхным доме. Аповесьць, Бел. Дзярж. Выдавецтва. 1929 г. 225 ст.**

I

Беларуская пролетарская літаратура у апошні час значна вырасла. Мы ўжо маем шэраг пісьменьнікаў, якія далі вельмі каштоўныя пролетарскія творы.

У кнізе Р. Мурашкі (першы зборнік яго апавяданьняў быў „Стрэл начны") зьмешчаны адна вялікая аповесьць „У іхным доме" і чатыры невялікіх апавяданьні: „Пытаньні", „Катрынчшык", „Яйцо і сьлівы", „Прыгранічны манастыр".

У гэтым артыкуле мы маем на мэце выявіць тыя соцыяльныя карэньні і ідэёва-псыхолёгічныя комплексы, з якіх вынікае і якія складаюць сутнасьць творчасьці Мурашкі.

Паставім пытаньне:

Ці зьяўляецца Мурашка пролетарскім пісьменьнікам? І на гэта пытаньне будзем шукаць адказу на падставе творчасьці самога Мурашкі.

Гэта пытаньне нас яшчэ больш цікавіць таму. што нядаўна на сходзе парт'ячэйкі Наркомасьветы, у часе чысткі старога беларускага пісьменьніка Цішкі Гартнага, апошні сказаў:

„Мурашка пакуль што не зьяўляецца ня толькі пролетарскім, але і нават пісьменьнікам".

Праўда гэта ці не?

Пролетарскі рэалізм зьяўляецца сыстэмай мастацкага сьветаадчуваньня, якая грунтуецца на матэрыялістычнай дыялектыцы. Сапраўдны пролетарскі пісьменьнік адчувае як адмоўнае, што павінна быць зьнішчана, так і станоўчае, што павінна ўзрастаць, пашырацца. „Ён бярэ ў рачаістасьці абодва бакі, адмоўны і станоўчы, так, як ён іх унутрана ўспрыймае. Зборнік апавяданьняў „У іхным доме" паказвае, што Мурашка, як мастак, прасякнуты сьветаадчуваньнем рабочае клясы.

Гэроямі аповесьці „У іхным доме" зьяўляюцца: Вольга Маліноўская, яе брат Жорж, фабрыкант Адогаў, былы камандзір Чырвонай арміі Хмялеўскі, Леанід Рыгоравіч, інжынэр Баласаў, поэта Непакоеў ды іншыя.

Маемаснае, так сказаць, становішча гэрояў: былыя памешчыкі, якія ў гады рэволюцыі былі выкінуты з сваіх маёнткаў, фабрыкант, які яшчэ і зараз мае ўласную фабрыку, нейкая замежная пані, валютчык, інжынэр—шкоднік-шахцінец ў поўным сэнсе гэтага слова і г. д. Як бачыце, тэта такія людзі, якія ніяк ня могуць мірыцца з існаваньнем савецкай улады. Гэта—згустак контррэволюцыі, сапраўдны клясавы вораг, які ідзе на ўсё, каб зьнішчыць заваёвы Кастрычнікавай рэволюцыі.

Але іх усіх арыштавалі, судзілі, дваіх расстралялі, астатніх саслалі на Салаўкі.

На судзе абвінавайца дае ўсім падсудным наступную характарыстыку (з усяго відаць, што аўтар сам гаворыць вуснамі абвінавайцы).

— У той час, як міжнародная буржуазія ў сваіх імпэрыялістычных імкненьнях прыкладае ўсе сілы да таго, каб узьняць новую бойку, бойку супроць айчыны сусьветнага пролетарыяту, на лаве падсудных сядзіць шасьцёра. Хто яны?

— ...Падсудныя—лішнія людзі, непатрэбныя нам людзі. Лішнія і непатрэбныя таму, што агулам уяўляюць сабою яскравае буржуазнае грамадзтва. Два першых... Фабрыкант Адогаў і інжынэр Балясаў. Наколькі ў першага стае варожай цьвёрдасьці, буржуазнай хітрасьці і імкненьня да эксплёатацыі, настолькі ў другога бачым навуковай распусты. Ня гледзячы на тое, што краіна саветаў з сваіх ашчадных прыбыткаў плоціць яму, як спэцу, шалёныя грошы, ён гандлюе сваімі ведамі пад ахowаю надзейнае гаспадарчае установы. Ён пранюхвае і зьбірае ўсе сакрэтныя вынаходзтвы ў галіне прамысловасьці, у галіне навукі і перадае іх (недармова) за граніцу. Трэці—у пачэснай вопратцы абаронцы заваёў працоўных — камандзір рабоча-сялянскай

арміі. Яму даверыла рабочая кляса, яму даверыла сялянства. Што-ж мы бачым? Самым нясумленным парадкам ён прадае гэтае давер'е. Як вайсковы гаспадарнік, ён знаёміць дасканала буржуазію з сыстэмаю і станам снабжэньня ў нашай арміі. Ён, нарэшце, нашу ваенную дыслёкацыю перадае за граніцу. Далей—баронэса, старая, на францускі фасон фігурыстая пані. Яна зьвязала арганізацыю з заграніцай, яна прыехала з вялікапоўнамоцтвам з-за кардону, яна—першая скрыпка у гэтай агіднай музыцы, першая і надта небясьпечная. У ёй злучылісі ўсе адзнакі сівае міжнароднае буржуазіі, якая топіцца і хапаецца за саломінку каб выплысьці. Валютчык... Ён-жа гра, шовы спэц, дзеяч чорнай біржы.

Вось які „букет“ контррэволюцыі мы маем тут.

А хто гэта Вольга Аляксееўна Маліноўская.

— Дачка нядробнага земляўласьніка, які вырас з кулака на касьцях вакольных сялян і ў поўнай меры не дарос да буйнага памешчыка. У сярэдзіне вайны паступіла міласэрнай сястрою ў ваенны шпіталь пры стаўцы „вечнай памяці“ Мікалая II.

II

Вось гэтыя шасьцёра асоб, якія былі на лаўцы падсудных, складалі шпіёнскую організацыю. Суд прысудзіў фон-Зібеліна і былога камандзіра Чырвонай арміі Хмялеўскага Леаніда Рыгоравіча да расстрэлу; астатніх чацьвярых—на сасланьне ў ізоляваны лягер на Салавецкую выспу.

У чым асноўная ідэя, галоўная думка Мурашкі, якую ён хацеў выказаць у аповесьці „У іхным доме“? Нам здаецца, што аўтар хацеў паказаць, як наш клясавы вораг яшчэ не адмовіўся ад думкі задушыць савецкую ўладу, і як гэтае мёртвае хапае жывое. Маліноўская, яе брат Жорж, Адогаў і інш.—дэгенэраты, рэшткі былой буржуазіі. Іх асяродзішча—плюгавае, агіднае, брыдкае, асуджанае, журблівае. У гэтым асяродзішчы ёсьць нейкае жалахлівае сьвята апошніх адыходзячых ценяў, над гэтым асяродзішчам навіс неадхільны лёс. Маліноўская, Адогаў адчуваюць, што Кастрычнікавая рэволюцыя паставіла крыж над капіталізмам, над імі, а яны ня хочуць лезьці ў магілу. Яны скарыстоўваюць усё, яны „за саломінку хапаюцца“, каб хаця якнебудзь вярнуць былое. Яны узмацняюць сувязь з заграмічнай буржуазіяй, прадаюць нашыя сэкрэты, словам, робяць „шахцінскую справу“. Аўтару ўдалося жыва і праўдзіва перадаць псыхолёгічныя перажываньні сваіх гэрояў.

Мурашка вельмі цікава і ўдала паказаў нам, як гэта агіда, плюгань імкнецца захапіць пад свой уплыў нават і наша маладое пакаленьне—піонэраў.

Вольга Аляксееўна псуе піонэра Сяргея, робіць яго распусным. Натачка ўцягвае ў контррэволюцыйную справу камандзіра Чырвонай арміі Леаніда Рыгоравіча, Вольга Аляксееўна на допыце ў сьледчага спрабуе „пусьціць у ход астатнія сродкі“, жадаючы заміласаваць сьледчага „ усёй прывабнасьцю і пекнатой, удалай формай цела“.

І вось, нам здаецца, тут-то аўтар вельмі добра робіць, калі ён нам гаворыць: такія, як Вольга Аляксееўна, яшчэ не перавяліся, нашу моладзь трэба так выхоўваць, каб на яе ня мелі ніякага ўплыву ўсялякія Маліноўскія. Мы павінны яшчэ больш завастрыць увагу на барацьбе з рознымі Маліноўскімі. Рабочыя, чырвонаармейцы і ўсе працоўныя павінны быць на варце заваёў Кастрычніка.

У аповесьці мы маем яшчэ заядлых контррэволюцыянэраў тае-ж самай кампаніі—Непакоеў, Натачка,—ДПУ чамусьці іх не арыштавала. Аўтар гэтым, як відаць, хацеў паказаць, што ўсе контррэволюцыянэры яшчэ ня зьнішчаны, што калі шасьцярых засудзілі, дык гэта зусім ня значыць, што ўжо скончылі з контррэволюцыяй. Не, зусім ня так—засталіся яшчэ розныя Натачкі, Непакоевы і іншыя, з якімі трэба яшчэ рашуча весьці бязьлітасную барацьбу.

Мурашка ў сваёй аповесьці выхоўвае ў чытача глыбокую нянавісьць да былых людзей, да гэтых актыўных контррэволюцыянэраў. Мурашка вельмі ўдала намаляваў нам асяродзішча Вольгі Аляксееўны Маліноўскай, а, гэта значыць, і ўсю буржуазію, гэтых апошніх карчоў пошаці.

Ёсьць у творчасьці Мурашкі моманты эротыкі: „Тады яна раптам адкінулася

дагары і рэзка прыціснула яго (піонэра Сяргея—Н. К.) к сваім грудзям. Ружовыя кругі пашлі перад вачыма... Рукі дрыжучa шасталі па яго вопратцы, заблытваліся у ёй, шукалі чагосьці...“ (ст. 42). „Тады пяшчотна абягаў ёй вакол шыі, залазіў у рукаў і за дэкольтэ, прыемна казычучы мяккія кволыя рукі пад пахамі ды ня прыціснутыя лёгкім ўбраньнем паддатныя цемнаватыя пупанькі хвалістых грудзей“ (ст. 112). Мы лічым, што такія „натуралістычныя“ любоўныя падрабязнасьці ня толькі непатрэбны, але нават і шкодныя.

Вельмі слаба абмаляваны Вокалаў—кулак, які ва ўсёй аповесьці прышыты, як кажуць, „з боку прыпеку“, ня ўвязаны з фабулай. Зусім мала напісана аб бацьку Сяргея, старым бальшавіку Ліпнёўскім (1—2 старонкі), таксама бледна і амаль нічога ня сказана аб комсамольскай ячэйцы (усяго пара радкоў). А нам, здаецца, што калі Мурашка хацеў асабліва адцяніць асяродзішча шкоднікаў, ён павінен быў для контрасту даць пару станоўчых тыпаў, напрыклад, больш поўна даць комуніста Ліпнёўскага. У аўтара, бязумоўна, яшчэ ня зусім разьвіта пачуцьцё мастацкай меры, прапорцыі [1]).

Мурашка сконцэнтраваў усю мастацкую ўвагу на галоўных адмоўных гэроях аповесьці (Вольга Аляксееўна Маліноўская, брат Жорж, Адогаў, Непакоеў), а яны ў яго больш-менш удаліся, дык затое неяк не хапіла ў яго фарбаў, каб намаляввць портрэты астатніх пэрсонажаў. „Гаманілі дзьве жанчыны. Вольга Аляксееўна бачыла іх пры пасадцы ў вагон: адна такая шчупленькая, сухарлявая, ў чорненькім брылі, а другая—поўная і старэйшая за сваю таварышку, мо‘ на цэлых дзесяць год, цыцастая (!), у сьветлашэрым гарнітуры“. У гэтых портрэтах няма нічога арыгінальнага.

[1]) Цікава, што Мурашку хацелі абвінаваціць ў антысэмітызьме на падставе таго, што малюючы Вокалава-кулака аўтар піша: „але што было ў ім вызначанага, дык гэта твар блізка што яўрэйскі, па мышынаму выцягнуты уперад, тонкі і востры“ (ст. 69). Мы лічым гэтую фразу бязумоўна няўдалай, але зрабіць адсюль вывад аб антысэмітызьме Мурашкі ніякім чынам нельга, тым больш, што ў апавяданьні „Катрыншчык“ мы маем удалы малюнак жыцьця бедняка-яўрэя Есіля.

Мурашка—скупы на выразы. Факты, якія ён падае, вельмі цікавыя, але часам мастацкі ня досыць асьветлены, ён бедны на пагаворкі, мэтафоры, параўнаньні.

Аповесьць „У іхным доме“ канчаецца вось чым: „Праз пяць тыдняў параход савецкага гандлёвага флёту прывёз для калёніі ў ліку іншых рэчаў абсталяваньне для невялікае цыгаркавае майстэрні. Работа па спэцыяльнасьці знайшлася Адогаву і Балясаву. Вольга Аляксееўна, прайшоўшы месячную стажыроўку на чорнай рабоце, стала працаваць у арцелі рукамесьніц. Яна ўспамянула аб сваёй здольнасьці сьпявачкі і ўжо падумвае запісацца ў хор... а ў нерабочыя дні яна можа гуляць на высьпе. Адміністрацыя не баіцца, што жыхары падумаюць уцячы. Вольга Аляксееўна часта просіць дазволу схадзіць пагуляць. Калі адміністрацыя згаджаецца, яна без спадарожнікаў, адна з радасьцю бяжыць на самаё высокае месца на высьпе. Там садзіцца і аддаецца паволі ва ўладу сваіх думак—лятуценьняў. І прыемна гуляць на марозе. Асабліва калі сьвеціць разьліваючы празрыстае срэбра поўнічак—месяц. Прыгожа на поўначы“.

Аўтар хацеў паказаць, што рабочай клясе ў сваёй барацьбе чужыя злобнасьць ды імсьцівасьць, што якраз характэрна для буржуазнай клясы, якая дэградуе, вымірае. Карная палітыка савецкае улады накіравана на тое, каб ня толькі біць, але галоўным чынам перавыхоўваць.

Аповесьць „У іхнім доме“ мае цэлы шэраг недахопаў. Аўтару пакуль што цяжка даецца вялікае палатно. Але па сваёй ідэі, мэтаімкнёнасьці аповесьць зьяўляецца каштоўнай. Мурашка першы у беларускай літаратуры рэзка і яскрава паказаў нам ўсю агіднасьць контррэволюцыйнага лягэру і гэтым будзіць мысьлі чытача аб неабходнасьці ўзмацніць барацьбу з нашым клясавым ворагам, з усім шкодным.

III

У апавяданьні „Пытаньні“ Мурашка малюе вобраз рабочага заводу, сьвядомага будаўніка новага жыцьця, рабочага, які задумваецца над кожнай зьявай, шукае растлумачэньня, адказу на розныя пытаньні, якія паўстаюць перад ім у яго

штодзённым жыцьці. Аўтар разумее рабочага ня толькі ў узвышаныя, героічныя хвіліны яго жыцьця, ня толькі тады, калі ён робіць вялікі ўчынак, гэройства, ахвяру, але і ў будзённых, звычайных, штодзённых, жыцьвёвых смутках і радасьцях.

„І з вяселым побач прытуляецца часіна ліхая, з унутраным спакоем і моцай колектыву побач жыць можа журба. Асабліва, свая ..

Паспрабуйце пранікнуць у нутро яго, і перад вамі разгорнецца повесьць будзёншчыны цяжкай рабочага“ (ст. 179). Вось якую задачу паставіў сабе аўтар: даць жывую асобу рабочага ў яго надзеях, сумненьнях, барацьбе за новае, лепшае. Аўтар „залазіць у нутро рабочага“. Аўтар імкнецца ўявіць псыхіку рабочага заводу Андрэя, пры чым, Андрэй займаецца глыбокімі філёзофскімі пытаньнямі, ён ня хоча і ня можа плысьці па паверсе. Гэта сьведчыць ужо пра тую вышэйшую ступень ў разьвіцьці культурнай рэволюцыі ў нашай краіне, калі рабочая кляса пачынае паступова займаць командныя вышыні і на ідэолегічным фронце. Пролетарскае сьветаадчуваньне Андрэя, якое яму дадзена і закладзена ў ім, як пролетару, як сыне рабочае клясы, як чалавеку, які займае пэўнае месца ў вытворчых адносінах,— гэтае сьветаадчуваньне яго праходзіць, пачынае аформляцца ў пролетарскае сьветаразуменьне, пролетарскі сьветапогляд.

„Дзеля ўладаньня пачуцьцём рабочых,—гаворыць вядомы філёзоф-марксысты Дэборын,— соцыялізм павінен перш за ўсё даць об'ектыўны, „навуковы“ малюнак рачаіснасьці: патрэбна перш за усё правільная тэорыя, г. зн. рацыянальнае пазнаньне рачаіснасьці наогул і ўмоў мажлівасьці ажыцьцявіць соцыялізм. Паколькі соцыялістычныя ідэі ўладаюць нашай думкай, яны здольны абярнуцца ў пачуцьці. На адных пачуцьцях далёка ня ўедзеш. такія пачуцьці павінны быць уразуметы, сэнсоўны, разважны“.

І таму рабочы Андрэй сам сабе часта гаворыць:

— Ну, вырашы! Ну, вырашы, калі ўзяўся разважаць!

Андрэй бачыць тыя недахопы, якія маюць месца на яго заводзе, ён бачыць і тое гора. якое яшчэ ёсьць у нашым жыцьці.

„...Пасьля полудню на гуце грымотны звон прасекся на хвіліну немым крыкам болю. Малады стругальшчык—комсамолец неасьцярожна страціў упор і рухнуў галавой на пас. Са здаволеным гудам падхапіў пас ахвяру і ў момант паднёс яе пад кола. Ня ссунуўся ў бок шырокі пас, не затрымалася сталёвае кола,—як арэх, трэснула галава, варштат запырскала крывёю і мазгамі“.

Андрэй быў сьведкам ціхага роспачнага гора старой маткі. Ні сьлёз, ні енкаў, нічога, што-б гукам выдала гэтае гора. Нікчэмную пакорлівасьць лёсу ўбачыў у ей Андрэй.

Спакой адляцеў ад яго тады. Да самае кватэры праводзілі яго думкі“ (ст. 180).

Андрэй задумаўся. Ён ня можа прайсьці міма такога вялікага гора.

І яшчэ задумаўся Андрэй тады, калі яго добры прыяцель, рабочы заводу Іцка памёр ад разрыву сэрца, калі яму адрэзала машынаю абедзьве нагі.

У Андрэя шмат пытаньняў і тады, калі ён спаткаў жонку Іцкі—Соню, якая пасьля сьмерці мужа стала простытуткай.

Вось як Соня гаворыць Андрэю аб сабе:

„Трымалася датуль, пакуль дзеці былі адзеты, абуты.. пакуль мелася скарынка хлеба ў хаце... Дзе толькі магла —зарабляла, за поўцаны аддавала свае рабочыя рукі .. Ня цікавіўся ніхто маім становішчам, куды ні зьвярталася... Абяцалі-б дасюль... Раз .. Сэрца ня стрывала, гледзячы на дзетак... Ня было магчымасьці далей. Спакусілася... Як сорамна глядзець на людзей было, колькі выплакала сьлёз... Пасьля—трохі ўцягнулася, звыклася, бо прада мной радасныя, здаволеныя твары дзяцей. Але за гэтую радасьць, за здаволенасьць колькі цярпець даводзіцца і мучыцца... Погляды прагныя... як на жывёліну... Абраза і словам і... Валачэ, цягне, бо стала яго маёмасьцю... Вось... Я—простытутка“.

Мурашка з вялікай мастацкай праўдзівасьцю, сьцісла, коратка, але выразна, шчыра і проста перадаў трагедыю Соні.

Мурашка высоўвае тут проблему барацьбы з простытуцыяй. Над вырашэньнем гэтай проблемы павінен задумацца кожны з нас. Таму і зразумела, што Андрэй, убачыўшы Соню, „глыбока ў думках капашыўся, шныпарыў, шукаў нечага“.

Жонка Андрэя хварэла „і памерла, ня вырадзіўшы“. Гэтае вялікае гора кладзе свой адбітак на Андрэя. Ён думае аб тым, што такое жыцьцё, сьмерць. Ён прыходзіць да вываду. „Хворае павінна аддаць сваё месца дужаму, старое—маладому,—таму няўхільны закон прыроды“ (стар. 190).

Некаторыя лічаць, што Андрэй—пэсымісты, што аўтар хацеў тут даць малюнак заняпалых настрояў рабочага.

Гэта думка няправільная.

Як мы разумеем заняпаласьць? Настроі заняпаласьці бываюць у таго чалавека, які адчувае, што ён ня можа быць суб‘ектам гісторыі і ня можа цалком прыняць жыцьцё, як яно ёсьць. Такі чалавек ідэолёгічна дэзорганізуецца, падае, адыходзіць ад жыцьця. Мастацкім выразам заняпаласьці зьяўляецца містыцызм.

Ці ёсьць усё гэта ў апавяданьні „Пытаньні“, у гэроя яе Андрэя?

Андрэй задае пытаньне:

— На што? На што гэты боль? Нашто гэтае гора, нягоды?

Андрэй не палохаецца цяжкасьцяў, не паддаецца пакорліва лёсу, ён не фаталісты, ён хоча весьці барацьбу. Ён шукае адказу на цэлы шэраг пытаньняў жыцьця.

Андрэй разважае:

— „Узяць ранейшае... Гора ў сям‘ю, прыходзіла ад парадкаў. Хатняе гора зьяўлялася часткаю таго ўціску... Малы заработак—голад у сям‘і... хваробы... часам—сьмерць... плач, сьлёзы. Цяпер у вогуле гэтага няма, але паасобку“...Чарната. (стр. 181).

Думка Андрэя такая: раней хвароба, голад, часам і сьмерць рабочага былі часткай таго ўціску, які быў пры памешчыках, капіталістых, соцыяльна-эканомічнае становішча рабочае клясы было такім, што хвароба, гора, сьмерць былі неяк „законнымі“, натуральнымі зьявамі. Іначай і не магло быць, яны вынікалі непасрэдна з таго капіталістычнага ладу, які панаваў. Нават і паміраць быццам ня шкода было.

Але цяпер, калі ў нас увогуле няма таго буржуазнага парадку, цяпер, калі рабочы зьяўляецца гаспадаром жыцьця, —цяпер трэба вырашыць усе пытаньні, трэба, каб ня было таго, што было раней, ня было-б тэй брыдоты, плачу, сьлёз, простытуцыі, якія раней былі. З усім гэтым трэба змагацца. У гэтым вялікі оптымізм Андрэя, яго імкненьні палепшыць жыцьцё. Гэтым тлумачыцца і тое, што, як і належыць сапраўднаму пролетару, Андрэй не падышоў да Соні с агідай, а зразумеў яе, пагаварыў з ёю як роўны з роўнаю.

Андрэй бачыць гора, журбу і ён хоча знайсьці гармонію паміж асабістым і моцаю пролетарскага колектыву, радасьцю якога ён радуецца, бо ўся яго істота перапляталася цесна і з малатком і з шрубкаю.

Апавяданьне напісана роўнымі мазкамі, сьціслa, напружана, дынамічна. Вобразы чоткія, таму і захапляюць чытача. Лепшымі радкамі ў апавяданьні зьяўляецца апісаньне заводу, сустрэча Андрэя з Соняй.

Па сваёй тэматыцы, стылю, мастацкай композыцыі апавяданьне „Пытаньні“ зьяўляецца псыхолёгічнай разьведкай у рабочае жыцьцё, і ў гэтым вялікая заслуга аўтара.

IV

Вельмі цікавым па сваёй тэме зьяўляецца невялікае апавяданьне „Катрыншчык“. Абяздолены катрыншчык, гаротнік Ёсіль падняў бунт супроць бога. „Закляты будзь ты бог рабінаў і Мардуховічаў. Я гэта кажу табе, я... катрыншчык Ёсіль, якога ты змалку і дасюль вадзіў за нос“. І Ёсіль, замест анучы роўна напалам па чорнай палосцы разлупіў талес і пачаў ухутваць свае хворыя ногі.

— Хай моляцца ногі, кажа Ёсіль.

У апавяданьні мы ня бачым таго сапраўднага душэўнага перавароту, тэй рэволюцыі ў псыхіцы Ёсіля, якая нас мастацкі пераконвала-б у гэтым. Аўтар толькі зрабіў эскіз, заштрыхаваў гэту вялікую і цікавую тэму, якая патрабуе больш шырокага мастацкага палатна.

Ёсьць яшчэ ў зборніку невялікія апавяданьні „Яйцо і сьлівы“ і „Прыгранічны манастыр“. Апошнія апавяданьні характэрны тым, што ў іх гаворыцца аб гэройстве Дзяржаўнай Палітычнай Управы, тэй самай, якая ў аповесьці „У іхным доме“ выкрыла шпіёнскую арганізацыю.

V

І вось зараз мы падыходзім да асноўнага пытаньня, якое пастаўлена намі ў пачатку нашага артыкулу: ці зьяўляецца Мурашка пролетарскім пісьменьнікам?

На гэта пытаньне мы адказваем: Мурашка зьяўляецца пролетарскім пісьменьнікам з пэўнымі мастацкімі здольнасьцямі. У яго пісьменьніцкіх манерах, тэматыцы, мастацкім афармленьні твораў адчуваецца баявы дух пісьменьніка-барацьбіта за новае. Мурашка—глыбокі пісьменьнік, ён закранае самыя разнастайныя „пытаньні“. Цікава адзначыць, што яго гэроі—як адмоўныя, так і станоўчыя,—не схэматычныя, яны жывыя людзі, не пасыўныя, а актыўныя натуры.

Мурашка—малады пісьменьнік. Яму яшчэ шмат трэба папрацаваць над сабою, як мастаком, яшчэ шмат чаму трэба вучыцца, каб узмацніць свае мастацкія сродкі. Зборнік „У іхным доме“ сьведчыць аб тым, што Мурашка ў сваёй творчасьці, расьце, ідзе ўперад, і маладая беларуская пролетарская літаратура можа ад яго чакаць яшчэ большага.

**Ад рэдакцыі**

Друкуючы артыкул Н. Кабакова, рэдакцыя павінна зазначыць, што ход аргумэнтацыі Н. Кабакова яна не падзяляе, таксама, як ня цілкам падзяляе і яго вывады. Рэдакцыя ставіць на абгаварэньне творчасьць Мурашкі і заклікае чытачоў дасылаць свае заўвагі, крытычныя артыкулы і г. д. Пасьля абгаварэньня творчасьці Мурашкі, канчатковае заключэньне зробіць рэдакцыя.

# КНІГАПІС

**Пра часопісь „Педология“**

Патрэба ў выданьні цэнтральнай пэдолёгічнай часопісі была падкрэсьлена ў пастановах першага ўсесаюзнага пэдолёгічнага зьезду. Было ясна, што без цэнтральнага друкаванага органу ня можа быць гутаркі аб сыстэматызацыі і аб‘яднаньні тэй сапраўды вялізарнай навукова-дасьледчай і практычнай пэдолёгічнай работы і дасягненьняў у гэтай галіне, якія мелі і маюць месца ў розных канцох СССР. Была яшчэ адна асноўная задача. Гэта—усебаковая пэдолёгічная дапамога савецкай пэдагогіцы. Часопісь з першых організацыйных крокаў была орыентавана на шырокую асьветніцкую масу.

Аднак, ня гледзячы на тое, што часопісь выходзіць ужо другі год, якраз шырокім масам савецкага настаўніцтва яна не вядома, яна да іх не дайшла. Часопісь ведаюць, чытаюць і любяць пэдолёгі, часопісь ведаюць і чытаюць дашкольныя работнікі. Да нізавога-ж настаўніцтва, якое вядзе вялікую навучальна-выхаваўчую работу, да студэнцтва нашых пэдагогічных ВНУ і тэхнікумаў часопісь „Педология“, на жаль, яшчэ не дайшла.

Мы ня хочам сказаць, што часопісь „Педология“ здавальняючая на ўсе сто процантаў па ўсіх напрамках—зьмест, даступнасьць і г. д., але адно бясспрэчна, гэта тое, што матар‘ял выданых нумароў (адно толькі „голае“ пералічэньне ўсіх артыкулаў заняло-б некалькі старонак) бязумоўна зьяўляецца матар‘ялам для абгрунтаваньня і ўмацаваньня дыялектыка - матэрыялістычнай (марксыцкай) пляцформы ў навуцы аб чалавеку, які расьце і разьвіваецца, у навуцы аб паводзінах чалавека. Ня прыходзіцца шмат гаварыць аб тым, што задачы і шляхі савецкай пэдолёгіі гэтаксама, як і савецкай пэдагогікі, неадлучны ад соцыялістычнага будаўніцтва.

У падборы асноўных тэм, у характары іх распрацоўкі, у насычанасьці іх практычна-патрэбным злабадзённым матар‘ялам часопісь „Педология“ рэалізуе гэту соцыяльную мэтанакіраванасьць, гэту ўстаноўку на служэньне задачам соцыялістычнага будаўніцтва. Досыць здавальняюча вырашае часопісь (асабліва ў кніжцы за 1929 год) таксама і задачу набліжэньня да запатрабаваньняў пэдагогікі. Удумлівы, сьвядомы пэдагог знойдзе ў шматлікіх артыкулах вялізарны, цікавы і карысны ў практычнай рабоце матар‘ял аб дзецях і падростках.

Усе нумары часопісі, якія выйшлі, багаты конкрэтным зьместам. Ужо ў першай кніжцы за 1928 год быў даны вялікі і каштоўны матар‘ял па ўзроснай пэдолёгіі (дашкольнік, школьнік, падростак), па пэдолёгіі колектыву, па пэдолёгіі працы. Другая кніжка за 1928 год (выйшла яна толькі ў 1929 г.) таксама дае каштоўны матар‘ял па ўзроснай пэдолёгіі і пэдолёгіі працы, па соцыяльнай пэдолёгіі (дзіцячае соцыяльнае жыцьцё, соцыяльна-політычныя ўяўленьні дзяцей ды інш.), па пэдолёгіі фізкультуры (проблема зморанасьці і стомленасьці ў школе, фізкультура ў дашкольным узросьце ды інш.).

З бягучага году часопісь ня толькі значна зьмянілася ў сэнсе надворнага выгляду і лепшага тэхнічнага аформленьня, але і перабудавалася некалькі структурна. У прыватнасьці, у № 1—2 за 1929 год з агульнага ліку 272 старонак амаль палова занята падзелам, які мае назву „Городской и деревенский ребенок“ (дадзена 13 артыкулаў асобных аўтараў). Усе гэтыя артыкулы ахопліваюць досыць падрабязна вялікай важнасьці тэму пра гарадзкое і вясковае дзіцё, яго фізычнае разьвіцьцё, пра соцыяльна-бытавыя ўмовы, у якіх знаходзяцца дзеці, пра навыкі і веды гарадзкіх і вясковых дзяцей, якія паступаюць у школу,

пра адносіны дзяцей да сям'і і г. д. і г. д. Шмат хто з аўтараў гэтых артыкулаў— радавыя пэдолёгічныя работнікі пэрыфэрыі. У названай жа часопісі № 1—2 даны досыць шырокі, бязумоўна цікавы і патрэбны матар'ял па пытаньнях мэтодолёгіі пэдолёгічнага вывучэньня асяродзьдзя. Асобныя артыкулы гэтага разьдзелу прысьвячаны такім тэмам, як „школа і асяродзьдзе", „да пытаньня пра ўплыў асяродзьдзя на школьную пасьпяховасьць", „да мэтодыкі пэдолёгічнага абсьледваньня асяродзьдзя" ды інш.

Калі ў другой кніжцы за 1928 год мы знаходзім толькі адзін артыкул пра конституцыі організму (артыкул проф. Штэфко), дык у № 1—2 за 1929 год знаходзім ужо цэлы разьдзел—„Среда и конституция", у якім зьмешчаны тры артыкулы. Проблема конституцыі організму ў яе біолёго-соцыолёгічным разрэзе бязумоўна актуальная проблема, якая цікавіць у сучасны момант урачоў-клініцыстых, пэдолёгаў і пэдагогаў.

З сталых аддзелаў часопісі трэба адзначыць яшчэ такія: „Из жизни педологических учреждений", „Библиография", „Хроника". Адносна гэтых аддзелаў трэба адзначыць іх „законамернасьць", што з кожным нумарам ім аддаецца ўсё больш месца, большае кола пытаньняў і момантаў бягучага пэдолёгічнага жыцьця асьвятляецца ў іх.

Даючы ацэнку любой кнігі ці часопісі, вялікае значэньне надаецца ступені даступнасьці выкладаньня матар'ялу. У часопісі „Педология" у гэтым напрамку справа абстаіць так: артыкулы біолёго-мэдыцынскага характару больш загружаны спэцыяльнай тэрмінолёгіяй і чытаюцца з вялікай цяжкасьцю, але такіх артыкулаў ня шмат. Большасьць артыкулаў напісана проста, даступна, добрай літаратурнай мовай і лёгка прачытаюцца радавым работнікам школы І-ай ступені. Для чытачоў-жа, якія маюць некаторыя навыкі ў сур'езным чытаньні і некалькі знаёмы з пэдолёгічнай літаратурай, не ўяўляюць непераможных перашкод і тыя нешматлікія артыкулы, якія нельга па ступені даступнасьці аднесьці да разраду лёгкіх. Наогул, часопісь па ступені дазтупнасьці выкладаньня для шырокага кола чытачоў рознастайных спэцыяльнасьцяй трэба паставіць на адно з першых месц сярод нашых „тоўстых" навуковых часопісяй.

Часопісь „Педология" павінна знайсьці шлях да шырокіх колаў настаўнікаў нашых школ.

**Несьцюк**

---

**„ІЧЭ"—Х. Явар. Бібліотэка школьніка. БДзВ. Ст. 40.** *Цана 15 кап.*

Словы „Бібліотэка школьніка" на вокладцы прышпільваюцца да некаторых кніжак з дзіцячай літаратуры бяз пэўнай на тое прычыны. Тэматыка „Бібліотэкі школьніка" ня мае пэўнай абумоўленасьці школьнымі програмамі, узростам ды інш.

Чым, скажам, асаблівым вызначаецца, з пункту гледжаньня школьных програм, якая-небудзь казка Цурмюлен. Гэрмініі, што яна пападае ў бібліотэку школьніка? І што такога не хапае, з пункту гледжаньня „школьнасьці", у кніжцы „Ленін маленькі" ды інш., што ня маюць такога прызначэньня? Поўная недарэчнасьць.

Аднак, на гэтым ня будзем спыняцца ў кароткай рэцэнзіі. Заўважым толькі, што „Бібліотэка школьніка", урэшце, павінна набыць сваё аформленьне, мець свой пэўны прынцып. У гэту сэрыю выданьня трэба ўнесьці, у першую чаргу, кніжкі, тэматыка якіх была-б сугучнай школьным програмам; гэтыя выданьні трэба праводзіць праз мэтодком, адзначаць на першых старонках аб ухвале іх мэтодкомам, аб тым, для якой клясы, концэнтру ды інш. іх можна раіць. У „Бібліотэцы школьніка" варта выдаваць асобныя танныя ілюстраваныя кніжачкі твораў, па якіх вывучаецца ў школах мастацкая літаратура. Як вядома, выдавецтва ў большасьці выдае творы вялікімі, поўнымі зборнікамі, куды ўваходзяць усе творы пісьменьніка. Такія зборнікі каштуюць дорага, і ня ўсе яны вывучаюцца ў школах.

* * *

Кніжка Явара прадстаўляе з сябе пэўную цікавасьць. Гэта не пераклад, гэта кніжачка напісана з мясцовага жыцьця. Пераклады—рэч добрая, але чамусьці выдавецтва заўсёды сьпяшаецца ў першую чаргу друкаваць пераклады, тады, калі орыгінальныя творы, як нам вядома, марынуюцца ў нетрах выдавецтва па году і больш. І не таму, што орыгінальныя творы ўсе горшыя.

Апавяданьне „ІЧЭ" напісана з жыцьця яўрэйскай мястэчковай беднаты.

Малады юнак Іцка, вельмі здольны да тэхнічных навук, марыць аб тым, каб стаць рабочым на чыгуначнай электростанцыі, што тут-жа, пад бокам, блізенька ад мястэчка Урэшце, пасьля ўпартай працы над сабою Іцка адважваецца пайсьці да загадчыка станцыі папрасіцца на работу. Загадчык —„запаздалы эмігрант" у Польшчу

ў часе рэволюцыі—вырашае скарыстаць Іцку для свае шкурніцкае мэты: крыху падвучыць яго і потым раіць профсаюзу прыняць яго на работу, як яўрэя, над якім ён, загадчык, доўгі час „працаваў“ па сваёй ахвоце, як вельмі шчыры прыхільнік правільнай нацполітыкі, якую праводзіць партыя і г. д.

Аднак, справа зусім мяняецца. Аб Іцку даведваюцца рабочыя-комсамольцы і яго праводзяць праз фабком на завод як бронь-вучня.

Іцка з часам становіцца адным з лепшых рабочых. Але ў першую пару работы адсталая частка рабочых цкавала яго як „жыда“, пакеплівала, зьдзеквалася. Потым рабочыя ўбачылі, што Іцка такі-ж, як і яны, здольны майстар і можа з посьпехам кіраваць машынамі. Погляды іх зусім перамяніліся.

„Ніколі ўжо Максім ня кпіў з Іцкі. Памятаў заўсёды, што, каб ня ён—папсуў, пакалечыў-бы машыну. І сорам нейкі адчуваў Максім пры спатканьні з ім. Сорам за мінулае, за зьдзекі свае з стараннага, ціхага хлапца“...

Так перамяніў свае погляды ня толькі Максім.

Апавяданьне, як мастацкі твор, напісана досыць умела, яно пераконвае чытача праўдзівасьцю і шчырасьцю.

Гэта не агітацыя, гэта мастацкі паказ быцьця Паказ зроблены ў асноўным добра.

Дрэнна толькі, што аўтар ня вельмі шырока закрануў гэта пытаньне. Можа ад такой скупасьці сужэту і адчуваецца крыху схэматычнасьць. Аўтар пераход бедняка яўрэя на фабрыку паказаў досыць вузка, толькі як жаданьне знайсьці работу на заводзе, каб выбіцца з пакутнага саматужніцтва. Працоўная яўрэйская бедната разам з усімі працоўнымі іншых нацыянальнасьцяй выходзіць на шырокі шлях будаўніцтва соцыялізму, і гэты асноўны момант аўтар адбіў няпоўна.

Апавяданьне „ІЧЭ“ ня шкодзіць будзе пашыраць і сярод дарослых, ня толькі дзяцей. Яно цікавае ня толькі як твор з дзіцячай літаратуры, але і організуе чытача, памагае змаганьню з рэшткамі нацыянальнай варожасьці, якая яшчэ мае месца сярод адсталага працоўнага насельніцтва.

А. Чурылавец.

---

**І. П. Фурман. Віцебскія мастакі-граверы. Выданьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства. 32 ст., с гравюрамі з орыгінальных дошак.** *Цана не паказана.*

Віцебск—адзін з найбольшых мастацкіх асяродкаў на Беларусі. Да Кастрычнікавай рэволюцыі ў ім вырасьлі Клевер, Пэн. На Віцебшчыне тварыў шмат сваіх рэчаў Рэпін. У апошнія часы адтуль вышлі Шагал, Юдовін і шмат іншых. У першыя гады пасьля Кастрычніка Віцебск запаланілі найвыдатнейшыя мастацкія імёны і стварылі ў ім высокакультурную мастацкую атмосфэру. Дзякуючы гэтаму, у Віцебску заснаваўся мастацкі інстытут, адбываліся колектыўныя і індывідуальныя выстаўкі, розныя дыспуты на мастацкія тэмы, выдаваліся выданьні і г. д. Урэшце, мастакі вышлі з сваім мастацтвам у шырокія масы, на вуліцы: ставілі помнікі, і монумэнтальныя плякаты, і конструкцыйныя трыбуны, размалёўвалі фрэскамі белыя сьцены заводаў і парканаў і да т. п. Праўда, усе гэтыя левага кірунку творы былі даволі далёкімі віцебскім масам.

Кніжка Фурмана складаецца з уступу і нарысаў пра мастакоў граўвераў: Юдовіна, Мініна і Гарбаўца. Ва ўступе Фурман высьветліў значэньне ксылёгравюры для ілюстраваньня і аздобы кніг ды паказаў гісторычнае разьвіцьцё гравюры і посьпехі яе ў Віцебску. На жаль, ва ўступе, як і ў кароценькім заключэньні, аўтар не гаворыць нічога аб адукацыі ў галіне гравюры, хоць і ўспамінае пра маладых граўвераў—Лейтмана і Гаўрыса, якія, як відаць, вучацца самавукамі. І гэта дрэнна. Пара зьвярнуць на гэту галіну ўвагу.

У нарысе пра Юдовіна Фурман дае гісторычную даведку аб мастацкім разьвіцьці гэтага гравера, аб тэхніцы яго прац, аб іх зьмесьце ды аб выстаўках, у якіх удзельнічаў Юдовін, і выданьнях, дзе ён друкаваўся. Дае дзьве гравюры: „Дэмонстрацыя“ і „Пахаваньне“. Калі першая з іх цалком сугучна эпосе, дык другая сваёй трухлявай містыкай ляжыць у далёкім мінулым. Варта было замест яе даць рэволюцыйную, або хоць у тэксьце паясьніць, а то незнаёмыя з творчасьцю мастака могуць атрымаць аб ім адмоўнае ўражаньне.

У другім нарысе Фурман дае такі-ж агляд Мініна—разьвіцьцё творчасьці, працы, іх тэхніка і зьмест, выстаўкі і выданьні. Гравюрамі Мініна дадзены: „Касьцёл Антона“ і „З цыклю Стары Віцебск“. І тут падкрэсьліваем памылку—трэба было даваць новае.

Трэцім дадзены аўтарам падобны нарыс пра Гарбаўца і гравюра апошняга „Пэйзаж Віцебску“ з цэрквамі. Адносна гэтага можна сьцьвердзіць тое-ж, што і наконт папярэдніх.

Зразумела, гравюры кніжкі не характарызуюць усяе творчасьці мастакоў. Шкада, што яны не дадзены поўна.

У заключэньні свае працы Фурман констатуе, што „ксылёгравюры разгледжаных трох мастакоў маюць вялікае значэньне ў жыцьці мастацтва нашага краю“, але ня гэтыя, што зьмешчаны тут, а тыя, што ня зьмешчаны, дадамо мы. Да іх „будуць зьвяртацца ня толькі знаўцы мастацтва, а кожны, хто вывучае мясцовы край, і асабліва той, хто вывучае архітэктуру і быт краю, бо ў гравюрах памянёных мастакоў даволі поўна выяўлены надворны від гораду Віцебску і яго ўнутранае жыцьцё“.

Кніжка аздоблена высока-мастацкімі заставукамі, канцоўкамі і вокладкай работы Мініна.

Настаўнікам, асабліва выкладчыкам маляваньня, бязумоўна варта пазнаёміцца з гэтай кніжкай.

А. С.

# ХРОНІКА

## ПЕРШЫ ЎСЕСАЮЗНЫ ЗЬЕЗД ПА ВЫВУЧЕНЬНІ ПАВОДЗІН ЧАЛАВЕКА

З 25 студзеня па 2 лютага г. году у Ленінградзе працаваў зьезд па вывучэньні паводзін чалавека. Гэты зьезд сабраўся ў пэрыод выключнага абвастрэньня клясавай барацьбы ў краіне, у пэрыод згуртаваньня ўсіх сіл на задачах социялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі. Адсюль, зразумела, «ідэолёгічны нэўтралітэт» у галіне навук аб чалавечай асобе, а таксама адрыў гэтых навук ад социялістычнай практыкі быў-бы зусім недапушчальны. «Плянавая дзяржава патрабуе ў першую чаргу плянаваньня навукі, і першым сэктарам гэтага плянаваньня павінны быць навука пра чалавека, які праводзіць дзяржаўны плян у жыцьцё». Навукі, якія вывучаюць паводзіны чалавека, павінны дапамагчы пролетарскай дзяржаве ў социялістычным перавыхаваньні нашага грамадзтва і асабліва яго падрастаючага пакаленьня.

Мэта, якую ставіў перад сабою зьезд, гэта—барацьба з ідэолёгічным і практычным рознабоем у сфэры навук, якія вывучаюць нэўро-псыхічныя процэсы чалавека, барацьба за аб'яднаньне гэтых навук на дыялектычна-матэрыялістычнай пляцформе, з мэтай уключэньня іх у адзіны плян па абслугоўваньню социялістычнага будаўніцтва. У склад зьезду такім чынам уключаюцца рознастойныя навуковыя дысцыпліны ў цэлым, ці па спэцыяльных разьдзелах, якія вывучаюць паводзіны чалавека: псыхолёгія, пэдолёгія, псыхо-нэўропатолёгія, рэфлексолёгія, псыхотэхніка, нэўрафізыолёгія ды шэраг інш.

Напрамак рабоце зьезду даюць тры галоўныя проблемы:

1) дыскусія дыялектыкаў з мэханістымі (даклад Карэва);

2) псыхо-нэўролёгічныя навукі і социялістычнае будаўніцтва (даклад Залкінда);

3) марксызм і вучэньне пра асобу (даклад Лупала).

Уся работа зьезду праходзіла ў чатырох асноўных сэкцыях: псыхолёго-рэфлексолёго-фізыолёгічнай, пэдолёгічнай, псыхо-тэхнічнай і полёгічнай псыхо-нэўролёгіі. На пленарных паседжаньнях быў заслуханы шэраг дакладаў рэфлексолёгічнага колектыву Паўлава.

Вялікае грамадзка-навуковае значэньне зьезду падкрэсьліваецца таксама і колькасьцю яго ўдзельнікаў (1½ тысячы прыбыла ў Ленінград і 1½ тысячы даў Ленінград).

Акрамя сэкцыйных паседжаньняў, былі асобныя ўнутрызьездаўскія нарады (па піонэрруху, па рабоце з дарослымі і па ваеннай псыхо-нэўролёгіі).

На працягу ўсяе работы зьезду прышлося самавызначыцца на «два франты»—па мэханістычнай і па ідэалістычнай лініі. Як мэханісты (а яны ёсьць і ў нас у Беларусі), так і ідэалісты спрабуюць празязаць сваім ўплывам усе псыхо-нэўролёгічныя навукі. Мэханістыя, якія спрашчаюць паняцьце пра чалавечую асобу, замяняюць псыхіку фізыолёгіяй, небясьпечны як сваім недаўлікам каштоўных якасьцяй будаўніка социялізму, так і спрошчанай мэтодыкай выхаваньня. Ідэалісты (Фрэд, Адлерык), спрабуючы тлумачыць разьвіцьцё асобы з «унутраных законамернасьцяй», прыходзяць да пэдагогічнага бясьсільля, супроцьстаўляючы «замкнёную асобу» «нахабнаму социяльнаму асяродзьдзю». Зьезд даў бой на два франты ня толькі ў тэарытычным пляне, але і на конкрэтным экспэрымэнтальным матар'яле. Гэта быў добры бой і «нэўтральных», якія спрабавалі адлучыць экспэрымэнтальную практыку ад навуковай мэтодолёгіі.

Зьезд горача спаткаў дэклярацыю ЦБ ДКО пра навуковыя заданьні зьезду, у якой гаварылася, што за апошні час у піонэрорганізацыі пытаньні дасьледчай работы стаяць асабліва востра; што навука пра выхаваньне і навука пра законамернасьці паводзін чалавека магчыма адстаюць ад тэмпаў социялістычнага будўніцтва; што трэба паставіць перад сабою проблему новага чалавека, як актуальнейшую задачу. У пэдолёгіі, а таксама і ў іншых псыхо-фізыолёгічных навуках не павінны быць мэтоды для вывучэньня дзіцяці «наогул», нам патрэбны такія мэтоды, якія-б азначалі дзіця асобных социялных пластоў у сьвятле клясавага выхаваньня. У дэклярацыі зазначалася, што навуковым сілам неабходна перайсьці на новыя тэмпы работы, узяцца за новыя проблемы, якія дыктуюцца задачамі социялістычнага будаўніцтва і пакончыць з няўважлівымі адносінамі да дзіцячага комуністычнага руху. Зьезд павінен зьявіцца паваротным пунктам у справе навуковага ўсебаковага дасьледваньня тых проблем, якія стаяць перад піонэрорганізацыяй і якія яна сама ня можа вырашыць. Асабліва важнымі для далейшага разьвіцьця піонэрруху такія проблемы, як устанаўленьне эфэктыўнасьці піонэрорганізацыі з пункту погляду выхаваньня і пэдолёгічнае ды псыхолёгічнае абгрунтаваньне ўдзелу дзяцей у социялістычным будаўніцтве, як галоўнага мэтоду комуністычнага выхаваньня.

Дэклярацыя патрабавала, каб на гэтых проблемах былі згрупаваны галоўныя сілы і ўвага навукова-дасьледчых інстытутаў і ўсіх навуковых працаўнікоў адпаведных дысцыплін.

Асноўныя прапановы зьезду наступныя: 1) ідэолёгічна згрупавацца вакол таварыства псыхо-нэўролёгаў-матэрыялістаў пры Комакадэміі; 2) стварыць аб'яднаны ўсесаюзны плянавы цэнтр па ўсіх разьдзелах псыхо-нэўролёгічных навук, якая-б сынтэзавала асноўныя шуканьні ва ўсіх сэктарах псыхо-нэўролёгіі як у нас, так і ў Заходняй Эўропе і Амэрыцы.

**М. Сямёнава.**

---

## У КОЛЕГІІ НКА

* Колегія дала згоду Глоўмастацтву вылучыць і паслаць у вёску групу мастакоў для зьбіраньня матар'ялаў, якія-б характарызавалі колгасны рух на Беларусі. Мастакі, якія заняты ў школах, будуць вызвалены ад заняткаў з захаваньнем за імі пэнсіі.

Пасьля прыезду будзе зроблены шырокі грамадзкі прагляд зробленых мастакамі зарысовак, тэзісаў і композыцый.

* Колегія ўхваліла 4-ю Усебеларускую мастацкую выстаўку наладзіць адпаведна тэме: «Соцыялістычная будоўля БССР» і дапусьціць на гэтую выстаўку толькі тыя працы, якія будуць адпавядаць вызначанай тэме.

На выстаўцы будзе організаваны аддзел самадзейнага мастацтва і самавучак.

Выстаўка будзе прыстасавана да 10-й гадавіны вызваленьня Беларусі ад белапалякаў з тым, каб у жніўні атрыманыя з выстаўкі лепшыя працы, напісаныя раней па дэвізах—«Выяўленчае мастацтва БССР за 10 год», зрабіць асобнай выстаўкай пры Усебеларускай выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

* Колегія зацьвердзіла плян падрыхтоўкі кадраў народнай асьветы, прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

Па Б. Дз. У. унесены наступныя ўстаноўкі:

а) на прыродазнаўчым аддзяленьні пэдфаку тэрмін навучаньня устаноўлен 3 гады;

б) на фізыко-тэхнічным аддзяленьні—3½ гады навучаньня;

в) замест факультэту права і гаспадаркі організаваць факультэт народнай гаспадаркі з аддзяленьнямі: экономістых-інжынэраў, экономістых-плянавікоў і статыстыкаў, экономістых фінансавай справы і экономістых-коопэратараў.

* У парадку выкананьня пастановы лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) пра ўвядзеньне аднаначальства ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах, НКА пастанаўляе:

1. Ва ўсіх навучальных установах канчатковым тэрмінам увядзеньня аднаначальства ўстанавіць 1-ае лютага 1930 году.

2. З увядзеньнем аднаначальства ліквідаваць праўленьне ВНУ і пэдагогічныя саветы ў тэхнікумах.

3 таго-ж часу адмяняецца парадак прызначэньня і звальненьня пэдагогічнага і навуковага пэрсоналу Наркомасьветы. Функцыі гэтыя пераходзяць непасрэдна да кіраўнікоў (рэктароў і дырэктароў навучальных устаноў), за выключэньнем прызначэньня і звальненьня профэсароў, якія па прадстаўленьні рэктароў, зацьвярджаюцца НКА. Рэктары і дырэктары ўстаноў пэрсанальна адказваюць за соцыяльны, ідэолёгічны і якасны адбор настаўніцкага і навуковага пэрсоналу.

Увага. 1. Пра ўсялякія зьмены ў пэрсональным складзе пэдагогічных і навуковых працаўнікоў рэктары і дырэктары паведамляюць НКА.

Увага 2. Наданьне вучоных і навуковых годнасьцяй вытвараецца НКА па прадстаўленьні рэктароў навучальных устаноў, на падставе зацьверджанай СНК пастановы.

4. Адказнасьць адміністрацыйную, гаспадарчую і політычную за стан і кіраўніцтва навучальнай установай з моманту ўвядзеньня аднаначальства поўнасьцю ўскладаецца на рэктароў і дырэктароў навучальных устаноў.

5. У мэтах больш рацыянальнага і больш мэтазгоднага кіраўніцтва навучальнымі установамі, устанаўліваюцца:

а) у вышэйшых навучальных установах, пры рэктарох, пасады 3-х памочнікаў: па навучальнай частцы, адміністрацыйна-гаспадарчай і па студэнцкіх справах; зацьверджаньне апошніх вытвараецца Народным Комісарыятам Асьветы па прадстаўленьні рэктароў

Увага. Прадстаўленьне да зацьверджаньня памочніка па студэнцкіх справах вытвараецца шляхам узгадненьня з студэнцкімі профэсійнымі організацыямі.

б) пры дырэктарох тэхнікумаў—адзін памочнік—загадчык навучальнай часткай, у некаторых тэхнікумах і па студэнцкіх справах. Парадак зацьверджаньня такі-ж, як і ў адносінах ВНУ.

6. У мэтах увязкі работы навучальных устаноў з шырокай савецкай грамадзкасьцю, а таксама ў мэтах устанаўленьня шырокага грамадзкага контролю за дзейнасьцю навучальных устаноў, дапамогі і садзейнічаньня навучальным установам у іх рабоце, пры кожнай навучальнай установе організуюцца саветы, у склад якіх уваходзяць прадстаўнікі партыйных, профэсійных, гаспадарчых організацый, а таксама прадстаўнікі навуковых працаўнікоў і студэнтаў, рабочых ад прадпрыемстваў і колгасьнікаў.

Увага. Колькасны склад, функцыі, правы і абавязкі, а таксама і парадак работы саветаў вызначаюцца асобнай інструкцыяй НКА.

7. У шматфакультэтных і політэхнічнага тыпу навучальных установах на чале кожнага аддзяленьня ці факултэту стаяць дэканы, зацьверджаныя НКА па прадстаўленьні рэктароў і дырэктароў. Загадчыкі аддзяленьняў ці факультэтаў непасрэдна падпарадкаваны рэктаром ці дырэктаром і працуюць пад агульным кіраўніцтвам апошніх. На чале цыклю ці сэкцыі стаяць загадчыкі цыклямі ці сэкцыямі і падпарадкаваны загадчыку факультэту ці аддзяленьня. Загадчыкі, падобна рэктаром і дырэктаром навучальных установ, нясуць пэрсанальную адказнасьць за навуковую, выхаваўчую і палітычную работу навучальнай установы, падпарадкаванай іх кіраўніцтву.

8. Для больш правільнага кіраўніцтва ўсёй мэтодычнай і навучальнай работай аддзяленьняў ці факультэтаў, пры загадчыках аддзяленьнямі ці факультэтамі організуюцца ў ВНУ навуковыя саветы, якія складаюцца з прадстаўнікоў прадметных камісій, студэнцкіх організацый, адпаведных зацікаўленых профэсійных і гаспадарчых організацый. У індустрыяльных і сельска-гаспадарчых тэхнікумах навуковыя саветы складаюцца з усіх настаўнікаў данага аддзяленьня, прадстаўнікоў ад студэнтаў і адпаведных профэсійных і гаспадарчых зацікаўленых прадстаўнікоў.

Увага. У зьвязку з гэтым у індустрыяльных і сельска-гаспадарчых тэхнікумах ліквідуюцца цыклявыя прадметныя комісіі, якія замяняюцца навуковым мэтодычным саветам пры загадчыках аддзяленьнямі.

9. Пры загадчыках цыклямі ці сэкцыямі організуюцца навучальныя саветы з усяго складу навуковых працаўнікоў, роўнага ліку прадстаўнікоў ад студэнцкіх організацый.

Увага. Прадметныя комісіі па цыклях і сэкцыях ліквідуюцца.

10. Устанаўленьне аднаначальства захоўвае права за рэктарамі і дырэктарамі навучальных установ складаньня часовых комісій, як дапаможных органаў для распрацоўкі і ажыцьцяўленьня абавязкаў, ускладаемых на рэктароў і дырэктароў навучальных установ у парадку ажыцьцяўленьня іх правоў па кіраўніцтву гэтымі навучальнымі ўстановамі.

11. Дырэктар абавязан садзейнічаць організацыі і рабоце вытворчых нарад, якія маюць на мэце абмеркаваньне пытаньняў, зьвязаных з дзейнасьцю навучальнай установы і склікаемых і правадзімых профэсійнымі органамі вышэйшай навучальнай установы з удзелам рабочага актыву і кіруючага пэрсоналу зацікаўленых прадпрыемстваў і ўстаноў.

Дырэктар у прыватнасьці, павінен організаваць вычэрпваючы вучот работы паказаных вытворчых нарад для максымальнага выкарыстоўваньня і правядзеньня ў жыцьцё прапаноў гэтых нарад, накіраваных на рацыяналізацыю жыцьця і работы вышэйшай навучальнай установы.

**Сьпіс тэхнікумаў,** у якіх пры дырэктарох устанаўліваюцца 2 памочнікі: 1) Менскі політэхнікум, 2) Віцебскі політэхнікум, 3) Барысаўскі тэхнікум, 4) мэдычны політэхнікум у Магілеве, 5) земляўпарадкавальны тэхнікум.

2) Зацьвердзіць зараз існуючы склад рэктароў і дырэктароў навучальных установ, як кіраўнікоў гэтых установ на прынцыпе аднаначальства.

* Колегія Наркомасьветы БССР выказалася за адчыненьне пяці пэдагогічных інстытутаў з двухгадовым тэрмінам навучаньня, для падрыхтоўкі настаўнікаў другога концэнтру сямігодак. У 1930-31 навучальным годзе адчыняюцца тры пэдагогічных інстытуты (у Менску, Віцебску і Магілеве), у 1931-32 навучальным годзе будуць адчынены два інстытуты, аб месцы адчыненьня будзе вырашана дадаткова.

* У зьвязку з адсевам настаўніцтва, колегія дазволіла зрабіць датэрміновы выпуск IV курсу студэнтаў пэдтэхнікумаў з тым, каб пастурова задавальняць заяўкі акруг на настаўнікаў.

На застаўшыяся сродкі і сродкі з мясцовага каштарысу акруговым інспэктаром нарасьветы даручана організаваць каротктэрміновыя курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў для будучага навучальнага году.

* Колегія НКА зьвярнулася з хадайніцтвам у СНК БССР выдаць загад пра вызваленьне тых пэдагогаў, якія працуюць ва ўстановах не на пэдагогічнай рабоце, і адкамандыраваць іх у распараджэньне Наркомасьветы.

* У канцы сакавіка НКА склікае ўсебеларускую конфэрэнцыю дзіцячых дамоў з удзелам прадстаўнікоў т-ва «Прыхільнік Дзяцей» і акруговых інспэктароў, якія кіруюць дзіцячымі дамамі. Галоўная ўвага конфэрэнцыі будзе зьвернена на рэорганізацыю дзіцячых дамоў і асабліва на пэдагогічна-выхаваўчую работу гэтых установ.

Конфэрэнцыя працягнецца 5-6 дзён і абгаворыць наступныя пытаньні:

1) культурнае будаўніцтва БССР і задачы барацьбы з дзіцячай беспрытульнасьцю;

2) справаздача пра стан дзіцячых дамоў Бабруйскай акругі;

3) рэорганізацыя сеткі дзіцячых дамоў, падрыхтоўка кадраў для іх і пытаньні комплектаваньня і выпуску дзяцей;

4) інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне ў дзіцячых дамох з садакладам піонэр-самакіраваньня;

5) працоўнае выхаваньне;

6) социялістычнае спаборніцтва;

7) пытаньне праўнай аховы дзяцей (сэкцыйная работа);

8) палажэньне пра дзіцячыя дамы (сэкцыйная работа);

9) бягучыя пытаньні.

* Подлуг пастановы Колегіі курсанты падрыхтоўчых курсаў у ВНУ, тэхнікумы і рабфакі пасьля іспытаў пры сканчэньні курсаў паступаюць у адпаведныя навучальныя ўстановы бяз прыёмных іспытаў.

## ЗА МЕЖАМІ

### Змаганьне за школу

У Нямеччыне выходзіць інтэрнацыянальная часопіс «Пралетарскае дзіця». Часопіс абслугоўвае кіраўнікоў і памочнікаў кіраўнікоў дзіцячых комуністычных груп.

Гэтая часопіс асьвятляе пытаньні кіраўніцтва дзіцячым комуністычным рухам. У шэрагу артыкулаў апісваецца змаганьне нямецкіх комуністычных груп. Часопіс таксама сочыць за жыцьцём комуністычных груп у іншых краінах—у Англіі, Чэха-Славакіі, Амэрыцы; адчуваецца моцная сувязь з нашым піонэррухам. Часопіс аддае шмат увагі становішчу пролетарскага дзіцяці ў капіталістычным грамадзтве, пытаньням эксплёатацыі дзіцячай працы, пытаньням змаганьня пролетарскіх дзяцей за лепшую школу: за лепшае абсталяваньне школы, за дармовыя сьнеданьні, а галоўным чынам ідзе змаганьне за новую програму, супроць буржуазнага зьместу школьнай работы, якая накіравана на ідэолёгічнае зьняволеньне пролетарскіх дзяцей.

Часопіс яскрава адлюстроўвае пэдагогічную політыку нямецкай компартыі. У Нямеччыне праводзіцца дзікі закон, які аддае школу пад уладу царквы. Але ўся сіла тут ня толькі ў царкве, а ў блёку ўсіх буржуазных партый, пачынаючы з аграрыяў і буйнай індустрыяльнай буржуазіі і канчаючы ўсімі іншымі буржуазнымі партыямі. Культурная рэакцыя ня ёсьць справа толькі царквы. У ёй крэўна зацікаўлена ўся нямецкая буржуазія і ўвесь блёк буржуазных партый.

Буржуазія крэўна зацікаўлена ў тым, каб падпарадкаваць сабе масы ў ідэолёгічных адносінах. Праз гэта пытаньні выхаваньня мас і ўплыву на масы зьяўляюцца важнейшымі пунктамі парадку дня.

Друк, кіно, а разам з імі і школа зьяўляюцца асноўнай зброяй выхаваньня пролетарыяту, дробнай буржуазіі і сялянства ў духу пакорлівасьці і бязьмежнага патрыётызму. Новы школьны закон—адзін з моцных спосабаў наступу нямецкай буржуазіі на пролетарыят і на яго рух.

Буржуазія лічыць, што царква лепш за ўсё прыстасавана да атупляючага ўплыву на народныя масы. Школа, якая знаходзіцца пад уплывам царквы, гэта уступ да хрысьціянскіх юнацкіх, мужчынскіх, жаночых, вучнёўскіх і дзявочых саюзаў, гэта гадавальнік хрысьціянскіх і жоўтых профсаюзаў.

Соцыял-дэмократыя дапамагае буржуазіі ў яе рэакцыйнай школьнай политыцы. Часопіс «Пролетарскае дзіця» выкрывае рэакцыйнасьць новых школ і прадажніцкую ролю соцыял-дэмократаў. Часопіс падае шмат фактаў, якія характарызуюць рэакцыйнасьць гэтых школ. У сваіх новых школах соцыял-дэмократы выхоўваюць дзяцей у духу буржуазнай ідэолёгіі. Соцыял-дэмократыя ўсімі спосабамі змагаецца з пэдагогічнай політыкай комуністычнай партыі і з дзіцячым комуністычным рухам.

У змаганьні з буржуазіяй і соцыял-дэмократычнай пэдагогічнай політыкай загартоўваецца рэволюцыйная пэдагогіка нямецкага піонэрруху.

---

### Падрыхтоўка настаўнікаў у Амэрыцы

У Амэрыцы самы пашыраны раней тып установы, дзе раней рыхтавалі настаўнікаў—двухгадовая «нормальная школа», паступова саступае сваё месца гэтак званаму настаўніцкму коледжу з чатырохгадовым курсам навучаньня. Праўда, яшчэ і зараз існуе шмат двухгадовых нормальных школ, але яны хутка ператвараюцца ў гэтак званыя малодшыя концэнтры настаўніцкіх коледжаў, пераходзячы спачатку ў трохгадовы, а пасьля і ў чатырохгадовы коледж. У звычайных коледжах таксама ёсьць пэдагогічныя аддзяленьні.

Для паступленьня ў коледж, у тым ліку і ў настаўніцкі, патрэбна 12 гадоў навучаньня (8 гадоў пачатковай і 4 гады сярэдняй школы або 6 гадоў пачатковай і 6 гадоў сярэдняй).

Коледжы бываюць самых рознастайных тыпаў: самастойныя, або ўваходзячыя ў склад унівэрсытэтаў; дзяржаўныя, або прыватныя, большая частка якіх знаходзіцца пад непасрэдным або частковым кіраўніцтвам царквы, мужчынскія або жаночыя, мяшаныя або каардынаваныя (разам карыстаюцца лябораторыямі і абслугоўваюцца аднымі выкладчыкамі); спэцыяльныя коледжы для нэграў.

Прымаюць у коледжы па экзамінах або па пасьведчаньнях, што выдадзены сярэднімі школамі. Побач са звычайнымі экзамінамі па курсу сярэдняй школы некаторыя коледжы праводзяць у апошнія гады тэставаньне разумовай здольнасьці ўсіх кандыдатаў. Апрача таго для паступленьня ў некаторыя коледжы патрэбны і іншыя даныя, якія характарызуюць кандыдата: пасьведчаньне ўрача, лісты настаўнікаў ды іншых асоб пра яго моральныя якасьці, як ён праводзіў свой вольны час, што ён чытаў па-за школай, кароткая аўтобіографія кандыдата.

На працягу першага году для навічкоў праводзіцца асобны «курс орыентацыі», які мае на мэце пазнаёміць вучняў з асноўнымі ведамі, патрэбнымі для пасьпяховай работы. У тэты курс уваходзіць знаёмства з організацыяй і адміністрацыяй данай установы, з агульным зьместам навучальных курсаў, з апісаньнем бібліотэкі, з лябораторыямі і з найлепшым скарыстаньнем іх, даюцца агульныя парады аб мэтодах навучальнай работы, аб магчымасьцях, якія ёсьць у навучальнай установе і ў горадзе для самаўдасканаленьня ў навуцы, мастацвах і рэлігіі.

Першыя два гады ідуць на агульную адукацыю. Апошнія два гады прызначаны для спэцыяльнай адукацыі. Курс навучаньня інды-

відуалізуецца: кожны павінен выбраць пэўную колькасьць прадметаў з якога-колечы аднаго цыклю і некалькі прадметаў з цыклю, які прымыкае да асноўнага. Астатнія прадметы лічацца неабавязковымі.

З агульнаадукацыйных прадметаў у настаўніцкім коледжы часьцей за ўсё выкладаюцца наступныя: англельская мова, матэматыка, гісторыя, географія, прыродазнаўства, грамадзкія навукі, справаводзтва, ручная праца, выяўленчыя мастацтвы, музыка, дамаводзтва, сельская гаспадарка, чужаземная мова. Са спэцыяльных прадметаў: агульная гісторыя пэдагогікі, прынцыпы выхаваньня, мэтодыка (агульная і прыватная), пэдагогічная адміністрацыя, пэдагогічная псыхолёгія (сюды ўваходзяць тэсты і вымярэньні), пэдагогічная практыка і назіраньне (уключаючы тэорыю выхаваньня і школьнай арганізацыі).

Пэдагогічная практыка ў настаўніцкім коледжы займае значнае месца. Кожны студэнт павінен даць ня менш 90 практычных гадзін у дасьледчай школе. Калі дасьледчай школы пры коледжы няма, і практыку студэнты адбываюць у масавай школе, дык для кіраўніцтва практыкай кожных 50 студэнтаў вызначаецца асобны выкладчык, вызвалены ад іншых абавязкаў.

Для таго, каб атрымаць годнасьць настаўніка пачатковай школы, зараз трэба вучыцца ў коледжы 2 гады. Але ёсьць тэндэнцыя павялічыць гэты курс навучаньня да 3 і нават 4 гадоў. У сувязі з гэтым для атрыманьня годнасьці настаўніка сярэдняй школы трэба будзе вучыцца не 4, а 5 гадоў. У апошнія часы чуюцца галасы за тое, каб настаўнікаў пачатковай і сярэдняй школы зраўняць як па адукацыі, так і па аплаце.

Апрача акадэмічных заняткаў, студэнты амаль што ва ўсіх коледжах павінны наведваць царкву. У некаторых коледжах, асабліва ў тых, якія падпарадкаваны царкоўным корпарацыям, студэнты павінны наведваць царкву нават кожны дзень. Коледж мае спэцыяльных прапаведнікаў для студэнтаў усіх рэлігійных вызначэньняў. За неакуратнае наведваньне царквы накладаюцца розныя пакараньні: даюцца дадатковыя экзаміны, зьніжаюцца адметкі, абмяжоўваецца магчымасьць удзелу ў драматычных і спортыўных выступленьнях.

Паважнае месца ў жыцьці коледжу займаюць студэнцкія організацыі. Пры кожным коледжы існуе шэраг розных гурткоў, у прыватнасьці спортыўных, драматычных, літаратурных. Апрача таго, студэнты ўваходзяць у асобныя брацтвы, мужчынскія і жаночыя. Гэтыя брацтвы карыстаюцца вялікай прыхільнасьцю начальства і маюць сваёй мэтай дапамагчы студэнтам у іхных пэдагогічных і грамадзкіх справах.

Вялікае значэньне для коледжаў маюць організацыі скончыўшых. Спачатку гэтыя організацыі былі толькі месцам успамінаў пра гады вучобы, але зараз яны значна дапамагаюць сваім коледжам: гэтыя організацыі засноўваюць фонды для абсталяваньня спортыўных пляцовак, ахвяроўваюць кнігі для бібліотэк, ладзяць розныя кампаніі для ўзмацненьня тых або іншых фондаў коледжу. Напрыклад, 22.150 скончыўшых Гарвардзкі унівэрсытэт ўнесьлі на патрэбы унівэрсытэту 12.084.149 даляраў. Організацыі скончыўшых выдаюць пэрыодычныя выданьні, ладзяць конфэрэнцыі. Скончыўшыя таксама вельмі дапамагаюць студэнтам сваёй установы ў справе адшуканьня работы.

Гэткі ў агульных рысах малюнак падрыхтоўкі настаўнікаў у Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі. Трэба мець на ўвазе, што там, больш чым у якой-небудзь іншай краіне, народная асьвета вельмі дэцэнтралізавана, і праз гэта паміж асобнымі коледжамі часта бывае вялікая розьніца.

## Вячэрвія рабочыя школы ў Лёндане

Некалькі год таму назад гарадзкое кіраўніцтва Лёндану дазволіла адчыніць вячэрнія рабочыя школы ў Лёндане.

Мэта гэтых школ—даць рабочым магчымасьць палепшыць сваё разьвіцьцё, пераважна агульнае, якое ня зьвязана з профэсіяй.

Рабочы плоціць за навучаньне адзін шылінг у тыдзень, тымчасам як у гандлёвых школах плоцяць 10-15 шылінгаў. За гэты шылінг рабочы мае права прысутнічаць у любой клясе кожны вечар на працягу тыдню.

Сярод прадметаў, якія выкладаюцца ў гэтых школах, ёсьць ангельская граматыка, маляваньне, аўтомобільная справа, як даглядаць жывёлу, драматычная літаратура, дэклямацыя, эспэранто, першая дапамога ў няшчасных выпадках, садоўніцтва, музыка, бокс, фото-мастацтва, сьпевы, радыё ды інш. З рамёстваў выкладаецца праца па мэталю, сталярная справа ды інш.

Усяго гэткя школа налічвае 40 клясаў або курсаў. Некаторыя курсы займаюцца на працягу тыдню па 5 разоў.

Рэдактар—Рэдкалегія Адказны рэдактар—Л. Бэндэ

ЦАНА 80 КАП.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1930 г.

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ПОЛІТЫЧНУЮ,
ПЭДОЛЕГА-ПЭДАГОГІЧНУЮ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНУЮ ЧАСОПІСЬ

# „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ"

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ"**
вядзе ваяўнічую барацьбу за комуністычнае выхаваньне працоўных мас, жыва адклікаецца на ўсе політычныя, пэдолёга-педагогічныя, політасьветныя проблемы дню.

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ"**
зьяўляецца лепшым памочнікам у рабоце настаўніка, політасьветніка, дашкольніцы.

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ"**
выходзіць пры ўдзеле лепшых марксыцкіх сіл як Беларусі, так і інш. Саюзных Рэспублік.

**У ЧАСОПІСІ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ"**
ўводзіцца аддзел консультацы па ўсіх пытаньнях пэдолёгіі, пэдагогікі, школьнай і політасьветнай мэтодыкі, дашкольнага выхаваньня.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА 1930 ГОД

| | |
|---|---|
| На 1 год (12 нумароў) | 8 р. |
| „ паўгода (6 нумароў) | 4 р. 50 к. |
| „ 3 м-цы (3 нумары) | 2 р. 30 к. |
| Кошт асобнага нумару | — 80 к. |

Скідка 25% подлуг агалошанай цаны даецца настаўнікам школ, хатнікам ды інш., якія выпісваюць часопісь за свой кошт на цэлы год. Раённым установам (райінспэкцыя, мясцком) скідка 25% у тым выпадку, калі яны падпішуцца ня менш, як на 50 экзэмпляраў на цэлы год.

**Падпісва прымаецца рэдакцыяй: Менск, Пляц Волі, 23/2,**
**а таксама поштай і аддзяленьнямі Белдзяржвыдавецтва.**

**Сьпяшайцеся з падпіскай на часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ"**